Новую кнігу вядомага беларускага пісьменніка, лаўрэата прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, прэміі імя Васіля Віткі і расійскай прэміі імя Баяна Васіля Ткачова склалі аповесці “Скачы ад печы, жэўжык!”, “Мішэнь”, а таксама апавяданні, жыццёвінкі і гумарэскі, напісаныя ў апошні час. Лёгкі стыль пісьма, іронія і дасціпны гумар, уласцівыя творчасці гэтага пісьменніка, прысутнічаюць, безумоўна ж, і ў творах, што склалі гэтую кнігу прозы.

Аўтар з сыноўняй любоўю і цеплынёй піша пра людзей, на долю якіх выпалі нялёгкія жыццёвыя выпрабаванні. Героі яго твораў – людзі простыя, на першы погляд сціплыя і нічым непрыкметныя, але калі трэба, яны гатовы пастаяць не толькі за сябе, але выручыць з бяды іншых, падставіць сваё плячо ў цяжкую хвіліну, падаць руку.

Васіля Ткачова называюць майстрам сюжэта. Яго творы справядліва карыстаюцца заслужаным поспехам у чытачоў.

**Аповесці**

# СКАЧЫ АД ПЕЧЫ, ЖЭЎЖЫК!

## 1. ПЕЧ

**П**ершым з вайны вярнуўся дзядзька Хвядос. Высокі і хударлявы, ён, нібы бусел, хадзіў па сваім двары, нетаропка падымаючы ногі. Я глядзеў на яго са схованкі, зажмурваў вочы, і тады здавалася, што гэта зусім і не дзядзька Хвядос, а мой тата. Але варта было расплюшчыць вочы, і я зноў бачыў нашага суседа. Гэтым разам ён нясе бярэмя дроў і прыкметна кульгае: кажуць, пасля ранення нага ягоная не згінаецца ў калене. Дзядзька Хвядос у вайсковай форме, на гімнасцёрцы злёгку патрэнькваюць медалі. Ён не-не ды і запавольвае хаду, дзівіцца на неба, падоўгу глядзіць на дрэвы – слухае, мусібыць, спеў птушак і гаворыць сам сабе: «Прыгажосць!» Прытупаў да печы – гэта ўсё, што засталося ад ягонай хаты, згарэла пасля таго, як варожы снарад трапіў у нашу, – кінуў дровы на зямлю, а потым зняў пілотку, выцер узмакрэлы лоб. Агледзеўся. Уздыхнуў. Я хацеў падыйсці да дзядзькі, але не асмельваўся. Ён раптам похапкам падняў з зямлі вілачнік, выцягнуў з печы чыгунок.

– Глядзі ты! – размаўляў сам з сабой дзядзька. – На хвілінку якую адвярнуўся, а вады амаль не засталося. На дне толькі кропля... – Ён прытуліўся шчакой да печы, пагладзіў яе рукамі: – Жывая, жывая, значыць, ты, печ. Малайчына. Гэта я табе, Хвядос, гавару. Ага. Вось адпачну трошкі – як думаеш, мае салдат права адпачыць? – і возьмемся за справу. За мірную справу. Не, ты не падумай толькі, быццам твой гаспадар стаміўся. Хто мяне, Хвядоса, надламіць можа? Вайна? Не-е-е, не дачакаецеся. Хаця і хапіла, хапіла ліха. Пакуль ты адна ў мяне і засталася, печ. Пакуль... А вернецца з вайны сын мой, Сцяпан, будзем утрох жыць. Ты ж Сцяпана помніш. Ён вернецца! Павінен вярнуцца. Ах, Сцяпан, Сцяпан!..

Наша Сасноўка вызвалена ўжо ад ворагаў, а да канца самой вайны, відаць, яшчэ далекавата. Каб не раненне, і я б ваяваў, бараніў бы далей зямлю ад супастатаў. Вось так, печ... Шкада, вельмі шкада, што не дачакалася мяне жонка Агрыпіна... Памерла яна... Сэрца, мусіць, не вытрымала ўсяго, што пабачыла... Мы неяк забыліся, што ў час вайны людзі паміраюць не толькі ад куль...

Слухаў я дзядзьку Хвядоса і бачыў Сцяпана як жывога. Такі ж высокі, такі ж прыгожы. А ў горле засеў камяк... Я расшпіліў верхні

гузік на сарочцы, але ўсё роўна дыхалася цяжка. Затухкаў кашлем. Спалохаўся, што выдаў сябе, але не – дзядзька Хвядос сеў на бервяно, пачаў згортваць самакрутку, не перастаючы размаўляць з печчу:

– А тады Сцяпан жонку ў хату прывядзе, яна дзяцей нараджае. Без людзей – што за зямля? Без добрых людзей. Так, адна назва. Усё, усё будзе. Наладзім жыццё, – ён устаў, прыкурыў ад вугельчыка. – Вось... А пакуль пачакай. Пачакай пакуль. Бачыш, як яно ў жыцці бывае? Усё, здаецца, можна знішчыць... Усё... Нават чалавека. А вось печ – не... Не прыгадаю, каб печ па цаглінках рассыпалася. Не прыгадаю. Хат няма, а яны, печы, стаяць. Дзе там снараду цагліны тыя разняць. А ведаеш, чаму так? Таму што ты – святое тварэнне, вечнае. Агонь у тваім нутры, печ. Мірны агонь. І патушыць яго – рукі кароткія!..

Дзядзька Хвядос тыцнуў кудысьці ўбок дулю, і я здагадаўся, каму яна прызначалася. Атрымлівайце ад салдата!

Раптам Хвядос павярнуўся да куста, у якім я сядзеў, бы мыш пад венікам, баючыся дыхнуць і варухнуцца, і загадаў:

– Вылазь, Мікола, ды ўзбірайся на печ. Там мая шынэлка. Там – цёплая чарэнь: я сёння бульбу варыў. Падам і табе. Вылазь, вылазь. Мяне няма чаго баяцца. Гэта немец мяне баяўся. А ты ж – свой, тым больш – сусед. Ды і прозвішча ў нас адно – Сталетавы мы...

Мне нічога не заставалася, як паказацца. Дзядзька Хвядос пацiснуў маю далонь:

– Ну, будзем здаровы. Бачу, бачу, што з вашай хатай. І маці, сказалі, тады загінула?

Я кіўнуў.

– Гэта вялікае гора... Трымайся, Колька. Трымайся. Бачыш, няма і ў мяне пакуль даху над галавой. Таму, сусед, давай разам жыць будзем. Калі ты не супраць. На печы. Згода?

– Давайце, – кіўнуў я.

– Скачы ад печы, жэўжык. Яна, як і хлеб, – усяму галава. Залазь. Змерз, бачу. А пазней зямлянку выкапаем. На першы час – пакуль да хаты рукі дойдуць.

На печы і сапраўды было цёпла. Але ж і на дварэ не холадна. Наўсцяж буялі кветам пладовыя дрэвы. Свяціла сонейка. Таму я, спярша паляжаўшы на дзядзькавым шынялі, устаў і дзівіўся, што робіцца вакол. З печы далёка відаць. Убачыў Петрыка. Ён нёс у хату ад калодзежа вядро з вадой.

Мне зрабілася няёмка: што ж атрымліваецца, я здрадзіў яму, цётцы Матруне? Дзядзька ж Хвядос прапанаваў жыць разам. На печы. А чым кепска? Ды і хата ж мая побач. Хата была, а вось агарод і сад

засталіся. І тады атрымаецца, што я патрохі вяртаюся на сваё селішча. А прыйдзе з вайны тата, мы і хату паставім.

А Петрыку і цётцы Матруне дзякуй. Толькі як сказаць, што я пакідаю іх? Няпроста. Аднак трэба будзе набрацца смеласці і прызнацца.

З таго дня, калі не стала мамы і хаты, я жыў у Петрыка. Цётка Матруна чым магла, карміла нас, а калі заслугоўвалі, па чарзе дзяжыла ручніком, які чамусьці заўсёды вісеў у яе на плячы: «А куды ж вы лезеце, шалапутныя? Ці жыць надакучыла, папытаць бы? Папомніце мой ручнік! Ён цяжкаваты! Ім снапы малаціць можна! А вось вам! А вось! І табе, Колька, не крыўдуй, за кампанію... Заместа маткі. Мы з ёй дружылі-і!» Яна малаціла нас ручніком, мы прыкідваліся, быццам нам і сапраўды балюча немаведама як, круціліся, што тыя ўюны на патэльні, войкалі-ахалі, а сустрэўшыся позіркамі з сябруком, пераміргваліся: усё нармальна!

Петрыкаў тата, дзядзька Іван, хварэў, і яго не стала яшчэ да вайны. Петрык шкадаваў маці.

А тым часам дзядзька Хвядос паляпаў па рэйцы, што вісела непадалёк ад печы на слупе. І паклікаў:

– Мікіта-а! Зазірні-тка да мяне. Лізавета-а! Хопіць табе на агародзе корпацца! Давай сюды! Варка-а! Дзе ты там, дзеўка?

Бач ты: дзеўка! Цётка Варка – і дзеўка? Але хай будзе і так, няма калі спрачацца з дзядзькам, бо з розных бакоў да печы неўзабаве сталі падыходзіць усе, каго ён паклікаў.

– Абжываешся, сусед? – кіўнуў на печ Мікіта.

Дзядзька Хвядос захваляваўся:

– Ды вось... трэба. Вы сядайце, сядайце бліжэй да чыгунка.

Цётка Лізавета выцерла аб спадніцу рукі, паскардзілася:

– Колькі і вясны тае, а ўжо пустазелле прэ – спасу няма.

Варка заглянула ў чыгунок, і твар яе засвяціўся:

– Ніяк бульбы наварыў, Хвядос?!

– Бульбы. Вы частуйцеся, частуйцеся. І есці хочацца, а ў рот не лезе. Калі ж адзін. Прывык на фронце гуртам.

– Там – калектыў! – з веданнем справы засведчыў Мікіта.

– Дружна жылі, – кіўнуў дзядзька Хвядос. – Ага. Гэта праўда. Іначай як бы мы з тым фрыцам змагаліся?

Варка пальцамі націснула на бульбіну, тая і рассыпалася.

– Гляньце, разварылася як! – выпнула грудзі яна. – Гляньце!

Лізавета асцярожна папытала:

– Хвядос, няйначай, з сабой яе прывёз, бульбу? З вайны?

– Угадала, суседка, – цыўнуў вейкамі дзядзька Хвядос. – Прывёз. Не тое, каб ад голаду – харч такі-сякі ў мяху быў – а так... захацелася ў руках яе патрымаць. Дай, думаю, памяняю махорку на бульбу. Старгаваўся. І пакуль ішоў да хаты з шашы, амаль увесь час перабіраў бульбу рукамі. Прысяду адпачыць, а рука сама лезе ў мех, роднае чуе. Налюбавацца не мог бульбай.

Мне было цікава слухаць, аб чым гамоняць старэйшыя. Я сядзеў на печы, звесіў з чарэні ногі і са смакам еў бульбіну, якую падаў мне дзядзька Хвядос.

Мікіта тым часам сеў, залізаў языком шво на самакрутцы, ціха мовіў:

– Была махорка, ды сплыла. А цішыня – вось яна... Бярыце, карыстайцеся, людзі. Калі салдат махру памяняў на бульбу – будзе цішыня...

Лізавета змахнула слязу са шчакі:

– Дай ты божанька, дай ты родненькі!..

Мікіта пыхнуў дымком, вочы яго павесялелі. Ён працягваў:

– Багата шкоды нарабіў хрыц. Паныюць яшчэ і рукі, патрашчаць і косці, пакуль да ладу прыб'ёмся. Я мех ячменю закапаў пе-рад прыходам немцаў у свіране... калгасны мех. Неяк думаю – па-ра, можна вымаць. Зазірнуў туды – дулю з макам. Усю зямлю пе-раштыкаваў – няма-а! От! Падгледзеў хто, ці як разумець?

Дзядзька Хвядос трывожна глянуў на Мікіту:

– А хто б мог?

– Хочаш вер, хочаш не, – аблізала губы Варка, – а я на Тамаша думаю. Паглядзіце, як ён змяніўся ў апошні час. Быццам другі чалавек. Быццам падмянілі. Людзей пазбягае, хаваецца. Як кот, які смятану з'еў.

Мікіта зацягнуўся дымком, годна адказаў:

– За руку не цапнуў.

А Лізавета ела бульбу, хітала галавою, прыцмокваючы языком:

– А і смачная ў цябе махорка, Хвядос! Век, здаецца, такой не ела!

Дзядзька Хвядос на тое адказаў:

– Ты еш, еш, Ліза. І ты, Варка, не сядзі. Націскайце.

– Ды мы ж... Ці багата нам трэба? – быццам апраўдвалася Варка.

– Да гэтай бульбы ды скварачку б! – уздыхнула Лізавета.

Мікіта прыцмокнуў:

– О-о-о-о!

А дзядзька Хвядос хітравата прыжмурыў вочы:

– Скварачку, гаворыце? Не пашкодзіла б.

Варка раптам разанула паветра рукой:
– Ай! Пачакайце. Я зараз.
І знікла. Хвядос правёў жанчыну позіркам, спытаў:
– Аўдавела?
– Даўно, – нахмурыў бровы Мікіта.
– Усё роўна чакае, – скасіўшы вочы ў той бок, дзе схавалася за парканчыкам Варка, мовіла Лізавета. – А раптам? Верыць і чакае. А можа, і вернецца. У Зімніцы вунь адзін вярнуўся. Перадалі бабе, што ў партызанах муж загінуў, а ён пасля вызвалення раёна вярнуўся. Ой, лепш не ўспамінаць. Ідзе ў шынялі ў вёску, вечарам якраз, уяўляе, бедачына, як любая жонка кінецца ў ягоныя абдымкі. Падступіўся да акна – паляпаць, мусібыць, сабраўся, знак падаць, каб тая ад нечаканасці прытомнасць не згубіла – і вачам не верыць: сядзіць баба за сталом з другім мужыком, вячэраюць. Вось. Ды што гаварыць? Такі ўжо ў нас, баб, лёс: не ведаеш, дзе згубіш, а дзе знойдзеш.
– Няўжо было? – падалося, аслупянеў Хвядос.
Мікіта кіўнуў:
– Лізавеціна праўда. Я і мужыка таго ведаю – Панасам зваць.
– Пачакайце, а баба тая з кім засталася? – запытаўся Хвядос.
Лізавета вырачыла вочы на Хвядоса:
– З кім засталася? Каб не Колька, я б табе сказала. А ты б на месцы бабы як зрабіў?
Дзядзька Хвядос прытуліўся тварам да печы. Маўчаў.
– Ну даруй мне, Хвядос! – апраўдвалася Лізавета, бо адчувала, што не тое ляпнула. – Ну дурніца я, дурніца!
– Я б і слова кепскага не сказаў сваёй Агрыпіне, – Хвядос, як і раней, пяшчотна гладзіў печ. – Толькі б яна жыла... Печ вось засталася... Яна любіла гэтую печ...
– Ты не сказаў бы, ты з душой, – не гледзячы на Хвядоса, прамовіла Лізавета. – Ну і язык у мяне... цьфу! Дык і Панас той таксама не стаў вінаваціць жонку. Яна плача, заходзіцца не сваім голасам, а Панас супакойвае: «Ну, што ты? Ну, што ты? Ты не вінаватая, кажа, маладзіца. Вайна ўсё...» Ты правільна сказаў, Хвядос. Так, вайна... Яна наблытала... А новы мужык – ён не з мясцовых быў – сабраў транты, папрасіў прабачэння ў Панаса, раз ужо такая справа атрымалася, і пайшоў сваёй дарогай. Багата нас, баб, засталося. Знойдзе сваё шчасце. Ну, мужыкі, чаму галовы павесілі? Варка нешта ў ганчурцы нясе.
– Чакала... берагла... – сказала, з’явіўшыся, Варка і падала дзядзьку Хвядосу скрутак. – Не спатрэбілася. Бярыце, людзі, ешце.

Хвядос дастаў са скрутка кусель сала, патрымаў у руках, а тады паглядзеў на Варку:

– А можа – дарэмна, га?

Варка заматляла галавой:

– Не дарэмна. Чуе маё сэрца: не дарэмна.

Мікіта ўзяў нож, пачаў скрыліць сала, расцягваючы гукі, бубніў:

– Ёстваю няхай, га! Сала-а! Такія вось нашы справы, ядры ў корань. Радасна, таму што цішыня наўсцяж, дыхнуць боязна, не спудзіць бы яе, і горка-балюча, як успомніш, што за спіною засталося. А што яшчэ чакае нас наперадзе?

Варка і Лізавета раптам заплакалі, потым абняліся і румзалі яшчэ гучней. На што Хвядос сказаў:

– Няхай паплачуць. Няхай. Слёзы для душы – як той дождж для зямлі ў сухмень. З карысцю. Няхай паплачуць.

Жанчыны, можа, і далей бы плакалі, лілі слёзы, але з’явілася Кацярына з галавешкай на руках, і Варка з Лізаветай прыціхлі, зашморгалі насамі і пачалі прамакаць хусткамі слёзы на тварах. Кацярына ж па чарзе паглядзела на кожнага, а потым пачала гаварыць гучна і пераканаўча:

– Сядзіцё? Сядзіце, сядзіце, людзечкі. А я бягу. Спяшаюся я. Няма мне калі з вамі бавіцца. Міколка мой з вайны вяртаецца. На шляхусядзіць, пераабуваецца. Нагу нацёр. Зараз пабягу, чамадан памагу яму несці. Вельмі цяжкі чамадан у яго. І чаго ў ім толькі няма – вы б пабачылі! Падаруначкі дзеткам з вайны нясе. Сяргейку пілотку і гімнасцёрачку пад ягоны акурат расточак. Ганначцы сукенку ў гарошынкі вось такенечкія, – яна зрабіла з пальцаў кружачок, – а меншанькай, Волечцы, – чаравічкі. У іх яна будзе на выгане гусянятак пасвіць. І ўсім-усім цукерак шмат… і падушак, і ў паперках што… сядзіць Міколка, стаміўся. Ён заступіцца, ён не дасць дзетак у крыўду. А я яму яблыкаў нясу.

Мікіта скрывіўся, ёрзнуў на бервяне:

– Кацярына, ты пасядзі, адпачні з намі. Бульбы паеш.

Кацярына не пагадзілася:

– Некалі мне. Міколка чакае.

– Пасядзі, пасядзі з намі, – прапанавала Кацярыне і Варка.

Кацярына пагрозліва тарганулася, сказала Варцы гнеўна і рашуча:

– Ты ў сваім сэрцы смерць носіш!

– Каця! – гучна сказала Варка і перахрысцілася. – Што ты такое гаворыш? Ой, людзі!..

– Твой муж дзе? А мой дамоў вяртаецца. Жывы. Назусім. Жывы-ы!

Дзядзька Хвядос сказаў ціха і памяркоўна:
– Няхай ідзе. Няхай сустрэне.
Аддаляючыся ад людзей, Кацярына азіралася і шаптала:
– Міколка чакае... На шляху сядзіць... Нагу нацёр... Жывы... Жывы Міколка...
Мікіта злосна плюнуў:
– Праклятушчая вайна! Што зрабіла з чалавекам? Што нарабіла з людзьмі?
Лізавета заплакала, давілася слязамі, але нагадала дзядзьку Хвядосу пра тое, аб чым я добра ведаў. Але няхай лепш яна раскажа. Я, мусіць, і не змог бы: расплакаўся б, гэта дакладна. А Лізавета толькі шморгала зрэдчас носам і гаварыла ледзь не ў самае вуха Хвядосу:
– Ну хто б на яе месцы перажыў смерць дзетак? Яна ж, Кацярына, сувязной у атрадзе была... у Мікіты... Прыйшла дамоў, а яе чакалі... Данёс нехта... Дзетак па расточку во так паставілі... і з большанькага, Сяргейкі, пачалі... Дапытваліся ўсё, дзе партызаны... А калі да меншанькай чарга дайшла, тут Кацярына і зусім не вытрымала, у ногі немцам кінулася, крычаць пачала. А тады адразу быццам анямела. І пра дзяцей забылася. Устала і пайшла... Забілі, гады, без кулі чалавека.
Варка ўздыхнула:
– Госпадзі, і як яна далей жыць будзе?
– Не ўберaглі мы яе, Кацю, – паскроб лысіну Мікіта. – Мая віна ў тым, што дзяцей не паспелі схаваць. Можа ёй... вось такой і лягчэй пасля ўсяго, што здарылася?
Хвядос нялюба глянуў на Мікіту, ледзь не сілком вырваў у таго з роту недакурак, зацягнуўся:
– Разумны ты чалавек, Мікіта, а глупствы кажаш. Як гэта лягчэй? Няшчасны яна чалавек, Кацярына. А ўяві, Мікола вернецца, калі на фронце ацалее. Ні дзяцей, ні жонкі... Маўчыш? Ну правільна, я і сам не ведаю, што тут сказаць можна. А што тут казаць! Трэба рабіць нешта... неяк дапамагчы ёй на гэтым свеце ўтрымацца.
Прытупаў да печы і дзед Грышка. Змахнуў з галавы сваю аблезлую шапку, пакланіўся, павітаўся і сказаў:
– Вясна-красна, а нешта сумна...
Усе памаўчалі. Жанчыны, відаць, адразу ўспомнілі, як радаваўся стары, калі прагналі з вёскі немцаў, і ў той жа час бедаваў, бо гэта ж пад ягоным непасрэдным кіраўніцтвам і пад самым носам у ворагаў на калгасным полі было пасеяна жыта, якое ў час бою – па прыкідках старога, бой разгарэўся менавіта там – усё маглі зруйнаваць, тады

пішы прапала. Ледзь супакоілі жанчыны старога. А калі бой сціх, ён вылез з зямлянкі і адразу ж шугануў на поле. Вярнуўся маўклівы, пануры. Паглядзеў на жанчын, яны чакалі яго, бо не менш за старога думалі пра хлеб, сказаў:

– Будзем з жытам. А цяпер, бабы, бярыце лапаты, пойдзем забітых хаваць… I сваіх, і чужых…

– Дзякуй за бульбу табе, Хвядос, – парушыла маўчанне нарэшце Лізавета і борздзенька падалася да свайго селішча.

Хвядос сказаў ёй услед на поўным сур'ёзе:

– Што мне? Ты, маладзіца, печы вунь скажы добрае слова. Ёсць печ – будзе і бульба, будзе і хлеб…

## 2. ЖАНІХ

**Н**а печы я абжыўся, а сама печ стала цэнтрам вясковага жыцця – як раней клець каля калгаснай канюшні, у якой віселі хамуты, сядзёлкі, вожкі і самая розная іншая вупраж. Коні, як і мужчыны, на фронце, калі толькі не пабілі іх, а вупраж дзе, толкам ніхто, здаецца, і не ведае. Акрамя, можа, Мікіты. Той, хоць і будзе ведаць, але язык за зубамі ўмее трымаць: камандаваць партызанскім атрадам не кожнаму даверадь. Дзед Грышка, аднак, пра Мікітаў атрад не дужа высокай думкі: «Гэта каб яны мяне ўзялі ў штат, неслухі, я б іх адукаваў. А так!..» Потым ён пачынае хваліцца, як даваў перцу супастатам у імперыялістычную. Можа, і даваў, але хто бачыў? Таксама скажаш, дзед! Ці не хлусіш? Ды і дзе твае медалі? Калі б добра ваяваў, то не хваліўся б, а ўзнагароды на пінжак – і ўсе бачаць без тваіх слоў, што ты не абы-хто, а герой.

Вось і ў той дзень каля печы зноў сабраліся вяскоўцы. Прытупаў і дзед Грышка, гопнуўся на бервяно, паклаў на калена шапку і паскардзіўся:

– Няма здароўя. Зусім зачах. Цікава-інцярэсна. А бывала ж!..

Пра тое, што з дзедам было раней, не цяжка здагадацца: быў і ён арлом. Хоць і цяпер стары не-не ды і пусціцца ў скокі, бы малады жарабок. Бывае. Толькі крэкча тады, сапе, вываліўшы з роту язык: «Ой, паміраю, ратуйце…» Але не памірае – жыве. I добра, што жыве, бо без дзеда Грышкі было б сумна ў нашай Сасноўцы.

– Ну, што яшчэ скажаш? – глядзіць на старога дзядзька Хвядос. – Што здароўя няма, мы чулі.

– А тое скажу, што пакуль твой Сцяпан немцу мырмалку трэ, да ягонай нявесты Раюхі нейкі танкіст з перавязанай галавой капыты

падбівае, э-ге, – прамовіў дзед і нацягнуў на галаву шапку. – Прымай ме-ры. Спакусіць. Ужо другі дзень трэцца каля яе, а ты аслеп, ці што? Гэ-та што я бачу. А мо і раней прыбягаў? Па гародчыку – шасць, і ў Раю-хі. І шыта-крыта. Каб маладзейшы быў, прасачыў бы, з якой ён вёскі. Але хлапец, скажу вам, жвавы!.. Ой, наробіць шкоды!.. І сёння, я ж і кажу, прытупаў да дзеўкі. Ніякой канспірацыі. Глядзі, Хвядос!..

Хвядос моўчкі ўзяў чыгунок, наліў у яго вады і вілачнікам прыткнуў да дроў, што браліся ў печы полымем.

– Няма ж пісьма ад Сцяпана, – горка вымавіў ён нарэшце. – Пасля вызвалення ўсе, хто жывы, ужо напісалі.

Цяжка было гэта чуць усім. І мне. Але ж пахавальнай няма! Вернецца Сцяпан. І як жа так? Няўжо дзед Грышка не хлусіць? І хто ён, гэты танкіст, адкуль узяўся? Яшчэ не хапала, каб забраў Раісу, Сцяпанаву нявесту. Я сам не аднойчы бачыў, як да вайны Хвядосаў сын гужам увіваўся за прыгажуняй Раісай, а яна заўсёды яму ўсміхалася – так, як нявеста жаніху. А тут такое сказануў стары! Я не вытрымаў, пабег шукаць таго танкіста, каб хоць глянуць, што там за шышка такая. Не можа быць, каб ён быў вышэйшы за Сцяпана.

– Гайда за мной! – махнуў я і Петрыку, які, убачыўшы мяне, вытыркнуў рыжую і лахматую галаву з-за паркана.

Петрык не стаў дапытвацца, куды я спяшаюся, а адразу ж пабег за мной. Толькі калі дагнаў, спытаў:

– К... куды?

– Зараз убачыш!

А вось і двор Раісы. Ціха. Нідзе, здаецца, не відаць танкіста. Толькі не: рыпнуў, рыпнуў гармонік. Так і ёсць... не хлусіў дзед Грышка. Рып той даляцеў з расчыненых сенцаў. І адразу ж на ганку з'явілася Раіса, а за ёй – танкіст. Канешне ж, малы, са Сцяпанам не параўнаць. Сцяпан у танку не памесціцца. Расцягваючы мяхі, танкіст ледзь не ўпаў на калена, пачаў маліць:

– Ну, Рая, ты чуеш ці? Павярніся хоць. Ты размаўляць можаш? У цябе язык ёсць?

– Ёсць! – гучна адказала Раіса і паказала на імгненне танкісту язык.

Мы з Петрыкам прытаіліся за сцяной хаты, толькі крадком выглядвалі на падворак. Месца небяспечнае: калі будуць яны выходзіць з двара, то акурат напаруцца на нас. Няёмка падглядваць. Але ж няма ў нас іншага выйсця: трэба выручаць неяк дзядзьку Хвядоса. Толькі я так падумаў, як убачыў, што ў нашым накірунку ідзе бабка Антося... з хамутом на шыі, а ў руках валачэ граблі і вілы. Ступае

цяжка, быццам на катаргу. Трэба хавацца. Мы заскочылі ў агарод. Адсюль яшчэ лепш бачна, што робіцца на двары. Можна і да танкіста прыцаніцца: жаніх ён ці так сабе... адно званне?

Танкіст жа рашуча заявіў:

– Я на Курскай дузе, калі знаць хочаш, у танку гарэў!

Раіса на гэта яму адказала – бач ты, і Курская дуга для яе нішто! – з лёгкай вясёлай усмешкай на прыгожым твары:

– Кастусёчак, ну чаго ты да мяне прыліп? Ты ж расточку маленькага...

А я што гаварыў? Хіба ж можна параўнаць яго са Сцяпанам! Прыдумаеце таксама. Ніколі!

Танкіст жа пацягнуўся, бы толькі што прачнуўся, і кісла паморшчыўся:

– Я... я... я падрасту. Падрасту я. Верыш? Я ўсё зраблю, каб табе спадабацца. Усё, чуеш? Моркву буду есці кожны дзень. Самую вялікую.

Раіса пацерабіла нярвова пальцамі хустку, нізка схіліла галаву, а потым часта заматала ёю: не, не, не. Ура-а! Малайчына, Раіса. Цяпер будзе чым хоць парадаваць дзядзьку Хвядоса: не ўгаварыў, хоць і стараўся надта – ажно з гімнасцёркі вылузваўся! – танкіст нашу прыгажуню. Танкіст, ці хай будзе Кастусёчак, роспачна ўздыхнуў, сеў на прызбу, якая яшчэ нават і не падсохла добра, таму будзе на яго салдацкіх галіфэ сырой зямліцы, будзе, і зайграў. Вальс. Пра дунайскія хвалі. Прыгожая музыка, так і слухаў бы. Але нельга губляць пільнасць, вуха востра трымаць трэба. Рыпнуўшы гармонікам, Кастусёчак утаропіўся на Раісу і тлумачыў той, што ён за цаца:

– Падумаеш – маленькі. Хм-м. Ды я ж гарманіст! Гарманіста на рост не ацэньваюць. Таксама мне мерку знайшла. Гарманіст вышэй за ўсіх ростам быў і будзе. Як зайграю – усе дзеўкі збягуцца. Хочаш, зайграю?

– Зайграй, – абыякава паціснула плечуком Раіса.

І ён, наколькі можна, расцягнуў мяхі. А сам, блазнуючы, вядома ж, задраў галаву і паклікаў:

– Гэй, дзеўкі, гэй, маладухі-весялухі!

Тут я заўважыў, як на двор заходзіць бабка Антося ўсё з тым жа хамутом на шыі. Танкіст, убачыўшы яе, адвярнуўся і прабурчэў:

– Вось... адна прыклыпала... маладуха-весялуха.

Раіса пырскнула смехам і затуліла рот далонню. Бабка Антося тым часам зняла хамут з шыі, і амаль подбегам – да танкіста. Спынілася каля яго, спыталася:

– Саколік, саколік, а калі ты з фронту?
– Нядаўна.
– Можа, ты сыночка майго сустракаў? – дастала здымак, падала танкісту. – Лагойка Пятро Рыгоравіч. Пецька. Рыжанькі такі... Прыгожанькі...
Нам таксама цікава зрабілася: во было б здорава, каб гэты самы танкіст абрадаваў зараз старую Антосіху. Толькі ён зморшчыўся і вярнуў картку назад:
– Не, матка, не сустракаў.
– І не піша больш... – сумна ўздыхнула бабка Антося.
– Не сустракаў, маці, – сказаў зноў танкіст і зайграў такую ж сумную мелодыю, як і твар у старой.
На музыку сабраліся людзі. Яны заходзілі на двор Раісы, як на свой. Заўсёды баявая Лізавета ляпнула рукой танкіста па плячы, а потым падала яму далонь:
– Здарова, танкіст!
Танкіст ляніва пацiснуў шурпатую Лізавеціну руку і не знайшоў нічога іншага, як адказаць ёй:
– Прывітанне, лётчыца!
Жанчыны засмяяліся, загаманілі.
– Дзе гармонік узяў-та? – Лізавета сядзела ўжо побач з танкістам.
– Немец адзін знаёмы падарыў, – не міргнуўшы і вокам, сказаў танкіст. – Бачу, не верыш? А што? І сярод немцаў людзі ёсць. Кажуць. Я, праўда, не сустракаў. Ну дык, жанчыны, для вас! Так і быць!..
І танкіст налёг на гузікі. Гармонік, здавалася, вось-вось і сам пусціцца ў скокі. За пальцамі танкіста не ўсачыць: носяцца-слізгаюць па гузіках, як апантаныя. Ліха! Жанчыны, адна за адной, пусціліся ў пляс, і неўзабаве на двары курэў пыл, як да вайны на вясковай дарозе, калі па ёй пракапыціць статак кароў.
– Райка, пайшлі! – Лізавета тузанула дзяўчыну за руку, тая не ўтрымалася і таксама пачала мясіць свой двор босымі нагамі: чаравікі пашкадавала, разы два тупнула-гэцнула ў іх, а потым ціхенька зняла з ног.
Разам з усімі кружыла і бабка Антося, толькі яна больш фанабэрылася, чым танцавала, пыхкала, бы самавар, а тады і зусім спынілася, махнула рукой і загадала:
– Гарманіст, прыпеўкі давай! Гарманіст!.. Э-эх! – І заспявала: – Не хацела выхадзіць, стаяла сцяснялася, а гармоня заіграла, я не ўтрымалася! Э-эх!

Варка часта-часта і неяк смешна затупацела кароткімі нагамі і таксама ўспомніла прыпеўку:

– Ох, вясна, вясна ідзе прама да Урала. Дзевачкі, вайна, вайна, а маладасць прапала!

– Пайшла плясаць, дома нечага кусаць – лебяда ды коркі... на нагах аборкі! – гэта ўжо Лізавета.

Я штурхануў Петрыка ў плячо:

– Ідзеш? Да печы?

Петрык зморшчыўся:

– Пачакай. Цікава ж...

Толькі нядоўга мы яшчэ тут бавіліся. Пасля таго як Раіса спела пра міленькага свайго, якога дзяўчына чакала з вайны, а маці ёй сказала, каб выбірала сабе іншага жаніха, яна шмыгнула з двара некуды на агарод, пранеслася міма нас, і тады танкіст згроб гармонік, паклаў яго на лаўку і кінуўся ўслед, папярэдне не забыўшыся сказаць жанчынам мала радаснае для іх:

– Канцэрт пераносіцца! Арцісту няма калі!..

Двор апусцеў. Толькі гармонік ляжаў на лаўцы. А што, калі раптам?.. Я не бачыў, дзе Раіса, дзе танкіст: не палезеш жа тым на вочы. Але каб танкіст не нарабіў якіх-небудзь глупстваў, я вокамгненна аказаўся каля гармоніка, узвалок яго на калені і пачаў рыпаць. На ўсю моц. Так я і дам табе, танкіст, быць з Раісай за пуняй. Не атрымаецца. Хоць ты і заслужаны баец і гарэў у танку.

А Раіса паказалася зусім з іншага боку, глядзела на мяне з Петрыкам і ўсміхалася. Значыць, у яе ўсё добра.

Пакуль не было відаць жаніха, мы ціхенечка падаліся са двара...

## 3. ВАЖНЫ ГОСЦЬ

**Т**рывожна шуміць Дзянісаў бор. Тут наша схованка. У глыбокай яміне, якую самі выкапалі па чарзе адной рыдлёўкай, пад шыгаллем ляжыць зброя. Хто ж ведаў, што мы не паспеем яе нават выкарыстаць? Рыхтаваліся да бою, а як жа! «Трымайцеся, фрыцы!» Спярша ў схованцы былі толькі дзве вінтоўкі, аўтамат і наган, а пазней Петрык прыцягнуў нават варожы кулямёт і скрынку патронаў: партызаны так прыціснулі немцаў на ўзлеску агнём, што тыя, драпаючы, пагублялі не толькі зброю, а і вузлы з нарабаваным у людзей. Уяўляю, як шуравалі яны! Канешне ж, пыл курэў! Без аглядкі!

Ранкам мы з Петрыкам пабеглі ў Дзянісаў бор, засунулі пад шыгалле рукі: на месцы зброя, на месцы. Фу-у! Ды і куды яна магла

падзецца? Хто ведае, акрамя саміх нас, што яна тут? Аднак пакуль самі не пераканаліся – было трывожна: жывыя ж людзі, не карчы балотныя якія-небудзь. Петрык з сумам заўважыў:

– Ну, і што будзем рабіць з гэтымі ствaламі?

Я не ведаў, што яму адказаць. А і праўда: што рабіць з нашай зброяй, якая, пэўна ж, сваё ўжо адваявала? Як адваяваліся, падобна на тое, і мы. Мы яшчэ раз пабедавалі, што, мусіць, больш не спатрэбіцца нам зброя, і моўчкі падаліся ў вёску. Настрой – горш не прыдумаеш: пра нашы геройскія ўчынкі і ўспамінаць не хацелася. Ды і якая і каму карысць ад таго, што ты ўспомніш? Толькі ворагам, можа, гэта і на руку. Але дзе ж яны, тыя ворагі? Па якіх дарогах бягуць-уцякаюць? І што нам да іх рук? Каля печы дарос-лыя казалі, быццам пасля таго, як вызваліла наша армія Сасноўку, яна пагнала немцаў далей на захад, а дзе той захад – пра гэта трэба будзе распытаць калі-небудзь у дзядзькі Хвядоса.

Яшчэ здалёк мы і ўбачылі якраз яго. Дзядзька Хвядос, прыгорблены, стаяў на двары каля печы, абапёршыся на вілачнік і пра нешта думаў. Пачуўшы нашы крокі, падняў галаву, усміхнуўся:

– А, гэта вы, жэўжыкі! Дзе ж вы ходзіце столькі часу? Я ўжо і думаць пачаў пра кепскае. Ну, ды нічога, нічога: з’явіліся – і на тым дзякуй. Прагаладаліся?

Пытаецца! Але Петрык раптам апусціў галаву, сказаў:

– Мы елі...

Дзе? Што? Калі? Во хлус дык хлус. Хоць я разумею Петрыка: пачне зараз частаваць абедам дзядзька Хвядос, а ён адразу ж пачырванее, засаромеецца. Нібы дзяўчынка. Толькі што з таго – голад не цётка, есці хочацца, як ні круці-вярці, а мне неяк дык і ўсё роўна, хто накорміць – ці дзядзька, ці цётка. Хоць, вядома ж, потым трэба будзе пастарацца, каб нечым аддзячыць, бо, як сказаў вясковы грамацей дзед Грышка, бясплатны сыр бывае толькі ў пастцы. А дзед ведае, што гаворыць. Петрык жа хуценька разабраўся ў сітуацыі – варта было яму зірнуць толькі раз на мой кіслы твар – і ціха, каб не пачуў дзядзька, шапнуў мне:

– У нас суп з фасолі... Яшчэ смачней, чым што.

А дзядзьку Хвядосу не было калі і падслухоўваць таго Петрыка – ён ужо глядзеў на незнаёмага чалавека ў доўгім – ледзь не да са-мых пят – плашчы і ў новай кепцы-васьмiклінцы, які моўчкі і задужа ўважліва разглядваў усё, што траплялася яму на папялішчы. Нарэшце пачаў выцягваць з-пад абгарэлых бёрнаў кола ад возу. Не атрымлівалася – перашкаджаў плашч, тады незнаёмец зняў яго, паклаў на печ, краем

звесіўшы долу. Дзядзька Хвядос выглянуў з-за печы. Убачыўшы яго, незнаёмец павітаўся:

– Шчасця вам у хату!

– Дзякуй, – крыху неяк сарамліва адказаў дзядзька. – Дзякуй. З прыцэлам, бачу, наперад глядзіце. А то якая ж у мяне хата? Так вось... печ адна... З ёй і трымаемся.

Незнаёмец нарэшце ўпэўніўся, што кола нікуды не вартае, адстаў ад яго і падышоў бліжэй да гаспадара, глядзеў таму ў вочы, настырна і доўга, быццам спрабаваў прыгадаць, дзе ж ён бачыў Хвядоса, дзе сустракаліся. Не прыгадаў. Таму сказаў коратка, але пераканаўча:

– Печ ёсць – лічыце, і хата ёсць.

– Ды яно быццам і так, канешне... – пагадзіўся, але ўсяго напалову, дзядзька Хвядос. – А вы, калі не вялікі сакрэт, кім будзеце?

Чалавек той адказаў не адразу. Спярша выгледзеў паблізу ад сябе бярозавы цурбачок, а ўжо сядаючы на яго, прамовіў:

– Настаўнік я. Да вайны дзяцей вучыў. У школцы. А цяпер ад райкома партыі.

Яны пазнаёміліся – назвалі сябе.

Затым Хвядос перапытаў:

– Ад... ад райкома, кажаце?! – І нацягнуў на галаву пілотку, якую схапіў на каптурку. – Ну-ну. Добра гэта.

– Вадой не пачастуеце мяне?

Дзядзька Хвядос заспяшаўся:

– Зараз. Мы гэта зараз. Чаго-чаго, а вады хапае.

Ён знік і неўзабаве вярнуўся з поўным – да беражкоў – карцом, падаў Козыраву: так назваўся госць. Той са смакам выпіў, крэкнуўі зноў вярнуўся да ранейшай размовы:

– Цяжкавата, праўда: дзе пехам, дзе хто падвязе, але ў кожнай вёсцы трэба пабываць. Дабраўся і да Сасноўкі. Адзіны транспарт пакуль у нас – уласныя ногі. Хоць да мяне часта быў тут, ведаю, Сяргей Васільевіч Каралёў... старшыня райвыканкома.

– Вядома, вядома, – трос галавой дзядзька Хвядос.

А Козыраў працягваў:

– Памёр Сяргей Васільевіч... інфаркт зваліў чалавека, а з выгляду моцны быў. Вось так. Ну, дык што тут у вас засталося пасля немцаў? Прыйшоў узгадніць тое-сёе.

– А што засталося? – дзядзька Хвядос паказаў рукой на папялішча. – Вось усё, што засталося, перад вамі... як на далоні. Не ўсе, дзякаваць Богу, хаты згарэлі... А той канец вёскі, што бліжэй да лесу,

– цалкам, ага... Адны галавешкі – такія ж чорныя, як і жыццё людское. Прабачце, можа што не так сказаў...

Так ці не так, але як на наш з Петрыкам розум, дык і правільна. Няма чаго нос задзіраць, калі парткі дзіравыя. Пагадзіўся з дзядзькам Хвядосам і важны райкомаўскі госць, але выгляду не падаў, а толькі сказаў, што ў нашай Сасноўцы і сапраўды хоць там-сям хаткі віднеюцца, а ёсць жа вёскі... І ён махнуў рукой некуды ў бок, уздыхнуў:

– Нічога, нічога: выстаялі раней, выстаім і цяпер. Коні... коні хоць ёсць?

Дзядзька Хвядос хехекнуў:

– Коні? Коні ёсць... Адзін. Белы. І тое не конь – баба...

Козыраў насцярожыўся:

– Баба?

– Кабыла.

– А-а, кабыла! – шырока ўсміхнуўся Козыраў. – Кабыла – гэта, можа, і лепш, га? Як думаеш, Хвядос?

– Калі з боку перспектывы, то канешне... – усміхнуўся дзядзька Хвядос. – Але ўсё ж сілёнкі ў яе не тыя. Хоць і грэх скардзіцца – цягавітая. Быццам разумее ўсё роўна, што сёння ёй больш рабіць трэба... за сясцёр і братоў, якіх на фронт забралі... Камісавалі кабылу – вока ў яе адно. Сляпая.

Пра кабылу Маруську дык і ўспомніць смешна і грэшна. Не ўзялі яе на фронт – калека ж. Выб'юць другое вока, што тады? За аброць вадзіць? Ды і з адным вокам – які з яе ваяка? Заставайся ўжо, Маруська, дома. А не ж! Як толькі ўсіх коней пагналі на зборны пункт – і яна наўздагон. Праз такі высокі паркан сiганула, што вяскоўцы дзіву даліся. Дагнала. А коней жа тых суправаджаў і дзед Грышка – ці не галоўным яшчэ начальнікам быў там? – то ён пазней нам з Пет-рыкам расказваў:

– Бач, і ёй на фронт захацелася. Цікава-інцярэсна. Табе, Маруська, і дома клопату хопіць. Нельга табе: інвалід. Білет не той маеш – белы. А з ім – к-хе, к-хе – скубі сабе траўку ў нашай Сасноўцы, ды тадысяды і пуп рыхтуйся напружыць. Не ўсім жа біць супастатаў ды гарма-ты цягаць. Камусьці і тут, дома, не менш клопатна. Я, хлопцы, яе сытна накарміў з казённага меха аўсом, пераначавала яна на зборным пункце, а тады зацугляў і павёў дамоў. Пабачылі б, як ішла – ледзь ногі цягнула, а галаву так і не падняла, у зямельку ўперыла і не падняла: пакрыўдзілася, мабыць. Гонар і ў яе, Маруські, ёсць.

Так наша Маруська і адваявалася. А цяпер вось і ёй зацікавіліся, ды яшчэ і на высокім узроўні.

Дзядзька Хвядос чамусьці спытаў у раённага начальніка дазволу паклікаць сюды, да печы, усіх вяскоўцаў. Той абрадаваўся:

– Канешне, канешне. Усіх пакліч, Хвядос. Спадзяюся, і старшыня Мікіта Тарасаў нас пачуе? Я да яго якраз ішоў.

– Пачуе і Мікіта. Ён у нас старшыня і каваль у адной асобе.

Неўзабаве над Сасноўкай стаяў звон – гэта біў кляцом з бараны ў рэйку дзядзька Хвядос і, павярнуўшыся тварам да госця, быццам супакойваў таго:

– Зараз яны збяруцца. Зараз. Яны падпарадкоўваюцца майму сігналу. Ага.

– Вы яшчэ багатыя, – Козыраў хадзіў туды-сюды, заклаўшы рукі за спіну. – Частка хат стаіць. Кабыла ёсць. А галоўнае – людзі! Суседзяў жа, за ляском, – спалілі. Усіх... Жудасна.

Петрык шапнуў мне:

– Пра Боркі гаворыць...

Я кіўнуў: канешне, а якая ж яшчэ вёска за ляском, ды і знайшоўся мне тут знахар – хіба я сам не ведаю. Сядзі лепш і слухай, што важны госць далей скажа. А ён сказаў тое, што мы і самі ведалі:

– І толькі цішыня над вёскай...

А хутка пачалі падыходзіць Мікіта, Лізавета, Варка, бабка Антося, Раіса, Тамаш і іншыя. Козыраў кожнаму падаў руку. Тады і мы рашылі вылезці са схованкі. А чаго сядзець там, калі можна быць бліжэй да галоўных падзей, якія, спадзяваліся, былі наперадзе. Ды, калі шчыра, хацелася паглядзець, а ці пацісне райкомавец і нам руку. Але ён, убачыўшы нас, прытуліў да сябе, паклаўшы спярша свае шырокія, бы лапаты, далоні нам на плечы, і гучна сказаў:

– Я вось і кажу тут Хвядосу: багатыя вы яшчэ. Вось, вось яно, ваша багацце, ваш заўтрашні дзень.

Як заўсёды, бліжэй да госця прадзёрся Тамаш, спытаў у Хвядоса быццам ціха, але пачулі ўсе:

– З райкома, гаворыш?

Дзядзька Хвядос кіўнуў: ага.

Пакуль дарослыя разбіраліся, хто адкуль, Петрык памацаў у Козырава кабуру, а тады мне шапнуў:

– Ёсць... Сапраўдны.

А Тамаш тым часам павярнуўся тварам да Козырава, гаварыў яму, а сам, схіліўшы галаву на бок, задаволена паглядаў на землякоў:

– Ты, чалавек, калі ўладу прадстаўляеш, давай... давай, гавару, слова выкладвай дзяржаўнае. А хлапцы хоць і багацце, ды самі не шыбка багатыя... Пад штанамі лыткі, а на іх – латкі! Х-хі!

Дарослыя пачалі расказваць райкомаўцу пра нас, пра наша сірочае жыццё, ажно зрабілася няёмка… І добра, што Козыраў супакоіў іх:

– Нічога, нічога… Мала я ведаю сёння шчаслівых людзей… Хаця і шчаслівыя мы, калі падумаць. Вельмі шчаслівыя. Перамога зусім блізка, а вораг да нас ужо ніколі не вернецца!

Лізавета паглядзела на госця, уздыхнула:

– А я, прызнаюся, кожнай ранічкай у той бок трывожна паглядаю, куды яго турнулі: ці не ідзе зноў? Няма… і так добра на душы… так лёгка…

– Ой, не кажы, Ліза! – цяжка ўздыхнула бабка Антося. – І ў маіх жа пячонках супастат сядзіць, век бы яму дзёгаць есці!

– А чым калёсы мазаць будзем? – пажартаваў Мікіта.

Райкомавец жа, не звярнуўшы ўвагі на гэты жарт, паабяцаў зноў, што вораг больш не вернецца, што назад фашыстам дарогі няма. Тамаш, як заўсёды, не пагадзіўся:

– Цвёрда гаворыш?

Райкомаўцу давялося нагадаць, што неўзабаве ўся тэрыторыя Беларусі будзе вызвалена ад нечысці і нашы салдаты пяройдуць граніцу.

– Так што, дарагія мае, вось-вось і зусім скончыцца вайна. Ужо, бачыце, і пошту пачалі вам прыносіць. Жывіце, працуйце спакойна.

– Як працаваць-та? Усё папалілі, парасцягалі… – махнула рукой Варка і адвярнулася ад райкомаўца, а тады зноў падняла на яго галаву: – Як?!

А Тамаш нагадаў, што адна кабыла ўсяго і засталася – багата на ёй не напрацуеш. Бабка Антося ўсміхнулася:

– І тая мая равесніца.

– Пагэтаму, таварыш, выкладвай, як жыць… – не мог уціхамірыцца Тамаш. – Паведамі, як там жывуць людзі, дзе мы не бачым… А то ў нас тут ні газетаў, ні радзіваў… Як на ненаселеным востраве… Га?

На кожным сходзе так выбягае наперад стары Тамаш, заўсёды ён задае ўсім самыя дасціпныя пытанні, а тады водзіць галавой па баках: ну, як, землякі, я праўду гавару ці не? Мы з Петрыкам любім тады быць каля дарослых: цікава ж Тамаша паслухаць! Ну-ну, давай, падсыпай перцу райкомаўцу, дзядзька! Ці вывернецца ён? Хто каго? Райкомавец жа крэкнуў, паглядзеў амаль як не на кожнага з нашых вяскоўцаў, а тады пачаў гаварыць:

– Грамадзяне! Таварышы! Як гэта добра, што вы сабраліся. Што ж мне вам сказаць? Багата я, даруйце, не скажу. Але ж час зараз у нас такі настаў, калі за новае жыццё трэба брацца, не чакаючы з мора

надвор’я. Учора яшчэ ноч была, доўгая і цёмная, а сёння, самі бачыце, дзень настаў... Ціхі, спакойны дзень.

Зноў падаў голас Тамаш:

– Гэта цяпер ён ціхі. А тады шандарахне, як у сорак першым!

– Не дай Гасподзь! – перахрысцілася бабка Антося.

– За намі справа не стане, – паабяцаў дзядзька Хвядос, які да гэтага больш маўчаў.

На што атрымаў ад Тамаша:

– А ты за ўсіх у ведамасці не распісвайся!

За дзядзьку Хвядоса заступілася Варка:

– Хвядос праўду кажа: за намі не стане!

– Верна-а! – грымнуў магутным голасам Мікіта.

– Вайну вынеслі не на чужым гарбу, што тут языком малоць! – сказала Лізавета.

Мікіта паглядзеў на Козырава, папрасіў таго:

– Давай, таварыш, кажы далей, слухаем.

– Ага, – бы схамянуўся райкомавец. – Не думайце, што партыя і ўрад не ведаюць пра вашу вёску...

– Пра нашу... вёску? – натапырыў ажно, падалося, вушы Тамаш, засмяяўся. – Мужыкі, чулі? Пра нашу Сасноўку ў Маскве ў тры лап-ці званілі! Вось у гэтым я сумняваюся.

Дзядзька Хвядос нялюба паглядзеў на Тамаша:

– Ты зноў супераж усіх?

Бабка Антося таксама прыгадала:

– Адзін раз цябе ўжо вытурылі з хаты, калі сход быў. Хіба забыўся? Як Мікіту старшынёй выбіралі? Нядаўна ж было. Ці ў цябе па-мяць кароткая?

А Лізавета нават штурханула Тамаша ў плячо:

– Ды ўтаймуйся ты нарэшце!

Тамаш крыху нават пакрыўджана паглядзеў на райкомаўца, развёў рукамі:

– Бачылі? Культура! Слова не даюць сказаць. А я, можа, усёй душой... усім целам...

Мікіта падцягнуў Тамаша бліжэй да сябе, цыкнуў:

– Не варушыся! І каб ціха мне!..

Козыраў жа працягваў гаварыць далей, а мы пазіралі на Тамаша, якога моцна трымаў каля сябе Мікіта. Райкомавец сказаў колькі слоў пра нейкі пленум, а тады паабяцаў лесу. Людзі ажывіліся.

– Лесам паможам. Паможам, таварышы, лесам. Так што калі хто хоча адбудоўвацца, можа брацца за сякеру і пілу.

– А цвікі і шкло з неба ўпадуць? – абурыўся Тамаш.

А я ўспомніў пра нашу хату, пра яму, што засталася на яе месцы, і пашкадаваў, што ў мяне няма ні пілы, ні сякеры. Хутчэй бы вярнуўся ўжо тата з вайны. Хутчэй бы. А без яго трэба сядзець і не рыпацца.

– Лес – гэта добра, – ступіла бліжэй да райкомаўца Варка. – Дзякуй, таварыш, за ўвагу. Але вось Тамаш, відаць, праўду кажа, што ні цвікоў нідзе, ні шкла... І нават ніводнага быка няма, каб ягоным пузыром шкло тое замяніць.

Тамаш, пачуўшы, што пра яго размова, вырваўся. Петрык штурхануў мяне ў бок:

– На волі!.. Зараз ён пачне!..

Мікіта ж апраўдваўся:

– Не ўтрымаеш гэтага Тамаша. Стары, стары, а ўваротлівы, чорт!

Козыраў зрабіў Мікіту заўвагу:

– Вы яго не трымайце. Ён жа не арыштант.

Тамаш адышоў падалей ад Мікіты, скоса глядзеў на яго:

– І я гавару: не арыштант. Таму не лапай, раз не арыштант.

Лізавета ўздыхнула:

– Надакучыў, сілы няма. Слухай, Тамаш... Ты вось гаворыш: ні цвікоў, ні шкла... А сам дзе ўзяў? Людзі не паспелі слёзы з вачэй сцерці, а ты ўжо хату пачаў будаваць.

– А я, можа, у немцаў краў!

Калі Тамаш сказаў пра немцаў, нам з Петрыкам ажно смешна стала, бо мы ўявілі, як бы і сапраўды мог красці стары ў фашыстаў. І не ўяўлялася. Во хлус дык хлус! А Тамаш сыпаў далей:

– Я, можа, жыццём рызыкаваў. Можа, мне яшчэ медаль за гэта дадуць? – Тамаш лыпнуў вачыма і прыпячатаў далонь да сарочкі на тое месца, дзе вісяць медалі ў дзядзькі Хвядоса. – А вы тут анцімонію разводзіце!..

Варка злосна прытупнула нагой:

– Ды суціхні ты!

Тамаш жа быццам і супакоіўся, але працягваў чмыхаць:

– Дзе ўзяў, дзе ўзяў... А ты б, Ліза, таксама магла б... ты баба ядроная... ты б вось гэтым вертанула... і не тое займела б... хі-хі-і!

Ад цёткі Лізаветы Тамаш атрымаў у каршэнь і ўвабраў галаву ў плечы. Бабка Антося паглядзела на яго, махнула рукой:

– Ён зараз скажа, што ў яго і дошкі, і цвікі былі яшчэ да вайны.

Козыраў жа папрасіў цішыні. Яму трэба было сказаць, што ў бліжэйшы час дзяржава будзе дапамагаць пайкамі. Растлумачыў:

– Кілаграмаў па восем на сям'ю – яшчэ не вырашылі дакладна па колькі – плануем выдзяляць мукі...
– На ўсіх? – папытала Варка.
– Не, таварышы. На ўсіх – не. Старым паможам, удовам салдацкім, у якіх дзеці на руках... Вось. На ўсіх – не, не атрымліваецца.
Тамаш напомніў пра сябе:
– Паможаце... Цікава, што ж гэта за дапамога? Па восем кіло мукі дасцё, а па чатыры бязмены мяса – забяраце. Дзе ж справядлівасць тутацькі? За што кроў... ета самае... лілі?
Райкомавец строга паглядзеў на Тамаша, твар у яго зрабіўся чырвоны, бы памідорына, і гучна сказаў:
– Справядлівасць дзе? За што кроў лілі? А як ты яе, справядлівасць, разумееш? Як?
Тамаш крыху здрэйфіў, але стараўся трымацца горда:
– Дай пароўну ўсім – вось... яна самая і ёсць. А калі бярэш, скажам, чаго больш, то і мукі адсып паболі...
– А хто табе, дзед, павінен даць, адсыпаць? Каго ты маеш на ўвазе? – не пакідаў у спакоі Тамаша райкомавец.
– Цябе. Уладу.
Бабка Антося прашамкала бяззубым ротам:
– Можа і праўду Тамаш кажа, а?
Усе зрабілі выгляд, што яе не пачулі. А Козыраў гаварыў далей:
– Мяне? А чаму не сябе? Эх, браткі! Ды няма ж у мяне яе, торбы такой, з якой мог бы дастаць я і мяса, і зерне, і працягнуць усё гэта вам: бярыце, людзі! Няма... Пакуль няма. Але ж не забывайце, што мы пад ружжом яшчэ ходзім, хоць і ціха ў нас. Мы ж яшчэ ваюем, цяжкія баі вядзём яшчэ. Ці хутка мо на нас цішыня падзейнічала, ад вайны адгарадзіла?
– Што вы Тамаша слухаеце! – заступіўся за райкомаўца Хвядос.
– Правільна! – падаў голас і Мікіта. – Лес даюць – трэба будавацца. Не лапцем жа нам боршч сёрбаць! А то ж!..
– Дзе ж лапцяў тых набярэшся, калі наш Іван рашыў у іх усю Еўропу абуць! – быццам бы сур'ёзна сказала Лізавета, але грымнуў смех – сказанае знянацку ўсім спадабалася: трапна!
А тым часам Варка войкнула, быццам нечага напалохалася, затуліла твар далоняй, адступіла колькі крокаў назад і прамовіла, глытаючы словы:
– Ой!.. Ідзе... салдат ідзе!..
І ўсе павярнулі галовы на дарогу.
– Ці не з нашых хто? – бліжэй да Варкі стала Лізавета.

– На Сцяпана падобны... – углядаўся ўдалеч і дзядзька Хвядос.

Раіса не ўтрымалася, кумельгам кінулася наперад, але адразу ж спахапілася, апамяталася і спынілася, часта затрэсла галавой:

– Не... не... не-е...

– Не ён... – змрочна прамовіў і Хвядос.

Варка пацёрла дрыготкімі пальцамі шчаку:

– Вярнуўся... Адваяваўся нехта...

Лізавета ж глянула на райкомаўца:

– А можа, і зусім вайна скончылася? А мы сядзім тут!.. А, райкомавец?

Райкомавец паспеў толькі хлюпнуць носам – не было яму калі баіць з жанчынай: перад ім, роўна ж як і перад усімі сасноўцамі, стаяў салдат. Быў ён у пілотцы, гімнасцёрцы і надта запыленых ботах. Я адразу ж убачыў аўтамат у яго за плячыма, які амаль нябачным вочкам цаляў у зямлю. Гляджу, і Петрык уперыў вочы на зброю. Такая рэч і ў нас ёсць. Вось каму б маглі аддаць аўтамат, дык гэта салдату.Толькі навошта яму? Наўрад ці возьме. З двух ствалоў адразу па нем-цах паліць не будзеш. А салдат часта ківаў людзям у знак прывітання – ад хуткага кроку і хвалявання не мог, падалося, гаварыць на ўсе грудзі. Зазіраў у вочы людзям, быццам некага шукаў. Але, відаць, не мог знайсці таго чалавека сярод нас. І тады ён загаварыў страстна і таропка:

– Землячкі! Добры дзень, землячкі!

– Добры, добры дзень табе, саколік! – бабка Антося была тут як тут.

– Вярнуўся... – зноў прамовіла тое ж самае Варка.

– Барчан не сустракалі? – глядзеў на нас салдат, чакаў адказу. – Барчанскі я, Міхаіла Гарбачэнкі сын. Га, людзі? Ну што ж вы маўчыцё? Маці маю, Мар'ю Паўлаўну, павінны знаць. Настаўніцай яна была. Га? Дзетак жа вашых вучыла. – Салдат раптам паклаў сваюцяжкую далонь мне на галаву, і я ледзь не прысеў – уго! – і спытаў-ся: – Брацікаў маіх не бачыў? Ваську і Мішу? Шыбку ў школе Васька з рагаткі разбіў... у пятым класе. Помніш? Мішка на два годзікі маладзейшы... Людзі! Што ж гэта вы маўчыцё? Праездам я. На фронт едзем... У камандзіра адпрасіўся, пакуль хлопцы паабедаюць... Якраз прывал. Не сустракалі нікога з нашых?

Людзі маўчалі. І мы з Петрыкам – таксама. Хоць пра ўсё добра ведалі... Салдат жа не зводзіў з нас вачэй і, цяжка дыхаючы, гаварыў:

– Была вёска – і няма... Забег, а там – бярвенні абгарэлыя, попел, вуголле чорнае... І печы стаяць... Па бярозцы, што пад акном пасадзіў,

толькі і пазнаў хату… Дык што ж гэта? Што ж гэта, людзі? Нікога не бачылі, значыць… Нікога… А дзе ж яны павінны быць? А, людзі?

Першым знайшоўся райкомавец, ён паглядзеў на салдата і ціха прамовіў:

– У памяці нашай, салдат… У памяці…

Давячыся камяком у горле, Мікіта стараўся не сустракацца вачыма з салдатам:

– У свіран усіх… перад адступленнем… Згарэлі твае землякі, хлопец… Вось як… Ага…

Мужчыны, бы па камандзе, знялі картузы.

– Што-о-о?! – салдат нейкімі шклянымі вачыма каторы раз паглядзеў у той бок, дзе была некалі ягоная вёска. – Барчане згарэлі? Яны ж – жалезныя!.. Яны не згараць! Што вы гаворыце такое? Не згараць! Не згараць яны! Не-е-е-е!

І ён, нічога больш не сказаўшы, пабег не ў той бок, адкуль узяўся, а – наперад. Па дарозе сустрэўся яму дзед Грышка, той здзёр з галавы сваю аблезлую шапку, саступіў яму дарогу і адбіў паклон. А потым стары перахрысціўся і папраставаў да нас… Але што спазніўся ён сёння, дык спазніўся: мала таго, што не паслухаў райкомаўца, дык той і цяпер мусіў абыйсціся без дзеда, бо сказаў:

– Камуністаў прашу застацца…

Засталіся дзядзька Хвядос і Мікіта. А які ж камуніст дзед Грышка? Усярэдку ён, магчыма, такім і будзе, але чым дакажаш? Пакажы дакумент. А яго якраз і няма. Таму ён толькі хацеў нешта сказаць, а тады пакрактаў, роспачна махнуў рукой і пашлёгаў назад дахаты: маўляў, разбірайцеся тут самі…

Крыху паводдаль ад мужчын сядзела Кацярына і люляла на руках галавешку:

– А-а-а-а-а-а-а-а-а! А-а-а-а-а-а! А-а-а-а-а-а!

Паклыпаў дахаты і Петрык, а я залез на печ – больш ісці мне не было куды. І зусім не вінаваты, што падслухаў, пра што гаварылі райкомавец, Мікіта і дзядзька Хвядос. А спярша апошні скруціў самакрутку, паглядзеў на важнага госця:

– Можа, паспрабуеце майго тытуню? Паёк. З-пад Бранску прывёз. У шпіталі хлопцы накідалі на развітанне. У падарунак быццам. Дзякуй ім – на год, глядзіш, і расцягну.

Райкомавец працягнуў руку, і пакуль Хвядос сыпаў яму на далонь тытунь, скоса паглядаў на Кацярыну.

– Двое, значыць, вас, камуністаў, стала?

– Пакуль двое, – адказаў дзядзька Хвядос. – Са мной калі.

– Не густа...

– Не густа. А мяне на фронце прынялі. Пад Вязьмай. Не збіраўся, шчыра скажу, а маёр кажа: «Ты, Сталетаў, варты». Ну, раз варты – вам, начальству, лепш відаць.

Нічога не адказаўшы на гэта, райкомавец асцярожна папытаў у дзядзькі Хвядоса і Мікіты:

– Пра Дзмітрыя, сына Тамаша, нічога не чулі? Гавораць... бытта... – Ён на нейкае імгненне замоўк, а потым сказаў: – Хоць добра... Гэта пакуль што размовы. Хоць і разумею, што полымя без агню не бывае. Але пазней, адчуваю, нам пра гэта ўсё ж трэба будзе гаварыць...

Мікіта развёў рукамі:

– Як пагнаў калгасную скаціну ў сорак першым, дык і не напамінаў пра сябе. А што?

– Разабрацца трэба... – Козыраў на хвіліну задумаўся, а потом прамовіў: – Навошта людзям да часу настрой псаваць? Хопіць для іх і таго болю, які перажылі, сцярпелі. А праўда усё роўна выплыве. Рана ці позна. Ну, я пайду, мужыкі. Мне яшчэ ў Алешню трэба паспець сёння. Трымайцеся тут. Будзем разам працаваць. Не сёння-заўтра дапаможам і жыўнасцю. Будуць у вас і каровы, і коні. Усё будзе. Былі б мы.

Яны моцна парукаваліся на развітанне.

У нас з Петрыкам таксама быў добры настрой пасля таго, калі наведаў нашу вёску райкомавец Козыраў, важны госць.

## 4. ЦІХА ЯК!..

**Р**анічкай я звычайна злазіў з печы, мыўся і пытаўся ў дзядзькі Хвядоса, што рабіць будзем. Давай, загадвай. Учора мы з ім капалі зямлянку, бо на печы, зразумелая справа, ад дажджу і ветру не схаваешся. А ў зямлянцы, калі што, і перазімаваць можна. А дзядзька Хвядос сёння паглядзеў на мяне вясёлымі вачыма, не так сур'ёзна, як заўсёды, усміхнуўся і сказаў:

– Табе, Колька, у школу б. Яшчэ наробішся. Яшчэ напрацуешся. Але магу цябе абрадаваць: нядоўга чакаць засталося – у верасні адкрываем школу. Настаўніца, Вольга Якаўлеўна, вярнулася...

– Ура-а-а! – не стрымаўся я.

Як добра, што наша школа ў вайну не згарэла. Заходзь – і вучыся.

– А пакуль давай снедаць.

Мы селі за самаробны стол і пачалі сёрбаць па чарзе з адной місы варыва – драўлянымі лыжкамі, якія сам выстругаў з ліпы дзядзька.

Потым ён аблізаў сваю лыжку і паглядзеў на неба. Яму, небу, быццам і гаварыў:

– Ціха як!.. І заўтра будзе такая цішыня. Акурат так. Будзе. Мне можаш верыць. – І раптам перавёў позірк на печ: – Чуеш, печ? І цябе датычыць. Ціха як!.. Гэта не хухры-мухры, а цішыня. Вось яна, на далоні. Бы яблык. Яна – як сон немаўляці... ага... які яшчэ матчыну соску смокча... забаўку... Прывезлі яго з радзільні, паклалі ў люльку – асцярожненька так, як мінёр снарад, на выцягнутых ру-ках – а самі бацькі на кончыках пальцаў ходзяць-клыпаюць. Няхай спіць, няхай... Моцненька, бесклапотна... Бацькам дзіцятка – што нам, людзям, цішыня... Баішся, каб не спалохаць яе, каб не спудзіць... А там мужчыны вернуцца. Яны вернуцца. І Сцяпан мой, і Колькаў татка прыйдзе. Без веры жыць нельга... – Дзядзька Хвядос паглядзеў на мяне, затрымаў позірк. – Ты іх, печ, помніш. Сядзелі яны ў хаце: мужыкі на цябе глядзелі, ты на іх. Неўзабаве вернуцца. Скора. І тады мы зруб узвядзём. З новых бёрнаў. І дах над табой паставім, печ, каб не сірацела ты больш пад голым небам. Каб па-людску, ага. Тваё месца ў хаце – не на вуліцы... Ты, можа, і крыўдуеш на мяне, што пад небам пакуль... Не трэба. Вось калгас крыху на ногі паставім – і тады адразу, ага... Мяне, ты і не ведала мо, старшынёй выбралі... Не крыўдуй. Малайчына, што разумееш. Малайчына. Усё адразу не агораем.

Дзядзька Хвядос яшчэ доўга размаўляў бы, мусіць, з печчу і са мной, але я ўбачыў, што да нас ідзе Мікіта, таму падзякаваў за крупнік і пачаў прыбіраць на стале. Мікіта, як і нярэдка, грымнуў басам:

– Тамаш не заявіўся?

Хвядос вытрымаў паўзу, сказаў:

– Ды не відаць. Як у студню праваліўся.

– Праваліцца ён у студню, чакай! – таптаўся каля печы Мікіта, не знаходзячы сабе месца. – Ну, Тамаш! Ну, Тамаш!..

– Ды прыйдзе ён, прыйдзе! – супакоіў суседа дзядзька Хвядос. – Куды ж ён можа падзецца?

А Мікіта матляў у паветры вялікім кулаком:

– Не церпіцца мне тыцнуць яму ў адно месца!

– Тыцнеш, калі так ахвота. Паспееш. Усяму свой час. А вунь, дарэчы, і Тамаш. Дарэмна хваляваўся, Мікіта. Сам ідзе.

– Ды не сам: я выклікаў яго да тваёй печы, – паглядзеў на Тамаша, які тупаў паблізу, Мікіта, а потым захваляваўся, пачаў лапаць сваё адзенне, папраўляць кашулю, падцягнуў парткі. – Сам бы ён прыйшоў, адзін з тых!..

Тамаш, перш чым паказацца каля печы, зачапіўся за корч, ледзь не прачарціў зямлю носам, але захаваў раўнавагу, кагосьці аблаяў – гаспадара ці сам корч, было не зразумець – і, сапучы, прагугнявіў:

– Чакаеце? Ну вось ён я! Навошта перадавалі, каб прыбыў? Слухаю, грамадзяне начальнікі.

Мікіта прызнаўся, што гэта ён наказаў, сам, адзін, таму па ўсіх пытаннях параіў звяртацца асабіста да яго. Хоць і каля Хвядосавай печы. Тут, маўляў, зручней размаўляць. І натапырыўся на Тамаша:

– Дык, прызнавайся?

Тамаш, хоць і не палахлівы, але плечы ў яго ўздрыгнулі:

– Гэтыя дошкі... сельсавет калі гарэў... вам іх у мяне не забраць. У полымя лез. Рызыкаваў. Жыццём. Зразумелі? Во! – ён паказаў Мікіту дулю. – Не выйдзе! Не атрымаецца!

Дзядзька Хвядос параіў Мікіту:

– Пакажы і ты яму. Пакажы.

– А як жа, пакажу, пакажу! Глядзі, Тамаш! Ці не пазнаеш? Мяшокта мой! – Мікіта выцягнуў з-пад папружкі мех, трасянуў ім у паветры. – Што скажаш, гарлапан?

Тамаш адмахнуўся, бы ад назойлівай мухі, ад таго меха:

– Дык і трасі ім перад сваім носам, калі твой!

– Не-е, я перад тваім патрасу.

Каля мяне ўжо моўчкі сеў Петрык, і мы навастрыліся глядзець далей, што будзе паміж мужчынамі. Ну-ну, давайце, працягвайце. Нам цікава. Дзядзька Хвядос падаў знак рукой, каб Мікіта дарэмна не псаваў нервы, параіў растлумачыць, што ўрэшце рэшт здарылася:

– Будзе, Мікіта, будзе. Не гарачыся. Раскажы, што і як. Спакойна. Тамаш, бачыцца мне, таксама нічога не разумее... Пра дошкі пачынае гаварыць... Так-так, дык што там у цябе? Якія прэтэнзіі?

Мікіту, мы з Петрыкам гэта добра ведалі, было цяжка спыніць, калі ён набіраў абароты. І не спыняецца, а мы што казалі! Сіпіць, бы раззлаваны гусак:

– Гэта хто нічога не разумее – Тамаш? Ён усё разумее! Толькі морду крывіць, губіну капыліць, бы конь, якога авадзень уджаліў, дурнем прыкідваецца. Дыверсант!

Пачуўшы «дыверсант», Тамаш ажно ўвабраў галаву ў плечы, а вочы ў яго, падалося, зрабіліся зусім маленькімі, як у пеўня. Але ён адразу апрытомнеў, шырока разявіў рот, ваяўніча заявіў:

– Ну, ты! А то як шандарахну!.. Прыпісваеш мне тут непатрэбшчыну. Падбірай словы. За гэта могуць далёка схаваць. А ў мяне дома спраў багата. Во так, анёл!

Мікіта стаяў на сваім:

– Што – «ты»! Я ж гэты мех у пуні ў цябе забраў. Маўра твая сказала, каб серп навастрыў. Шукаю яе... якраз міма праходзіў. У пуню заглянуў, а там – мех мой ляжыць, во гэты самы. Метку бачыш?

Тамаш дзеля прыліку ўзяў мех, пакруціў яго ў руках, пашкрабаў кручкаватым пальцам там, дзе метка, а потым шпурнуў яго Мікіту:

– І на маіх такая!

Мікіта плюнуў, сеў:

– Ну вось і пагавары з ім.

Пагаварыць з Тамашом узяўся дзядзька Хвядос. Ён падняў з зямлі мех, папытаў у Мікіты:

– Дык гэта той мех, у якім быў ячмень?

– Ну, той, што на насенне берaглі, – пацвердзіў Мікіта, і да Тамаша: – Навошта зерне ўкраў, злодзей?

– Прашу не абражаць. А зерне... Ты пра якое зерне? Не разумею.

– Калгаснае, – сказаў Мікіта. – Ты абрабаваў усіх нас. Гэта хоць разумееш?

– Не браў, – аднекваўся Тамаш.

– Яно само к табе ў пуню забегла-закацілася, – на выручку Мікіту паспяшаўся Хвядос.

– Я ж гэты мех закапаў у свіране, – гэта ўжо Мікіта шкумутае далей злодзея, а што Тамаш можа сцібрыць чужое, у гэтым мы з Петрыкам перакананы. – Думаў, немцы спёрлі, гады. А гэта ён гад, аказваецца. Пад носам жыве. Не з немцаў. З нашых, здаецца...

Тамаш не на жарт перапалохаўся, заглядваў у вочы то Мікіту, то Хвядосу, шукаў у іх падтрымкі і спагады:

– Вы што, людзі? Жывым – у магілу? За што? Не браў! Калгаснае зерне? Вы што – падурнелі, розуму пазбавіліся? Гэта ж турма! Астрог! Старшыня! Мікіта! Я ж у немцаў краў. У іх, супастатаў. З-пад носу цягнуў, таму што яны – ворагі, так ім і трэба, таму што іх біць і біць трэба. Калашмаціць. Я, можа, гэтым самым прыёмам падрываў іх моц. Мне, можа, за гэта яшчэ медаль прызначана... Як, га?

Тамаша спыніў Мікіта:

– Памаўчы. Якім жа чынам у цябе, калі паслухаць, мой мех апынуўся?

– Не ведаю. Поведам не ведаю. Можа, яны ў цябе, а я – у іх?

– Цьфу ты! – роспачна плюнуў Мікіта. – Уваротлівы, і сапраўды што той вужэлак.

– Чаго не ведаю, таго не ведаю. Стану на калені, – Тамаш цопнуўся на калені. – Наце. У доказ маёй невінаватасці. Што яшчэ трэба?

Хвядос! Мікіта! Пашкадуйце! Не браў я калгаснае зерне! Бог сведка! Госпадзі, пашкадуй!..– І Тамаш захлюпаў носам, а потым з вачэй яго пакаціліся па шчоках слёзы.

– Падніміся, не поўзай на каленях, – узяў Тамаша за каўнер дзядзька Хвядос, дапамог таму ўстаць.

А Мікіта ўсё трос рукамі:

– Нічога не разумею. Кепскі з мяне дапытвальшчык. Зусім.

Такое прызнанне спадабалася Тамашу, ён ажно выцягнуў шыю:

– Вось-вось. І я не разумею. Можа, хто ўмысна яго мне падсунуў, мужыкі? Каб насаліць? Чаго маўчыцё?

Хвядос сказаў няўпэўнена:

– Не ведаю. Але ўсе ўлікі супраць цябе.

А Мікіта, што было моцы, зноў патрос мехам:

– Вось яна – галоўная! Ну што, будзем заяўляць?

Тамаш зноў увабраў галаву ў плечы, стаяў і не варушыўся.

– Не хацелася б мне, Тамаш, каб усё вось так... – Хвядос склаў нейкую мудрагелістую штуковіну з усіх пяці сваіх тонкіх пальцаў. – Каб усё вось так кепска. А яно, бачыш, як атрымліваецца. Горш няма, калі свае сваім перашкаджаюць, не дапамагаюць ісці роўна, а, наадварот, яшчэ і ў яміну штурхаюць. І пры гэтым выбіраюць самую глыбокую. Каб гвазданууся дык гвазданууся! Эх!..

Фу-у, што было далей! Падумаць толькі! Тамаш зусім разгубіўся, хапаў засмяглым ротам паветра, а вочы ў яго пабялелі, бы ў варанай рыбіны, ён сударгава махаў некуды рукой, і толькі траха пазней яго нарэшце прарвала:

– Маўра! Каб табе затлуміла! У хаце сядзіш! Вырадка на свет выпусціла – і ша, і за дзверы, у ціш-спакой, га?! А ты ідзі, ідзі паслухай, што людзі гавораць! Ідзі паслухай, курыца аблезлая!..

Хвядос махнуў у мой з Петрыкам бок, каб мы гулялі падалей ад печы, дзецям няма чаго тут рабіць, дарослыя самі разбяруцца без саплівых, і мы зніклі з ягоных вачэй, а самі схаваліся паблізу – не прапускаць жа самае цікавае, не хапала яшчэ гэтага. Дурняў няма. Са схованкі нас не тое што дзядзька Хвядос, а сам Тамаш, калі захоча, не вывудзіць. А ўсё відаць і чуваць. Яшчэ, можа, тут і лепш: толькі не чмыхнуць бы носам, не выдаць сябе. А пакуль уладкоўваліся, чулі, як дзядзька Хвядос прызнаўся, што спярша не верыў, каб мех з зернем украў свой вясковец, баяўся, што маглі яны з Мікітам наламаць дроў. А тут, бачыце, у Тамаша не вытрымалі нервы, і ён пачаў лаяць Маўру... і дакараць яе за сына, значыць... Ага, вось дзе сабака закапаны, высвятляецца! Гэта яшчэ больш цікава. Так, так. Толькі б

нічога не ўпусціць. Я падміргнуў Петрыку, Петрык мне, і калі Тамаш, хістаючыся, бы п'яны, пакандыбаў да сваёй хаты, мы крадком, прыгнуўшыся, шмыгнулі таксама ад печы. Куды беглі, і самі не ведалі, але калі спыніліся, зразумелі, што нам трэба быць сёння ў Дзянісавым бары.

Абавязкова!

## 5. У САКРЭЦЕ

**Я**, калі адсопся, спытаў у Петрыка, ці ўсё ён зразумеў. Той выталапіў вочы:

– А што?

– Як – што!? У цябе што, вушэй няма?

Петрык памацаў свае вялікія, бы лапухі, вушы:

– Ёсць быццам.

– Хіба не здагадаўся, чаму Тамаш пачаў сварыцца ў бок свайго двара, Маўру ўзгадаў? Не зразумею цябе, Петрык: да твайго макацёра даходзіць толькі на другія суткі. Калі не на трэція.

– Так, мабыць, – пагадзіўся Петрык і шморгнуў носам.

– Ён жа сына свайго ўспомніў нядобрым словам. Так?

– Так. Чуў.

– А чаму б ён за яго жонку сваю лаяў, калі сын на фронце?

– Правільна: чаму б?

– Не здагадваешся?

– Пачынаю патрохі мікіціць. Значыць, сын Тамашоў, Міцька, не ў арміі…

– І я так думаю, Петрык. Ён недзе ў лесе… А зерне тое змалолі, а хлеб з'елі, канешне ж… Міцьку карміць жа трэба… А можа, і праўда, Тамаш пра зерне нічога не ведае? Можа, тут больш Маў-ра яго вінаватая, га? А Мікіта якраз не таму мехам з меткай і тыц-каў пад нос?

– Адна кодла, – сказаў па-даросламу разважліва Петрык і ту-зануў мяне за рукаў: ён паказаў вачыма на Тамаша, які, раз-пораз азіраючыся назад, порстка шыбаваў у напрамку да нас… Мы вымушаны былі прыбрацца са сцежкі… Куды ж ён так спяшаецца, шыбуе на злом галавы? Цікавей не прыдумаеш загадкі.

Мы прапусцілі Тамаша наперад, а потым крадком, пераскокваючы ад дрэва да дрэва, пачалі прабірацца за ім. Але нядоўга – неўзабаве стары, таксама з перасцярогай павёўшы галавой па баках, падаў голас:

– Ну, дзе ты тут? – І паклаў на зямлю торбу, у якой, канешне ж, нешта прынёс. – Вылазь. Колькі можна па норах хавацца?

Адкуль вылез Міцька, сын Тамаша, мы так і не прыкмецілі. Бы з-пад зямлі. А можа, з куста неўпрыкмет выпаўз, дзе яго лёжка? Але як бы там ні было, а Міцька стаяў перад бацькам і трымцеў усім целам, нават, падалося, ляскалі зубы:

– Здароў, бацька...

Тамаш не адразу адказаў, спярша змерыў сына з ног да галавы, а тады толькі працэдзіў:

– Ну, здароў.

Міцька насупіўся:

– Што гэта з табой? Чаму ты раней не прыходзіў? Матка бывае, ты – не. А тут днём прыбег?.. Я ж твой сын, твой!..

Бач ты: хаваецца, а яшчэ і незадаволены, яшчэ і бурчыць! Тамаш жа па слова ў кішэню ніколі не лезе, нават на высокіх сходах, а што яму тут адказаць сыну, тым больш такому, які хаваецца ад вайны і людзей, трымціць, бы ліст у вецер. Таму і адказаў, высока за-драўшы галаву:

– Са мной, дзякуй Богу, нічога. Ты спытай лепш, што з табой. У самога сябе спытай. Так, так! Што, маўчыш, язык пракаўтнуў? Герой!

– Спакойна ты можаш размаўляць? – не пераставаў ляскаць зубамі Міцька. – Як бацька з сынам?

– Бацька з сынам... Высока бярэш, бачу. Высока. А ці ёсць у мя-не сын?

Міцька здрыгануўся:

– Што з табой? Ты ж такім не быў!

Тамаш нічога не адказаў, толькі ўздыхнуў і роспачна махнуў рукой: ай, гавары не гавары!..

А Міцька працягваў:

– Вы з маткай адзіная ў мяне апора. У мяне ж больш нікога няма. Нікога! Разумееш? Пеўня раніцай чую... Пазнаю: наш! Дым з печы іншы раз даплывае – таксама, здагадваюся, наш дым... Эх, бацька, бацька! Я б кожнага пеўня, можа, які ў нашай Сасноўцы спявае, за роднага прыняў. Я, можа, расцалаваў бы яго...

Тамаш пачаў выкладваць з торбы прынесеныя скруткі, у якіх, здагадваліся мы, была ежа. Петрык, бачу, ажно сліну пракаўтнуў. Я варсануў яго ў бок: не заглядвайся на чужое, ці, як казала мая мама, на чужы каравай рот не разявай. Петрык толькі ўздыхнуў – ён, відаць, сёння яшчэ нічога не еў... Менш спаць трэба.

– Людзі думаюць, што загінуў ты, – добра быў чуваць нам голас Тамаша. – І я гавару: загінуў, галаву склаў недзе Міцька. Гавару так і сам пачынаю верыць, што няма цябе... Асабліва цяпер, калі ў нашых мясцінах ціха стала, калі немцаў прагналі...

Міцька похапкам запіхваў у рот ежу, глытаў так прагна, што і дурню было зразумела: не кожную ноч шастае ў лес з торбай Маўра. І хоць рот у яго быў забіты, папытаў у бацькі:

– А што ж далей? Як мне быць? Думай, бацька, думай.

– Сам натварыў, сам і думай! – пагрозліва параіў Тамаш.

– Што думаць тут? А можа зразумеюць, даруюць?

– Што жывёліну калгасную кінуў немаведама дзе і каму? Гэта зразумеюць? І даруюць, хочаш сказаць, гэта? Не-е, сыну, не. Людзі нацярпеліся, нагаладаліся і наплакаліся. Ніколі такога не зразумеюць. Ніколі. Што і замест фронту каля бабскай спадніцы прыгрэўся – і гэта, думаеш, зразумеюць? Быццам і шкада мне цябе, але як падумаю, што ты – дэзерцір... – Тамаш памаўчаў. – Цікавіцца пачалі табой, здагадваюся. З раёна нейкі чалавек прыязджаў...

Канешне ж, Козыраў, хто ж яшчэ! Таго чалавека і мы бачылі.

– ...людзей распытваў. А цяпер гэтая гісторыя з мехам...

Міцька разявіў рот:

– З якім мехам?

– Вам бы з маткай той мяшок на галаву нацягнуць, каб вы свету белага не бачылі. Двайм адразу. Цьфу! І ў рэчку, як сляпых кацянят. Ну, для якой трасцы ёй той мяшок спатрэбіўся? Сваіх мала? Узяла б ды закапала дзе. Ды і ты сядзеў бы ў лесе. Цьфу!

Бацька з сынам памаўчалі.

Петрык паглядзеў на мяне і ўсім тварам паказаў: вось хто такі Міцька, а! Шапнуў: «Дэзерцір. Чуў. Слова б гэта хоць не забыць». Я паабяцаў таксама яго запомніць.

Міцька зноў паглядзеў на бацьку, плаксіва папрасіў:

– Чаму, чаму ты не хочаш выслухаць мяне, зразумець? Я ж табе тады ноччу ў хаце хацеў расказаць усё, як было, а ты аблаяў мяне... не стаў і слухаць... Не пакідай мяне, тата...

Тамаш павысіў голас:

– Што – я? Жыццё цябе, Міця, са сваіх спісаў выкрасліла, здаецца мне. І мяне заадно. Што мне новая хата, калі я ў ёй картачку адзінага сына павесіць на сцяну не магу. Баюся. Хвядос Сталетаў вунь пад голым небам жыве. На печы. А я зайздрошчу яму.

– Няхай заўтра матка прыйдзе, – папрасіў Міцька. – Добра?

Але Тамаш нібыта і не чуў сына, працягваў гаварыць далей:

– А я ні адной ночы не спаў з таго часу, калі ты ў нашых мясцінах аб'явіўся.

Міцька раптам зграб бацьку рукамі, трасянуў яго, ад чаго нават падалося, што ў Тамаша адарвецца галава:

– Тата-а! Я пакуль жывы! Не харані-і! Не трэба! Я не ў магіле яшчэ! Не ў магіле я! Чуеш? – І, выказаўшыся, павольна расслабіў рукі.

Тамаш паправіў адзежу, адсопся, а тады сказаў:

– Чуць чую, а карысці з гэтага?

Міцька сеў на земляны ўзгорачак, прысыпаны леташнім рыжым лісцем, не адразу падняў вочы на бацьку:

– Як жа так? Выходзіць, мая віна ў тым, што жывым застаўся? Пайшоў бы з усімі на вайну – значыць, быў бы героем?

– Сумняваюся я. Сумняваюся... – пакруціў галавою, і, відаць, ён быў шчыры да канца, стары Тамаш, якога нам з Петрыкам чамусьці ўпершыню, колькі і ведаем яго, зрабілася шкада. Эх, Міцька! Так падвесці бацьку, землякоў, ды – урэшце рэшт, калі на тое пайшло! – і нас з Петрыкам. Што, думаеце, мы не змаглі б калгасных кароў разам з дарослымі загнаць за тую Волгу ці куды там яшчэ? Няма чаго рабіць. Хто-хто, а рагулі нас заўсёды слухаліся. А цяпер жа не ваяваць падаўся, а ў лесе сядзіць, пад носам у сваёй хаты, трымціць, як заяц пад кустом, калі на лісце капае дождж.

Ён яшчэ, бачыце вы яго, перапытвае ў бацькі, ажно галаву задраў, каб паглядзець таму ў вочы:

– Сумняваешся?

А то ж не! Хто табе пасля ўсяго, што нарабіў, паверыць? Бацька родны, маці? Хвядос, можа, ці Мікіта? І мы з Петрыкам – нізашто. Так і ведай, здраднік! Тут рваліся на вайну, зброі назбіралі, а ён!..

– Сумняваешся, значыць...

– Сумняваюся.

– А што ты ведаеш пра мяне? Лёгка караць таго чалавека, у якога з-пад ног зямлю выбіла...

Я чамусьці паглядзеў на свае ногі, потым на Петрыкавы, парэпаныя і мурзатыя, на зямлю, што была ўсеяна ўсё тым жа старым жоўтым лісцем, і моцна прыдавіў зямлю пятой: не, у нас зямлю не выбіла, яна тут, пад намі.

А Міцька працягваў, не ўстаючы з зямлі:

– Я, можа, нацярпеўся больш, чым на перадавой. Спіну паказаць? На, глядзі!.. – Міцька задраў пінжак, паказаў спіну бацьку, і што было там на той ягонай спіне, мы хоць крадком вока заўважыць не змаглі,

аднак Тамаша паказаная спіна ўразіла: ён прыжмурыў вочы, ссупіў бровы і моўчкі апусціў пінжак.

– Хто гэта цябе так? – спытаў Тамаш ціха і сумна.

– Калі са статкам здарылася тое... дык у ваенкамат я пайшоў – каб на фронт адправілі. А куды мне было падзецца? Несцера Цішчанку напавал... Самалёты наляцелі на нас... Гардзею Чарняўскаму адно паспеў крыкнуць: «Уцякаем!» А ён нешта там валтузіцца, лаецца... на каго і што... не зразумею... Калі на немцаў, то ўсё роўна ж не пачуюць... Гляджу, і яго няма... не відаць... Забіла, напэўна... не будзеш жа па траве поўзаць пад выбухамі...

Тамаш не пагадзіўся, і правільна зрабіў:

– Што ж ты так, га? Сваіх кінуў... А людзі ж поўзалі пад выбухамі... пад асколкамі... выцягвалі адзін аднаго з поля бою. Чаму ж ты так, Міцька-а?!

– І сам не ведаю, – пацепваў плячыма Міцька. – Спалохаўся – і ўсё... Што тут больш сказаць? Страх мяне працяў усяго... не гатовы я быў, каб... каб...

Тамашу не цярпелася пачуць – што, «каб»? Але Міцька так нічога і не змог яму адказаць уцямнага, а цяпер ужо і нам з Петрыкам, пакуль бацька не папытаў у яго, куды ж з ваенкамата накіравалі.

– На фронт, куды ж... Не паспелі ад'ехаць у цялятніках ад горада, як увесь эшалон наш разбамбілі. Разбегліся – хто куды... Адседзеўся ў лесе, перачакаў трохі. Чую галасы людзей. Падыйшоў, а гэта – паліцаі. І адкуль яны ўзяліся? За шкіркі мяне, і пацягнулі... Куды? На-вошта? Нічога не магу зразумець. Забіць маглі б і тут, у лесе, я ўжо неяк і гатовы быў да ўсяго гэтага... Прывялі ў гарнізон, форму выдалі...

– І ўзяў?

– Не пыталіся.

– Таму што ў цябе на мордзе напісана, Мітрый, хто ты. Вялікімі літарамі. З чалавека ростам.

– Спіну глядзеў? Ці зноў паказаць?

Тамаш адвярнуўся, безнадзейна махнуў рукой.

Ну і які з яго, і сапраўды, салдат атрымаўся б, з Дзмітрыя? Глядзець смешна. Пудзіла агароднае – і тое лепш выглядае, ды і вароны яго палохаюцца. А хто спалохаецца Дзмітрыя? Мы з Петрыкам? Ніколі! Хоць выйсці мы ў той дзень з Петрыкам са свайго сакрэту не асмеліліся, але на тое былі іншыя прычыны – не хацелася яшчэ больш насаліць Тамашу. Яму тады і так зашмат хапіла. Няхай думае Тамаш, што пра яго бяду ніхто ў вёсцы не ведае.

А Міцьку, каб не бацька, – ух і далі б! Кулакі ў нас так і свярбелі.

## 6. КАЛОДЗЕЖ

**П**ра Міцьку мы з Петрыкам дзядзьку Хвядосу і заікнуцца не паспелі, ён спярша спадылба паглядзеў на нас, а потым так гыркнуў, што я нават і не паверыў, што то быў не хто іншы, а дзядзька, з якім я сплю на печы пад адным шынялём, ем крупнік з адной міскі і лічу яго вельмі блізкім і нават чамусьці родным чалавекам. Гыркнуў і сказаў усяго адно слова:

– Цыц!

Але больш слоў, відаць, і не трэба было – мы і так усё зразумелі: варта накінуць на рот замок і пасопваць у дзве дзірачкі – дарослыя ўсё ўжо ведаюць. Яны разбяруцца. Пасля гэтага гырканная і так відаць, што тут да чаго. Нам жа дзядзька Хвядос загадаў:

– Да стала! А потым будзем калодзеж рабіць.

Здорава! Я даўно чакаў гэтага, бо дзядзька паабяцаў, што спусцяць у зруб мяне на вяроўчыне і я, як самы малы і вёрткі, буду падаваць у якой-небудзь пасудзіне з самога дна, дзе б'юць-струменяць крыніч-кі халоднай вады, зямлю.

Канешне, а хто яшчэ справіцца з гэтым? Дзед Грышка? Ой, не смяшыце мяне. Петрык таксама дапаможа, але ж гэта не яго калодзеж, а наш з дзядзькам Хвядосам, і мы яго будзем рабіць для сябе. А потым ужо складзем зруб хаты. Вось толькі абмалоцяць людзі жыта, якое пасеяў дзед Грышка з жанчынамі, зямлю ўзаруць... Доўга чакаць, калі за хату трэба будзе брацца. Там, не міргнеш, і белыя мухі паляцяць. Але дядзька Хвядос верыць, што будзем зімаваць мы не ў зямлянцы, хоць зямлянку мы і добрую зрабілі, а ў новым жытле. А калі верыць ён, то веру і я.

– Талакой, брат Колька, можна што хочаш зрабіць.

Паглядзім, што там за талака такая. А пакуль мы сёрбаем варыва ўсе ўтрох з адной міскі, а дзядзька Хвядос глядзіць на Петрыка і пытае:

– Як мама, Петрык?

– Добра...

– Не хварэе?

– Ужо не.

– Скажы, няхай дапамагае, калі можа, будаваць новае жыццё.

– Скажу.

– Цяпер нам кожны чалавек дарагі. Накажаш ці мне зайсці самому?

– Не трэба. Я сам.

У Петрыка мама – не цаца: ручнік той – хварэе яна ці не хварэе – увесь час вісіць на плячы. Ледзь што не так, адразу пускае яго ў ход. Петрык і не хаваецца: прывык. Некалькі разоў дасталося і мне. Падвярнуўся не ў самы зручны час. Атрымаў па спіне. Ай, дробязі – бы камар укусіў. А чаму было і не атрымаць, калі самі вінаватыя. Пачалі хваліцца, што мы ўжо ледзь не героі... Але якія мы героі, нам сказала Петрыкава мама: «Смаркачы!» Яна нейкае там яшчэ слова дадала, больш выразнае, але яго ўслых сорамна вымаўляць, таму мы хуценька і «забыліся». Хопіць і аднаго. А яшчэ неяк цягнула яна нас у лес, каб паказалі, дзе прыкапана зброя, але мы не паддаліся – вырваліся і ўцяклі. А самі доўга баяліся ісці ў вёску, сядзелі ў лесе і думалі-гадалі: хто ж нас выдаў? Усе быццам бы свае, сяб-руюць з намі, а тут такое!.. Не, правільна гыркнуў толькі што на нас дзядзька Хвядос. Хто-хто, а ён у людзях лепш разбіраецца, чым мы з Петрыкам. Ды што мы! Чым усе, можа, нашы вяскоўцы адразу, во! Старшынёй калгаса абы-каго не выберуць. Так-так, яго нядаўна абралі старшынёй. Прыязджаў на гэты раз на фурманцы райкомавец Козыраў, а не прыходзіў, як раней, і правёў сход. Нас на сход не пусцілі, але і так зразумела: Мікіта будзе цяпер толькі кавалём, а два партфелі яму цяжка несці. Гэта быццам ён і сам так сказаў.

Пакуль мы шкрабалі лыжкамі ў місцы, з'явіўся гарманіст Кастусь. Яшчэ гэтага не хапала. У мяне адразу прапаў апетыт. Зараз зноў пачне падлабуньвацца да Раісы, а горш за ўсё – адпіхне мяне і сам палезе ў калодзеж, і як заўсёды будзе прыгадваць, што ён у танку гарэў на Курскай дузе, а тут калодзеж нейкі... Пусціце, скажа. І хіба ж такога не пусціш? Як адолееш такога? Во, во, ледзь не за стол лезе. Але ў нас больш лыжкі няма. Усяго тры. І ўсе занятыя.

– Давай, давай, Колька! – Кастусь паклаў руку на маю шыю, прыгнуў галаву да міскі. – Як палопаеш, так і патопаеш. Гэта табе не махру цібрыць у пяколку Хвядосавым.

– Ён не курыць, – заступіўся Хвядос.

– Так, так, яшчэ рана: соплі падпаліць.

Петрык хмыкнуў. Кастусь зрабіўся сур'ёзным, паглядзеў на дзядзьку Хвядоса:

– Ну што, будзем пачынаць? А там і Мікіта падыйдзе. Ды і нас тут ажно чацвёра. Будзе калодзеж!

Глядзі ты, і нас з Петрыкам палічыў. Ад гэтага настрой крыху палепшыўся.

Калі сабраліся ўсе мужчыны, якія памеліся выкапаць на двары дзядзькі Хвядоса калодзеж, Кастусь, як заўсёды, выскачыў наперад – зноў жартаваў, баіў, сыпаў показкамі – паспявай толькі запамінаць:
– Працуй, Мікіта, будзеш есці дасыта!
Мікіта ўдакладняў, усміхаючыся куточкамі вуснаў:
– Піць, піць дасыта: калодзеж жа робім.
– А суп як без вады згатуеш? А кашу? А бульбец наш родны? Як, дзядзька? – не здаваўся Кастусь.
Але і Мікіта не зломак, за словам у кішэню не палезе, тут жа адказвае:
– Паясі ты таго супу ў Хвядоса – разяўляй рот шырэй! Жонку прывядзе ў хату, а там дзяцей пачне стругаць, як вось сёння зруб – толькі стружкі будуць ляцець. Бачыце, бачыце, як сякера ў ягонай руцэ спявае! Ён майстар! Так што не ўхопіш у Хвядоса.
Кастусь падбадзёрвае:
– Гэй, Хвядос, вышэй нос! Кожны палкаводзец будуе свой калодзец!
Дзядзька Хвядос усміхаецца: і прыдумаў жа – палкаводзец! Да радавога прыляпіў такі высокі чын. Хоць тут, на сваім двары, кім заўгодна можна стаць, ці не так? Гэта ж не сапраўдная армія. Балбачы, балбачы далей, Кастусёк! А яму што – была б прычына. А тут якраз і Раіса жэрдку цягне да будучай студні. Атрымлівай ад Кастуся, тым больш, што каго-каго, а цябе ён ніколі і нізашто не праміне:
– А-а, Раюха, жытнёвая краюха!
Дачакаліся і мы з Петрыкам, калі нас па чарзе асмеліліся мужчыны апускаць у калодзеж чэрпаць зямлю. Прыемна! На двары сонца паліць, а там цягне прахалодай, ажно спіну халадком кранае. Але ўсё гэта дробязі ў параўнанні з тым, што мы робім! І нічога, што ўвечар мы разглядвалі на сваіх далонях пухіры, на якія маці Петрыка заўважыла:
– Эх, работнічкі! Праўду кажуць: гультай за дзела – мазоль за цела.
Але мы не крыўдуем на яе, таму што цётка не можа схаваць радасці: працаўнікі растуць, а што да мазалёў, дык а як загартуеш рукі, не натрудзіўшы іх. І яна запрашае нас да стала:
– Ідзіце ешце, калодзежных спраў майстры! Ды хоць сёння ўжо не бегайце – адпачніце, натаміліся ж, бачу.
Ага, натаміліся! Ніколечкі. Яшчэ і заўтра будзем дапамагаць дарослым. Узяўся, як кажуць, за гуж, то не гавары, што нядуж.
Канешне, усю зямлю вычарпалі ў першы дзень, і на другі нам мала што засталося рабіць. Так, дробязі: прынясі-падай. То сякеру, то малаток, то кавалак дроту…

А пад вечар зноў толькі і было чуваць Кастуся – нібы не мы, а ён сядзеў у калодзежы і вось толькі што вылез адтуль, таму ніяк не мог нагаварыцца. Падаў Кастусь і галоўную каманду:

– Цэбар!

І трымаў працягнутую да Раісы руку, пакуль яна не падала яму тое, што прасіў. Кастусь хуценька прымацаваў цэбар, пад вясёлыя галасы людзей апусціў у студню... Хвіліны чакання паўзуць марудна, а Кастусь, да таго ж, яшчэ і не спяшаецца выцягваць цэбар з першай вадой з новага калодзежа. Балбоча, пацяшае ўсіх. Ваду, ваду падавай, танкіст. Нарэшце! Выцягвае і паведамляе, што гэта вада, нібы мы самі не бачым:

– Чыстая, людзі! Як сляза! Ну, хто першы?

– Колька хай першы, – падштурхнула мяне бліжэй да цэбара Раіса, я памкнуўся наперад і пацягнуў за рукаў кашулі за сабой Петрыка.

– Так, так, няхай дзеці першыя паспрабуюць Хвядосавай вады, – на самы ўрачысты момант сабраліся і жанчыны, і адна з іх, Варка, таксама падштурхнула мяне бліжэй да цэбара. – Тады тут вада заўсёды чыстая будзе... маладая і свежая...

Вада была смачная – салодкая, халодная, так і піў бы яе нагбом, не адрываючыся, але ж і Петрыка трэба падпусціць, ён ужо нават прыспешвае:

– Хутчэй, не адзін ты...

Калі я выцер вусны, Кастусь папытаў:

– Смачная?

– Вельмі! – адказаў я.

Кастусь жа, зрабіўшы пасля ўсіх некалькі глыткоў, зачэрпнуў жменяй прама з цэбара вады і расплёскаў яе ў паветры ўсімі колерамі вясёлкі, а потым, пашукаўшы вачыма Раісу, абліў яе. Тая ў даўгу не засталася – сарвала з галавы хустку, адшлёгала ёю танкіста.

– А вось табе! А вось!.. – і бачылі б вы, як свяціліся ў яе вочы, калі давала рэшты Кастусю.

– Мяне? Танкіста? – спярша быццам бы адбіваўся Кастусь, а потым набраўся смеласці і на вачах ва ўсіх прыгарнуў дзяўчыну да сябе, цмокнуў у шчаку.

Ну-у, нахабнік! Раіса вырвалася, запунсавелася і паглядзела на Кастуся так, быццам з'ела нешта кіслае:

– Людзі ж!..

Гэта яшчэ добра, што дзядзька Хвядос рабіў самакрутку і не глядзеў на гэтыя гульні.

А Кастусю таму хоць бы хны, яшчэ і – чуеце? – не можа цішэй размаўляць, на ўвесь двор:

– Ну і што! Вакол нас заўсёды былі і будуць людзі! І мы сярод іх! І мы!..

Не, з гэтым Кастусём нешта трэба рабіць. Ды і з Раісай, відаць, таксама.

Даабліваюцца.

## 7. КУЗНЯ, ДЗЕД ГРЫШКА І МЫ

**Д**аўно не было відаць дзеда Грышкі, мы ўжо і сумаваць пачалі па яму, таму дамовіліся схадзіць праведаць старога. Аднак не паспелі – заходзіць якраз у той дзень, накульгваючы, на кузню і адразу пытае ў мяне:

– Вахту, Кольча, цікава-інцярэсна, нясём?

Петрык глядзіць на мяне, я – на Петрыка: пакуль мы да яго, дык ён да нас першы. Не ўгонішся за гэтым дзедам. Хоць і хварэе быццам.

– Гэта ты, дзед Грышка? – вырвалася ў мяне.

– А як жа – мы! Собсценнай персонай! – стары пашукаў вачыма, на што б сесці, убачыў цурбан, асцярожна апусціўся на яго. – Дык я вам той раз, хлопцы, не дагаварыў...

Петрык прыгадаў:

– Так, так, помнім, было. Яшчэ і сказаў: за мной не стане.

– Таму спецыяльна і прыйшоў, – схлусіў, канешне ж, дзед. – Я не люблю слоў на вецер кідаць.

– Спецыяльна? – не паверыў я.

– А то як жа! Спецыяльна, спецыяльна. Ледзь адшукаў вас. Гукаў, гукаў, ажно ахрып. А вы вось – пры справе, бачу.

Хлус які! Ён гукаў. Таксама скажа. Каб гукаў, то пачулі б. Петрык так яму прама ў вочы і сказаў:

– Ой, дзед, ды хлусіш ты.

Грышка замахаў на нас рукамі:

– Грышка не такі! Не! Што вы! Дык на чым я тады спыніўся? А-а, як мы драпака задавалі. Унось ногі, пакуль відаць дарогі, адным словам! Не чакаць жа, пакуль немец ачомаецца, і як драпа-а-нулі!

Не зразумееш гэтага дзеда – з кім, адкуль драпаў? Ці, можа, гэта было яшчэ на той вайне? Але каб дзед зусім не заблытаўся, сядзім моўчкі, слухаем – пытанні, калі будуць, пакідаем на потым.

А дзед працягвае:

– Але ж трэба і сляды замятаць. Ляцім паміж дрэў, галовы задраўшы, уцякаем, значыцца, з Яфрэмам...

Ага, вось з кім – з Яфрэмам. Гэта ж такі ваяка, як і дзед. Калі не мудрэйшы.

– Каб хоць ствол які меўся на ўзбраенні, то можна было б развярнуцца, бабахнуць. Чую толькі, пагоня за плячыма. Адно зямля дрыжыць...

Петрык усё ж не вытрымаў, папытаў:

– І ўцяклі?

– Хто – мы? – здзівіўся дзед Грышка. – На адной назе. Ды і не ўцякалі мы, а вярталіся з баявога задання...

Во як! Дзед Грышка за свае подзвігі мала не возьме. Папытаў і я:

– Дык гэта... немец адстаў ці вы закружылі яго?

На твары старога было столькі гонару, што яму нічога не заставалася зрабіць, як адразу ж адказаць:

– Закружылі, брат! Закружылі! Ён, вядома, страляў у нас, але паспрабуй патрапіць, калі мы выкрунтасы рабілі мудрэй за шаракоў. Той хрыц яшчэ пад стол пехам хадзіў, калі я ў гэтым лесе кожнае дрэўца знаў. Як ён мяне возьме там? Якім метадам? Але ж адна куля, халера, зачапіла ўсё ж... За тое месца, на якім сяджу... Так што і мы, можна сказаць, паваявалі з Яфрэмам. Худа-беда, а гранату ў грузавік шпурнулі. Адну на дваіх. Шкада толькі, што ўсяго адзін хрыц і ехаў у тым грузавіку. Сапсавалі гранату.

– А калі ж гэта было? – цікава мне зрабілася, бо нешта пра гэта ў нашай Сасноўцы ніхто не заікаўся нават: каб здзейсніў такое геройства Грышка, не толькі б наша вёска ведала, а і ўсе, што паблізу. Хадзіў бы і плакаў: сапсавалі гранату... сапсавалі гранату... сапсавалі гранату... І кожнаму б расказваў – як сапсавалі, калі, дзе... А то ж – маўчок.

– Ды было гэта, братка, ці то трэцяга чысла, ці то пятага ў жніўні сорак першага года... – прыгадвае стары, наморшчвае лоб. – Але што было, тое было. Грэх браць на сваю душу не буду. А пра заданне сказаць нічога не магу – было сакрэтным. Кляўся не балаболіць. Так што, арлы, даруйце...

Але ж нам цікава, колькі стары ляжаў на печы, тое самае месца грэў-лячыў. Адказ і на гэтае пытанне ў Грышкі гатовы, далёка хадзіць за ім не трэба – на языку боўтаецца:

– Лячыў, браты-славяне. Што лячыў, тое лячыў. Хлусіць не буду сябрам па духу, – дзед устаў, як заўсёды, войкаючы і ахаючы, прайшоўся па кузні туды-сюды, цяжка пераступаючы нагамі. –

Бачыце? Фашыст праклятты, а! А цяпер во як надвор'е змяняецца, то і дае мне знаць кантузія. Хоць плач. Але мы не з такіх, не-е!..

– Так ужо і кантузія! – смяецца Петрык. – Таксама скажаце. Аб дрэва падрапаўся, можа, а форсу!..

– Ну, ну! – прыгразіў пальцам дзед Грышка. – За свае словы адказваю. Мне лішняй славы не трэба. Як і чужой. Ужо і касіць пара, а хіба ж замахнешся, скрыўлены калі? Факт, не.

У кузню зайшлі Хвядос і Мікіта. Калі яны ўбачылі тут Грышку, іх твары пазначыліся прыемнымі ўсмешкамі. А Хвядос нават сказаў, весела і бадзёра:

– Святлей стала ў тваёй кузні, Мікіта!

Мікіта падтрымаў яго хітрасць:

– Ды бачу, бачу!

Дзед Грышка, лыпаючы вачыма, зняў шапку з галавы, папляваў на далонь, прыгладзіў кудзеркі на лысіне і папытаў, ніякавеючы:

– З чаго б... ага, значыць... святлей? Не павінна б... прыкрыта... прыхінута...

Хвядос патлумачыў:

– Ад аднаго твайго з'яўлення, Грышка.

– Дзякуй за ўвагу да маёй персоны. Прымаю.

– Выкарабкаўся? – Мікіта пачаў тузаць горан за матузок, і ён ашчэрыўся жарам.

– Х-хе! «Выкарабкаўся». Пытанне, наколькі я разумею, тычыцца мяне?

– Цябе, цябе. Хварэў жа, кажуць.

– А то я, Грышка, не ў лапцях швэндаю!

Хвядос раптам больш уважліва прыгледзеўся да старога, затрымаў на ім свой позірк, а тады паглядзеў на Мікіту:

– Пачакай-пачакай! Ты што гэта, дзед Грышка? Каму служыш?

Грышка зморшчыўся:

– Пакуль яловыя нашы справы. Таму служу толькі печы. Абвастрэнне. Старыя баявыя раны даюць пра сябе знаюць. Ныюць, калі ім нешта не па нутры. Так, так. А выпрамлюся, пачну калгасу служыць. Як і раней. Як і заўсёды.

– Грышка зубы замаўляць вялікі майстар, – усміхнуўся Мікіта. – Бачыш, як хвастом віляе. Быццам не здагадваецца, пра што ты яму намёк даў. Хітрун стары. Але нічога, нічога, дзед: без такіх, як ты, мы б зачахлі, азызлі... Мацуйся, дзед Грышка! А шынель здымі. Хвядос тут праўду табе гаворыць. А то што ж атрымліваецца? У нашай шапцы, прытым камандзірскай...

– Камандзірскай, камандзірскай, – пацвердзіў Грышка і палапаў дрыготкімі пальцамі галаву.– Твая праўда. Правераная шапка: узімку добра грэе, а ўлетку спёку не падпускае да лысіны.

Мы толькі цяпер ўбачылі, што ў дзеда новая шапка.

Мікіта ж працягваў, шморгаючы матузком і не зводзячы вачэй са старога:

– У сялянскім абутку і ў фашысцкім шынялі. Незразумела!

Грышка не на жарт натапырыўся:

– А мацерыя хіба ж вінаватая, што яна спярша не на тыя плечы была пашытая? Га? У яе ж языка не маецца, як яна за сябе заступіцца? – стары паціснуў плячыма, павадзіў галавой вакол сябе, шукаючы, мусіць жа, падтрымкі, спагады. – Ды і грэе. Хаця і лета, а касцям зызка.

– Знімі ўсё ж, – сур'ёзна сказаў на гэты раз Хвядос, – а то гляджу я на цябе, і зноў бытта немец перад вачамі стаіць. Як бяльмо... Старое прыгадваецца... Чуеш, Грышка?

– Прымусяць, – прызнаў, здаецца, сваё паражэнне дзед Грышка. – Канфіскуюць. Вам бы толькі адымаць. Добра, угаварылі. Зніму. Але ж і табе заўважу, Хвядос: тое старое, брат, не скора забудзецца. Вельмі карані ў яго моцныя. К-хе, значыць!..

Мікіта тым часам падрыхтаваўся нешта рабіць – на ўсю моц пыхкаў жарам горан, быў каваль ужо ў сваім дзіравым чорным фартушку, і неўзабаве кавалак жалеза, абхоплены вялікімі абцугамі-клешнямі, апынуўся ў распаленых да белага калення вуглях. І яшчэ паддаў дыхту – затузаў за ўсё той жа матузок.

– Будзем свой інвентар рабіць, – Мікіта закурыў, засунуў кавалак жалеза глыбей у вуголле. – Без яго нам нельга. Плугі, бароны трэба ў калгасе.

Дзед Грышка пахваліў Мікіту:

– За табой не зачахне.

А пакуль Мікіта пляскаў молатам па напаленаму кавалку жалеза, у кузню прасунулася з бараной Варка. Паставіла барану адразу ж за парогам, паказала на яе рукой:

– Вось і ў мяне яшчэ знайшлася. Саломай прысыпала, ледзь заўважыла. Нічога яшчэ барана. Двух пальцаў толькі не хапае. Мікіта, ты чуеш?

– Пакуль у мяне ўсе пальцы, то і ў барану ўстаўлю, – крадком глянуў Мікіта спярша на барану, потым на жанчыну. – Няхай пачакае. Плугі на першым плане. Араць хутка трэба будзе.

Хвядос падзякаваў Варцы за барану.

– Шкада хіба? – сумелася жанчына і адразу ж паглядзела на дзеда Грышку. – Што гэта на цябе за напасць такая, сусед? То пчолыналяцелі – вочы былі, як у кітайца, то пад лёд ледзь не праваліўся...

– Гэта я лёгкай рыбы захацеў, – прызнаўся стары.

– А цяпер вось немец падстрэліў у адно месца... – Варка ўсміхнулася.

– Не цяпер, а даўно, – паправіў Варку дзед Грышка. – Гэта раней я проста маскіраваўся. Ды махнуў рукой... Відаць, кантузія. На ўсё жыццё метка. Як думаеце, мужыкі?

Хвядос махнуў рукой:

– Усё будзе добра, дзед. Зажыве.

– Колькі ж можна!..

А Варка старалася паглядзець на тое месца, куды, калі верыць старому, пацэліў немец, але дзед круціцца і так і гэтак, быццам ім кіруюць Варчыны вочы. Варцы такое не спадабалася, яна тузанула яго за рукаў шыняля:

– Ды стой жа ты!

– Стаю! – Грышка выпрастаўся, знерухомеў. – Як бачыш. А ўся аказія таму праісходзіць, што я ўсё жыццё смерць на выпрабаванне бяру: хто каго? Пакуль – я яе! Табе ўсё зразумела, маладзіца? – І крадком, бы між іншым, пагладзіў аднымі пальцамі яе па грудзях.

Жанчына разгубілася спярша, а потым строга папытала:

– Ты што гэта, дзед?

Той і вокам не міргнуў, адказаў:

– Пыл...

– Скажу тваёй Антосі, стары гуляка, то яна з цябе ўвесь пыл выб’е, – папужала Варка.

Падзейнічала, бачце вы, бо адразу Грышка замахаў рукамі некуды ў бок – толькі не гэта! Толькі не!.. Ёй – маўчок!

– Ды за словам у кішэню ты не палезеш, – парадавалася, што спалохаўся жонкі дзед Грышка, і ўсміхнулася Варка.

А стары паляпаў па шынялі, лыпнуў вачмі:

– Як палезеш? Куды? Цікава-інцярэсна, – вывернуў кішэні, прадэманстраваў іх не толькі Варцы – усім. – Захочаш, а не возьмеш, таму што нямецкія словы ў маіх кішэнях. Га?

– Ну і фантазёр жа ты! – махнула рукой Варка і паглядзела на дзверы.

– Знімі, Грышка, – зачапіў шынель зноў дзядзька Хвядос.

– Дык паабяцаў жа! Паабяцаў! – зняў той нарэшце шынель і шпурнуў яе ў кут. – От далася ж вам мая трафея!

Ужо пакідаючы кузню, Варка сказала:

– Добра з вамі, ды некалі. Пайду я: касу направіць трэба. Дык што, Хвядос, заўтра на пакос?

– На пакос, на пакос, Варка, – кіўнуў Хвядос, перахапіў з рук Мікіты молат і загэкаў ім па кавалку жалеза, з якога нешта пачынала атрымлівацца падобнае на ручку плуга, а да Мікіты сказаў, хітруючы: – Чуеш, і доўга ты яшчэ бабылём хадзіць будзеш? Можа, вунь Варка па табе сохне, га?

– А сам далёка пайшоў? – не праслабіў і Мікіта. – Ды Варка і заходзіць да мяне не з таго боку. На правае вока я не бачу… – І ён загадаў Хвядосу: – Весялей ляпай, старшыня!

Дзед жа Грышка ўбаку ад гэтай сцэнкі не застаўся:

– А што, Хвядос, з'еў? Х-ха-ха-ха-ха-а-а-а!

– Атрымліваецца, што так. З'еў.

А тады Грышка сказаў больш сур'ёзна і разважліва:

– Ты ўжо даруй, старшыня, што да кузні прыліп. Усё хрыц той нягоднік напракудзіў. Ён, халера! І трэба ж было яму па тым месцы, на якім сядзець прадназначаецца, шандарахнуць! І часу прайшло, здавалася б, багата, а муліць…

Калі заціх смех, Мікіта заўважыў:

– Добра яшчэ, што па тым… Там усё ж мяса паболі.

Стары жарт не зразумеў:

– А цябе куды? У тое месца, дзе памені?

І тут пачуўся голас бабкі Антосі:

– Грышка-а! Паразіт стары-ы! Грышка-а-а!

Грышка захваляваўся, і такое было ўражанне, што ён не ведаў, куды схавацца ад сваёй старой, і ўрэшце рэшт гопнуўся на бервяно каля мяне:

– Пасунься, Колька! – І, вытрымаўшы паўзу, выхапіў у мяне малаток, падняў з зямлі нейкую трэску і пачаў ляпаць па ёй. – З магілы выкавырне. «Грышка-а!» На хвілінку нельга адвярнуцца. А як было, што на вайну хадзіў? І нічога! Мужыкі, што гэта яна разгрышкалася, га?

– Нешта спатрэбіўся ты ёй, – адказаў Хвядос. – Без патрэбы не клікала б?

А неўзабаве і бабка Антося ўляцела ў кузню, заківала на свайго Грышку:

– Я яго і тут, я яго і там, а ён во дзе! Бяздомнік стары! Зусім ад хаты адбіўся. Ну скажыце, людзі! Адны лапухі на печы, а яго і след не пахне. Няма! Табе ж ляжаць трэба. Што ты тут робіш?

Дзед Грышка надзьмууўся, прасіпеў, бы раздражнёны гусак:
– Хопіць пры людзях-та! Цыц! Ты чаго, мякіны аб'елася?
– Ён яшчэ і здзекуецца! Ён яшчэ і яршыцца! – бабка Антося таўкнула старога кулаком у спіну.
– Мужыкі! – дзед Грышка ўзняўся з бервяна, адмахнуўся. – А вы, а вы куды глядзіце? Хвядос! Мікіта! Ой! Смала! Яна ж горш за самага злоснага немца! Ой! Ды ты што па спіне лупцуеш, га, Антося? Грышка пры выкананні... пры справе твой Грышка... Спыніць!..
– Няхай, Грышка, баба твае косці старыя хоць трохі разамне, – параіў Мікіта.
Баба Антося раптам абняла дзеда Грышку, пацалавала ў лысіну, потым на тое месца зноў насунула аблавушку, а сама, гледзячы некуды далёка-далёка – міма, здавалася, нас з Петрыкам, міма Хвядоса і Мікіты, міма свайго дзеда, – прашаптала:
– Пянёк ты мой старэнькі... Пісьмо ж прыйшло... Пісьмо...
Пачуўшы пра пісьмо, дзед Грышка прыняў строгі выгляд, распраміў плечы:
– Дзе?.. Як?.. Ад Пятра? Ці ад каго? Чаму маўчыш?
– Ад сыночка... ад яго... з фронту, – бабка Антося прытуліла пісьмо да грудзей, потым пацалавала яго, зноў прытуліла, а вочы былі поўныя слёз.
– Ад сына! – гучна і горда сказаў дзед Грышка і ўзяў пісьмо ў старой, падаў мне: – Зачытай-ка прылюдна. Мікіта, не грукай молатам. Прывал, як той казаў. Ну-ну, Колька. – І да Антосі: – Зараз, зараз. А рукам паслаблення больш не давай. Чытай, Колька. Чытай. Цікава-інцярэсна. Ша!
Я бачыў, як усе абступілі мяне, і такое было ўражанне, што гэтае кола з людзей сціснецца і раздавіць мяне разам з пісьмом. І калі ўсе суцішыліся, толькі было чуваць дыханне людзей, я пачаў чытаць: «Прывітанне з фронту ад Пятра... ад Пятра... Дарагія мама і тата! Пішу вам, а сам успамінаю вёску, землякоў. Як вы там?»
Дзед Грышка хлюпнуў носам, крадком змахнуў слязу са шчакі:
– Характарны ён чалавек, Пятро. «Як вы там?» Не кожны папытае, а ён даўмеўся. Увесь у мяне.
Бабка Антося варсанула старому ў бок:
– Стой ужо!
– Чытай, Колька, – загадаў дзед Грышка.
«Цяпер, калі ўсю нашу вобласць ачысцілі ад фашысцкай заразы, відаць, добра ў вас. Ціха».
– Ціха, – кіўнуў дзядзька Хвядос.

– Адзін толькі Мікіта молатам гэкае, – сказаў дзед Грышка. – Днём і ноччу. Далей, далей, Колька...

«А мы... а мы ўсё яшчэ ваюем. Да Берліна далёка, трэба берагчыся...»

– А як жа! Беражыся, беражыся, Пятро. Але і за спіны іншых не хавайся. Не маеш права, сынок! – зноў хлюпнуў носам дзед Грышка.

– Ён не такі, – пахваліў Пятра Мікіта.

– Не такі... – пагадзіўся і дзядзька Хвядос.

А я глядзеў на землякоў, і перад вачыма стаяў Міцька. Абросшы, брудны, страшны, трымцяць, бы лісце на ветры, рукі... Так ніводнага пісьма ад Міцькі дома і не дачакаліся. А ў бабкі Антосі і дзеда Грышкі сёння свята, і каб не сапсаваць яго, я стараўся чытаць выразна, гучна: «Шмат пісаць не буду, таму што хутка канец усёй гэтай праклятай вайне, вярнуся з перамогай, тады пра ўсё і пагаворым».

– Пагаворым, пагаворым, сын... – паківаў галавой, думаючы пра сваё, дзед Грышка.

«За мяне не хвалюйцеся. Ваюю я добра, два ордэны заслужыў, акрамя таго... акрамя таго... ёсць медалі. Іх паболей».

Бабка Антося толькі цяпер успомніла пра падзяку ад самога Сталіна, пахвалілася. Дзед Грышка торкнуў угору пальцам:

– Так, так, мужыкі. Яна не хлусіць.

Бабка Антося махнула рукой, злуючы на свайго дзеда, і загадала чытаць мне далей. На што Грышка сказаў, бы адсек:

– Факт ёсць факт! Прашу засведчыць! Для гісторыі, грамадзяне!

«Я вам, мама і тата, калі пісаў раней, не прызнаўся, а цяпер скажу: вярнуся з вайны не адзін... Сустрэўся я з добрай дзяўчынай, Зінай зваць, палюбілі мы адзін аднаго, і хутка ў нас будзе дзіця...» Далей я чытаць чамусьці не стаў, а паглядзеў на бабку Антосю, на дзеда Грышку, на ўсіх астатніх... На твары дзеда ўбачыў шырокую ўсмешку – яна, усмешка тая, большала і большала, і недзе за вушамі знікла. Грышка прытупнуў лапцем:

– Ці не Пятро! Ці не ў мяне, га? Людзі! Усё, усё паспявае рабіць на вайне! Хвядос! Мікіта! Во ў каго павучыцца трэба! Перадавы – на перадавой! Га? Ну і Пятро! І хрыца б'е, і на любоўным фронце ў перадавіках – круглы выдатнік!

Усе глядзелі на старога, і твары людзей таксама свяціліся шчасцем.

– Малайчына! – сказаў коратка Хвядос.

– Толькі б вярнуўся... – ціха сказала бабка Антося.

Дзед Грышка з ёй не пагадзіўся, ён быў больш катэгарычным:

– Э-э-э-э! Ён да Берліна дойдзе і вернецца! Яму цяпер абавязкова трэба дайсці... І да Берліна, і назад, да гнязда свайго, да хаткі... Вунь яна, хатка... – стары паказаў рукой у той бок, дзе было ягонае жытло.

І ўсе сказалі, што дойдзе.

«Да хуткай сустрэчы. Цалую. Абдымаю. Ваш сын – Пятро». Я склаў пісьмо і падаў бабцы Антосі, яна прыціснула яго да сябе:

– Адзін ён у нас, Пецька... Адзін... Зберажы яго, Божа, зберажы... Якаў у грамадзянскую загінуў... Зусім хлопчыкам быў... Куды, пытаю, ты, Яша, сабраўся? За Савецкую ўладу ваяваць – адказвае. Пайшоў – і не вярнуўся... Міцьку кулакі з абрэза застрэлілі... Вярніся, Пецька, вярніся...

Бабка Антося плакала, дзед Грышка суцяшаў яе:

– Будзе табе, будзе. Супакойся. Пятро вернецца. За ім там цяпер і нагляд ёсць – Зінка. – Стары паляпаў молатам па накавальні. – Антося-я! Хопіць, сказаў!

Яна нічога не адказала свайму дзеду, а моўчкі павярнулася і пайшла з кузні, трымаючы пісьмо на грудзях. Мікіта ўздыхнуў і папытаў у Грышкі, дзе старое вядро, якое ён прасіў раней некалі залудзіць.

– Давай, давай... сёння дзень такі... раней рукі да вядра не даходзілі.

– Ну, добра, а я ў полі буду, – сказаў Хвядос і таксама выйшаў з кузні.

– Пастаў на віднае месца вядро. Сёння адрамантую. Сёння свята ў цябе...

Але дзед Грышка не спяшаўся ставіць вядро на тое віднае месца, а доўга разглядваў яго, а тады зачапіўся вокам за тую маленькую дзірачку, што была ў дне і праз якую сачылася вада. Глядзеў у тую дзірачку і казаў:

– Маленькая, а свет бачыцца. Калі блізка да вачэй паднесці. Ейбогу, усё бачу! Вунь Лізавета па вуліцы з касой на плячы шыбуе. Як маладка. Іш! Іш! Круць-верць! Туды-сюды! – Ён таксама крутнуў адным месцам, але адразу ж зморшчыўся ад болю. – Ой! Ой! Забыўся!.. Цьфу! Куды гэта яна? Да Варкі. Стаяць, размаўляюць. Тамаш? Тамаш. Ён. А куды ж яго нячыстая панесла? Куды ж гэта ён? Галаву звесіў, ад зямлі не адрывае, усё роўна як дарогі не ведае. Баіцца, павінна быць, каб у ямку нагой не трапіць... Эх-ха! Калі б можна было Пятру майму вось у такую хоць дзірачку паглядзець... Няхай бы ён убачыў, як у нас тут усё цвіце... як у нас тут хараша... як мірна тут...

Мы дапамаглі дзеду Грышку дакандыбаць да сваёй хаты. На развітанне стары сказаў:

– Дзень сёння добры выдаўся. Сам з печы злез. Пісьмо прыбыло. І вядро ёсцека...

Мы пагадзіліся.

## 8. ГЛУПСТВЫ

**Ч**ас ішоў, а ў нас навін, лічыце, аніякіх. Пра Міцьку – бы вады ў рот набралі. Хвядос з Мікітам робяць выгляд, што нічога не адбылося, маўляў, не чулі і не бачылі. Хітруны старыя. Любяць паказаць сябе камандзірамі – каб усе толькі перад імі і скакалі. Мы самі з Петрыкам маглі б скруціць дэзерціра і даставіць, куды трэба. А ку-ды? У раён, канешне ж. Да Козырава. Ці, можа, яшчэ да каго, хто вышэй сядзіць, чым ён. Знайшлі б адрас. Але дзядзька Хвядос не дае пра Міцьку нават заікнуцца. І што, цікава, яны надумаліся з ім рабіць? Можа, спадцішка ад нас, хлапчукоў, хочуць яго ўзяць? А мы ж – што, павінны ў шапку спаць?

І я прапанаваў Петрыку самім арыштаваць сына Тамаша. Толькі Петрык, як заўсёды, памуляў губамі, бы конь, якому жвачка надакучыла, і махнуў рукой, а сам нават на мяне не глядзеў: ай, навошта? Каму трэба – разбяруцца... Вось такая ў яго ахвота разабрацца са здраднікам. А я збіраўся яшчэ з ім разам ваяваць. Звязаўся б. Добра, што далей размоў справы не пайшлі. Капут ужо фрыцам хутка. Але ж адзін – таксама амаль фрыц – жыве пад самым носам у нас, а мы робім выгляд, што нічога не здарылася.

Рашылі зноў нагадаць Хвядосу пра Міцьку. Мо забыўся? І Мікіта таксама харош – толькі б ляпаў у кузні молатам. Хацелі прама сёння дзядзьку Хвядосу напомніць, а тут цётка Матруна ўлезла са сваімі грыбамі:

– Боўтаецеся па вуліцы, як бяздомныя. Схадзілі б у грыбы. Самі на сцежкі выбягаюць. Занятку для вас няма.

Трэба і ў грыбы збегаць, абяцаем цётцы Матруне. А самім пакуль няма калі: вунь і з Кастусём нешта трэба рабіць, зусім распаразаў-ся – адчувае сябе ў нашай Сасноўцы, бы ў сябе дома: высока нос трымае, калі ходзіць, і толькі пыл пырскае з-пад чобатаў. Падумаеш, цаца! Не можа быць, каб мы з Петрыкам не здагадаліся, як цябе выкурыць ад нас. Нашто тады макацёры на плячах? Для форсу? Ага, так і прызнаемся, адразу раззвонім, што і як мы будзем рабіць з тым

Кастусём. Прыдумаем. А то ж – і праўда! – на гулянках толькі яго чуваць гармонік і голас. І Раісу ад сябе ні на крок не адпускае...

Паўз нас прабегла Кацярына, затрымалася толькі, каб сказаць:

– Сядзіцё? Сядзіце, сядзіце, людзечкі. А я бягу. Няма мне калі з вамі бавіцца. Міколка мой з вайны вяртаецца... На шляху сядзіць, пераабуваецца... Нагу нацёр... Зараз пабягу, чамадан дапамагу яму несці... Вельмі цяжкі чамадан у яго... І чаго толькі ў ім няма! Падарункачкі дзеткам з вайны нясе. Сяргейку пілотачку і гімнасцёрачку пад ягоны акурат расточак. Галінцы сукенку ў гарошынкі вось такенечкія... – яна зрабіла з пальцаў кружочак. – А меншанькай, Волечцы, – чаравікі... У іх яна будзе на выгане гусянятак пасвіць... І ўсім-усім цукерак... І ў паперках што, і падушачак... Сядзіць Міколка, стаміўся... Ён заступіцца, ён не дасць дзетак у крыўду... А я вось... яблычак яму нясу...

Кацярына дастала з кашаля галінкі, паднесла іх да твару спярша мне, а потым Петрыку.

– Смачныя яблычкі, – сказала яна і пайшла.

Пара было і нам у дарогу. Каб ніхто нічога не пытаўся, куды і навошта, узялі кошыкі, быццам па грыбы ў лес. Для прыліку. Хоць і грыбоў трэба насабіраць. Але ж тата мне гаварыў, і я добра помніў яго словы: «За двума зайцамі, Колька, ніколі не ганіся: ніводнага не зловіш». Толькі, праўда, не такія тут ужо і зайцы, калі разабрацца. Патлумачу. У Канаве, гэта вёска побач з нашай, жыве стары Астап, а ў яго, кажуць, ёсць гармонік. Нават быццам на гарышчы ляжыць. Ці ў пуні. Псуецца толькі. Сам ён даўно ўжо не грае – стары, пальцы не слухаюцца, а нам гармонік быў бы самы раз. Толькі як яго выпрасіць? Упрэцца, як слон, і не ўступіць: і сам не гам, і іншым не дам. А даць яму нешта за той гармонік – не дасі: акрамя парток у нас нічога няма.

І вось мы ідзём да Астапа, спадзяёмся на яго дабрыню і на цуд.

– Навучымся на гармоніку граць, тады нечага будзе рабіць у нас Кастусю! – катэгарычна заяўляе Петрык.

Я падтрымліваю яго:

– А то зусім ужо расперазаўся!

Не ведаю, як Петрык, а я ўжо бачыў сябе з гармонікам на каленях на Грышкавым бервяне, дзе ўлетку збіраецца моладзь на танцы, а ўзімку на лаве каля вядра з вадой у хаце, і ўяўляў, як пад мелодыю, што граю я на Астапавым гармоніку, кружаць хлопцы і дзяўчаты, глядзяць на мяне, падміргваюць: так і працягвай, Колька, малайчына! Мне хацелася спачатку вальс навучыцца, а там ужо як атрымаецца. З адным вальсам таксама можна пражыць. Тым больш што Петрык

хоча пачаць з «Полькі». Яго справа. Але вальс ёсць вальс – асабліва той, пра дунайскія хвалі, дужа заліхвацкі, прыгожы. Нават Кастусь калі яго грае, мне здаецца, што недзе там на вайне кружыць і мой тата, вальсуе і папраўляе адной рукой новенькую гімнасцёрку, а боты ў яго нацёртыя ваксай – шык-бляск.

Хата дзеда Астапа адразу ж за бярэзнікам, першая, і перад самымі веснічкамі мы спыніліся. Пераглянуліся. Што рабіць? Паклікаць старога ці адразу заходзіць? Усё ж Петрык паклікаў, а ў адказ – маўчанне. Зайшлі ў хату. Не вытурыць, калі і злосны будзе: мы ж свае, можна сказаць, суседзі. Але і ў хаце старога не было. Ведалі, што жыве ён адзін, а ўсе дзверы насцеж... Рашылі зноў паклікаць. Ціха. Не можа быць, каб дзед Астап куды далёка паклыпаў, мы яго ведалі – стары ён зусім, слабенькі, далёка ад жытла, канешне ж, не адважыцца тэпаць.

Ну і сапраўды, дзе ж ён, гаспадар гармоніка? Яшчэ б, мусіць, доўга ламалі мы галаў, каб з-за паркана не паказалася незнаёмая нам цётка, яна прасунула галаву ў дзірку і сказала:

– Ды ў грыбы, у грыбы пайшоў Астап. Цяпер толькі лайдак ды хворы сядзіць дома. Як вось я.

Каменьчык і ў наш агарод, атрымліваецца. Толькі не зразумелі, што з цёткай – лайдак яна ці хворая?

А праўда ж, грыбы! Калі што і можам прапанаваць старому за гармонік, дык толькі іх. Гэта – ідэя! Заадно і Астапа пашукаем.Пакрочылі. А што там крочыць – у бярэзніку ж хата Астапава, дык адразу і пачалі шукаць. Абабкі трапляліся на кожным кроку, зрэдчас крамяныя, строгія і важныя баравікі. Іншыя грыбы мы з Петрыкам не прызнавалі. Падабаліся нам яшчэ падасінавікі, але тут, на гары, яны не раслі.

Неўзабаве грыбоў было з каптурком – што ў мяне, што ў Петрыка. Нават пашкадавалі, што малыя кашы ўзялі. А дзеда так і не знайшлі. Знайшоў ён нас. Селі мы, адпачываем, а стары тут як тут – з-за куста вылузваецца, глядзіць на нас, вачыма міргае:

– А я, прызнацца, думаў, што адзін грыбы збіраю. Маё здароўечка. Памыліўся. Ну, і што там у вас, малеча, у кашах?

Астап зазірнуў у нашы кашы, пахваліў:

– Малайцом. Адкуль жа будзеце, гвардзейцы?

– З Сасноўкі, – адказаў Петрык.

– І чые ж? – Астап таксама сеў побач з намі.

Трэба будзе расказаць, чые мы, тады хутчэй гармонь аддасць, і хоць нашыя бацькі не вялікія начальнікі, але дурной славы ў навакол-

лі не маюць, і гэта, рашыў я, павінна падзейнічаць на дзеда. Пра ўсе беды-напасці таксама не забыцца б. У мяне мамы няма, у Петрыка таты... Яшчэ невядома, ці вернецца і мой тата з вайны... Няма ж вестак. І мы ўсімі гэтымі фактамі прыціснулі, здавалася, Астапа да сцяны: гармонь нам, дзед! Стары ж, слухаючы нас, хехекаў, хітаў галавою, іншы раз твар у яго лагаднеў, а больш быў суровы і задумлівы:

– Э-ге... Так-так... Ай-яй-яй!.. Няўжо?.. Хіба?.. Адкуль, здавалася б?.. І столькі на такія кволыя плечы?.. Дзе справядлівасць?.. Хто скажа?.. Э-ге!..

А паднімаючыся з зямлі, сказаў:

– Трымайцеся, хлопцы.

Петрык падаў знак, каб я заводзіў гамонку пра гармонік. Пара. А то позна будзе. З дзедам, канешне ж, не з дзядзькам Хвядосам пра Дзмітрыя размаўляць, тут неяк прасцей, і я пачаў здалёк:

– Трымаліся б мы яшчэ, дзед, лепш і больш стойка...

– Ага, – падтакнуў і Петрык.

– ... каб вы нам дапамаглі ў тым.

– А ў чым, цікава? – Астап зноў сеў на ўзгорачак. – Слухаю, землячкі.

– Гармонікам! – вырвалася ў мяне, і я не спалохаўся, што так усё знянацку атрымалася, а абрадаваўся: як кажа дзед Грышка, быка адразу трэба браць за рогі. Быццам і я ўзяў.

Пачуўшы пра гармонік, Астап насцярожыўся:

– А навошта ён вам?

– Граць будзем! – гукнуў Петрык.

– А ці ўмееце? – адразу ж пацікавіўся Астап, і я павесялеў: размова, здаецца, ідзе так, як і трэба...

Тут якраз такая сітуацыя, калі варта гаварыць праўду: скажаш, што ўмеем, ён жа лёгка праверыць. Нічога не заставалася, як сказаць праўду:

– Не.

– Ну, вось бачыце! Не. Гэта ўсё роўна, што мне даць самалёт. Што я з ім рабіць буду?

Амаль у адзін голас мы паабяцалі Астапу навучыцца, але гэта не падзейнічала, ён зноў падняўся і сказаў:

– Як навучыцеся граць, тады прыходзьце.

Петрык ледзь не захлімкаў:

– Дык а дзе ж мы навучымся, дзед Астап? У нас жа няма на чым вучыцца.

Астап зноў сеў:

– Таксама разумна. Калі ўжо хочаце так навучыцца на гармоніку рыпаць, прыходзьце і вучыцеся. А даць проста так гармонік не магу – рэч дарагая. З ёй у мяне багата чаго звязана. Гэта каб у музей, дык аддаў бы і не думаў багата. Вось што я вам скажу, хлопцы. Думайце!

Настрой цалкам сапсаваўся. Хоць і навучышся граць на тым гармоніку ў Астапа, то хто ж будзе ведаць пра гэта. Ды і гармоніка ён не дасць за парог вынесці, калі з ім у Астапа многа чаго звязана. Адно – трата часу, а тут жа трэба дзейнічаць рашуча, каб выкурыць Кастуся з нашай вёскі.

Мы паабяцалі падумаць над прапановай дзеда Астапа і развіталіся. Па дарозе, праўда, пашкадавалі, што не занеслі яму ў хату свае грыбы. Для сябе знайшлі б яшчэ – сёлета іх у лесе дужа багата.

Не атрымалася з гармонікам, тады я пайшоў яшчэ на адну хітрасць. Было не было. А што ж, чакаць, калі Сцяпан, сын Хвядоса, вернецца да разбітага карыта? Ну, не-е!

Як было і задумана, я сядзеў на двары і стругаў сцізорыкам палку. Нарэшце паказалася Раіса з бялізнай, якую яна сабралася развешваць на вяроўцы – сушыцца. Павіталіся кіўком галавы. Раіса папытала:

– Майструеш?

Я зрабіў выгляд, што вельмі заняты і не проста майструю абы-што, а сур'ёзную рэч – можа нават танк ці самалёт, у горшым выпадку – гармату. Сам жа пацiснуў плячыма і неахвотна адказаў:

– А-а, гэта так... А ты, цётка Рая, куды?

– Бялізну развешу.

– Ну, правільна... бялізну. Яна тут, на ветрыку, хуценька высахне.

– Высахне.

Заставалася сказаць самае галоўнае, а я не ведаў, з якіх слоў пачаць. Усе словы, што раней падбіраў, так пераблыталіся ў галаве і пазабіваліся ва ўсе куткі, што іх адтуль так проста і не выкалупнеш. Сяджу, крэмзаю сцізорыкам... Так нядоўга і зусім упусціць Раісу, не пабяжыш жа тады наўздагон за ёй. Петрык паблізу ў зарасніку сядзіць і, відаць, падбадзёрвае мяне... Пра гэта можна толькі здагадвацца. Ды і не да Петрыка цяпер. Адказны момант. Не сапсаваць бы. Так, яшчэ раз удыхнуць паветра, не спяшаючыся, выдыхнуць... Здаецца, хваляванне крыху знікла. Можна. Можна сказаць нешта такое, каб яна спярша паглядзела на мяне, потым усміхнулася, падыйшла бліжэй...

– Цётка Рая... – ледзь дыхаючы, прамовіў я.

Пачатак добры – як і трэба было, яна ўсміхнулася, паглядзела на мяне:

– Слухаю, Колька...
– А прызнацца можна? Прызнацца... гэта... можна?
Раіса здзівілася, затрымала на мне свой позірк:
– Прызнацца? Насваволіў дзе?
– Я ў іншым прызнацца хачу...
Раіса дазволіла:
– Ну, прызнавайся. Дазваляю. Чаму ж ты маўчыш?
Чаму, чаму! Я і сам не ведаю – чаму. Язык быццам прымерз у роце. Зусім не слухаецца. Стаў цяжкі, што камень. Не падняць...
А Раіса прыспешвае:
– Слухаю, Колька! Мне ж няма часу!..
Неяк так атрымалася, што я ўстаў, хоць і не хацеў. Стаю і маўчу. А тады адвярнуўся траха ў бок, каб не сустракацца вачыма з Раісай, і вымавіў:
– Я цябе люблю...
Думаў, маланка грымне. Нават павадзіў галавой па баках: ціха. Не смяецца здзеклівa і Раіса, а паставіла на зямлю міску з бялізнай, падыйшла да мяне, закасала рукавы на маёй кашулі – яшчэ не хапала лапаць маю адзежу! – ціха, каб ніхто, падалося, не пачуў, мовіла мне на самае вуха:
– І я цябе люблю, Колька...
Давялося хмыкнуць:
– Я праўда, а ты!
Раіса пагладзіла мяне па галаве і сказала:
– Маленькі ты яшчэ, Колька. Зусім дзіця. Калі б вышэй хоць трохі расточкам быў, я б тады абавязкова за цябе замуж пайшла...
Ведаў жа, што будзе адгаворвацца, выкручвацца, а ўсё роўна палез з гэтым прызнаннем. Гэта Петрык усё: скажаш – і нічога з табой не здарыцца, карона не ўпадзе. А цяпер вось сам у кустах сядзіць, а тут выкручвайся. Што ж, што ж далей гаварыць? Ну, Пятруня! Апусціў галаву, кволенькім такім галаскам прамовіў:
– Во, маленькі... А дзядзька Сцяпан высокі? – чамусьці спытаўся я, хоць і сам ведаў, які ён.
– Высокі. Ён высокі быў...
– Чаму быў? – не спадабалася мне, што яна так: быў. Бач ты, крыж паставіла на чалавеку. Няма пісьма – гэта яшчэ ні аб чым не гаворыць. Можа такое быць, што пісьма няма, а потым салдат вернецца з вайны. Так што ведай, Раіса, дзе і што гаварыць.
– Прабач. І прыгожы ён. Ты што, хіба яго не помніш?
Як жа – не помню! Але ж трэба пра нешта гаварыць, і я паабяцаў:

– Ды я магу падрасці! Пачакаеш? Моркву буду есці. На градцы пасаджу...

– Ты расці, расці, Колька, – сказала няўпэўнена Раіса, і цяпер думай, што ў яе было наўме.

Але і я рашыў не здавацца:

– Куды табе спяшацца з замужжам? У цябе ж ёсць пакуль з кім жыць. Мамка ў цябе. А к таму часу, калі яна памрэ, і я падрасту. І мы будзем разам жыць. Дзяцей выхоўваць... Як мяне дзядзька Хвядос выхоўвае. Я падрасту, цётка Рая!

Не, каб нешта канкрэтнае адказаць, а яна зноў заблытала ўсё:

– І я цябе люблю, Колька.

Вось і думай тут што хочаш. Так можа сказаць пра мяне і бабка Антося. Але ж гэта не адно і тое ж. Адчуў нават, як палалі шчокі – гарэў, канешне ж, сінім полымем.

І каб ужо гарэць да канца, рашыў працягваць казаць глупствы:

– А то хто-небудзь возьме ды і забярэ цябе. Мы з дзядзькам Хвядосам не хочам, каб цябе другі дзядзька забраў. Таму я і рашыў на табе ажаніцца... А можа, ты і за дзядзьку Хвядоса пайшла б? Мы з ім дружым.

А Раіса – не, каб усміхнуцца – пусціла слязу і пайшла працягваць развешваць бялізну. Толькі мне сказала:

– Дзякуй табе, Колька, за дабрыню тваю. Дзякуй.

Багата мне трэба яе «дзякуй». А далей што? Што? Кастуся там нідзе не відаць? Пакуль – не, ціха. Але – пакуль...

Увечар мы сядзелі з Петрыкам на Грышкавай прызбе і думалі, што багата нарабілі сёння глупстваў. Ці, можа, то былі зусім і не глупствы?

## 9. БЯДА АДНА НЕ ХОДЗІЦЬ

**Д**обрае жыта вырасла. Каласы буйныя, цяжкія – і быццам сонцам налітыя. Дзядзька Хвядос расцёр колас на далоні, паглядзеў на мяне, на Петрыка і, вядома ж, на дзеда Грышку, і сказаў:

– Будзем з хлебам! Дзякуй табе, дзед Грышка, за жыта. І жанчынам нашым – таксама дзякуй.

Дзед Грышка быў, здавалася, на сёмым небе ад шчасця. Ён хацеў нешта сказаць, а тады толькі хлюпнуў носам, зморшчыўся, і на яго вачах заблішчэлі здрадніцкія слязінкі. Стары крадком змахнуў іх.

А дзядзька Хвядос паляпаў старога па плячы, а потым прыгарнуў яго да сябе і задаволена прамовіў:

– Заўтра жаць пачынаем.

Гэта дарослыя пачынаюць, а што мы, хлопцы, рабіць будзем? Хоць серп той раздабудзь. Ды толькі дзе яго возьмеш – яны на вуліцы не валяюцца і замест яблыкаў на дрэвах не вісяць. Петрык дык і не бядуе: не мужчынская справа гэта – з сярпом хадзіць. Пачакаем, кажа, калі і нас паклічуць – снапы зносіць на калгасны ток. «Вось тады пашчыруем!» Але калі тое яшчэ будзе? Хоць – прыдумаў! – і будзе: сёння ж напомню дзядзьку Хвядосу, што той калгасны ток мы будзем рабіць разам з дарослымі. А што там, розуму багата трэба? Дзед Грышка, вядома ж, за старшага наб'ецца, хоць яго і прызначаць ніхто не стане: сядзі на печы, дзед, ад хвароб сваіх адбівайся, як некалі ў лесе ад немца. Ды з дзедам мы як-небудзь саўладаем – галоўнае, каб каго іншага старшым не прызначылі, бо той можа даць і ад варот паварот. А ток у нас робіцца проста – на тым жа полі, дзе расце жыта, зразаецца рыдлёўкамі іржэўнік, раўняецца, прыбіраюцца камяні і камякі зямлі, і тады лапік той становіцца такі ж лысы, як у дзеда Грышкі галава. Адно на адно. А потым трактарыст Сёмка прыцягне дапатопны камбайн, і будзе тарахцець трактар дзень і ноч – падавай толькі снапы камбайну, а барабан той ён упраўна будзе круціць. І тады наўсцяж так хораша пахне жытам, зернем, што, здаецца, не адыходзіў бы ад дарослых, якія, бы мурашы, будуць завіхацца на калгасным таку.

А пакуль няма яшчэ тых і снапоў, толькі заўтра выйдуць жанчыны з сярпамі на палетак. Горш за ўсё – чакаць. Не, каб прама сёння і пачаць, што там адзін ужо той дзень вырашае, але ж дзядзьку Хвядосу хіба што дакажаш? Як старшынёй стаў, дык зусім не слухаецца.

– Заўтра, бабы, на жніво! – бы наўмысна яшчэ, каб паказаць мне, хто тут камандзір, гучна гаварыў кожнай стрэчнай жанчыне ён. – Не спазняцца! Выходзім дружна – як на бой! Усе чулі?

Ды чулі, чулі! Тут і глухі пачуе. Дзед Грышка і тое ўжо ведае, што заўтра жаць пачынаюць, і шаркае напілкам па сярпу і, відаць жа, скардзіцца, што зрок зусім слабы, а ён, дзівак, не захапіў у тым баі з немцам у лесе акуляры. Трэба было адабраць. Спатрэбіліся б. Хоць і на чужым носе віселі, а прыжыліся б і на ягоным – савецкім.

А пазней нехта з дарослых пусціў па вёсцы пагалоску, што воўк задраў кабылу, і гэтая бяда сабрала людзей каля Хвядосавай печы, які, перш чым выцягнуць з падпечча ружжо, загорнутае ў анучыну, паківаў галавой:

– Ах ты, гора, гора. Як жа нам цяпер без яе, без Марускі?

І дзед Грышка тут як тут – прыскакаў з сякерай, махае ёю ў паветры, бы шабляй:

– На ваўка, на гада! Вы што гэта, Хвядос, мяне хочаце абмінуць, галоўнага, можна сказаць, паляўнічага? На паляванне – і без мяне? З якога часу? Я павінен з тым ваўком сустрэцца твар у твар, вока ў вока!

Нехта пырснуў смехам:

– А падштанікі запасныя ёсць?

– Ёсць! Знойдзем! За гэта, грамадзяне, не хвалюйцеся. Ша! Я за такую кабылу таму ваўку галаву звярну на бок. Я ж яе – хіба не помніце? – жарабём выхадзіў, калі яна нагу падвярнула. Для чаго – каб ваўку дасталася? Во яму! – і ён варсануў дулю ў паветра. – Я ўжо за вайну і забыўся, што ваўкі гэтыя ёсць – страшнейшыя звяры іх захінулі, пахавалі. А яны, шэрыя, ёсць, аказваецца.

Хвядос пагадзіўся:

– На наш з табой век іх яшчэ хопіць.

Вылучыўшы момант, папрасіўся на паляванне і я. Дзядзька Хвядос, каб адчапіцца ад нас, хіба ж не вядома, паабяцаў даць нейкае іншае, але не менш адказвае і важнае заданне, а дзед Грышка, падлабуньванец стары, хехекнуў:

– Гэта, брат Колька, табе не лемяхі ў кузні падаваць! – І да дзядзькі Хвядоса: – Калі думаеш будавацца, старшыня?

Я ж і кажу: такі падлабуньванец! Каб на паляванне ўзялі, дык, бачце вы яго, здалёку пачынае... пра хату. Можна падумаць, што і ты дапаможаш. Калі толькі языком. А дзядзька Хвядос яшчэ і адказвае яму, бы няма больш чаго рабіць:

– За восень трэба. Куды ж яшчэ больш цягнуць? Толькі спярша ў арцелі трэба парадак навесці. У зямлянцы начуем. А што? Там цёпла. Хай вунь Колька скажа...

Я кіўнуў, бо ўсе паглядзелі на мяне, і мне больш нічога не заставалася, як пацвердзіць.

Дзед Грышка, хітраван стары, памеўся дапамагчы паставіць зруб, яшчэ і сказаў:

– Вось падрамантуюся трошкі... А то яно не зусім зручна атрымліваецца: старшыня, першы чалавек у калгасе, і жыве ў зямлянцы. Дзе б гэта бачана такое? Бяздомны, адным словам.

Дагаварыўся! Пачаў за здравіцу, а скончыў за ўпакой. Добра, штопрыйшоў нарэшце Мікіта, і дзядзька Хвядос загадаў нам, хлопцам, і дзеду Грышку сядзець дома, а самі яны – бач ты, начальнікі! – па-даліся, не аглядаючыся нават, у бок лесу... Дзед Грышка доўга скар-дзіўся нам на «калгаснае начальства, якое далей свайго носу нічога не бачыць», таму і дапусціла яно немаведама якую

памылку, што не ўзяло яго на паляванне, і што ўсё гэта ім некалі вылезе бокам. «Шалапуты!» Ён думае, што і нам не крыўдна? Аднак скардзіцца мы не прывыклі – усе хлопцы, у тым ліку і я з Петрыкам, неўзабаве шуганулі ўслед за паляўнічымі – варта ім было толькі схавацца ў лесе. І мы не лыкам шытыя. Так проста нас не аб’ягорыце.

А дзед Грышка зусім разгубіўся, доўга яшчэ таптаўся на адным і тым жа месцы, а тады патупаў дахаты... Але перш чым пайсці, шпурнуў перад сабой сякеру. Злосна так, ажно вылаяўся. А куды яму, старому і нямогламу, было падзецца? За паляўнічымі не паспееш, а за намі – тым больш! Не галопам жа бегчы яму? Пайшоў зноў, відаць, серп вастрыць сваёй Антосі.

У лесе было так, як заўсёды. Ціха і хораша. Спявалі птушкі, шасталі з галінкі на галінку, і толькі былі чуваць крокі вяскоўцаў – яны ішлі крыху наводдаль, але мы іх з поля зроку не гублялі. Зрэдку быў чуваць голас то дзядзькі Хвядоса, то Мікіты. Астатнія больш маўчалі. Але што за дзівосы?! Кабыла, Маруська, жывая! Яна пасвілася на ўскрайку, і цяпер яе вёў за аброць Мікіта. Нічога не разумеем. Калі жывая кабыла, то чаму не паварочваюць нашы паляўнічыя назад, а прадзіраюцца ўсё далей і далей у лес? Якога ваўка яны шукаюць? І кім, а галоўнае для чаго прыдумана ўсё гэтае паляванне? Я пачынаў здагадвацца. Шапнуў Петрыку: «Відаць, Міцьку хочуць зацапаць?» Петрык адказаў: «Так яму і трэба, здрадніку!» І мы, каб не адстаць ад дарослых, клубкамі каціліся ўслед за імі – ад дрэва да дрэва, ад хмызу да хмызу. Апынуліся паблізу ад нашай схованкі, але зрабілі выгляд, што яе ўвогуле не існуе, таму стараліся не глядзець нават у той бок.

– Вось ён!.. – пачулі раптам мы голас дзядзькі Хвядоса, і наўсцяж у лесе зрабілася яшчэ больш ціха і чамусьці, як ніколі раней, трывожна.

– Гаротнік, – парушыў нарэшце маўчанне Мікіта. – Шэршні яму трыбунал вызначылі, і жорстка пакаралі. Так і чалавек не змог бы – пашкадаваў бы, мусіць.

І мы бачылі, як мужчыны садралі з галоў картузы – у каго што было на чупрынах і лысінах – і стаялі моўчкі, крыху нахіліўшы галовы наперад. У гэты самы час нейкая сіла штурханула ўсіх нас, хлапцоў, і мы, не саромеючыся і нікога не баючыся, паказаліся са сваіх часовых схованак і сталі побач з дарослымі. Дзядзька Хвядос змерыў мяне абыякавым, як падалося мне, позіркам і загадаў:

– Забірайце Міцьку, мужыкі. Пакуль не акалеў, то на Маруську пакладзём... Яна давязе.

З лесу вярталіся моўчкі. Маўчалі і дарослыя, і мы. Самы раз было паказаць дзядзьку Хвядосу нашу схованку, але мы з Петрыкам пера-

думалі: сёння яму, мусіць, не да нашай зброі. Будзе час. Не апошні дзень жывём. Хоць, як звычайна кажа ў такіх выпадках вясковы філосаф дзед Грышка, не загадаеш.

Не так, пэўна ж, думаў жыць далей і Міцька, рыхтаваўся, відаць, здацца ўладзе, усё расказаць, як яно было, спадзяваўся, канешне ж, што яго зразумеюць, хоць і не пагладзяць па галаве, але трохі і пашкадуюць. Чалавек заўсёды спадзяецца на лепшае. Але атрымалася як нельга горш – цесна стала ў вялікім Дзянісавым бары Міцьку і шэршням, і цяпер ніхто не ўведае, хто каго зачапіў першы. Аднак перамаглі шэршні, пакусалі Міцьку, і ён не вытрымаў – памёр.

Жніво перанеслі на адзін дзень – хавалі Міцьку. На пагосце нічога людзі не гаварылі, акрамя Тамаша, які румзаў, бы малое дзіця, часта шморгаў носам і прамакаў на твары рукавом слёзы:

– Міцька ты, Міцька! Ты не толькі людзям не дагадзіў, але і шэршням, маць іх так!.. Чаму, чаму ў цябе жыццё так павярнулася, сыночак? Хто тут вінаваты? Хто-о-о? – Тамаш у роспачы глядзеў на людзей, але тыя стараліся не сустракацца з ім поглядамі: што паробіш цяпер ужо, Тамаш, што паробіш!.. І разыходзіліся з пагоста, несучы з яго кожны сваё – хто спагаду, а хто і нянавісць да Міцькі і яго бацькоў...

Дзед Грышка, як заўсёды, тупаў ззаду і хваліў шэршняў, якія нарэшце разабраліся з гэтым Дзмітрыем.

– Разумныя істоты, хоць я іх таксама не надта каб цаніў, – казаў ён, шоргаючы лапцямі па зямлі, пра насякомых. – Але вось тут яны вытыркнуліся своечасова: на табе, Дзмітрый, атрымлівай, што заслужыў. Вынеслі прысуд чалавеку. Памаглі людзям, іш ты!.. І адкуль яны, цікава мне, даведаліся, што ён здраднік? Мне вось гэта больш за ўсё цікава-інцярэсна. Хто шапнуў ім? Хоць і шкада мне Міцьку – ён таксама мнеласкуты падаваў, калі я кажухі шыў.

Жніво пачалося неяк ціха і непрыкметна, хаця па тым, як рыхтаваліся да яго людзі, можна было спадзявацца, што дзядзька Хвядос будзе ісці наперадзе, а за ім жанчыны ў белых хустках... З песняй. Як і раней, да вайны. Але было не да спеваў, і таму людзі сабраліся на ўскрайку жытнёвага поля хоць і не арганізавана, але амаль у адзін і той жа час: адзін за адным, ланцужком, прыцягнуліся жанчыны з сярпамі і вузельчыкамі з ежай і глядзелі на дзядзьку Хвядоса, чакаючы ад яго, старшыні, мудрых, усцешных слоў. Але той маўчаў, толькі смактаў свой самасад, а калі сказаў: «Ну з Богам, жанчынкі!», тыя рассыпаліся, быццам разбегліся куры па двары, па ладнаму лапіку жытнёвага палетка. Дзядзька Хвядос яшчэ колькі пастаяў каля

жанчын, а потым, спаслаўшыся на занятасць – ды хіба ж і сапраўды мала ў калгасе спраў! – падаўся ў бок вёскі...

Бяда здарылася апоўдні, калі неба зацягнулі густыя цёмныя хмары, яго распаласавала бліскавіца, а потым трывожна загрукацеў гром і лінуў дождж – бы з вядра. Жанчыны пахаваліся ад яго ў бабкі, якіх жа самі ўжо паспелі нарабіць з тугіх снапоў. Схавалася і Антося, а серп паклала зверху на снапы. Мужчыны потым вінавацілі серп, які быццам бы ўзяў на сябе ўвесь зарад, бы маланкаадвод, але хто тут вінаваты, хто не, паспрабуй цяпер разбярыся... Бабка, у якой ляжала ўжо забітая маланкай Антося, загарэлася, жанчыны паднялі лямант, але іх пакуль яшчэ ніхто не чуў – вёска далёка, а дождж не пераставаў церабіць, сыпаў і сыпаў на зямлю... Толькі на яго ўжо ніхто са жней не звяртаў увагі – спярша спрабавалі ўратаваць Антосю, але потым зразумелі, што дарэмна ўсё, яна не дыхала і ўся была чорная, бы сажа, і тады яны здагадаліся адправіць каго-небудзь за старшынёй...

Праўду кажуць, што бяда адна не ходзіць. Цётку Антосю вельмі шкадавалі людзі – не тое, што Міцьку: усе плакалі. Пасыпаліся слёзы і з маіх вачэй. Асабліва тады, калі на пагосце Ганна пачала маліцца Богу, а ёй падпявалі жанчыны. Тут і мёртвы заплача, не тое каб... Я раз-пораз паглядаў на дзеда Грышку, які зусім згорбіўся, пачарнеў, і мне больш за ўсё было шкада старога. І пакуль яго сын Пятро недзе яшчэ ваюе, як, канечне, і мой татка, і Сцяпан дзядзькі Хвядоса, мы з Петрыкам паабяцалі самі сабе часцей заходзіць да яго і памагаць. А то як жа ён адзін? Ды і сумленне мець трэба: калі ў нас нешта не так, ці ў каго іншага, дзед Грышка тут як тут, першы прытупае. Змахне тады з галавы сваю новую шапку-аблавушку, акіне люд зацікаўленым позіркам і скажа:

– Мне вось цікава-інцярэсна...

І пачне разводзіць філасофію, якую не толькі мы, хлапчукі, але і ўсе дарослыя – хіба ж не відаць! – любяць слухаць.

Таму дзеда Грышку ў бядзе не пакінем.

Такое наша слова.

## 10. СВЕЧКА НЕ ПАТУХЛА

**У**чора мы здаліся дзядзьку Хвядосу. Трэба ж было калі-небудзь, не вечна ж нам хаваць тую зброю пад шыгаллем, калі вайна грукоча недзе далёка, і ўсе кажуць, што капут немцам і назад яму ходу няма. Навошта нам цяпер тыя ствалы? Дзядзька Хвядос уважліва слухаў нас з Петрыкам, а мы наперабой расказвалі яму пра кулямёт,

аўтаматы і вінтоўкі, нават пра наган, што ў лесе. Думалі, скажа: «Ну што ж, пайшлі, паказвайце, ваякі, свой арсенал», аднак ён нетаропка скруціў сваю цыгарку з самасаду, залізаў, як заўсёды, языком акуратнае шво на паперы, пыхнуў дымком. Толькі тады прамовіў:

– Хай пакуль ляжыць зброя ваша, хлопцы, там, дзе і схавалі. Не да яе. Я ў раён Козыраву паведамлю, ці ў ваенкамат, адтуль прыедуць і адразу ў лесе забяруць. Навошта нам цягаць зброю туды-сюды? Ці ёсць рацыя? А за тое, што прызналіся, малайцы.

А ўвечар таго дня ўся малеча набілася ў хату бабы Ганны, бо сказалі нам, што будзе свята. І не абы-якое, а будуць аддаваць некаму абраз, а разам з ім і свячу, іх панясуць па вуліцы ў другі двор. І трэба пранесці свячу так, каб яна не патухла. Цікава, што за свята такое. Затаіліся, назіраем. Баба Ганна, крадком паглядаючы ў свой зашмальцаваны царкоўны талмуд, моліцца Богу, ёй дапамагаюць жанчыны – не ўсе, а ў каго, відаць, ёсць голас. А мо хто і слоў не ведае? Раіса вунь толькі губамі шамкае, а ніводнага слова не вымавіла – адно што выгляд робіць. Артыстка. Каб Кастусь тут быў, то б на яго касіла вачыма, як баба Ганна на свой малітоўнік. Ціха, увага: Ганна скончыла, здаецца, сваю справу, утварылася паўза, і людзі заварушыліся. Ну, калі ўжо той абраз панясуць? Навошта марудзіць? Нам больш цікава, як будзе свяча гарэць. Патухне ці не патухне на вуліцы? Баба Ганна, здаецца, пачула мяне, і калі людзі зноў суцішыліся, папытала:

– Людзі добрыя, хто возьме свячу?

– Мы возьмем! – гэта сказала Маўра, і ў хаце зрабілася яшчэ больш ціха, чым было раней. – Мы! Мы прывецім абраз у сваёй хаце, якую ён ачысціць ад усяго таго, чым забрудзіў яе наш сын Дзмітрый.

Бач ты, што робіцца! Во куды абраз і свячу панясуць. Цікава, а што скажа баба Ганна, ці аддасць? А мне ж адразу ўспомніўся лес, Міцька, Тамаш… Аднак баба Ганна, крыху павагаўшыся, вырашыла:

– Забірай, Маўра, абраз. Нясі.

Ганна з Маўрай абняліся, пацалавалі адну адну. Абраз Маўра трымала перад сабой, а свячу ўзялася несці Ганна. Маўра патупала нарэшце з хаты, за ёй – Ганна, няўпэўнена намацваючы нагамі падлогу. За імі пачалі выбірацца астатнія. Гарыць свяча, палае. Толькі зрэдку хістаецца агеньчык, вось-вось быццам гатовы парвацца, як нітка, ды не – дрыжыць, трасецца, а жыве. Перад Маўрай і Ганнай ідзе Лізавета – тая ўсюды паспее! – сцеле салому, толькі паспяваюць ёй падаваць снапы. Салому ж адразу падбіраюць людзі, узяў і я. Петрык шапнуў:

– Бяры болі, болі бяры!

Ну, узяў. А навошта больш – няма калі разбірацца. Петрык жа сам растлумачыў:

– Жыўнасць весціся будзе.

Бач ты, ведае.

Каля брамы ўсё шэсце страчаў Тамаш і запрасіў у хату.

– А нам ісці? – паглядзеў на мяне Петрык.

Можна падумаць, што я ведаю. Аднак, калі Лізавета сказала, што ўсіх будуць частаваць баршчом, аладкамі-мачанкамі, кашай і кісялём, то і дурню зразумела: канешне ж, ісці! Нават бегчы трэба, а то можна і спазніцца. А на стале і сапраўды было шмат страў. І пах цудоўны! Хутчэй бы паласавацца.

Аднак Тамаш не надта спяшаецца. Канешне, куды яму спяшацца – сам налопаўся, вядома ж, пакуль чакаў усіх, таму і ў вус не дзьме. А ў нас слінкі цякуць. Маўра таксама харошая – топчацца, як не-жывая. Так можа і свяча патухнуць ад непавагі да людзей. Нарэш-це сказала:

– Людцы добрыя, давайце запросім да нашага стала сына нашага Дзмітрыя і Антосю, і ўсіх нябожчыкаў, хопіць ежы...

Ды калі б тут былі адны нябожчыкі – ого б мы наеліся! А то ж усе рукі цягнуць. Не дабрацца да стала. Так-сяк прыстасоўваемся, гэта дзеду Грышку цяжэй: з яго жыватом не разгонішся асабліва. Адціраюць старога. Трэба выручаць. Зубоў у Грышкі няма, то яму добра будзе кісель з кашай, чым неўзабаве мы і забяспечылі старога: прыемнага апетыту, Грышка!

Стары падзякаваў і спытаў:

– А самі ж?

Можна было падумаць, што ён не бачыў, хітраван, як мы церабілі. Ух і наеліся! Жываты парабіліся, нібы тыя бубны. А на стале яшчэ хапала ўсяго. Цікава, і хто ж гэта будзе даядаць?

Добра, што было свята. І шкада, што яно скончылася.

Назаўтра Петрык прапанаваў:

– Давай сходзім да Тамаша, паглядзім, як свяча гарыць.

Я спярша пагадзіўся, а потым адмовіўся: не кожны ж дзень павінны быць святы...

## 11. КОШ І ВЯНОК

**Д**зядзька Хвядос надоечы разважаў пра наша жыццё так:

– Вось мы, Колька, з табой у новай хаце збіраемся жыць. Хату, канешне, яшчэ трэба пабудаваць. Пабудуем. Усяму свой час. Не век

жа нам у зямлянцы сядзець, так? Так. А будзе ж хата – патрэбна і пра паліва паклапаціцца... І касіць, і сеяць трэба... а тут яшчэ і на балоце трэба будзе павалтузіцца, каб торфу накапаць. Кашоў пятнаццаць трэба, мабыць. Поўных – як накласці... Так што парабіць нам з табой, брат, давядзецца.

– Накапаем торфу, дзядзька! – я выпяў грудзі і паглядзеў на заступ, які стаяў у куце ля парога. – Як няма чаго рабіць! Што мы, не мужчыны?

– Ды накапаем... яно так, – не надта, гляджу, паверыў мне Хвядос.

Ён патрымаў у руках заступ, паставіў яго на ранейшае месца і толь-кі сказаў:

– Навастрыць трэба. Але ж у нас і каша няма...

Ну, гэта не праблема. Кош я хоць заўтра зраблю. Нават сёння магу пачаць. Была б лаза. А лазы хапае.

І я заняўся кашом. Нарэзаў лазы, а пакуль яе рэзаў, колькі разоў паказаў язык лупатай Надзейцы, якая чамусьці таксама была ў лазняку і шчыпала нейкія кветкі – вянкі, бачце вы, ім, дзяўчынкам, трэба. І гэта ў такі час, калі ўсе на балота збіраюцца, каб узімку ў сваіх хатах печы і грубкі паліць, а то можна так і насы адмарозіць, а ім – вянкі... Ну што з іх возьмеш, хоць бы з гэтай Надзейкі! Хі-хі ды ха-ха. І вачыма прама сваімі свідруе, нібы мяне ніколі не бачыла. Вяночніца. Такая і вырасце невядома кім, сама і бульбіну будзе ленавацца да роту паднесці – прыгатуй ёй ды і падай. Я б на такой нізашто не жаніўся. Вось пасля школы паедзем з Петрыкам у горад, там, кажуць, выбірай сабе нявесту якую хочаш, на любы густ. І выберам. А такой, як Надзейка, хіба і застаецца язык паказаць. На, на, на! Хопіць? Ці яшчэ? Гэтага дабра не шкада – не акрайчык хлеба даць. А яна і не злуецца, толькі ўсміхаецца... Але калі ўсміхаецца куточ-камі вуснаў, то прыгожа ў яе атрымліваецца...

Ды няма ж калі хіханькі ды хаханькі строіць з Надзейкай, трэба цягнуць лазу да дзеда Грышкі і рабіць з ім кош. Толькі ён ведае, як трэба яго плесці. Пабурчыць, канешне, спярша. Невукам назаве. А тады і пакажа, як кош робіцца. У яго дык гэта лоўка атрымліваецца – шух-шух, і гатова! А ў мяне, калі верыць дзеду Грышку, рукі іншы раз бываюць нязграбнымі. І ён маімі рукамі тады кіруе – нібы лыжкай за сталом. Можа і кухталя ўляпіць – за няправільнасць. Але не балюча. Так, для навукі. Летась мы з дзедам адзін кош разам зрабілі, але ён застаўся там, дзе і наша хата... Згарэў. Таму я крыху помню, як трэба плесці кош, і спадзяюся, што дзед Грышка не бу-дзе асабліва

задавацца, што такі ўжо ўмека і спец у гэтым, а я ні-куды не варты. Там відаць будзе, дзед!

Надзейка набіваецца памагчы мне несці лазу. Яшчэ чаго не хапала. Гэта ж трэба ісці па ўсёй вёсцы, а што людзі скажуць? Малеча якая ўбачыць і будзе, выглядаючы з-за вугла, дражніцца: «Жаніх і нявеста... Ці-лі, ці-лі... паелі ўсё цеста...» Не, я сам дацягну лазу, хоць і нарэзаў яе столькі, што за адзін раз не адолею. Бяды тае, вярнуся... Але без дзяўчынкі. Няхай пляце вянок. Вянок – не кош. Кош – гэта патрэбная рэч, а без вянка можна пражыць. Вось так, Надзейка!

– Падумаеш!.. – дзяўчынка так паглядзела на мяне, што я ажно разгубіўся і таму адвярнуўся, а яна яшчэ раз сказала гэтае самае «Падумаеш!», фыркнула, павяла плечуком, рашуча павярнулася і, падскокваючы то на адной назе, то на другой, пашыбавала ў вёску, а вянок круціла на пальцы, бы шапку са сланечніка.

Хм! Вось табе і вяночніца. Я доўга глядзеў услед Надзейцы, на пэўны час забыўся пра лазу, а тады ўскінуў вязанку на плечы і патупаў да дзеда Грышкі. І хоць стараўся не думаць больш пра яе, Надзейку, – а я б ёй лусту хлеба і не пашкадаваў, – а яно само думалася і думалася, ажно пакуль не прытупаў на падворак старога. Той сустрэў мяне пытаннем:

– Каму?

– Калі трэба, і табе прынясу...

– Прынясі, прынясі, хлопча, – ухапіўся дзед за маю прапанову, і я абрадаваўся, што дагадзіў яму. – А гэта – на наш кош лаза. Паможаш, дзед?

– Калі прынёс, то давядзецца. Будзем кашаплётствам займацца. А пакуль хадзем паснедаем.

– Снедаў...

– Тады пачакай. Я не затрымаюся. Люблю кашы рабіць. Асабліва з гатовай лазы. Як вось цяпер.

Пакуль дзед Грышка снедаў, я зноў збегаў у лазняк, каб забраць тую лазу, што засталася. І на ёй, на лазе, ляжаў вянок...

Я адразу здагадаўся, што гэта Надзейка паклала, а сама, мабыць, схавалася недзе паблізу і будзе назіраць за мной, што я зраблю з яе вянком. А што я зраблю? На галаву, канешне, не надзену, не хлапечая гэта справа вянкі насіць на чупрыне сярод белага дня. А ў ру-ках патрымаць можна. І патрымаю, чаго ж. Не ўкусіць. А ён не такі і лёгкі. Пахне хораша.

Я пашукаў вачыма Надзейку, але нідзе не заўважыў яе, павесіў вянок на галінку, узваліў на плечы зноў вязанку лазы і, пакуль нёс яе,

чамусьці пашкадаваў, што не ўзяў вянок. Спатрэбіўся б. Ці мне, ці дзеду Грышку. Ён бы яго, канешне, павесіў у хаце на вялізны цвік. Калі прыгожы вянок, чаму б не павесіць? І ў нашай зямлянцы з дзядзькам Хвядосам можна было б... Добра глядзеўся б. Над сталом, калі запаліш капцілку. Толькі што гэта я ўсё пра вянок ды пра вянок! Вось-вось торф капаць трэба, а ў нас і каша няма.

Не быў бы дзед Грышка вясковым філосафам. Перш чым узяцца рабіць кош, ён пасядзеў на зэдліку, пакрактаў, а потым расказаў пра сон.

– Як думаеш, Колька, к чаму б я палец парэзаў? – глядзеў стары на мяне і чакаў адказу. – Во гэты. Як цяпер помню... і кроў кап-кап-кап... на белы пясок.

– Пясок белым не бывае, – запярэчыў я.

На што дзед Грышка нахмурыўся:

– Мне лепш ведаць, які бывае пясок у маім сне.

– Жоўты пясок.

– У тваім – можа і жоўты, а ў маім белы быў, як з мелу. У чым і загвоздка. Дык не падкажаш, к чаму б сон прысніўся, а?

Я пра гэтыя сны дык нічога толкам і сам не ведаю. Што я скажу яму? Пацiснуў адно плячыма раз, другі... Старому такое не падабалася, ён усміхнуўся сам сабе, хехекнуў і прызнаўся:

– Ведаю, к чаму сон, я і сам, дзетка. Пецька мой вернецца з вайны. Жывы будзе. Магу паспрачацца.

– А на што?

– На жменю семак.

– Давай! – я ахвотна пагадзіўся, бо даўно не лузаў семкі, хоць і не падумаў, перш чым перабіць рукі, што аддам, калі прайграю: дужа закарцела семак. Але я паглядзеў на Грышкаў твар, і мне адразу захацелася прайграць яму тую жменю – не параўнаць і мех, і нават два мяхі семак з вяртаннем ягонага сына Пятра.

Тады я і сказаў:

– Я хачу прайграць табе, дзед.

– А семак я табе і так насыплю. Дзе кішэня? Адтапырвай.

– Не трэба, дзед! – заўпарціўся я, бо паглядзеў на лазу, якая сіратліва ляжала перад намі і ўспомніў пра кош, якога пакуль няма. – Тады семкі. Пазней. Як зробім.

– Тады дык тады. Ну, дзе лаза? Падавай мне па адной – перабяром спярша, адсартыруем, што адкінем, а як ты думаў... рабіць кош – дык надоўга... вам торф вазіць яшчэ ды вазіць... А ў мяне кош ёсць... ёсць кош у мяне... у пуні ляжыць... такі ж стары, як і сам... Цікава, а гэта

мой Пецька ўмее кашы рабіць ці не? Вучыў, вучыў... Але за вайну мог і забыцца. Але калі ўмеў што рабіць, тое аднавіць лёгка. Кажу табе па сакрэце.

Лаза была раскладзена па ўсім двары, і калі хто недасведчаны паглядзеў бы, што мы тут робім, падумаў бы, не інакш, што развялі цэлую арцель. І тут лаза, і там лаза... няма куды нагу паставіць. А пасярод двара падымаецца, бы расце з зямлі, кош. Пляту і я. Бяру лазіну, і як вучыць дзед Грышка, прасоўваю паміж «рэбраў», якія ён назы-вае каркасам. Потым другую, трэцюю...

Дзед Грышка склаў нарэшце рукі на каленях, назірае толькі за мной, падхвальвае, а калі і заўвагу зробіць, што не так у мяне атрымліваецца.

– Такі кош як паставіш на калёсы, то ён як пан будзе на іх! – хіт-ра ўсміхаецца стары. – Колькі торфу ўлезе ў наш кош, Колька, дык і не падлічыш! Што багата, то багата. Процьму тарфін памесціцца. Як піць даць. Галоўнае, каб конь пацягнуў. Калі ж коні цяпер дохлыя. Дыстрофікі. Хоць у калгас прыгналі быццам чатырох каняк добрых. Але ж торф высушыцца, то ён лёгкі будзе. Ну што, хлапец, пара абедаць. А тады і закончым наш карабель. Бяжы, бяжы дадому. У мяне дык і няма нічога такога, каб цябе пачаставаць. Суп адзін. Варка згатавала, дзякуй ёй. То не прападу. А ты збегай дахаты, падсілкуйся. Расцеш, цягнешся ўгору, то апетыт павінен быць. Ну, давай, давай... няхай цябе Хвядос пакорміць.

– А яго няма. Я сам знайду, што з'есці.

– І адразу прыходзь. На заўтра не будзем адкладваць тое, што можна зрабіць сёння.

Я пабег да сябе, а дзед застаўся сядзець на зэдліку. Калі я вярнуўся назад, ён спаў у хаце на ложку і ўсміхаўся ў сне. І я не стаў яго будзіць. А раптам ён бачыць зноў той белы пясок ці яшчэ што-небудзь такое, што яму прыемна бачыць? Кош я і сам магу дарабіць. Што там засталося. Дробязі. А калі кош быў амаль што гатовы, я залез у яго і таксама заснуў. Мяне разбудзіў дождж – ён так секануў, знянацку і спорна, што я падскочыў, бы апараны. А дзед Грышка глядзеў на мяне з клеці і смяяўся:

– Паспаць мы з табой, брат, майстры. Што стары, што малы – адна парода. Але ж кош агаралі, хоць і з прыгодамі, забрыкай яго каза!..

Пра кош я не адразу ўспомніў – доўга лыпаў вачамі і шукаў вянок, які прысніўся. Вянка не было. І Надзейкі таксама. Пасярод двара стаяў адзін толькі кош. А калі я ўсё зразумеў, таксама засмяяўся.

Было чыста, лёгка і свежа на зямлі.

Як заўсёды пасля дажджу.

## 12.«БАГУН, БАГУН, МЫ Ў БАЛОТА...»

**І** неўзабаве людзі пацягнуліся ў бок балота. Яно пачынаецца не адразу за вёскай, а трэба патэпаць – і па бальшаку, і па куп'істым Чопкім лажку, а тады ўжо, калі за маленькім мастком, які і зрабілі летась, каб цераз канаву можна было вазіць торф, пакажацца маленькае пасяленне – вёска не вёска, хутар не хутар – з нейкай не дужа зразумелай назвай Негліва, то па левую руку, як ісці, і будзе балота. Насустрач выбягуць кусты вербалозу, тонкія і крывыя бярозкі, пад якімі, бывае, пракідваюцца і грыбы. Ababкі. Яны не такія, як у звычайнам лесе – брылькі больш светлыя, а ножкі доўгія, тонкія і часцей за ўсё крывыя. Нібы дражняцца з бярозак. А далей пачынаецца сапраўднае балота. У старых кар'ерах цвіце рудая вада, а галінкі з ягадамі-дурніцамі звісаюць прама над вадой, і не заўсёды іх дастанеш: небяспечна, можна абрынуцца ў ваду, а там плавае неба – уга, якая глыбіня. Не, лепш не лезці. Ягад хапае і на іншых кустах. Толькі ж іх усё роўна многа не з'ясі. Гэта каб хто зрываў табе, а самому збіраць надакучвае. Ну іх, тыя дурніцы. Не тое, што грыбы. Дзяўчынкі, дык тыя любяць. І атрымліваецца ў іх добра, спрытна: хап-хап-хап! Але што ягады? Ёсць на балоце адзін вораг, якога ўсе баяцца – як агню. Нават дарослыя і такі смяльчак, як дзед Грышка. Стары і навучыў мяне, як змагацца з тым супастатам. Гэта багун, расліна такая. Яна кусціцца, дзе толькі можа. І быццам наўмысна, калі з'яўляецца побач з багуном чалавек, расліна пачынае так пахнуць, што ачмурэць можна. Галава робіцца, што чыгун. Не свая. Ты ёй загадваеш, галаве, ягады збіраць, а яна хоча паляжаць. Або пасядзець. Ці што-небудзь іншае. А багун –не, будзеш рабіць тое, што я загадаю: спярша ачмурэць павінен, а та-ды я павяду цябе, куды пажадаю. Адзін раз і мяне ён падлавіў, багун той. Ледзь выйшаў з балота, і тое не помню – як. Так што з ім жартачкі кепскія. Калі мы з дзядзькам Хвядосам і Петрыкам толькі запрыкмецілі першыя кусты багуну, я загадаў :

– Багун, багун, мы ў балота, а ты – з балота!

Петрык таксама прашаптаў гэтыя словы, і нават тупнуў нагой:

– Вон! Ну, каму сказана!

Дзядзька Хвядос усміхнуўся:

– Усё, цяпер можна заходзіць смела: галава не разбаліцца.

Канешне, не. І дурню зразумела. А каб не сказалі мы тыя словы, каб не прагналі яго, дурман, то хапіла б клопату. Можа, і торфу таго накапалі б кату пад хвост, зусім мала, а так можна будзе працаваць, пакуль сілы хопіць. А сілы павінна хапіць. Паснедалі мы добра, яшчэ і цётка Матруна напакавала торбачку Петрыку, так што будзе, калі вымерхаемся, што ўкусіць. Падсілкуемся – і зноў наперад. Расседжвацца няма калі. Бо на балоце людзей, што мурашак, і ўсе адзін перад адным таўкуцца, хочуць паказаць сябе. Не там, дык тут. Ясная справа. А мы што, павінны выглядаць слабакамі? У мяне мускулы, калі руку рычажком зрабіць, як бугарок. Петрык толькі насупіцца і адвернецца: канешне, а чым яму пахваліцца? Рука роўная, што брусок. Як ні рабі яе, а такога бугарка, як у мяне, і блізка няма. Слабак. А яшчэ і крыўдзіцца, не любіць, калі яму праўду гавораць.

Дзядзька Хвядос учора прыходзіў на балота, аблюбаваў месца, і вось цяпер ён вядзе нас да яго. А я ўспомніў дзеда Грышку, і мне зрабілася шкада старога, бо ён – толькі б пабачылі! – такімі сумнымі вачыма праводзіў нас, што не пазайздросціш. А мне, калі я забіраў кош, прызнаўся:

– Зноў без мяне на балота... І навошта жыць? Э-ха-ха-а!..

А потым, нібы ачомаўшыся, прыняў бадзёры выгляд – успомніў пра сына, якога чакаў, і больш не скардзіўся на жыццё.

Кош дзядзьку Хвядосу спадабаўся. Патрос яго, сказаў, што крэпенькі, паслужыць доўга, але не ацаніў мяне, як кашаплёта. Усё прыпісаў дзеду Грышку. Можна падумаць, што ён і лазу рэзаў, і цягаў яе, і плёў толькі адзін... нават язык паказваў лупатай Надзейцы. А я з боку прыпёку. Зусім не ацаніў. Каб не сам дзед Грышка, то так бы і застаўся я ў цені, бы зломак які.

– Гэта, лічы, Колькаў кош, – сказаў стары. – Сам зрабіў. Пад маім наглядам. Адукаваўся ён хутка, макацёр варыць.

Чуў, дзядзька Хвядос?

– Калі ахвотнікам будзе да навукі, то і хлеб будзе есці смачнейшы, чымсьці мы, старшыня, з табой ядом. Бантон.

Я не стрымаўся тады і пахваліўся, што буду шафёрам, а дзед Грышка прыгадаў сваю байку, на іх у яго розуму багата, і сыпануў:

*Мой мілёнак вучыцца,*
*Не знаю, што палучыцца:*
*Ці то поп, ці то манах,*
*Ці то шохвёр на валах*

Усе засмяяліся, і я таксама. Прыдумае дзед Грышка. На валах. Не, не на валах. А – сапраўдным. Самым што ні ёсць. Калі толькі сам не перадумаю. Магу я перадумаць ці не? Цяпер гэтых спецыяльнасцяў – уга колькі, і бывае, што сёння хочацца стаць інжынерам, а заўтра яшчэ кім-небудзь. Цяжка выбраць адразу – кім. З наскоку. А можа, заўтра я пачую яшчэ пра якую прафесію, раней пра якую і поведам не ведаў? Цяпер жыццё такое, што трымай вушы тарчком. Напагатове. Гэта яму, дзеду, добра: сядзі на печы і глядзі ў столь.

Аднак наконт каша – малайчына: не прысвоіў сабе ўсе заслугі, а падзяліўся, як і мае быць, нават мне перапала больш пахвалы. І калі дзядзька Хвядос сказаў яму, каб не хваляваўся, у халоднай хаце зімаваць дзед не будзе, той, хоць і гаварун добры, змоўчаў, ні словам не абмовіўся, а на вачах заблішчэлі слёзы... А праўда, хто яму накапае таго торфу, хто яго высушыць, прывязе? Мы з Петрыкам? Падрасці б, а то з кар’ера не відаць. Вось дзядзька Хвядос – дык гэта фігура, ужо і вада будзе на дне хлюпаць, а яму па пояс. Да самага пяску дакапаецца. Наразае торф цаглінкамі і кладзе перад сабой, насвіствае, бывае, і расказвае што цікавае нам пра вайну, а мы з Петрыкам толькі паспяваем адносіць тыя сырыя тарфінкі і класці адна каля аднае – каб падсыхалі. Праз колькі дзён тады прыбяжым на балота і павернем іх на другі бок – няхай цяпер гэтак будуць да сонца.

– Ну што, абедаць пара, байцы? – глядзіць на нас дзядзька Хвядос і, не дачакаўшыся канкрэтнага адказу, вылазіць з кар’ера. А што яму вылазіць: раз – і гатова, парадак. – Давайце перакусім.

Давайце. Па праўдзе кажучы, дык і смокча пад лыжачкай. А сонца яшчэ высока. Падсілкуемся, і тады зноў упражэмся. Не прывыкаць. Надзейка таксама носіць торф з маткай, у іх кар’ер побач, адзін раз загледзелася на нас, пляснулася вобзем і тыцнулася прама носам у тарфіну. На той, мабыць, і адбітак твару меўся. Пабачылі б! Увесь твар чорны, як у негра, толькі вочы блішчаць. І калі я паказаў ёй язык, салупнула і яна, і тады была яшчэ больш смешнай.

Гледзячы на нас, селі абедаць і Шурмялі. Надзейка адвярнулася, не глядзіць нат у наш бок. Бачце вы яе, крыўдуля такая. Цаца! Мож-на падумаць, што гэта я ці Петрык піхнуў яе і яна так выпацкалася. Нават і крадком не гляне.

Дзе тут які сухі і лёгенькі камячок? Зараз я пакажу ёй, як дзьмуцца. На, атрымлівай. Міма. Можна кідок паўтарыць. На гэты раз дакладна, але не па адрасу – трапіў не ў тую спіну, у якую цэліўся, а ў матчыну, і ўбачыў, як Надзейка пырснула смехам, ледзь не падавалiся ежай, а маці пагразіла ў наш бок кулаком:

– Я вам!..

Дзядзька Хвядос папракнуў:

– Не шкоднічайце, хлопцы. Як маленькія.

Мы зрабілі выгляд, што тое тычыць зусім і не нас. Яшчэ Надзейка хіхікаць – а тут яе не абскачаш – пачне: што, атрымалі?! А калі б атрымалі, то табе якая справа, вяночніца? Торф насіць – не кветачкі пальчыкамі перабіраць. Зразумела цяпер, пачым фунт ліха? І не тое яшчэ будзе. Дай трохі падрасці, тады я ў кар'еры буду стаяць з рыдлёўкай замест дзядзькі Хвядоса, пабачыш, хто з нас герой, а хто і блізка не бываў. Што, атрымала? Насі, насі, Надзейка, сырыя цагліны, ды пад ногі паглядай часцей, а то зноў носам тыцнешся, уся выквацаешся, х-хі!.. Чаго гэта я? А можа, ёй балюча было, а мне тут смешна. І Петрык зыркае раз-пораз на яе? Ну, гэта ўжо замнога. Замест таго, каб варушыцца, ён ледзьве поўзае, і прытым не зводзіць вачэй з суседкі. Насільшчык, называецца. Я табе зараз пакажу, як не старацца, а па баках вачамі толькі вадзіць! Не тое прыпомню!

– Цыц, маладыя вераб'і! – высоўвае галаву з кар'ера дзядзька Хвядос. – Абодва малайцы. Не смяшыце людзей.

Магчыма, мы яшчэ б трохі і пасмяшылі людзей, але з'явіўся Кастусь, і дзядзьку Хвядосу ўжо было не да нас, а нам стала не да Надзейкі. Зух, а не Кастусь. Адразу:

– Вышэй нос, гвардзейцы! Як працуюць, Хвядос? Не лянуюцца?

Калі б і ленаваліся, дзядзька Хвядос нас не выдаў бы. І так зразумела, няма чаго пытацца. Ну, чуў: не лянуюцца.

– Яны малайцом.

Укусіў? Усюды гэты Кастусь нос усуне, той быццам бы і маленькі ў яго, але ўшчэміць. І ўжо зусім набраўся нахабства, пытае:

– Ну, калі там нам новы трактар дадуць на арцель, старшыня?

Толькі я што надумаюся, ён тут як тут. Пра тое, што я сабраўся пасля школы на трактарыста вучыцца, пранюхаў жа во недзе, і адразу падножку – ворсь. На такое толькі танкіст і здольны. А сказаў бы, што стану шафёрам, ён папытаў бы, калі будзе ў нас «палутарка». Давядзецца токарам быць ці слесарам на заводзе, а яшчэ лепш зваршчыкам – у горад яго цётка Раіса ні за што не адпусціць. Хоць там ад яго ўздыхнеш вальней. Камар назойлівы.

– Не ведаю, калі, – адказвае дзядзька Хвядос. – Сам чакаю.

– Падварушы, падварушы іх, старшыня. Я б гэты торф усім сасноўцам развёз, каб трактар быў. Магу і на машыне.

Усё, усё ён можа. Бачылі такога? Гэта яшчэ трэба паглядзець на свае вочы. Дрэў у вёсцы багата. Каб хоць за вуглы хат не зачапіўся,

хвалько. А то ўсё, што пабудавалі, паразварочвае, зраўнуе, ускудлаціць, як парсюк лычам мурог.

Ну скажы, скажы яшчэ што-небудзь, танкіст, прыдумай, у цябе гэта добра атрымліваецца. А мы паслухаем. Я ўжо вуха натапырыў. Так, так. Нібы пачуў мяне, гаворыць:

– Чуў, Хвядос, Лізавета прымака ўзяла?

– Не, не чуў. Адкуль прыбіўся? І хто такі?

– А старшыня павінен у першую чаргу ведаць. Перш, чым да нашых баб прыбівацца, прымак у цябе дазвол даўжон браць.

– Не звяртаўся, – жартам адказвае дзядзька Хвядос.

– Май на ўвазе.

– Багата ты да мяне звяртаўся.

– То я. А што тычыць прымака, то ён з Лазаравіч. І як ён Дняпро пераплыў, дохлы ж, адны рэбры... І носам чмыхае. Сухотачны нейкі.

– Такіх багата ходзіць.

– Багата. Пажыве трохі, пагрэецца, адкорміцца на Лізавеціных харчах – і далей пагалёкае. Калі пасля сябе след не аставіць.

След? Таксама скажаш, танкіст. Г-гм, толькі калі падэшва як на чобатах салдацкіх – во то след, а калі прымак той прыклыпаў у лапцях, то каму ён трэба, той след? Пройдзе дождж – і ўсё зліжа як карова языком. Вось вам і след будзе. Адна назва.

– Ну, добра... Я пайшоў. Сам капаю, сам нашу. Раюха хварэе... А наконт трактара, Хвядос, падварушы, падварушы!..

– Буду старацца.

– Глядзі ж! Я табе жыцця не дам.

– Ды гэта я ведаю.

Пазней я здагадаўся пра той след, які мог пакінуць Лізавецін прымак... Пашурупіў трохі галавой – і здагадаўся...

А вы думалі!

## 13. ЗРУБ

**Н**у, вось і надыйшоў той дзень, калі дзядзька Хвядос сказаў за снеданнем:

– Сёння, Колька, пачынаем хату будаваць.

Хацелася гукнуць: «Ура!», але мяне апярэдзіў дзядзька Хвядос:

– Будзем радавацца, калі зруб зробім і дах змайструем над галавой. А тады, ужо не спяшаючыся, перанясём туды і печ. Як жа без яе? Не, сяброўку сваю не пакінем, забяром з сабой.

– Забяром, – пагадзіўся, вядома ж, і я, бо не ўяўляў нават, як можна жыць у хаце без печы.

І адразу ж людзей каля нас сабралася – уга колькі! Нават дзед Грышка прытупаў, з той самай сякерай, з якой збіраўся на паляванне, але яго пыл астудзілі тады мужчыны. Пасля таго як маланка забіла бабку Антосю, дзед Грышка крыху змяніўся – пасмірнеў, ці што: яго цяпер менш бачаць на вуліцы і не так часта чуюць ягоную філасофію. Аднак калі прачуў, што старшыня пачынае будаваць хату, не ўседзеў дома, таўчэцца каля нашай печы.

– Хвядос, сякеру навастрыў, бачыш? – паказвае ён інструмент. – Што брытва. Тады не спатрэбілася, то сёння, спадзяюся, адвяду душу.

Дзядзька Хвядос усміхаецца:

– Адвядзеш, Грышка, абавязкова. Хоць і цяжка табе будзе, гляджу, уціснуцца... Мужчын – бачыш? – колькі. Канкурэнцыя!

– Я па-за канкурэнцыяй, – махае сякерай дзед Грышка. – Так, як я, рэдка хто цёс зробіць.

Але Мікіта не пагадзіўся:

– Адпачні, Грышка. Ці не намахаўся ты за сваё жыццё сякерай?

Дзед Грышка адбівае чарговую атаку:

– Ша! Талака ёсць талака. Тут усе роўныя. І не камандуй, а то парушыш усе мае планы. Во так! Я, можа, сабе слова даў: памагчы старшыні хату пабудаваць, і можна будзе... Во так!

Пэўны час было ціха, усе маўчалі, а потым – бы па камандзе – заляпалі сякеры, пасыпаліся жарты, а дзед Грышка пагадзіўся нарэшце, што тут шмат працы і без ягонай сякеры, таму паклаў яе на загнет, і спярша пэцкаў галавешкай шнур, каб мужчыны маглі адбіць роў-ную палосачку на бервяне, а тады разам са мной і Петрыкам збіраў трэскі, якія мы зносілі ў адну кучу.

– Калі талакой рабіць, то любая работа добрая, – казаў ён і зрэдку цыкаў на нас: – Варушыцеся, малеча! Гэта вам не суп лыжкай сёрбаць за сталом. А мне вось цікава-інцярэсна, у які бок вокны будуць у гэтай хаце? Туды ці сюды?

Дзядзька Хвядос пачуў дзеда Грышку, узяў таго за локаць, павярнуў:

– Вось у той бок будуць вокны... Да сонца... І шлях відаць... Як на далоні.

– Цікава-інцярэсна! Давай, старшыня, хутчэй будуй жытло ды перабірайся ў хату, – дзед Грышка глядзеў удалячынь, на ягоных вачах заблішчэлі слязінкі, але стары не зважаў на іх, не саромеўся. – Калі вайна не скончыцца да зімы і мой Пятро не вернецца, то дазволь

перад тваімі вокнамі іншы раз пасядзець: узімку холадна чакаць на вуліцы... І во, забыўся папытаць: не пашкадуй колькі трэсак... падсохнуць, то на распал добра будуць...

Шляхам у нас называюць шырокую дарогу, якая вядзе з вёскі да шашы. І ўсе мужчыны наблізіліся да Хвядоса з Грышкам, стаялі побач і таксама глядзелі ў той бок, адкуль прыходзяць у нашу Сасноўку заўсёды і смутак, і радасць...

На шляху пакуль нікога не было відаць.

І мужчыны пачалі зноў цюкаць сякерамі – будавалі зруб. А дзед Грышка нагроб трэсак, пасядзеў з імі на бёрне, а тады з крэктам устаў і моўчкі пасунуўся да сваёй хаты. Мы з Петрыкам усхапіліся, набралі таксама трэсак і неўзабаве дагналі старога. Ён, пачуўшы нашы крокі, спыніўся, паглядзеў на нас і, стомлена ўсміхнуўшыся, сказаў:

– Вы, хлапцы, мне і памерці не дасце!

Не дадзім, дзед Грышка.

Не атрымаецца.

Будзем жыць.

Для чаго і хаты будуем з вокнамі да сонца і на шлях...

## 14. НАВАСЕЛЛЕ

**Х**ату не паспелі пабудаваць да першых халадоў. Але паколькі зруб быў і меўся дах над галавой, то вясковыя цеслі шчыравалі ў ёй і ўзімку. Можа, і раней справілі б мы з дзядзькам Хвядосам наваселле, але прыйшла пахавальная на Сцяпана, і ён пэўны час хадзіў сам не свой і зусім забыўся, здавалася, на хату: вельмі цяжка пераносіў страту сына. А хто б гэта лёгка перанёс?

Таму з наваселлем мы крыху спазніліся.

Не, што ні кажыце, а Петрык любіць падлабуньвацца да дзеда Грышкі. Вось і на наваселле побач, плячо ў плячо, прытупалі стары і малы. Нават маці яго, цётка Матруна, адстала. Дык яно ж і праўда – хіба за такімі угонішся, паспееш! Асабліва, калі ў хаце сталы ломяцца ад ежы. Слінкі пракаўтнеш. Петрык, праўда, ужо паспеў паласавацца: разам жа мы і чыгуны памагалі Лізавеце і Варцы ў печ стаўляць, і за вадой бегалі да калодзежа, ды і яшчэ чаго толькі ні рабілі – стараліся, каб наваселле было як трэба, бо само слова «наваселле», праўда ж, нейкае дужа ўжо вясёлае, заліхвацкае, і пахне не толькі жывіцай і трэскамі, не толькі глядзіць на нас, людзей,

светлымі вокнамі, але і голасам дзядзькі Хвядоса запрашае ўсіх за стол:

– Паглядзелі хату, а цяпер за стол, землякі! За стол, там і пагамонім!

Дзед Грышка падміргнуў мне і сказаў:

– А што мне было з гэтай хатай знаёміцца, калі я, можна сказаць, не толькі ад яе трэскамі снабдзіўся на цэлы век, але і генеральскія лампасы адбіваў сажай на бёрнах. Так ці не так, але ў баку не стаяў! Хвядос, пацвердзі!

Дзядзька Хвядос шырока ўсміхнуўся:

– А хто пра гэта не ведае, дзед?

– То-та ж! А гэта прымі, навасёл, ад мяне, – дзед Грышка ўзяў у кішэні падкову і пад воплескі ўсіх людзей, што набіліся ў хату, уручыў яе гаспадару. – Без яе аніяк нельга. На шчасце. Паказвай, куды садзіцца.

– На сваё месца, дзед, каб у акно зручна было глядзець, – нагадаў старому дзядзька Хвядос.

– Гэта ты правільна, – кіўнуў лысінай дзед Грышка і пачаў прабірацца на сваё месца. – Свая хатка, як родная матка. Так-так. Я таксама ўжо ў сваёй, у старэнькай, як-небудзь… Для кожнай птушкі сваё гняздо міла. Ну, я сеў. І ў акно дарогу бачу. Пачынайце міцінг.

Але наконт мітынгу яму запярэчыў Мікіта:

– Мітынгаваць прыходзь да мяне ў кузню. А тут наліваць трэба з бутлі. Каму не зразумела, паказваю – як. Глядзі, дзед.

– Ды ну цябе! – замахаў на Мікіту дзед Грышка. – Каго вучыць уздумаў, блазнюк! Вы бачылі яго? Землякі! Ён яшчэ за матчын падол трымаўся, а я ўжо смактаў яе, халеру. Так што… ведай, дзе і што казаць, Мікіта.

Мікіта нешта адказаў Грышку, але яго ўжо ніхто не чуў, бо ў парозе паказалася Лізавета, яна трымала на выцягнутых руках ручнік, а на ім сонцам ляжаў прыгожы, як намаляваны, круглячок белага хлеба.

– Красна хата не вугламі, а пірагамі! – сказала Лізавета і перадала круглячок дзядзьку Хвядосу.

Той пацалаваў хлеб, адламіў кавалачак, пакаштаваў. А тады запрасіў паспрабаваць усіх нас.

– Мне калі мякішу толькі, – папярэдзіў дзед Грышка.

Я адшчыкнуў яму, чаго той прасіў, але дзед не стаў есці, а паклаў той кавалачак на ўскраек стала, а да Мікіты, які прымасціўся побач з ім, шапнуў:

– Занюхаю тады…

Што ён сабраўся занюхваць, я, канешне ж, здагадаўся: не маленькі, ведаю. І такая магчымасць яму неўзабаве прадаставілася. Дзед Грышка, пасля таго як дзядзька Хвядос падзякаваў усіх за помач і ўвагу, бо адзін бы ён хату такую, як звон, аніяк не агораў, адпіў траха з карца, а тады смачна занюхаў кавалачкам пірага. Пасядзеў крыху, і зноў паднёс яго да носу і ціха сказаў:

– Так пахне, што і пракаўтнуць страшка... Шкада. Нюхаў бы і нюхаў.

Мікіта пачуў, паклаў перад дзедам і свой кавалачак:

– Ад мяне асабіста. Глядзі, як сыты кот на мыш, а я з рыбай і капустай пазабаўляюся. А то молат не падніму. От. Ды ты, стары, і не выпіў? І тут увільнуў?

– Сваю дозу ўкінуў, – ціха адказаў дзед Грышка, пасядзеў яшчэ крыху моўчкі, зноў панюхаў кавалачак пірага, потым патрымаў у руках Мікітаў і вярнуў яго – падсунуў бліжэй да каваля, а сам заспяваў:

*Сам кудравы, кучаравы,*
*Кудры ўюцца ў тры рады, ой.*
*Расчашу я свае кудры*
*Чыстым, густым грабяшком,*

Калі дзед Грышка заспяваў пра свае кудры, толькі адзін ён і не ўсміхнуўся. А такія ж лысыя, як ён, мужчыны і дзяды крадком мамацалі свае лысіны, нібы хацелі пераканацца, ці не выраслі на іх валасы. Ага, так і разагналіся. Як было, так і ёсць: гола.

– Рана ты песню зацягнуў, дзед Грышка, – спыніў яго Хвядос. – Выпіць трэба па чарцы, паабедаць. А ты адразу... Усяму свой час.

– Каму рана, каму – не, – не пагадзіўся запявала. – Тут лавіць момант трэба. Як і дзяўчыну. Упусціш – іншыя ўхопяць. А табе – пшык застанецца.

А неўзабаве ўсе толькі і гаманілі, хвалілі дзядзьку Хвядоса, што ён і старшыня добры, і мяне даглядае, як роднага сына, толькі вось адзін у яго недахоп – не глядзіць у бок жанчын, хоць ты яго забі. Дзядзька Хвядос аднекваўся, калі яму даводзілі з усіх бакоў пра няўвагу да жанчын, казаў, што не час цяпер імі займацца, а дзед Грышка нагадаў, што яго сын Пецька не абы-дзе, а на фронце гэтым самым займаўся: адной рукой немцаў калашмаціў, а з другой не выпускаў сваю нявесту Зінку. А тут яму, бачце, некалі. Гультай нібыта дзядзька Хвядос, і не кажыце больш нічога пра яго. Абібок. Дзед Грышка хацеў усё гэта сказаць больш шырокаму колу, падымаў і руку, і прасіў слова, аднак яго, акрамя нас з Петрыкам ды Мікіты, больш ніхто і не пачуў. Тады ён роспачна зрабіў наступнае заключэнне:

– У нас пасля першай, цікава-інцярэсна, няма каму гаварыць, а пасля трэцяй няма каму слухаць.

Мікіта пахваліў яго за філасофію і сказаў, што калі б ён, дзед, вучыўся, то далёка б пайшоў. Я ўявіў, як ён некуды пайшоў бы, і нідзе, як у нашай Сасноўцы, больш дзеда Грышку не бачыў. Трэба ён таму гораду. Там, відаць, сваіх разумнікаў хапае. Ды і як без гэтага дзеда нам, скажыце? Не соладка было б. Сумна. А так, хоць войкае і ахае раз-пораз, чмыхае і чыхае, а свой дзед Грышка, свой, наш!

Не адразу агледзеліся людзі, што на наваселлі няма Кастуся з Раісай.

– Ёй піць нельга,– таямніча, загадкава сказала Варка і зрабіла такі твар, што не кожны і прачытае на ім тое, што яна хацела сказаць. Старэйшыя, праўда, здагадаліся, а мы дык і не думалі асабліва здагадвацца, вельмі нам карціць! Ну, няма і няма. Трэба ён тут, той Кастусь! Ух! Так і ўцёрся ў нашу Сасноўку, ахмурыў Раюху, а мяне з Петрыкам дык і зусім за людзей не лічыць: то за нос ухопіць, то за вуха шкуматне... Можна падумаць, што сам такі ўжо герой. Метр шэсцьдзясят з кепкай. Гэта калі кепку падкінеш угору. Форсу больш, чым трэба. Задавака.

– Быць не можа, каб танкіст не прыбег, – сказаў дзед Грышка. – Тады ў лесе нешта загіне. Ён жа, анціхрыст, усюды паспявае. Быць не можа!..

Мікіта яго паправіў:

– Усюды, гэта факт, не сакрэт. Але – не за стол. Заўваж, Грышка: не за стол.

– Тут ты праўду гамоніш, – пагадзіўся стары. – Ісцінную. Не налягае на градус. Пашанцавала дзеўцы.

Бачце вы яго, дзеда! «Пашанцавала». А раней што спяваў, салавей ты наш? Быў жа на нашым баку, за Хвядоса і Сцяпана ў грудзі ляпаў, а цяпер што – за танкіста? Так, атрымліваецца? Лёгка, аднак. Гоп – і там! Вось з такімі і задумай зрабіць што-небудзь сур’ёзнае. Тут жа здрадзяць. І вокам не міргнуць.

– Хай Раюху караўуліць, – дзед Грышка паскроб пальцам за вухам. – Дзела такое, не кожны дзень бывае. Х-хе! Яно караўуль не караўуль, але і прашляпіць можна. Як я. Прашляпіў, калі Пецька мой паявіўся. Адвярнуўся кудысь, падыходжу да хаты, а ён, гарлапан, крычыць ужо на ўсю аселіцу. Гарластым і вырас. Ды ты, Мікіта ж, памяркуй: на фронце бабу сабе знайшоў, ну, ці не ў мяне! Лагойка, адным словам. Людзі! Пачакайце! А калі гэта Кастусь з Раісай у сельсавет збегалі, а? Як гэта я ўпусціў такі важны момант?

– А вось тут і сапраўды прашляпіў ты, дзед Грышка! – засмяялася Лізавета.

– Што праўда, тое праўда, – пагадзіўся стары. – Ды хіба ж за маладымі калі паспееш? Налівай!

А калі ўсе напеліся і наскакаліся, а потым зноў селі за стол, то раптам людзі зашапталіся, пачалі перадаваць навіну па ланцужку, адзін аднаму, і калі дайшла яна да дзеда Грышкі, тут ланцужок той не проста абарваўся, а трэснуў з вялікім грукатам. Стары ўстаў, махнуў рукой і строга сказаў:

– Цыц мухам-камарам! Ціха! Ядры вашу!.. У такі дзень хлапец у танкіста з Раісай нарадзіўся, калі наваселле. Цікава-інцярэсна, га? Супадзенне якое, землякі. Наваселле і народзіны. Значыць, шчаслівы будзе хлапец. Вось за гэта і я вып'ю да дна. І не толькі занюхаю. Ну, з Богам, за мальца, за новага жыхара нашай вёскі. – І ён кульнуў пітво ў свой бяззубы рот, аддыхаўся і сказаў: – А я і ведаў, што танкіст нашкодзіць у нас. І тое добра! Карысная шкода!

А я ўспомніў, як Раіса прыйшла да дзядзькі Хвядоса ўлетку, заплакала і адразу ж кінулася яму на шыю: «Прабач мяне, даражэнькі! Прабач, дзядзечка!.. »

Калі разыходзіліся людзі з наваселля, то паабяцалі трохі пазней схадзіць да Раісы ў адведкі, глянуць, на каго падобны хлапец. Хоць дзед Грышка на ўсе сто пераканаpopulaны, што на танкіста, на каго ж яшчэ – той нідзе свайго шанцу не ўпусціць. У любога на хаду падэшвы адарве.

А Мікіта ўзяў старога за локаць, паказаў на падкову, што вісела над парогам, і гарэзліва ўсміхаючыся, паківаў на яго пальцам:

– Больш без дазволу не бяры, Грышка. Уцяміў? Усе падковы расцягнеш з маёй кузні, не будзе чым узімку і коней каваць. Ногі паламаюць.

– Яшчэ зробіш, – адмахнуўся дзед Грышка. – Былі б наваселлі. Былі б мы. А жалеззя знойдзем. Вунь яго, у полі, колькі!..

І Мікіта не знайшоў, што адказаць старому.

## 15. І ЗНОЎ НА ПЕЧЫ

**Ц**япер над печчу была столь. Не параўнаць. Хоць снег, хоць дождж – нічога не страшна. А толькі ляжы ды слухай, як кроплі сякуць па саломе і зрэдку, калі касы дождж, па акну. Дык гэта ўжо можна слухаць, нават прыемна. А калі слухаеш, то марыцца хораша – зусім, як у кніжцы. Хутчэй падрасці б. Ды ў школу ФЗН падацца, дзе,

кажуць, не толькі форму даюць, але і кормяць. На токара ці слесара. Хоць не, лепш усё ж на трактарыста.

Едзеш на трактары, як дзядзька Сёмка, а дзеці бягуць услед і гагочуць, нібы гусі: га-га-га-а! Канешне, просяцца, каб падвёз. Але ж куды я вас, малеча, пасаджу, калі ў кабіне месца толькі для мяне аднаго. Як адмерана. Нават Петрык, паглядзіце, не можа ўціснуцца. Так-сяк уладкаваўся. У цеснаце не ў крыўдзе. А як жа мне яго, дружбака, не ўзяць? Ну, гэта ўжо даруйце! А дзед Грышка сарве з галавы тады сваю шапку, махне рукой і скажа ўслед:

– Забыліся, хто мне ласкуты падаваў, калі я кажухі шыў? Цікава-інцярэсна. То-та ж! Ці не я казаў, што з яго чалавек вырасце! Га? А вы не верылі, блазнюкі! Наце вам! Неслухі, адным словам!

А то ўявіцца раптам, як адчыняюцца дзверы і на парозе з'яўляецца мой тата, глядзіць на мяне, усміхаецца: вось і я, Колька! Толькі пісьма ад таты няма і няма. І я цяпер вось і не ведаю, чакаць тату ці не. Хоць што тут не ведаць – чакаць, абавязкова, каго ж яшчэ, калі не яго! І Пятра Лагойку, сына дзеда Грышкі. Усіх.

Ляжу на печы і ўяўляю, як будзе ў нашай Сасноўцы, калі ўсе яны, салдаты, вернуцца. Удзень – чаму ж, добра ляжаць, а ноччу страшна. У Іскані вунь парсюка ўкралі бандыты, кажуць усе ў нас, распаролі яму жывот, вантробы выпусцілі, а сала і мяса забралі.

Цяпер гэтыя бандзюкі толькі і бачацца, як недзе на двары штосьці рыпне-скрыпне, і мроіцца, што яны там вынюхваюць нешта сваімі доўгімі і хлюпатымі насамі. А што ў нас вынюхваць, каб папытаць? У хлеве пакуль пуста, вецер гуляе. Ні парсюка, ні каровы. Адны куры. Хоць бы сабаку завесці. Дзядзька Хвядос усё абяцае шчанюка аднекуль прынесці, быццам яму там нехта не пашкадуе, аднак ці забывае, ці за нос водзіць.

А сам і не прыйдзе тады-сяды начаваць. Адзін тут і слухай, затаіўшыся, ці не шлындае там па двары хто? Казаў жа: давай, дзядзька Хвядос, сабе аўтамат пакінем, спатрэбіцца. Дык не, увесь наш арсенал зацапаў і адвёз у раён. Галава таксама! А сам цяпер: «Я, Мікалай, не буду начаваць сёння дома. Не баішся?» Было, што і баяўся, аднак Петрык навошта? А тады высветлілася – во дзівосы, га! – што Петрык на ноч да мяне, а дзядзька Хвядос – да яго. І дзе яны толькі размінаюцца? Дзед Грышка, калі даведаўся пра гэта, гыркнуў на нас абодвух і крыху мякчэй сказаў:

– Калі ўжо калгас, то і хай будзе калгас!

Потым я пасядзеў, падумаў і зразумеў, што значаць гэтыя словы. А значаць яны наступнае: можа так стацца, што ўсе мы – і дзядзька

Хвядос, і цётка Матруна, і я з Петрыкам будзем жыць вось у нашай новай хаце. Усе разам. Адной сям'ёй. Цікава, а будзе насіць Петрыкава маці, як і раней, ручнік на плячы і пускаць яго ў ход бездай прычыны? Наўрад. А то моду ўзяла. Дзядзька Хвядос укажа на яе месца, калі трэба будзе. Прывучыць. Пры ім такая самадзейнасць не пройдзе. Цыкне – і навядзе парадак, не дазволіць, ясная справа, каб нехта нас, мужчын, крыўдзіў.

Але пакуль – маўчок. Пажывем – там відаць будзе, што да чаго. Пабачым.

Печ жа новая, яшчэ лепшая, чым ранейшая, хоць і зроблена з тойсамай цэглы. Перасыпалі, пeратрэслі. Трохі дабавілі новых цаглін спадыспаду – цэглу рабілі самі, на двары. Я больш мясіў гліну нагамі. Хоць ногі адмыліся – за ўвесь час, блішчэлі ажно, нібы воскам нацёртыя. Пячнік, дзядзька Лёха, зрабіў пяколак і камянок. У пяколку цяпер ляжаць самыя сапраўдныя запалкі, загараюцца адразу, толькі шаркні па цёрцы. На камянку іншы раз мы варылі з дзядзькам Хвядосам бульбу, і тады не трэба было запальваць лучыну – светла і так у хаце, а сухія дровы патрэсквалі, салютавалі, і я толькі сачыў, каб яны далёка не стралялі, каб не сваволілі, а то, чаго добрага, трапіць вугельчык на апратку ці на што іншае, тады пагрэем неба.

На печы, бывае, і ўрокі вучу. Вусныя. А калі збяруцца ў нас мужчыны, я выглядваю з-за коміна ці проста ляжу і слухаю, пра што яны гамоняць. Мікіта выпісаў газету і ўсім чытае. Астатнія каменціруюць пачутае. Іншы раз разгараюцца гарачыя спрэчкі. На роўным месцы. І я тады думаю: хто каго? Дзядзька Хвядос, як самы памяркоўны, супакойвае:

– Ад гэтага, што мы скажам ці не скажам так або гэтак, нічога, сябры мае, не зменіцца. Хто нас дзе пачуе? Сталін? Крэмль? Успомніце Тамаша. Па-рознаму можна да яго адносіцца, а чалавек праўду гаварыў, калі першы раз Козыраў прыязджаў. Каля маёй печы. Ніхто нас не пачуе і ў звон біць не будзе...

Мікіта ўсё ж не здаваўся:

– А я гавару, што каб не Сталін... то б, можа, вайны і зусім не было!

Бач ты яго, Мікіту! Ён што, разумнейшы за дзядзьку Хвядоса? Каб жа не так. Старшыня ўсё ж. Выбралі ж самага разумнага, галавастага. Як сказаў бы дзед Грышка, у яго макацёр на месцы. Мікіта ж пра гэта таксама ведае, але ж задзіраецца. І навошта, каб папытаць у чалавека? Хай бы хто іншы, у каго клёпак не хапае, а то ж сам камандзір партызанскага атрада. Яшчэ і газету выпісвае. Грамацей!

А тады пра мясцовыя навіны, калі надакучыць палітыка, пачынаюць гаманіць. І пра жанчын, і пра мужчын... іншы раз забудуць пра мяне ці падумаюць, што я сплю, і такое скажуць, што мне потым сорамна перад імі паказацца, каб на вуліцу выскачыць па патрэбе. Застаецца хітраваць – раблю выгляд, быццам спаў, моршчуся, злёгку хістаюся, быццам яшчэ сонны, як леташняя муха, тру кулакамі вочы, дзіўлюся – дык гэта яны яшчэ ўсё тут? – і выкульваюся ў сенцы.

Не пражывеш, не абхітрыўшы. Можна падумаць, што я па сваёй ахвоце так раблю. Вымушаюць.

Усё б добра, можна слухаць іхнія байкі, але ж смуродзяць – хоць сякеру вешай. Не прадыхнуць. Спярша я чмыхаў, як паравоз, а тады прывык да той атруты, і хоць мы таксама з Петрыкам ужо спрабавалі курыць сухое альховае лісце, горкае і пякучае, я ўзненавідзеў гэтае курэнне і пакляўся, калі выpасту і буду вялікім, нават не глядзець на табаку: каму трэба, той няхай і курыць, а я не дурань.

Не, усё ж разумны той чалавек, які прыдумаў печ. Не менш разумны і дзядзька Лёха, які яе выштукаваў, бы цацку, і паказваецца ў Сасноўцы вельмі рэдка: стары халасцяк ходзіць з вёскі ў вёску, робіць не толькі печы і грубкі, а, як падслухаў я за тым жа комінам, і яшчэ нешта... Дарослым можна пра гэта гаварыць, а нам, дзецям, – што ты!..

## 16. НА ПРЫЗБЕ

**У** нашу новую хату любіць прыбягаць Петрык. І ў той дзень, каб не пачуў дзядзька Хвядос і не задаваў лішніх пытанняў, я шапнуў яму:

– Прыходзь увечар на Грышкаву прызбу.

– Навошта?

Ён і гэтага не ведае. Ну, як хочаш. Сядзі дома, мякеша. На прызбе ж цяпер збіраюцца не толькі дзеўкі з іскансккім гарманістам Аркашкам, але і такім, як і мы з Петрыкам, дазволілі. А чаму так над намі зміласцівіліся, дык тут і грамацеем вялікім не трэба быць, каб зразумець: дзед Грышка ўсім распавёў, якія мы харошыя і амаль ужо дарослыя, а сур'ёзнасці ў нас – хоць цераз край, бо хто ж яшчэ, як не мы з Петрыкам, першыя памеліся старога засыпаць торфам. А прызба недарэмна ж Грышкавай завецца. Ягонай. Дык хто тут гаспадар? Які Аркашка? Глухая сцяна, тая, што глядзіць на вуліцу і не мае ніводнага акна, уся аддадзена пад гулянне. Спіць ці не спіць сам стары, калі дурэюць хлопцы і дзеўкі і рыпае гармонік, ніхто не ведае, але адно вядома дакладна: дзед Грышка вельмі ганарыцца, што збіраецца

моладзь менавіта каля яго, а не дзе-небудзь. Буслы вунь гняздо каля кепскіх людзей, хціўцаў і прайдзісветаў розных, не зробяць. Так што майце на ўвазе, анціхрысты! І што яшчэ цікава, ніколі стары не выходзіць паглядзець, што робяць на ягонай прызбе маладыя сасноўцы, пэўна, яму і так усё зразумела. А можа, ён ляжыць тады на сваёй печы і маладосць успамінае, і яму ў тыя хвіліны таксама робіцца хораша і траха весялей на гэтым свеце жыць-трымацца.

Мы і раней на прызбе былі не з боку прыпёку, ведалі сабе цану, аднак іншы раз нехта са старэйшых хлопцаў мог дазволіць сабе задраць перад намі нос і паказаць, што ён тут немаведама якая шышка, любы загад аддаць – прынесці-падаць нешта, хоць бы тую круцёлку са сланечніка, і звярнуць яму галаву належала ў агародзе Лізаветы ці Варкі, бо ў тых яны заўсёды апетытна галовы звешваюць ледзь не цераз самы плот, то цяпер хай паспрабуюць падаць нам такі загад, то натыкнуцца!.. Шчыт ёсць. І гэты шчыт, тое кожнаму зразумела, – дзед Грышка, наш сябар і таварыш.

Зусім нядаўна на прызбе з'явіўся новы кавалер. Ён вельмі худы. Размаўляе па-гарадскому, ад яго тхне адэкалонам, нібы ад п'яніцы гарэлкай, і курыць ён толькі «Казбек». Спярша вывудзіць з прыгожага карабка папяроску, паляпае ёю па таму Казбеку, а ў той самы час, калі ляпае, глядзіць уважліва на нас і фанабэрыста пытае:

– Как у вас здесь житуха, братва? Тихо, однако. Не в жилу как-то... С Питером нашим разве сравнишь? Ни трамваев у вас, ни метро! Скучища! Одно хорошо: картофан есть. А мне после блокады этов самый раз, однако! Врач прописал. С возрастанием, а то сразу может заворот кишек произойти. Кому не понятно, что я глаголю?

І смяецца, весела і гучна, і ўсе, нават Надзейка, паварочваюцца да блакадніка Саныча, які прыехаў з Ленінграда да цёткі Варкі ад'ядацца, бо там, калі яго паслухаць, «сплошная бесхлебица».

Саныч расказвае нам пра голад, што быў у Ленінградзе, і калі яму верыць, то людзі паміралі з голаду. Нам у гэта цяжка паверыць, але ён так пераканаўча пра ўсё гэта апавядае, што нічога не застаецца, як разяўляць рот і слухаць.

– На моих глазах, братва, был случай из разряда обычных для блокады случаев, можно сказать без особых преувеличений. Стою в очереди за хлебом. Мамку отправил домой, пусть хиляет старушка, чё в ней осталось? А я всё же мужик, выдюжу.

Словы ў яго, Саныча, такія, што я не ўсе і разумею – упершыню ж чую.

– Как-никак во флотке учился до сорок первого. Там – школа, похлеще, чем в кадетке было. Н-ну да, о чём это я? Правильно, спасибо, братиши, за подсказку. И вот хлебушек получает старуха... на всю семью, однако, потому как полбуханки – это, поверьте мне, уже кое-что. И не успела она, старуха, спрятать тот хлеб, как какой-то прощелыга выхватывает его и сразу в рот. Мужики налетели. С очереди. Дубасят его, а он хлеб не отдаёт – на земле лежит, свернулся, и жуёт, жуёт, а его чешут со всех строн. Тумаками и ногами. Так и не вырвали – всё проглотил. Мёртвой хваткой. Не вру. Было. Да чего вам говорить-то, пройти надо... всё одно не поверите.

Мне зрабілася шкада тую бабульку, якая засталася без хлеба, бо Саныч сказаў, што ніхто з ёй не падзяліўся. «Самим мало, однако...» Пакуль грае гармонік і дзяўчынкі таўкуцца перад сцяной Грышкавай хаты, Петрык просіць ленінградца, каб ён зноў расказаў тыя блатныя вершыкі, якія ён расказваў нам учора. Дзяўчынкам нельга іх слухаць, не дараслі яшчэ, а нам – калі ласка. Мы слухаем Саныча, над вёскай вісіць месяц, і свеціць так хараша, што на вуліцы светла, і блакаднік не забывае сказаць:

– Это я вам, братиши, белую ночь привёз.

Ноч – і белая? Спярша мы не ведаем, што гэта за ноч такая, а калі Саныч кажа, што ў ягоным горадзе бываюць ночы, як дні, светлыя, хоць іголкі збірай, застаецца пагадзіцца: быццам не балбатун пляменнік цёткі Варкі, бо абы-хто столькі вершыкаў і песень не запомніць, у яго галава будзе мякінай набіта ці чым яшчэ, толькі не імі. Во, на гэты раз спявае:

*В одном городе близ Саратова,*
*Под названьем тот город Петровск,*
*Там жила семья небогатая.*
*Мать бледна там была, словно воск.*
*Долго мучилась, разнесчастная,*
*И решила покинуть наш свет,*
*Позвала к себе своих детушек*
*И дала им последний совет:*
*– Милы детушки, покидаю вас,*
*Трудно будет без мамки вам жить,*
*Не оденут вас, не обуют вас,*
*И голодным придётся ходить.*
*Поглядев на них, мать заплакала,*
*И вздохнула она тяжело.*
*– Милы детушки, покидаю вас, –*

*Так закончила слово своё…*

Не ведаю, як вам, а мне падабаецца песня. Трэба будзе папрасіць Саныча, каб перапісаў. Спатрэбіцца. У тым жа горадзе, калі паедзем з Петрыкам на зваршчыкаў вучыцца – а гэта мы цвёрда вырашылі – то прымусім такіх, як самі, раты разінуць да вушэй. А то ж! Толькі я падумаў пра гэта, а тут зноў танец.

– Попрыгаем, братиши?

Саныч паглядзеў на нас, але мы яшчэ ніколі не скакалі, таму толькі паглядзелі на яго здзіўлена, і ленінградзец падаўся да дзяўчынак. Адразу перад Надзейкай спыніўся. Гляджу, ужо кружаць... Мне ажно млосна зрабілася. Гэта ўжо замнога! Толькі прыехаў – і давай адразу запрашаць! Таксама цаца і Надзейка, вяночніца. З першым стрэчным пайшла. Саныч пабудзе-пабудзе, ды і паедзе, а ты з кім застанешся, дзівачка? Што, можа, думаеш, ён і цябе ў Ленінград забярэ? Х-хы, ды там такіх, мусіць!.. Пачакай, пачакай, ты яшчэ пачуеш пра мяне. Нядоўга засталося. Толькі спярша трэба ўсё ж навучыцца танцаваць. Лягчэй за ўсё крыўдаваць на ленінградца альбо Надзейку, бо як я магу запрасіць яе, калі мядзведзь мядзведзем. Усё, вырашана: вучымся танцаваць. І ў тым жа горадзе гэтая навука спатрэбіцца, а тобудзеш там туйбень туйбенем. А хто б гэта нас толькі навучыў? Ну, над гэтым мы яшчэ падумаем... І тады на прызбе не будзем стаяць, рукі ў кішэні, а дадзім перцу. Надзейка, можа, першая разіне рот.

А пакуль хай пакружыць з Санычам. Не шкада. Ён чалавек добры. Толькі аслаб у сваёй блакадзе, хоць, бывае, так зарагоча, хоць вушы затуляй. Вось ад'есца ў цёткі Варкі і паедзе горад свой пазбаўляць ад рознага ламачча і друзу, што застаўся пасля бамбёжак.

Ніяк у тым Ленінградзе без нашай бульбы.

## 17. ЗАПАЛКІ

**Х**ацелася нешта добрае зрабіць дзеду Грышку. Торфу яму ўлетку завезлі ажно тры кашы – два мы, гэта значыць дзядзька Хвядос, я і Петрык... цётку Матруну можна і не лічыць: яна толькі нам перашкаджала, адгаворвала. «Што гэта вы за добранькія такія! Хіба ў Грышкі сваякоў няма? Ёсць! Вунь хоць бы Лізка!.. То хай і паклапоцяцца свае. А дзе гэта бачана, каб торф раздаваць налева і направа? Што гэта вы за гаспадары такія? Раскідоны!» Чулі? Аднак варта было паглядзець на цётку дзядзьку Хвядосу сваім цвёрдым і пранізлівым позіркам, і яна ледзь рукі не падняла ўгору: адразу здалася. Вязіце што хочаце і куды хочаце. А нам толькі гэта і трэба. Ды і хто ты яшчэ

нам, цётка Матруна? Можа рана камандаваць пачала? Ну а яшчэ адзін кош перакуліў прама перад брамай старога Тамаш. Ад яго Грышка не спадзяваўся атрымаць такі падарунак, але ўсё роўна быў рады: хай хоць сам чорт пашле торф, абы было чым паліць у печы.

Увесь торф мы з Петрыкам і занеслі ў хлеў. Ужо ў самым канцы паказалася Надзейка са сваёй карзінай і моўчкі таксама пачала насіць торф. Нават не папытала, ці можна. Знайшлася прынцэса! Але насі, не прагоніш жа, хоць нам і самім там не было чаго рабіць. Толькі разагналіся. Дзед Грышка спярша пахваліў нас, а потым і накарміў. Але Надзейка за стол не пайшла, заўпарцілася, а нам гэта толькі і трэба: больш самім дастанецца, бо ў старога, як заўсёды, шкрабаеш у чыгунках доўга, а нашкрабеш мала. Такі ядок, а нас жа не чакаў. Як з неба ўпалі мы, і адразу за ягоны стол – гоп. Аднак наеліся.

Сядзелі, не хацелася дадому тупаць. Добра было мне, не ведаю, як Петрыку. Захацелася яшчэ нешта такое важнае, каб ён потым доўга ўспамінаў і ўсім хваліўся, зрабіць дзеду Грышку. Толькі што? Сядзелі, думалі. Торф занеслі. Дроў у яго і так поўная дрывотня. Яшчэ нам стала цікава: калі і дзе ён іх столькі назапасіў? Быццам і не цюкаў сякерай. Мусіць, яшчэ калі была жывая бабка Антося, тады. Вады таксама яму прынеслі. У хаце сам падмяце, не вялікі пан, а то ўсё паробім, а што тады яму застанецца?

Ды і калі шчыра, я не асабліва люблю драчом шкрабаць па падлозе – не мужчынская гэта справа. А яшчэ калі шчырэй, то дома я намёўся ўволю: не будзеш жа дзядзьку Хвядоса прымушаць. Па-першае, ён даўгалыгі, яму няёмка нахіляцца, а па-другое, каб не быў старшынёй, то і нахіліўся б, нічога б з ім не зрабілася.

І вось цяпер надарыўся выпадак, каб парадаваць дзеда Грышку. На самай горцы ў нашай Сасноўцы ў хаце Ерамеевых пачала працаваць крама. Самая сапраўдная. Купляй, што пажадаеш. Толькі, як жартуюць вяскоўцы, купіла няма. Няма, няма, а таўкуцца перад прылаўкам людзі. І мы таксама. Асабліва падушачкі вабяць. Смаката! Дзядзька Хвядос прыносіў, частаваў нас з Петрыкам, то ведаем. А яшчэ ў краме пахне селядцамі, цвікамі і папяросамі. Ад усяго гэтага ў носе толькі казыча. Фу-у, га! А цётка Матруна насыпае ў хустку карабкі. Сама і лічыць: адзін, два, тры, чатыры... дзесяць... пятнаццаць... дваццаць... А потым збілася, плюнула і похапкам завязала хустку вузельчыкам. Пакуль яна завязвала, у нас і нарадзілася ідэя... А што, калі ўзяць у хустцы непрыкметна адзін карабок і аднесці дзеду Грышку? Во рады будзе ён! У яго ж якраз і дэфіцыт на запалкі, ледзь на некалькі частак не скіпае адну, да таго беражэ. Мы

пераміргнуліся, і Петрык усё зразумеў, таму, калі толькі выйшлі з крамы, ён адразу ўзяў у цёткі Матруны вузельчык з запалкамі:

– Давай я панясу!

Так, пачатак зроблены. Цяпер галоўнае ісці ззаду, аднак цётка Мат-руна, нібы разгадала ўсе нашы планы, падштурхоўвае Петрыка наперад, і такое ўражанне, што вядзе дамоў яго, як канваір арыштанта. Што ж зрабіць? Як выцягнуць той злашчасны карабок, ды так, каб не ўбачыла цётка Матруна? Спярша думалася, што будзе ўсё лягчэй лёгкага – засунуў руку, заціснуў у кулаку карабок, і ён твой. І на табе, дзед Грышка, яго, запальвай сваю печ! Аднак – не, не ўсё так проста, як здаецца. Але ж Петрык у шапку не спаў, вылучыў усё ж момант, я толькі паспеў убачыць краем вока, як ён засунуў карабок у сваю кішэнь. А перад самай хатай вярнуў вузельчык назад сваёй маці:

– Мы на вуліцы пабегаем.

А самі наўгрунь да дзеда Грышкі. Стары ўзяў карабок, пашамацеў ім перад вухам, а тады папытаў:

– З дазволу ўзялі, ці сцібрылі? Цікава-інцярэсна... Прызнавай-цеся, арлы!

Арол Петрык сказаў, каб дзед не хваляваўся, ці ж мы злодзеі якія-небудзь.

– Глядзіце ў мяне. А то з вамі можна і ў гісторыю ўліпнуць.

Дзед Грышка як у ваду глядзеў. Цётка Матруна пералічыла карабкі і выявіла прапажу. Адразу ж узняла лямант, а потым – вядомая справа! – спярша пайшоў у ход усё той жа ручнік, а пасля мы вымушаны былі ісці да дзеда Грышкі і забіраць назад карабок. А куды падзенешся? Каб быў, і ўсё. Ніякіх адгаворак. Дзе хочаце бярыце. На што толькі ні спасылаліся, а ёй хоць бы што. Баба, адным словам. Ды яшчэ скнара. Гэта каб у дзядзькі Хвядоса было столькі запалак, ён бы іх і лічыць не стаў, там бяры, колькі зачарпнеш. Эх! З якімі ж вачыма давялося тупаць да дзеда Грышкі – адным нам вядома. Петрык падштурхоўвае мяне наперад, я – Петрыка, так і пляцёмся. Прыйшлі, а старога і дома няма. Ажно лягчэй стала. Фу-у! Тады бачым: ідзе. Прыціхлі, чакаем. А ён, убачыўшы нас, усміхаецца:

– Што, па запалкі прыйшлі?

І адкуль ён, цікава, ведае?

– Ага, – гэта выціснуў з сябе Петрык. – Па запалкі... Матка спахапілася... Ага...

І не глядзіць на дзеда Грышку.

– То я сам аднёс іх тваёй матцы, Пятро, – сказаў стары. – І больш без дазволу старэйшых нічога не бярыце, хлопцы. Ніколі. Дамовіўся?

Што нам, хіба цяжка было разам, у два галасы, гукнуць:
– Дамовіліся!
А дзед, хоць і па галаве не пагладзіў, але дужа і не журыў. Ён жа разумее, з кім мае справу. Мне і Петрыку па два разы адно і тое ж паўтараць не трэба. А з запалкамі мы што схібілі, то схібілі. Тут нічога не папішаш.
Бывае.

## 18. ВЯРТАЙСЯ, ДЗЯДЗЬКА МІКІТА!

«**М**ікіту забралі! Ноччу!» – ледзь толькі прадраў я вочы, калі пачуў, як нехта гаварыў у нашай хаце. «Мікіту забралі... Мікіту забралі...» Прыслухаўся да голасу, а не магу зразумець, хто гэта так рана завітаў. Пасядзеў трохі на ложку – здаецца, нарэшце прачнуўся. Патупаў у першую хату, і ўбачыў за сталом дзядзьку Хвядоса з Кастусём. Гэ-та ён, танкіст, напіўся халоднай вады з крыніцы і асіп, таму я адразу і не пазнаў яго – голас такі, нібы на ягонай шыі вузел завязалі вяроўкай. Я сеў каля іх. Пазяхнуў. Дарослым было не да мяне.
– Каго цяпер у кузню паставім? – паглядзеў на Кастуся дзядзька Хвядос. – Там жа абы-хто не справіцца – майстрам трэба быць, як Мікіта. Падкову выкаваць ці той жа вухналь мог толькі ён. І плужок зрабіць – таксама. Бяда-а-а...
– Хоць Гіршу Моцкіна прасі? – цяпер ужо Кастусь глядзіць на дзядзьку Хвядоса, чакае, як ён ацэніць яго падказку.
– Гірша не пагодзіцца, – не адразу круціць той галавою.
– Чаму?
– У яго свой заробак. Сярпы, нажы вастрыць. А ў кузні, брат, сіла трэба. Ды і хадзіць яму за чатыры вярсты кожны дзень цяжкавата будзе. Гірша ўжо стары чалавек.
Мужчыны яшчэ пэўны час думаюць, кім бы замяніць Мікіту, шкадуюць яго і спрабуюць вызначыць таго мярзотніка, які данёс у органы, бо каваль і былы партызанскі камандзір іншы раз, аказваецца, мог ляпнуць сваім языком не тое, што трэба. І нават супраць Сталіна. Ды супраць Сталіна – канешне ж, мог. Я сам чуў, калі ляжаў на печы, а мужчыны спрачаліся пра палітыку і націскалі на тое, была б вайна ці не, калі б не Сталін. Вось і давысвятляліся. Мікіту забралі. Мне б, канешне, дужа хацелася паглядзець, што ўжо там за той «варанок», у якім павезлі быццам бы Мікіту. Дзядзька Хвядос так і сказаў: «У варанку, значыць, павезлі. М-да!..» Каб ведаў, што прыедзе

той варанок, то мог бы ноч і не паспаць – падцікавалі б з Петрыкам. А так – праспалі. Соні!

Я адразу ўспомніў, як капалі торф на балоце і да нас падышоў на перакур Мікіта, і адразу ж паказаў на кар'ер, што быў побач і заплыў рудой вадою.

– Мой кар'ер, – паказаў ён вачыма. – Мой... Немцы вунь за тымі дрэвамі... Ну колькі тут метраў? Два разы па сто – не больш. Гэта каб у лесе з імі сустрэўся, твар у твар, можна сказаць, там прасцей... А тут куды схаваешся? Страляць не будзеш – іх багата, нас трое... І вось у гэты кар'ер я і забраўся... Галава якраз пад кустом была – нават некалькі дурніц ротам хапнуў... А яны, гады, у ягады прыехалі, і мой куст потым увесь абшманалі, і як не заўважылі, аднаму Богу вядома. Паўдня прастаяў у вадзе. Добра, што дно цвёрдае было. А так усмактала б багна, і не выбраўся б. Ну, а розная драбяза ўжо і паздзекавалася нада мной! Грызе, а адагнаць не магу – руку з вады выцягнуць нельга, адразу плёскат немцы пачуюць. А хлопцы сядзелі ў іншых кар'ерах – хто дзе. Іх таксама не заўважылі. Пашанцавала.

І вось цяпер Мікіту забралі. Мне адразу ўявілася кузня без яго, пустая і халодная, і я патупаў з хаты на двор, а дзядзька Хвядос і Кастусь усё яшчэ сядзелі за сталом, паклаўшы на абрус кулакі. Трэба будзе і Петрыку сказаць пра Мікіту. І дзеду Грышку. Яму нават, можа, у першую чаргу, бо будзе дрыхнуць на печы і нічога не ведаць. Ідзем з Петрыкам да дзеда. Так і ёсць, ляжыць на печы. Калі жыла бабка Антося, то яна дапамагала яму злазіць, а цяпер, бачце вы яго, сам здаровы ці хворы – злазіць. Мабілізаваўся на ўсе выпадкі жыцця.

– Іду, іду! – крэкча дзед Грышка і спаўзае на падлогу.

Не, каб папытаць, чаму так рана, што прывяло, а ён скардзіцца, што зноў лапухі трэба збіраць: занядужаў, з нагамі бяда. Аднак калі мы яму расказалі пра Мікіту, ён адразу ж забыўся пра свае балячкі, глядзіць на нас шырокімі вачыма і слова вымавіць не можа. Падалося, што страціў прытомнасць. Ажно не – глыбока ўздыхнуў і адразу ж выдыхнуў:

– Не можа быць, каб Мікіту?

Можа. Мы што, хлусіць будзем? Вельмі трэба.

– І не выручыш, калі варанок забраў. Гэта вам не хухры-мухры – варанок.

Вось ад яго мы і даведаліся, што гэта такое.

– Машына чорная, як сажа, мусіць... Я, праўда, яе не бачыў...

Петрык хмыкнуў:

– Не бачыў, а нам расказваеш.

Дзед Грышка запярэчыў:

– Ты, Пецька, не яршыся. Я і Леніна не бачыў, і Сталіна, а расказаць пра іх табе што хочаш раскажу. Бочку арыштантаў ажно.

Пра Сталіна лепш, дзед Грышка, не трэба. Адзін ужо расказаў, то цяпер ты нам расказваеш пра машыну, якая – варанок. Ну, ну, далей.

– Там адно акенца, і тое кратамі перакрыжавана. Во як. Не ўцячэш. А ў кабінцы, пытаецеся? У кабінцы не, не павінна быць там кратаў...

На тым і развіталіся.

Уся наша вёска неўзабаве ведала, што забралі ноччу Мікіту, і людзі прыходзілі да кузні, нібы на свае вочы хацелі ўпэўніцца, што не хлусня пачутае, і вельмі бедавалі, што ўсё было праўдай.

Тамаш, як заўсёды, не мог утаймавацца:

– Ты чаго гэта на мяне так глядзіш, Хвядос, як Ленін на буржуазію? Думаеш, мая работа? Не, не касавурся: мне Мікіта дарогі не перабег.

Лізавета выказала сваё меркаванне:

– Але ж нехта паклёп адправіў на Мікіту! Хто? Што гэта я пытаюся, дурная? Хапіла ж розуму папытаць. Ніхто ж не прызнаецца, хоць і нашкодзіў.

– А ты, Лізка, паварушы сваімі звілінамі, калі такая разумная! – паглядзеў на Лізку, а потым на кожнага, хто прытупаў да кузні, Тамаш. – Не здагадваешся, пра што я?

– Не. Адкуль мне, бабе?..

– То я напраўлю думкі... Дзе прымак твой? Уцёк?

Лізка, пачуўшы пра прымака, зарагатала:

– Ці бачыў ён Мікіту твайго хоць у вочы? Скажаш, Тамаш! Прымаку адно трэба было... І гуляй, Лізавета! Мой прымак адну і тую ж кашу есці не прывык. Так што на прымака не зварочвай. Час будзе, Тамаш, і ўсё высветліцца.

– Гляньце, і яна, Лізавета, глядзіць на мяне так, як і Хвядос! Цьфу! – Тамаш плюнуў і пайшоў ад кузні, а траха пратупаўшы, павяр-нуўся і гучна сказаў: – Біце вошы на сваёй спіне, разумнікі! Во так!..

Як біць тыя вошы, ён не растлумачыў, і як можна было іх церабіць на сваёй спіне самому – таксама. Глупствы Тамашовы. Не атрымаецца на сваёй спіне... Ніяк. А ўслед за Тамашом і астатнія пачалі разыходзіцца.

Я тупаў дахаты і думаў: як там Мікіта? Што ён робіць у турме? Яго, відаць, і кормяць там абы-чым. Дзед жа Грышка ўсё ведае: «Салому даюць, а як вы думалі. Не булкі ж!» Як гэта – чалавеку есці салому, я не мог нават уявіць. Ды і дзе яны той саломы набяруцца на ўсіх, каго

варанкі забіраюць? Не толькі ж у нас яны паездзілі, і ў суседніх вёсках пашасталі – каля кузні наслухаўся, то ведаю.

Увечар, як класціся спаць, дзядзька Хвядос сказаў:

– Адпусцяць Мікіту. Калі такога чалавека трымаць за кратамі, то хто ж аднаўляць краіну будзе? Вунь работы колькі! Гарады ў руі-нах ляжаць...

Ён на хвіліну замоўк, уздыхнуў і паглядзеў прама мне ў вочы:

– А можа яны, Колька, такіх людзей і забіраюць з вёсак, каб краіну аднаўляць? Га? Каб гарады, што ў руінах?.. Калгасы бабы выцягнуць. Гарады трэба ў першую чаргу... Можа такое быць, Колька? Бясплат-на ж. За пахлёбку.

– Не ведаю, – паціснуў я плячыма і паабяцаў папытаць заўтра на ўроку ў школе: настаўніца ж чытае газету і кніжкі.

Аднак дзядзька Хвядос мне запярэчыў:

– Не трэба. Пра гэта – не трэба. Ні-ні. Жыццё пакажа. Аднак я думаю, што Мікіта ўсё ж вернецца. Быць не павінна, каб не вярнуўся. Там разбяруцца...

Мне таксама вельмі хацелася, каб ён вярнуўся і каб можна было хутчэй паляцець у кузню і любавацца не толькі снапамі іскрынак, якімі дыхае горан, але іназіраць, як прама пры табе выкоўвае нешта мудрагелістае дзядзька – бы ў казцы нейкай...

Вяртайся хутчэй, дзядзька Мікіта!

## 19. ГІРША ПРЫЕХАЎ

**Г**ірша Моцкін – маленькі, худы яўрэй з Журавіч, няголены, таму на ягоным твары маршчыны бачны толькі на лбе. Ён прыехаў на вела-сіпедзе, які выйграў па латарэйнаму білету. Пра той выйгрыш усюды, куды ні зойдзеш, ходзяць размовы і выклікаюць смех. Нібыта ездзіў Моцкін у горад, каб купіць каніфолі, волава, напільнік новы і яшчэ нешта, а на базары яму прыспічыла. Калі прыспічыць, то вядома, куды бягуць людзі. І вось там, у прыбіральні, Гірша ўбачыў той латарэйны білет, які скарыстаў нейкі недарэка раней, чым яго праверыў... А Гірша Моцкін не быў бы Гіршам Моцкіным, каб даў дабру прапасці. Та-му латарэя ляжала неўзабаве ў яго дома, а калі на раённую бібліятэку ці куды там прыйшла газета з табліцай розыгрышу, то на той туалет-ны білет і выпаў веласіпед. Пра гэты выйгрыш ведалі ўсе, ад мала да вяліка, бо ўладальнік такога шыкоўнага ровара і не ўтойваў, якім чынам той аказаўся ў яго.

Прыйсці паглядзець на веласіпед прыклыпаў нават дзед Грышка. Аданіў.

– У мяне, мусіць, ногі кароткія, а то б дастаў да педалёў, – сказаў ён, як заўсёды перад гэтым паправіўшы на галаве сваю шапку-аблавушку. – Хаця і рэч добрая, а на калёсах лепей ехаць: круціць педалямі не трэба, асабліва, калі дыхалка слабая, – як у мяне. Сядзі сабе ды едзь. Хочаш, можаш варон лічыць. Цікава пасачыць, як Гірша Моцкін паедзе? Ці ўмее, анціхрыст? Мне здаецца, ён яго коціць, побач ідзе, а за руль трымаецца для праформы... быццам ехаў-ехаў – ды толькі што злез. Хоць сярпы зубрыць спраўна. А навесці серп складаней, чым педалі круціць, тым больш такому дохламу, як ён.

Абедаў Гірша Моцкін у нас. Са свайго вузельчыка выклаў на стол кавалак кілбаскі, крышачку большы кавалачак хлеба з той жа торбачкі, а за боршч, які наліў яму ў міску дзядзька Хвядос, падзякаваў:

– А то гарачага рэдка ем. Не ўдаецца. Ваўка ногі кормяць. Работа такая, брат Хвядос. Ну, а ты скажы мне, хто яшчэ можа так працаваць, не ведаючы дня і ночы, акрамя дурнога Гіршы? Толькі Гірша Моцкін, толькі ён! І мне гэта трэба? Мог бы жыць спакойна, у вус не дзьмуць пры маіх патрэбах, не п’ю і не куру, а я во па вёсках, гала-ву задраўшы, коўзаюся. Цяпер, праўда, веласіпед, то лягчэй.

– І ты сапраўды яго выйграў, Гірша? – улучыўшы момант, папытаў дзядзька Хвядос. – А то людзі тут гавораць такое...

– Людзі табе, брат Хвядос, праўду гавораць пра Гіршу Моцкіна. Вер людзям, і ты не будзеш мець ніякіх клопатаў. А гэта мне Бог паслаў той веласіпед, дурному Гіршу Моцкіну, каб рабіў, як вол, за капейкі, на якія я не магу з’ездзіць да брата Яшкі ў Рыгу. О, Рыга! Ты быў, Хвядос, у Рызе?

– Не, не давялося.

– І я не быў. І вось я катаюся цяпер на веласіпедзе. Не сядзіцца мне каля сваёй Бэлы, дурному Моцкіну, дык я шаркаю напілкам ды посуд рамантую. А за кузню, брат Хвядос, дзякуй. Не трэба мне цягнуць у Журавічы нічога, а гэта ж вага, я табе скажу – не жартачкі, калі ўсё на руль павесіць сваё хадзяйства, тады цягне лісапед мой у адзін бок, хоць ты што яму. То ў кузні і папрацую. І за тое, што на начлег пусціў мяне, брат Хвядос, дзякуй табе не толькі ад мяне, але і ад маёй Бэлы.

Як гэта яго Бэла паспела перадаць тое «дзякуй», калі яна яшчэ нічога і не ведае пра ўсё, аб чым гаварылі за сталом дзядзька Хвядос і Гірша Моцкін?.. «А начуй у мяне, каб дамоў не ездзіць, бо паспе-еш больш зрабіць: не трэба час на дарогу траціць», – сказаў вось толькі

што яму дзядзька Хвядос. І адразу ж – «дзякуй» табе ад маёй Бэлы. На хаду хлусіць, і вокам не міргне!

А потым Гірша паглядзеў на мяне і папытаў:

– Паказвай, дзе ў вас тут комін?

– Вэн, – кіўнуў я.

– Вэн, – перадражніў мяне Гірша.

– А нашто ён вам?

– Буду званіць у Журавічы сваёй Бэле, каб не хвалявалася. Каб не шукала дурнога Гіршу Моцкіна. А ты што, не ведаеш, як у комін можна званіць?

– Не-а,– шчыра прызнаўся я і адразу зразумеў, што дарэмна прызнаўся, бо ён хутчэй за ўсё жартуе, а што гэта так, я здагадаўся па тым, як усміхнуўся дзядзька Хвядос.

Гірша ж падышоў да печы, задраў галаву ў комін і загаварыў, ні-бы ў нейкую бочку:

– Ты чуеш мяне там, Бэла? Яна чуе, яна ў мяне баба разумная, хоць і з Гіршам Моцкіным жыве. Сёння на мяне вячэру не рыхтуй, я буду ў Сасноўцы ў добрых людзей. Як зразумела? Выдатна. Тады да сустрэчы! Твой дурны Моцкін.

Гірша Моцкін паказаў нам свой твар, і я пырскнуў смехам: ён выпацкаў лоб і вушы, быў падобны на чорта, якога малююць у кніжках, але калі заўсміхаўся, то і нічога быццам, ідзе яму такі выгляд: рабочы чалавек – нічога не скажаш. Дзядзька Хвядос усё ж падказаў Гіршу, каб памыўся.

Даведаўшыся, што ў нас будзе начаваць Гірша Моцкін, вечарам у хату набілася шмат вяскоўцаў. Як жа ўпусціць такі момант – чалавек з мястэчка, ды не абы-хто, а сам Гірша, пра якога не ведае толькі той, хто яшчэ не нарадзіўся. І не скарыстаць такую магчымасць – вялікі грэх. Нават Тамаш прытупаў.

– У нас тут ні радзіваў... – завёў ён сваю старую пласцінку.

Аднак яго абарваў адразу ж дзядзька Хвядос:

– Чаму ж, радыё ёсць. У новага настаўніка. На батарэйках.

– З ім я яшчэ дружбы не завёў, – не пагадзіўся Тамаш. – Гусь свінні не таварыш. У яго сваё вяселле, у нас сваё. Дык я і кажу: у нас тут ні радзіваў, ні газетаў...

– І газеты выпісваем... Мікітаву «Звязду» мне паштарка аддае. Можаце браць, чытаць.

– Можна падумаць, што я чытаць умею? Без акуляраў.

Нарэшце далі слова Гіршу Моцкіну, і ён расказваў, што новага ў Журавічах.

– Якаў Струкаў паехаў у Ленінград, дзе ў яго была да вайны кварцера. Прыехаў, а там ужо новыя людзі жывуць. Пахадзіў-пахадзіў ён па горадзе, ды ні з чым і вярнуўся да мацеры. Чужым стаў для яго Ленінград. Цяпер жыве не ў гарадской кварцеры, дзе круць-верць – і вада пацякла з кранціка, а ў такой, як і дурны Гірша Моцкін.

Калі ён загаварыў пра Ленінград, я ўспомніў Саныча, які ўжо паехаў дадому і сказаў неяк нам з Петрыкам, каб прыязджалі, толькі прасіў напісаць, і ён тады сустрэне на вакзале і дапаможа паступіць у любую школу фабрычна-заводскага навучання. Пакінуў і адрас. Аднак пакуль яшчэ ехаць, трэба не адзін пуд солі з'есці. А каб не гэты пуд, мы б хоць і сёння.

– Натансона які сабака не ведаў, не кажучы ўжо пра нас, людзей, – працягваў далей Гірша Моцкін. – Боты шыў лепш, чым у Крамлі для Сталіна... Прабач, госпадзі, дурному Моцкіну, не хацеў я ўспамінаць Крэмль і Сталіна, але што ты возьмеш з дурнога Моцкіна, акрамя аналізаў? То сын яго, Барыс, у Амерыцы жыве. Яго тады людзі схавалі, калі яўрэяў немец расстрэльваў у сасонніку. Мог бы і Натансон уцалець, каб уцёк, як уцёк я. Не, кажа, не можа быць, каб нас немец неўзлюбіў, мы ж яму нічога не зрабілі кепскага. А калі надумаўся бегчы, то было ўжо позна.

– Гады! – сказаў нехта.

– Не курыце, людзі добрыя, а то ў Гіршы Моцкіна ўсе лёгкія атручаны каніфолем і кузняй, далібог.

Глядзі ты, паслухаліся. Нават Тамаш, на што ўжо неслух, і той прыдавіў у гільзе з-пад зенітнага снарада акурак. Праўда ж: не прадыхнуць. У Гіршы Моцкіна такія фокусы не пройдуць. А то ж: расказвай ім, твары добрае, і за гэта яшчэ нюхай смярдзючы самасад. Не, не атрымаецца.

– Якраз Восіпу пашыў ён боты. Ведаеце Восіпа. Той і кажа: колькі табе, Натансон, за работу грошай? Гавары, не саромся. За такія боты не шкада. А Натансон і слязы нават не ўраніў, такі мужны чалавек быў, і адказвае: грошай мне, брат Восіп, не трэба тваіх аніякіх, а калі нашу сям'ю немец расстраляе, то закапаеш... і будзем у разліку. Такая мая просьба. І неўзабаве Восіп выканаў просьбу беднага Натансона. Дзе цяпер яго душа, гаротніка? І няхай хто паспрабуе пашыць лепшыя боты, чым шыў іх бедны Натансон. Няма такога ўмельца. І няскора будзе.

– Няма, гэта ты, Гірша, праўду кажаш, – пагадзіўся Тамаш.

У тую ноч я доўга не мог заснуць. Чамусьці думалася і думалася пра Натансона, які шыў цудоўныя боты, і хоць ніводнага разу я не бачыў

яго, аднак перад вачыма стаяў такі ж зарослы шчэццем яўрэй, як Гірша Моцкін, толькі без сажы на лбе і вушах, бо ён, відаць, не быў жартаўніком і не званіў сваёй жонцы ў комін...

## 20. ПРЫВІТАННЕ, ПЯХОТА!..

**К**астусь жыў шумна, навідавоку. Калі ён каго клікаў, то далёка было чуваць: яго голас каціўся рэхам, як хваля. Калі смяяўся – таксама роўных не было. І барацца мастак. Мікіта казаў, каб быў ён маладзейшым, то паклаў бы яго на лапаткі. А так – даруйце: не той узрост. Калі Кастусь рабіў нешта – паспрабуй паспей за ім. І ўсюды з жартамі, прыпеўкамі. Ведама ж, гарманіст. Я разумеў, што вясковыя жанчыны зайздросцілі Раісе, хіба ж не відаць. Заставалася радавацца за яе і мне. А маленькі Сцяпанка яшчэ ляжыць у люльцы і толькі лыпае вачыма, а мне нават адзін раз усміхнуўся і памахаў маленькай рукой, нібыта павітаўся. Я забег да цёткі Раісы, калі, вядома ж, не было ў хаце танкіста. Захацелася маленькага Сцёпку пабачыць. Не ведаю, чаму, але ў нас з танкістам па-ранейшаму не было дружбы, і я стараўся менш сутыкацца з ім твар у твар: калі ўзяў Раісу ў жонкі, то хай асабліва не зазнаецца. Гэта яму пашанцавала, што я пазней нарадзіўся, а то б яшчэ паглядзелі, хто каго. Што тут незразумелага!

А неяк Раіса папрасіла мяне, каб я з'ездзіў з Кастусём у лес і дапамог яму прывезці дроў, бо не хапіла, не разлічылі крыху. Яшчэ і папытала, строга так і нават, як падалося мне, крыху здзеклівa, ці што: «Зможаш? Ці дзядзька Хвядос не адпусціць?» Гэта толькі жанчына і можа апусціцца да такога, каб папытаць, адпусціць мяне ў лес дзядзька Хвядос ці не. Ды яшчэ цётка Матруна. Тая дык і зусім кроку не дае ступіць самастойна. Два боты – пара. А хто яму, калі на тое пайшло, дзядзьку Хвядосу, у лесе цэлы арсенал зброі пера-даў? Не сам жа з неба той зваліўся. А калі мы зброю шукалі, то мяне з Петрыкам ніхто за руку не вадзіў. Трэба ж дадумацца: а ці адпусціць дзядзька! Ды яшчэ з танкістам, які мне і нялюбы чамусьці... ды вядома ж – чаму. І я паабяцаў Раісе, што дапамагу прывезці дроў, каб было чым паліць у печы і гатаваць Сцяпанку ежу, яна падзякавала, а назаўтра за мной заехаў Кастусь на калёсах, паляпаў у шыбу:

– Пад'ём, пяхота!

Калі ўжо сам танкіст, то ўсе астатнія для яго, бач ты, пяхота. Гэта мы яшчэ паглядзім. Можа, мяне і зусім на флот возьмуць служыць. Ці ў лётчыкі. Ды і мог бы не ляпаць у шыбу, бо калёсы так тарахцелі, што

толькі глухі не здагадаецца, хто сядзіць на іх і паганяе каня. Танкіст, канешне ж! Ён танк, не інакш, пераблытаў з калёсамі.

Пакуль ехалі, Кастусь мумкаў пад нос франтавыя песні і хваліўся,як падбіў варожы танк, а каб не быў кантужаны, то было б тое самае і з іншымі танкамі, што трапляліся б на яго баявым шляху. Вось так. Ні больш ні менш.

– Я механік-вадзіцель, Колька! Гэта табе не абы-хто, а другі чалавек у экіпажы, пасля камандзіра.

Забыў папытаць я ў яго, колькі чалавек усяго ў тым танку экіпаж, мо тры, то няхітра другім быць, і я б змог. Хацеў зрабіць гэта пазней, калі будзем вяртацца назад з дрывамі. Аднак тое, што адбылося на балоце, перавярнула ўсё ўверх дагары нагамі, і, падалося, на зямлю ўпала неба... знянацку і раптоўна абрынулася, я адзічэла крычаў, бегаў вакол Кастуся і не ведаў, што мне рабіць. Ён неяк дзіўна глядзеў на мяне, быў увесь у крыві, твар і адзенне пасечаны асколкамі, глядзеў і скрывіўся не тое ад болю, не тое ад таго, што не мог і сам зразумець, што з ім адбылося. І быццам пытаўся ў мяне: Колька, дык што гэта? А з жывата вываліся вантробы, і як гэта я раней не ўбачыў, ляжаць у яго на каленях і пара з іх ідзе... як дым. Я ўтаптаў, не помню як, вантробы назад і дапамог нарэшце беднаму танкісту ўзабрацца на калёсы, легчы, і так паганяў каня шпарка, з усіх капытоў, што той неўзабаве стаў мокры – бы ў лазні пабываў... Але паехаў я не ў вёску, а ў мястэчка – у бальніцу. І як дадумаўся да такога, і сам не магу зразумець. Потым дзядзька Хвядос пахваліў мяне:

– Малайчына, што здагадаўся... Калі б яшчэ колькі хвілін, казаў доктар, то, магчыма, не было б Кастуся. Добра, што ты не дамоў яго, а адразу ў бальніцу... Кемлівы, аднак. Хвалю. Ну, а цяпер раскажы ўсё, як было.

А што тут расказваць? Секануў Кастусь па кусту сякерай з усяго размаху – і грымнуў выбух, скалануў наваколле...

– Значыць, міна... – здагадаўся дзядзька Хвядос. – Наша ці нямецкая – цяпер ужо ўсё роўна, аднак танкіста шкада: на вайне ўцалеў, а дома, у мірны час, не ўбярогся. Лёс такі, значыць, у чалавека. Знявечыла хлапца міна. Жывот распарола. Пальцы на назе паадрывала. Твар пакрэмзала. Але жыць будзе.

А неўзабаве Раіса сказала, што ўчора хадзіла да Кастуся і ён перадае мне прывітанне. Выкарабкаўся, адкараскаўся ад смерці. Жывучы Кастусь, нічога не скажаш, бо як успомню, які ён быў адразу пасля выбуху – мне і сёння робіцца жудасна і застаецца толькі здзіўляцца, што дактары змаглі выратаваць яго. А калі ён такі жывучы, то і доб-

ра: будзе і ў нашай Сасноўцы свой гарманіст, не горшы за іскanскага Аркашку. Абяцаў жа граць на Грышкавай прызбе. «Вось толькі Сцёпка падрасце!»

Можа, і мне збегаць да яго? З Петрыкам? Танкісту весялей будзе. Лекі лекамі, але і мы нешта значым. Дзядзька Хвядос даведаўся, што мы пойдзем праведаць Кастуся, і таксама ўвязаўся за намі. Яшчэ і напомніў:

– Не забудзьце ж, жэўжыкі, пра мяне.

– Не забудзем, – паабяцаў я, а самому радасна зрабілася: яшчэ больш абрадуецца, канешне ж, танкіст, калі ўсіх нас убачыць.

Дзед Грышка пашкадаваў, што не даклыпае да бальніцы, і перадаў прывітанне.

Без дзеда Грышкі ў нашай Сасноўцы, здаецца, нічога не бывае.

Доктар дазволіў прайсці ў палату. Кастусь, як толькі ўбачыў нас, пастараўся ўсміхнуцца:

– Прывітанне, пяхота...

Каб ён не нагадаў нам пра пяхоту, я б ні за што не паверыў, што пад бялюткай коўдрай ляжыць танкіст. Уся галава забінтавана, толькі вочы ды рот...

Не адразу адказаў на прывітанне яму і дзядзька Хвядос – таксама, відаць, думаў: Кастусь гэта ці хто?

Праклятая міна!

А мне яшчэ падумалася, толькі я пра гэта нікому не сказаў: за такога Кастуся, які ляжаў на бальнічным ложку, Раіса ніколі б замуж не пайшла.

Ад гэтага мне яшчэ больш зрабілася яго шкада.

І не толькі, відаць, мне...

Там жа, у мястэчку, мы даведаліся, што фашысцкая Германія разбіта. Нарэшце Перамога! Дзядзька Хвядос прытуліў мяне з Петры-кам да сябе і ціха, вельмі ціха прамовіў:

– Вось так, хлопцы... Вось так...

Што ён гэтым хацеў сказаць, я ведаў: і парадавацца ёсць нагода, і пабедаваць – таксама. Усім нам траім...

А мне так хацелася, каб сёння побач з намі былі мае мама і тата, Сцяпан дзядзькі Хвядоса... І многія іншыя землякі, якіх, ведаў – не маленькі, – ніколі ўжо не ўбачу.

І калі мне выцер слёзы дзядзька Хвядос, я пастараўся ўсміх-нуцца яму...

## 21. ДВА ТРАФЕІ

**Д**зед Грышка зімаваў адзін. А ў сярэдзіне мая, калі ён збіваў у канцы агарода сваёй старэнькай касой пустазелле, каля нашай хаты і з’явіўся ягоны сын Пятро. У такой жа форме, у якой прыйшоў тады з вайны дзядзька Хвядос, у адной руцэ ён трымаў туга набіты рэчавы мяшок, а ў другой пісклявы зграбны скрутачак – нёс дзіця. Дзед Грышка ўжо даўно хваліўся: «Мой Пецька без трафею дамой не вернецца. Ён такі. Разумець трэба». Вось мы з Петрыкам і разумеем: маленькая і худзенькая жанчына, што ідзе побач з Пятром і раз-пораз заглядвае, не прыпыняючы хады, у той скрутачак, нешта папраўляе там і гаворыць немаўляці, – гэта асноўны трафей. А што ў скрутку пісклявае – другі. Так што дзед Грышка пралічыўся – не з адным трафеем вяртаецца з вайны сын, а з двума. І мы, толькі ўбачыўшы Пятра і ягоныя трафеі, шуганулі напрасткі праз агароды, каб паведаміць старому, што нарэшце ён дачакаўся, каго чакаў. Дзед Грышка выслухаў нас, а тады спакойна, нібыта кожны дзень такое бывае ў яго, сказаў, уторкнуўшы з усяго размаху касё ў дол:

– І дакасіць не дадуць, чэрці!..

А сам, забыўшыся пра нас, пахапкам пачыкільгаў на свой двор, забег у хату і пачаў расстаўляць табурэткі, хоць тыя стаялі, а не ляжалі, змахнуў хлебныя крошкі са стала ў шурпатую жменю і адразу ж пракаўтнуў іх, а тады паглядзеў на нас і гыркнуў:

– А вы чаго раты паразяўлялі і не дапамагаеце? Варушыцеся, жэўжыкі!..

А што яму дапамагаць – не кажа: зусім прапалі словы ў старога. Анямеў ад навіны. Ды і позна дапамагаць: Пятро з трафеямі ўжо на двары, праплыў перад акном. Дзед Грышка выпраміўся перад сынам, не дыхае і вокам не міргне. А Пятро грымнуў на ўсю хату:

– Бацька-а!

Паклаў скрутачак на ложак і згроб дзеда Грышку, заціснуў у абдымках, і на вачах абодвух мы бачым слёзы. Нагледзеліся мы слёз, гэтым нас не здзівіш.

– Вярнуўся, бацька...

– Касіў я... каса там... хлапцы, прынясіце... ага... – шаптаў дзед Грышка і шморгаў носам. – Пустазелле лезе на агарод, каб яго пранцы... Ну дык што ж мы стаім? Знаём з Зінкай.

Можна падумаць, што мы адразу ж і кінуліся за касой. Каму яна трэба сёння, каса тая? Не кожны дзень з вайны прыходзяць землякі, і нам карціць паглядзець на ордэны і медалі, што трэнькаюць на

грудзях Пятра. Не менш – і на Зінку, пра якую дзед Грышка вушы ўсім пратрубіў. Дробненькая, нібы дзяўчо. Надзейка і тое вышэйшая. Але больш за ўсё нам хочацца зазірнуць у той скрутачак, які ў хаце супакоіўся, маўчыць і толькі зрэдчас варушыцца.

– Не маглі раней прыехаць, – тлумачыць Пятро і глядзіць на скрутачак. – Зінка дачку нарадзіла. Таму ў горадзе пажылі крыху, як мяне камісавалі, у яе маці. Так што не крыўдуй за затрымку – такая сітуацыя, што не атрымлівалася. І раджаць трэба, і ехаць да цябе – у адзін час усё… супала так.

– Ты думаеш, я тут прапаў бы, – дзед Грышка казырыцца, паказвае вачыма на нас. – Хлапцы вось, калі трэба, і вады прынясуць, і торфам забяспечылі. І так пасядзяць у хаце са мной. Пра жыццё пагамонім. А як жа. Іншы раз папрашу, каб і пісьмо ад цябе прачы-талі. Прачытаюць. Па першаму закліку.

Я спалохаўся: а калі ён успомніць яшчэ пра запалкі? Во будзе сарамацця перад салдатам – на ўвесь белы свет. Але добра, што дзед Грыш-ка прамаўчаў. Ці ў яго памяці няма, ці не пажадаў нас выдаваць. Хоць, калі разабрацца, мы ж для яго стараліся. Адным словам, малайчына.

Пятро ж пахваліў нас, а тады пачаставаў цукеркамі і даў па камяку цукру. Цукеркі мы з’елі адразу, а цукар рашылі аднесці дамоў – будзе цяпер з чым чай піць. Калі патрохі адкусваць – надоўга хопіць.

І яшчэ Пятро даў нам вялікую бліскучую капейку, на якую, сказаў, што хочаце, тое і бярыце ў краме.

Неўзабаве ў хату набілася багата людзей. Лізавета, канешне ж, першая прыбегла, за ёй Варка, а тады прыйшлі і мужчыны, сярод іх быў Тамаш. Ён абняў Пятра і заплакаў. Нічога не сказаў. А Лізавета прыгадала бабку Антосю і пашкадавала, што тая не дажыла да гэтага шчаслівага дня. Во рада была б. Мы гэта і самі ведаем. Але гаворыць, і няхай гаворыць. Нешта ж трэба, мусіць, ім і гаварыць, цёткам ды дзядзькам. Не ўвесь жа час плакаць. Хопіць, наплакаліся.

Увечар на Грышкавай прызбе зноў граў гармонік, а нас не выганіш з хаты. На прызбе нам не было сёння чаго рабіць: мы важна сядзелі за сталом нароўні з дарослымі, нават бліжэй, чым хто, да дзеда Грышкі і Пятра, і слухалі розныя байкі пра вайну. Я толькі разы два паказаўся на танцульках – няхай бачаць, дзе мы з Петрыкам. І заслужана. Як летась торф заносіць у хлеў дзеда Грышкі ахвотнікаў не было, то няхай цяпер хоць паглядзяць, што з гэтага атрымалася. Надзейка таксама дапамагала, аднак яна не пойдзе ў хату. Сарамлівая. Яе справа. А на мяне ўсё ж паглядае. Крадком. А потым адразу хавае

вочы. Зайздросціць, каму тут не зразумела. Мне і Петрыку сёння ўсе зайздросцяць. І чакаюць, калі мы нарэшце назусім, а не будзем шмыгаць туды-сюды, выйдзем на прызбу, бо без нас і танцы не танцы. Цяпер, калі паехаў у Ленінград Саныч, пабралі вучыцца на рабочых некаторых нашых хлопцаў, быццам будуць касілкі рабіць на заводзе ў Гомелі, то мы тут галоўныя танцоры.

Танцулькі пачакаюць. Трэба пасядзць за сталом і паслухаць, што будзе ў нашай Сасноўцы заўтра і паслязаўтра, калі вернецца дзядзька Мікіта і прывязуць на кані Кастуся з бальніцы. За Кастусём мы таксама паедзем. Абавязкова. Не прапусціць бы.

Заадно і ў сталоўцы падсілкуемся. Ніколі не елі мы ў гарадской сталоўцы, а там, кажуць, смачнае падаюць. Каша – пальчыкі абліжаш. Нават катлеты і смажа-ныя кілбаскі ёсць.

Папытайце, калі не верыце, у дзеда Грышкі. Ён, калі быў маладзейшым, часта бегаў у мястэчка – баба Антося думала, што ён знайшоў для сябе там новую цётку, а дзед – ныр у сталоўку. Сам расказваў. Праўда, браў і куфаль піва.

Піва нам не трэба. Ну яго. Нам добра будзе каша, а калі хопіць той капейкі, то катлеты і кілбаскі таксама не пашкодзяць.

А цяпер дарослыя спрачаюцца, хто б мог выдаць Мікіту, і чамусь-ці ўсе падтрымліваюць Тамаша, што гэта нашкодзіў Лізавецін пры-мак, і калі раней цётка абараняла яго, то цяпер маўчыць. Як вады ў рот набрала.

Нехта паказаў і ў бок Гіршы Моцкіна, бо той нездарма абжыў кузню – ён гэтага толькі і дабіваўся, каб прагнаць з яе каваля. Вось і наплявузгаў. Дзядзька Хвядос заступіўся за Гіршу Моцкіна, сказаў, што дабрэйшага чалавека, чым ён, няма ва ўсім свеце.

Трэба, сказаў дзядзька Хвядос, пачакаць крыху, а там стане ўсё на сваё месца: высветліцца...

Пачакаем і мы. Нам няма куды спяшацца. Хіба што ў школу.

А ў школу мы любім хадзіць. Там можна не толькі нешта цікавае даведацца, а спадцішка тузануць за касу і Надзейку...

## 22. ЭПІЛОГ

**Д**зядзька Хвядос гладзіў печ рукой, пяшчотна і з замілаваннем, і гаварыў ёй, як жывы жывому:

– Ты, печ, жанчына. І табе, бачу, сумна адной. Пагаварыць няма з кім, языкамі памянціць – ну, а як жа: жыццё ёсць жыццё, тут ні ўбавіць, ні прыбавіць. Заўтра я табе жанчыну прывяду, Моцяй зваць.

Будзеце разам і варыць, і на чарэні грэць нас, мужчын. Мужчын таксама прыбавіцца. Ты помніш Петрыка добра. Як жа. Свой чалавек Петрык. Так што, печ, з заўтрашняга дня табе весялей будзе. І нам усім, заўваж. Раніцай запражэм каня, і прывязём гаспадыню з усім яе няхітрым скарбам у нашу хату. Адабраеш мяне, печ? За разуменне дзякуй табе. Дзякуй.

Мне пачулася, нібы печ адказала дзядзьку Хвядосу...

Назаўтра мы з Петрыкам перавезлі ўсе яго рэчы, а цётка Матруна прыйшла сама.

Топчацца па хаце, на гэты раз без ручніка на плячы, бадзяецца з кутка ў кут, быццам месца сабе не знаходзіць, і ці тое ад радасці, ці тое ад чаго – плача. Плачаш, дык плач: дзядзьку Хвядосу няма калі цябе супакойваць, на ім увесь калгас, ды неабходна і дырэктара школы адвесці ў Петрыкаву хату – ён будзе жыць там.

Петрыку пашанцавала, нічога не скажаш: іншы раз ён можа і забегчы ў сваю хату, быццам нешта забыўся там, а заадно і дырэктару лішні раз паказацца на вочы, таму можа нават выбіцца і ў выдатнікі.

З дня на дзень трэба ехаць за Кастусём у мястэчка, а ў нас бяда стрэслася: забаўляючыся, мы недзе згубілі нашу вялікую капейку, за якую збіраліся паабедаць у сталоўцы. Шкада і крыўдна. Нам жа вельмі хацелася гарадской кашы. З акрайцам белага хлеба.

## М І Ш Э Н Ь

1.

**Н**а ўроку Арцёмка забыўся пра настаўніцу і аднакласнікаў – ён, не адрываючыся, глядзеў у акно. Настаўніца без асаблівага папроку ў голасе заўважыла яму:

– Ты што, птушачак лічыш?

Хлопчык надзіва спакойна, не паварочваючы галавы на голас, адказаў:

– Не, галінкі…

І працягваў іх лічыць, толькі цяпер ужо больш смела і адкрыта – нават торкаў пальцам на тыя самыя галінкі, якіх на старой акацыі, што захінула сабой ад белага свету акно і стварала нейкім чынам ціш і спакой у класным памяшканні, было вельмі многа, вельмі!..

Нават каб не празвінеў званок на перапынак, хлопчык усё роўна б не паспеў іх палічыць, тыя галінкі. Ці дакладней сказаць – не здолеў бы: дрэва мае густую крону, у ёй гуляе-сваволіць ветрык, таму галінкі зрэдчас гойдаюцца, калываюцца, яны то з'яўяцца, то зноўку прападуць: паспрабуй усачыць за імі. Нібы дражняцца з Арцёмкам.

Аднак ён даў сабе слова калі-небудзь усё ж даведацца, колькі галінак мае акацыя. Наперадзе было яшчэ шмат урокаў, і гэта цешыла хлопчыка.

2.

**У**чора Арцёмку маці вадзіла ў паліклініку, доктар прыпісаў яму кроплі ў нос і адвар ад прастуты – каб не сіпела ў горле – і папрасіў стаць спярша на шалі, а затым памерыў ягоны рост. Там жа, у тым чысценькім несамавітым пакойчыку, хлопчык і даведаўся, што мае рост 145 сантыметраў, вагу – 38 кілаграмаў. Многа гэта ці мала – усе тыя лічбы яму мала аб чым гаварылі, а калі апынуўся на вуліцы, і зусім забыўся на іх. Ён не ведаў, вядома ж, паколькі вышмыгнуў раней, што маці доктар параіў даваць яму больш вітамінаў і наогул каларыйнай ежы, на што тая, седзячы на канапе і цікуючы за кожным рухам мужчыны ў белым халаце з рыжымі вусікамі пад носам, толькі ўздыхала,ківала-пагаджалася: канешне ж… я разумею… вядома ж… пастараюся… А ўжо калі прычыніла дзверы кабінета, нібы апраўдваючыся перад людзьмі, што чакалі сваёй чаргі на прыём, сказала:

– Расце ж калі!..

3.

**К**ватэра, у якой жыў Арцёмка разам з мамай, нагадвала сметнік. Сюды прыносілі ўсё, што лічылі патрэбным, яе сябры – такія ж лахматыя, нечасаныя, зморшчаныя і чорныя, падобныя на неграў, дзядзькі і цёткі. Тут была іх база, ці што. На гэтай базе яны пераапраналіся ў новую адзежу, рабілі гэта весела і крыху нават урачыста, не шкадавалі адзін аднаму кампліментаў. Тую ж вопрадку, што знімалі з сябе, адносілі назад на сметнік: яна адслужыла ім спаўна, дзякуй. Мы – прыфранціліся!..

На гэты раз трапіліся добрыя, амаль што як новыя, рэчы і для Арцёмкі.

– Гэта – сыночку, – прыціскала да грудзей кашулю і парткі маці, радавалася, і было такое ўражанне, што яна выбірае рэчы для сына ў краме, а вакол яе шчыруюць прадаўцы – не менш шчаслівыя, чым жынчына: сёння кожнаму пакупніку там рады. – Праўда ж, хвасон добры?

Ёй нехта казаў ухвальнае, тады Арцёмкава маці прамакала вочы той жа кашуляй альбо тымі ж парткамі, і да таго часу, пакуль не прапаноўвалі зноў шклянку з віном, сядзела на табурэце, смактала цыгарку і прыгадвала тое-сёе са свайго жыцця. Недзе ў прыватным сектары жыве яе першы і апошні муж Валік, Арцёмкаў татка. Прыгожы, няроўня гэтым мужчынам, што прыходзяць у яе аднапакаёўку калі ім уздумаецца – ноччу дык ноччу, удзень дык удзень. Суседзі спярша шыкалі, усяго можна было чакаць ад гэтых бамжатнікаў, а потым змірыліся: прайшлі чуткі, што адключылі газ за няўплату. Яны, суседзі, шкадавалі толькі Арцёмку, бо хлопчык ходзіць у школу, яму ж урокі трэба вучыць, а ён, нябога, жыве ў гэтым пекле. Дакаралі за гэта – што асабліва дзіўна – не маці, якая зусім спілася і згубіла чалавечы твар і жаночы гонар, а бацьку: маўляў, пацікавіўся б, як жыве сын, ды забраў да сябе, а то, чаго не ўбачыш, зусім прападзе хлапец.

Бацьку таксама было не да сына – у яго стварылася новая сям’я, і жанчына, якая заняла месца Арцёмкавай маці, была надта злой, нялюбай, як сказаў адзін вядомы пісьменнік, грамадзянкай…

Колькі разоў заходзіў участковы, рабіў заўвагі жанчыне – настаўляў на правільны шлях. Але маці ратаваў Арцёмка – умудраўся вучыцца ён добра, заўваг са школы не паступала. Што яшчэ цікава, дык у адным класе з ім была і дачка ўчастковага, на сходзе неяк яны, Арцёмкава маці і ўчастковы, нават сядзелі побач. Размова пра дзяцей

зацягнулася, жанчыне надакучыла слухаць ўсё гэта, і яна штурханула ўчастковага ў бок, а быў ён у цывільным адзенні, і прапанавала:

–Піва не вып’ем?

Трэба было бачыць вочы участковага!

Калі прыходзіў Арцёмка са школы, ён абедаў. На стале можна было знайсці тое-сёе з ежы. Ён адной рукой адганяў мух, а другой піхаў у рот хлеб, рыбку з кансервы ці кавалачак каўбаскі, у якой ад спёкі папражылася сала, і таму той скрылёк каўбаскі нагадваў яму нейкага смешнага чалавечыка: гэта – вочкі, гэта – носік, гэта – роцік…

Неяк мамін бойфрэнд Калян, як назваў ён сябе, звярнуў увагу, што Арцёмка не столькі падсілкоўваецца, колькі забаўляецца з каўбасой, а гэта, даруйце, ужо з рук вон выходзячы выпадак, і падаў свой голас:

–Табе што, можа нясмачна?

Арцёмка працягваў забаўляцца з каўбасным чалавечыкам.

–Я паўтараю: табе што, нясмачна?

– Я ў школе еў, – ціха адказаў хлопчык.

– Тады вылазь з-на стала і не займай месца! – і бойфрэнд Калян паглядзеў на маці, якая стаяла побач і не ведала, што ёй сказаць.– Яму, гляньце вы, ужо мая каўбаса, што я прынёс, у рот не лезе. Калі такі граматны, дык сам зарабляй і ўплятай тое, што прынясеш. А, ты яшчэ школьнік? Разумею, разумею. І я быў школьнікам, і мамка твая ацістат мае, вунь у шафе ляжыць… з аднымі пяцёркамі… сам бачыў… на свае вочы… Спярша не паверыў, што выдатніца…

– Да медаля не хапіла адной пяцёркі, – уставіла маці.

– Чуў? Не, ты чуў, Арцём? – бойфрэнд Калян ужо вісеў над ягоным вухам.

– Хлопчык не вытрымаў, сказаў спакойна, але гучна:

– Ды чуў, чуў!

– Ты голас не павышай. Саплівы шчэ. Так, маць? Ну, вось, бачыш, і мамка на маім баку. А разумнага чалавека паслухаць не лішнім будзе. Ці табе дакумент паказаць? Магу прад’явіць. У разгорнутым выглядзе. Я, праўда, універсітэтаў не заканчваў, аднак маё ПТВ ужо сёння – каледж. Вялікімі літарамі на фасадзе напісана. Чуў, каледж! А гэта па сённяшніх мерках – тэхнікум. Так што май на ўвазе. А калі смачна есці хочаш, то я пакажу табе, як зарабляць грошы. Можа, што і нам з маткай перападзе, а? Чуеш, маць? А гэта ідэя, між іншым!..

Бойфрэнд Калян так увайшоў у ролю выхавальніка, што нават не заўважыў, як Арцёмка выслізнуў з кватэры. Калі сцяміў, што да чаго,

вадзіў толькі галавой па баках, пытаўся ці тое ў самога сябе, ці ў Арцёмкавай маці:

– А дзе гэта ён, шчанюк?

4.

**Н**астаўніца паглядзела на парту, за якой павінен быў сядзець Арцёмка, а потым на акацыю, і ўслых сказала:

– Няма Арцёма і сёння ў школе… Шкада, шкада… Лепш бы ўжо сядзеў ды галінкі лічыў…

Падняла руку дзяўчынка, суседка Арцёмкі па парце.

– Ну, што ты хацела, Міронава?

– Я ведаю, дзе Арцёмка… Ён… Ён…

– Што "ён", Міронава? – затрымала позірк на дзяўчынцы настаўніца.

– Ён прасіў мяне, каб я нікому не казала, што бачыла яго… Вось што… Я дала яму слова маўчаць, і не стрымала, атрымліваецца… Даруй, Арцёмка!.. Але я нікому не скажу, дзе бачыла цябе… І што ты рабіў…

5.

**У** той дзень, калі Арцёмка забаўляўся са скрылькам каўбасы, ён вярнуўся дамоў позна. Дзе быў, што рабіў – пра гэта ў яго раней ніколі не пыталіся, а сёння, што здзівіла і хлопчыка, маці адразу ж пацікавілася:

–Дзе цябе насіла?

–А што?

–Дзядзька Коля хацеў з табой пагаварыць.

–Хай гаворыць…

–Чакаў, чакаў, і не дачакаўся.

–Важнае што?

–Ну, не ведаю…– маці пацiснула плечуком, пэўны час памаўчала, а тады прамовіла так, нібы цадзіла тыя словы праз свае пярэднія шчарбатыя зубы. – І, наогул, я збіраюся за яго замуж…

Арцёмка падняў на маці сур'ёзны погляд:

–За каго?

–Ты што, глухі? За яго…

–Не, усё чую. Ты хочаш замуж…

–Правільна. Твая мама хоча…

Павісла паўза, і тут якраз дарэчы сталі словы, якія сказаў сын:

–А чаму… а чаму ў мяне няма дзеда, бабулі? Ва ўсіх ёсць, а ў мяне няма. Чым я горшы?

Маці не ведала, што адказаць Арцёмку. Ёсць і ў яго дзядуля з бабуляй, жывуць яны ў вёсцы, просяць, няго ж не, каб прывезла яна калі-небудзь ім унука, хоць бы паглядзець на яго, аднак – як, куды паедзеш? За што? Толькі ў апошні час яны нешта перасталі цікавіцца і ўнукам… Ды і калі б былі нават грошы, Арцёмква маці саромеецца нат у такім выглядзе, які мае яна сёння, паказвацца не толькі сваім бацькам, але і землякам. Бо ўсе яе сваякі думаюць, што іхняя Верка па-ранейшаму робіць на фабрыцы, жыве з тым жа прыгожым хлопцам, з якім і пабралася шлюбам.

Яна не паспела адказаць сыну – рыпнулі ўваходныя дзверы, і ў калідорчыку паказаўся бойфрэнд Калян з пакетам, а калі ён яшчэ загадаў, ледзьве пераступіўшы парог: “Вячэру ў студыю!”, адразу стала зразумела, што ён прынёс.

Засвяціўся твар і ў маці.

– А-а, з’явіўсяя не запыліўся! – бойфрэнд Калян падсеў да хлопчыка.– Паслухай, ёсць ідэя. Хочаш грошы мець?

– Хачу, – шморгнуў носам Арцёмка.

– Багата?

– Не ведаю…Я заўтра схаджу на аўтавакзал, і папытаю, колькі білет каштуе да дзядулі з бабуляй. Тады і скажу.

– Не ўздумай! – гнеўна паглядзела на Арцёмку маці.–Не мылься да іх!..

А бойфрэнд Калян працягваў сваё, яго мала цікавілі дзядулі і бабулі:

– Пасядзіш у падземным пераходзе, і будуць грошы. А? Я ж табе і кажу, хлопча: у мяне, па-сённяшняму, – каледж! Думаць трэба! Апранешся, абуешся, цацак накупляем табе. Хіба мала?

– Мне б толькі да дзядулі з бабуляй з’ездзіць, – прамумкаў Арцёмка.

Маці ажно войкнула і адвярнулася:

– Ты зноў за сваё?! І не ўздумай, шэльба малая!..

– Ён не паедзе ў тую забытую Богам і людзьмі вёску, трэба яна яму. Так ці не, Арцём?

І хоць хлопчык ніяк не адрэагаваў на гэтае пытанне, бойфрэнд Калян нахабна сказаў, не міргнуўшы і вокам:

– Ён, Вяруня, не паедзе. Ён паслухмяны хлопчык, а такія мне падабаюцца. – І павярнуўся да Арцёмкі. – Заўтра ранкам я адвяду цябе ў падземны пераход, пасядзіш з працягнутай рукой…

Арцёмка запярэчыў:

– Мне ў школу трэба.

–Школа пачакае. А грошы могуць і не. Галоўнае – не спазніцца. Адным словам, вырашана. Раніца за вечар мудрэй, гвардзеец!..

А пазней набілася ў кватэрку столькі чалавек, што Арцёмку зрабілася цесна. “Хопіць цярпець!”– загадаў сама сабе хлопчык, і прагнаў ўсіх, хто сядзеў на ложку, а сам лёг, падклаў далоньку пад галаву, і неўзабаве ён бачыў сон… Прыгожы сон, вельмі!.. Нібы ён мае цэлы гараж машынак, і, рассеўшыся на чыстай падлозе, гуляе з імі. Толькі і чуваць: гыр-гыр-гыр!..

Калі сон скончыўся, Арцёмка зразумеў, што ў ложку ён не адзін, а тут яшчэ мама і яе бойфрэнд Калян, якому, зразумеў, не хапае на пасцелі месца і ён усяляк стараецца легчы зверху на маму, аднак у яго гэта не вельмі атрымліваецца: хоць у мамы і маленькі жывот, але ён усё роўна спаўзае з яе, нібы з горкі… Аднак бойфрэнд Калян чалавек вушлы, прайшоў, як сама казаў, агонь, ваду і медныя трубы, таму ўсяляк стараецца разлегчыся на маме, чаго б гэта яму не каштавала: ўчапіўся нават за яе валасы, а маці, відаць, так вельмі балюча – яна ажно стогне…

Назаўтра Арцёмка прыбег у бібліятэку №6, што побач з іх домам, і, павітаўшыся, папытаў:

– У вас ёсць часопісы з машынкамі?

Яму падалі цэлы стосік такіх часопісаў.

6.

**Г**эта добра, што бойфрэнд Калян праспаў, а то былі б часопісы. Вяртаючыся дадому, Арцёмка разважаў так:”Зараблю грошай на білет да дзядулі з бабуляй, наемся марожанага і накупляю сабе машынак. Ура!”

А потым яго сустрэла маці, пераапранула ў рыззе, паклікала бойфрэнда Каляна, які курыў на кухні:

– Мы гатовы!

Праз увесь горад ішлі пехам па вядомай прычыне.

– А назад, Арцём, прыкацім на таксі! А?– штурхаў таго ў бок бойфрэнд Калян і сам радаваўся, нібы дзіця.

На таксі? Ого, на таксі! Хлопчык ніводнага разу не ехаў на ім, таму дабаўляў кроку. Ну дзе ён, той падземны пераход, калі будзе? Дзядуля з бабуляй, марожанае, машынкі і таксі… Хутчэй бы! Як гэта было б цудоўна, каб усё спраўдзілася!..

Перш, чым пасадзіць Арцёмку каля сцяны на сярэдняй прыступцы, бойфрэнд Калян пачапіў яму на шыю кавалак кардонкі ад скрынкі, у якой прадаюць звычайна марожаную рыбу, на ёй было напісана:”Людзі добрыя, памажыце! Я цяжка хворы. На лячэнне патрэбны грошы. Дзякуй”.

Бойфрэнд Калян пахваліў сам сябе:

– Кардонку я прыдумаў у самы апошні час. Так што табе і гаварыць нічога не трэба. Сядзі і жаласліва толькі вачыма лыпай, корчы морду. Будзь артыстам, Арцём. У жыцці спатрэбіцца. Трэніруйся. Бачыш, і руку працягваць таксама не трэба… Шапка для чаго? Мух лавіць? Э-не, не думай, мы таксама можам шурупіць: у маёй галаве не абы што, а сам каледж!.. То-та ж!.. Займай сваё месца, а я тым часам адлучуся – каб вочы не мазоліць. Ага, пачакай! Забыўся сказаць. Як толькі ў шапцы засвецяцца дзяржзнакі, хутчэй засоўвай у адну і тую ж кішэнь. Так надзейней будзе. Каб я не аблапваў цябе ўсяго. Але на дне ў шапцы пакідай – для прыманкі. Ну, працуй!..

Арцёмка застаўся адзін. На вочы, каб не сустракацца з людзьмі, якія шнуравалі уверх-уніз па даволі крутых прыступках, ён насунуў старэнькую зашмальцаваную бейсболку, і таму бачыў толькі ногі праходжых. Абутак вабіў яго. Прыгожы, у асноўным імпартны. “Мне б такі”. Арцёмка паглядзеў на свае чаравікі, яны былі не толькі аблупленыя, але і прасілі кашы, таму ён спярша падкурчыў ногі, схаваў іх, каб людзі не бачылі, у што абуты, а тады толькі ўспомніў, для чаго тут сядзіць, і зноў выставіў напаказ чаравікі.

Першы час Арцёмка сядзеў нерухома, амаль не дыхаў, а толькі сачыў краем вока за шапкай. Туды – во дзівосы! – з чыёйсці рукі, на якой быў вялікі круглы гадзіннік, апусцілася першая паперка. Сто рублеў! Потым зноў сто, потым дваццаць, а крыху пазней нехта не пашкадаваў і пяцьсот… Настрой у хлопчыка ўзняўся, і ён рашыў не хавацца. Якраз тады, калі і задраў бейсболку, патрапіла яму на вочы Міронава. Арцёмка не разгубіўся, хуценка сцяміў, што да чаго, і зноў насунуў бейсболку на лоб.

– Не хавайся, Арцём, я цябе пазнала, – Міронава сама задрала яго бейсболку, і яны доўга глядзелі адзін аднаму ў вочы.

Арцёмка для прыліку кашлянуў, пацікавіўся:

– А ты што тут робіш?

– Да бабулі прыязджала. Яна жыве ў гэтым раёне. Маці купіла ёй лекі, дык я адвезла. А ты што, сапраўды хворы, Арцёмка?

“Прычапілася гэтая Міронава!”– падумаў хлопчык, а дзяўчыне сказаў коратка і зразумела: – Так трэба. І больш нічога не пытайся. А

калі хочаш сказаць у класе, што я выпрошваў грошы, дык скажы. Я не баюся. Бо не краду ж я. Гэта каб краў, тады іншая справа!..

Праз паўзу Мітронава паабяцала:

– Я нічога не скажу.

– Слова?

– Слова.

– Глядзі ж!.. А цяпер ідзі, не перашкаджай мне…

Міронава адышла на колькі крокаў, а тады хуценька вярнулася і кінула ў шапку грашовую паперку. Арцёмка запратэставаў, але дзяўчынка вокамгненна знікла. На ўсялякі выпадак, ён запомніў, што то былі пяцьсот рублёў, узяў іх і паклаў у кішэшь, што мелася ў кашулі. Але не там-та было! Адкуль і ўзяўся бойфрэнд Калян.

– Я за табой даўно сачу, думаеш не? – ён быццам лёгенька дакрануўся да вуха, але тузануў так, што хлопчык ажно войкнуў.– Гэты нумар не пройдзе. Чаму піхаеш грошы ў розныя кішэні, а? Я што табе казаў? Адказвай!

Арцёмка растлумачыў, што гэта была аднакласніца, а з яе ён узяць грошы не можа, таму паклаў асобна, каб потым вярнуць.

Бойфрэнда Каляна такі адказ не задаволіў:

– Будзеш тут мне сартыраваць людзей на сваіх і чужых, нахабнік! Усе грошы ў кучу, і ніякіх размоў. Зразумеў? – Ён вычысціў кішэні ў малога, і моўчкі знік.

Арцёмка ж працягваў сядзець перад шапкай ў падземным пераходзе, калі перад ім з’явіўся віславухі сабачка з доўгім брудным шчэццем. Сабачанё панюхаў грошы, што ляжалі ў шапцы, а тады паглядзеў на хлопчыка: іх позіркі сустрэліся. Арцёмка нічога не сказаў, адно што паказаў няпрошанаму госцю язык, але і гэтага было дастаткова таму, каб зразумець: з гэтым хлопчыкам можна мець справы, і бяздомны сабачка прытуліўся да нагі Арцёмкі, затым лёг, выцягнуўся на ўсю сваю даўжыню. Хлопчык хацеў спярша сказаць сабачку, каб ішоў прэч, бо ад яго непрыемна пахла, але пашкадаваў: дзе ж ён сам цяпер адмыецца, калі на ім столькі бруду? А ўслых сказаў:

– Пачакай трошкі. Потым пойдзеш са мной, да копанкі. Бачыш, колькі ў мяне грошай? А яшчэ ў кішэні ёсць. Хопіць і на мыла, і нам з табой паабедаць. Толькі каб Калян не забраў грошы, бадзяецца недзе… То і добра. Ну дык што, пайшлі, можа, ці як?

На здзіўленне Арцёмкі, сабачка паслухмяна падняўся і не зводзіў вачанят з яго, і ў хлопчыка складвалася ўражанне, што ён цяпер ужо падганяе яго: маўляў, ну, паказвай, куды ісці, у які бок… Арцёмка

зграб грошы, а шапку засунуў пад сарочку. Яшчэ раз на ўсялякі выпадак паглядзеў па баках – Каляна не было відаць, і гэта добра. Але ўсё роўна трэба было спяшацца.

– За мной, дружок!

Сабачка зачыкільгаў за Арцёмкам, падмятаючы дарогу. Калі прайшлі трохі, хлопчык азірнуўся на тое месца, дзе сядзеў: ціха. Значыць, рашыў Арцёмка, Каляну і ягонай маці хапіла тых грошай, што ён сабраў раней, каб наогул забыцца пра яго. Выдатна. Цяпер ён – самастойны чалавек, амаль дарослы. Застаецца толькі палічыць грошы, каб потым разумна іх патраціць. Праўда, планы крыху памяняліся. Калі раней ён не думаў купляць мыла і ежу для сабакі, то цяпер давядзецца. Аднак гэта не бяда. Галоўнае, каб хапіла на білет у вёску. Машынкі, калі на іх не застанецца грошай, пачакаюць. І марожанае пацерпіць.

Грошы лічыць у людным месцы Арцёмка пабаяўся, ці мала што, таму ён выбраў дзіцячы садзік, там шмат хмызоў, у адзін з іх яны і зашыліся.

– Сядзі ціха, – папярэдзіў хлопчык сабачку.– Пачакай, а як цябе зваць?

Сабачка ціхенечка праскуголіў, лізнуў Арцёмку ў шчаку.

– Ну-ну, я да такога не прывык, – адмахнуўся хлопчык і выцер краем кашулі тое месца, куды лізнуў яго сабачка.– А сябраваць будзем. Бачу, ты добры, спагадлівы. Толькі без імя жыць нельга. Хочаш, я назаву цябе… Як жа мне цябе назваць, дружок? Пачакай! А так і будзь – Дружок! Я прыдумаў! Ты згодны, Дружок?

Сабачка адказаў:

–Гаў!

–Малайчына. Цяпер не перашкаджай мне лічыць грошы. Маўчок.– Арцёмка доўга лічыў грошы, фасаваў іх па кішэнях, аднак ад Дружка тайнаў не меў.– На мыла хопіць. Трэба недзе і нажніцы дастаць, каб тваё шчэцце абрэзаць, бо яно ж нікуды нявартае. Ды і што пра мяне падумаюць людзі? Скажуць, я ж ведаю: які ж гультай, які ж абібок гэты хлопчык, што ідзе з вунь з тым сабачкам! Няўжо ён не выбера часу, каб прывесці і сабачку ў больш-менш прывабны стан, каб прыдаць яму належны выгляд? Сорам які, сорам!.. Вось толькі ж дзе нажніцы ўзяць? Грошы ёсць, не пярэчу, аднак распылім, што тады? Гэта каб нам тыя нажніцы былі патрэбны кожны дзень, я б не пашкадаваў. Але што-небудзь прыдумаем. Спярша – на копанку, я ведаю, дзе яна, а па дарозе купім мыла. На другое ў нас – абед. І правільна! За стол жа з бруднымі рукамі садзіцца нельга. Я ўвесь час

хацеў адмыць свае рукі, асабліва ўлетку, калі не хадзіць у школу, але ў нас вечна не было мыла. А потым я, скажу табе па сакрэце, Дружок, узяў кавалачак ў школьным мыцельніку, ім і карыстаўся. Памыюся – і схаваю, памыюся – і схаваю. Уго, каб бачыў мыла Калян! На яго рукі тона мыла патрэба! Ого!.. Ну, ды што гэта я? Пайшлі, пайшлі, Дружок!

Мыла купіць не праблема, былі б грошы. А яны ёсць! А калі прытупалі на копанку, толькі тут спахапіўся Арцёмка: чым жа паліваць на сабачку? Хоць бы які слоік быў. І тут ён успомніў пра шапку, яна хоць і зімняя, набрыняе ад вады, але ўсёроўна, сцяміў хлопчык, павінна яго выручыць. Ён чэрпаў шапкай ваду, абліваў Дружка, той стаяў паслухмяна, мыліў яго, зноў абліваў… Іншы раз Дружку было, відаць, балюча, тады ён скуголіў, але цярпеў – нібы і сам разумеў, што памыцца трэба абавязкова, бо на каго ж і сапраўды падобны!..

– Цяпер мне з табой ісці не сорамна, – прызнаўся Дружку Арцёмка, і гэта было шчырае прызнанне. – Шапку я закіну, не будзем насіць яе. А дамоў мне трэба забегчы, бо ў такім адзенні не пусцяць на вакзал. Эх, Дружок! Ты вось жывеш і не ведаеш, што недзе ёсць вёска, у якой жывуць мае дзядуля і бабуля? А я ведаю. У тым мая перавага перад табой. Ну што ж, я абяцаў цябе накарміць. Толькі ты ў краму за мной не заходзь, а то цёткі будуць крычаць і могуць не даць нам ліварнай каўбасы. Зразумеў?

Дружок апусціў галаву: пытаеш, гаспадар. Рабі так, як табе лепш.

Спярша Арцёмка і сапраўды хацеў набыць у краме шмат ліварнай каўбасы, але калі зайшоў туды, у яго і вочы разбегліся. Тут іх, каўбас, хапае самых розных, яшчэ паспрабуй тую ліверную ўбачыць. Але ж ўсе дарагія. Надта. Хлопчык лічыў-пералічваў грошы, зноў, як не раз, распіхваў іх па кішэнях, а тады асмеліўся і папрасіў у прадаўшчыцы:

– Паўкіло доктарскай… з салам што… Нам хопіць на дваіх столькі.

– Каму гэта вам? – пацікавілася прадаўшчыца.

– Ну, мне і Дружку…

– Сабаку, ці што?

– Ага.

Прадаўшчыца паглядзела на гэты раз больш уважліва на Арцёмку, паківала галавой, спачуваючы, канешне ж, пакупніку, а тады выцягнула з-пад прылаўка кулёк і падала Арцёмку:

– Схавай. Дружку твайму. Костачкі.

– Дзякуй, цётка. Тады, можна, каўбасы пакладзіце мені, а то сапсуецца, а?

– Пакладу, як просіш..

– Во дзякуй вам.

Услед Арцёмка пачуў:

– Куды бацькі глядзяць толькі?!

Хай гаворыць яна што хоча, галоўнае ж – пашанцавала. Дружок, лічы, паабедае бясплатна. Трэба яшчэ ўзяць кавалак хлеба і кулёк малака. Калі хлеб застанецца ад каўбасы, тады можна даесці яго з хлебам.

Выходзячы з крамы, Арцёмку хацелася крыкнуць "Ура!", але ён стрымаўся: Дружок і так бачыў, што яго новы гаспадар ідзе насустрач яму не з пустымі рукамі.

Абедалі каля той жа копанкі. Дружок быў асабліва рады такой пайцы. Частку костачак ён прыкапаў непадалёку, каб умеў гаварыць, то, вярнуўшыся да Арцёмкі, сказаў бы: на чорны дзень.

А потым іх абодвух змарыў сон. І прыснілася хлопчыку, быццам едзе ён з Дружком у вёску ў шыкоўным аўтобусе, і так ім хораша абодвум, так ім весела!.. Але што гэта? За рулём аўтобуса сядзіць… бойфрэнд Калян? Так і ёсць, ён!.. Трэба ўцякаць. Але ж на хаду не скокнеш ? Што рабіць? Як быць? А бойфрэнд глядзіць на іх і рагоча… і быццам пацяшаецца: што, папаліся, нягоднікі-і-і?!..

На гэтым месцы Арцёмка прачнуўся.

– Прысніцца ж! – сказаў ён і паглядзеў на сабачку, які таксама ўжо глядзеў на яго.–Ты будзеш мяне чакаць тут. Мне пераапрануцца трэба. Памяняю штаны, таму грошы схаваю пад кустом, а ты сцеражы. Зразумеў? А то калі трапляюся тым на вочы, вытрасуць усё да дробязі. Акружаць, што і не ўцячэш. Яны, калі выпіць хочуць, страшныя тады людзі, вельмі нават… Сядзі тут, Дружок. Я вярнуся. Бачыш жа, і грошы прыкапаў, каб не думаў, што ўцякаю ад цябе.

Дома пашанцавала Арцёмку не менш, чым у краме: маці і бойфрэнд Калян спалі ўпокат, а дзверы ж без замка, таму ён хуценька пераапрануўся і неўзабаве быў ужо каля Дружка. Пагладзіў таго, забраў грошы ў схованцы і гучна, радасна сказаў:

– На аўтавакзал! А ў дзядулі з бабуляй нажніцы павінны быць!..

7.

**У** класе доўга думалі-гадалі, што магло б здарыцца з Арцёмкам. Раней такога за ім не назіралася, каб прапускаў заняткі. А тут ужо які дзень адсутнічае. Масла ў полымя падліла і Міронавана, якая – помнім жа – прызналася, што бачыла яго, а дзе і чым ён займаўся – аб тым усяляк утойвае. Інтрыга. Нават хлопчыкі заварушыліся: хто, як не мы, павінны ўсё разведаць? Дэлегацыя з трох аднакласнікаў накіравалася

пасля заняткаў на кватэру Арцёмкі. Ім адчыніў бройфрэнд Калян, заспаны і злосны. Паглядзеў нялюба на хлапчукоў, нешта прабурчэў сабе пад нос, а каб тыя далей парога не ішлі, паставіў паміж дзвярыма і вушаком нагу.

– А, гэта вы. А я думаў, што блудны сын знайшоўся. Чаго прыйшлі?

– Арцёма шукаем, – адказаў адзін з аднакласнікаў.

– Шукайце. Калі знойдзеце. Але скажу вам, сябры мае: ён здзейсніў дрэнны ўчынак. З рук вон. Так сапраўдныя дзеці не паступаюць. Раней бы, калі былі акцябраты і піянеры, за такое маглі б і ўсе рэгаліі адабраць. А? Як?

– Што, што ён такое зрабіў? – насцярожыліся аднакласнікі.

Бройфрэнд Калян зразумеў, што не тое пачаў казаць, таму даў задні ход:

– А вам тое знаць не трэба! А знойдзецца, перадам, што вы прыходзілі, цікавіліся… Бывайце, арляняты!..

Хлопчыкі яшчэ пэўны час тапталіся перад дзвярыма, якія ўжо зачыніліся, і не ведалі, што ім рабіць далей. Вядомая справа, Арцёмкі дома няма і не было ў апошні час. Тады дзе ён? І што такое кепскае зрабіў?

Назаўтра, калі яны прыйшлі на заняткі і расказалі настаўніцы пра тое, што даведаліся пра аднакласніка, у цэнтры ўвагі зноў апынулася Міронава. Настаўніца паглядзела на яе больш строга і патрабавальна мовіла:

– Міронава, ці ты скажаш, дзе бачыла Арцёма і чым ён займаўся, ці я зраблю з цябе не ведаю што!

Міронава насупілася і зацята маўчала.

– Увесь клас чакае адказу ад цябе, – парушыла маўчанне настаўніца.

Клас пачуў ад Міронавай наступнае:

– Можна, я сама яго пашукаю? Я ж абяцала яму не ўсё гаварыць… Нават – нічога… Можна? А?

Ёй палічылі правільным дазволіць.

8.

**Н**а аўтавакзале Арцёмка набыў білет да дзядулі з бабуляй, ён ведаў, што жывуць яны ў Паплавах. На ранішні рэйс спазніўся, а другі, і апошні, ідзе пасля абеда. Давялося чакаць. Дружок спаў пад лавай, а хлопчык ласаваўся марожаным і гартаў “Каламбур”. Калі нешта яму траплялася смешнае, тады смяяўся, гучна і весела, а людзі

азіраліся на яго і хто ні хто з іх таксама ўсміхаўся: шчаслівы, гляньце, чалавек сярод нас! Канешне, шчаслівы. Каб жа яны яшчэ ведалі, што ён, унук Арцёмка, едзе да дзядулі з бабуляй у госці! Іншы раз, праўда, яму рабілася крыху страшна: а ці пазнаюць і прызнаюць яны яго? Даўно ж бачыліся. Гэта мама казала, што даўно, а ён дык і наогул нічога не помніць. Арцёмка, канешне ж, іх пазнае. Адразу. Ён ведае, якія бываюць дзядулі і бабулі. Добрыя, ласкавыя, спагадлівыя. І абавязкова – сівенкія і мудрыя. Хіба ж не бачыў ён старых, калі хадзіў да сяброў у госці? А чым ужо так гарадскія дзядулі ды бабулі адрозніваюцца ад вясковых!

Неўзабаве жаночы голас на ўсю залу абвясціў, што пачынаецца пасадка на аўтобус, які пойдзе на Паплавы.

– Дружок, пад'ём!

Сабачка паслухмяна вылез з-пад лавы, атрос з сябе бруд, што так і ліпне да яго.

– Пайшлі. Наша пасадка.

Перад уваходам у салон утварылася чарга, жанчына, відаць, кантралёр, правярала квіткі, а шафёр сядзеў на сваім месцы за рулём і корпаўся ў паперах. Узяла жанчына квіток і ў Арцёмкі, надарвала яго і адарзу ж вярнула, а калі той прапусціў перад сабой Дружка, залямантавала:

– З сабакам? Куды? Нельга! Дакумент ёсць?

Арцёмка разгубіўся, ціха адказаў:

– Няма…

– Выходзь, хлопчык. Выходзь, выходзь!

Арцёмка не ведаеў, выходзіць яму ці што рабіць, таптаўся на адным месцы, на яго ўжо пачалі шыкаць пасажыры, каб не затрымліваў пасадку, а калі выскачыў з салона Дружок, ступіў на зямлю і ён. Паглядзеў на цётку кантралёршу, і сказаў ёй:

– Я ж памыў яго! Ён чысты!

– Такіх сабак – вунь колькі! Не хапала яшчэ катаць іх усіх!..

– Правільна, правільна,– хвалілі цёткі і дзядзькі кантралёршу, і тая была на сёмым неба ад шчасця: я сваю справу ведаю, грамадзяне, не думайце!..

Калі ў аўтобус зайшлі ўсе пасажыры, кантралёрша ўсё ж глянула на Арцёмку, і быццам спачуваючы яму прапанавала:

– Кідай яго, і залазь. Чуеш? А то зараз адпраўляецца аўтобус. Табе дакуль ехаць?

– Да Паплавоў…

– Пачакай, Міця! – кантралёрша папрасіла шафёра, а сама падыйшла бліжэй да Арцёмкі і Дружка. – Да Паплавоў, кажаш?

– Так.

– А да каго ж ты там? – яшчэ больш настойліва дапытвалася кантаралёрша.

– Да дзядулі з бабуляй…

– А хто ж яны, твае дзядуля і бабуля?

– А вам нашто?

– Я ж сама з Паплавоў.

– Праўда? – у Арцёмкі засвяціліся вочы.– Тады, можа, прапусціце нас?

– Але спярша скажы, хто твае дзядуля з бабуляй?

– Дзед Іван і баба Мар’я. Прыгожыя такія…

І тут нешта здарылася з кантралёршай, не інакш: яна заперхала, адвярнулася ад хлопчыка, а калі супакоілася траха, паглядзела на шафёра і махнула рукой: едзь, Міця.

– А яшчэ землякі…– пакрыўдзіўся Арцёмка і пагладзіў Дружка. – Прапаў білет.

– Білет? – ачомалася нарэшце кантралёрша і працягнула руку.– Давай яго мне, я здам. Табе грошы вернуць, хлопчык. За гэта не хвалюйся.

Яна павяла Арцёмку за сабой, здала білет, вярнула грошы.

– Дык ты, значыць, Верчын сын?

– Ага.

– Няўжо маці табе не сказала, што дзед Іван і баба Мар’я…

– Што, што яны, цётка? – нецярпліва тузануў жанчыну за рукаў хлопчык.– Што яны?.. Гаварыце ж вы!..

– Што тут гаварыць, калі няма ж іх ужо… Памёрлі яны, хлопчык… На кладах… Харошыя былі людзі… І сапраўды – прыгожыя…

Кантралёрша выцірала насоўкай слёзы на вачах Арцёмкі, а ён не саромеўся іх, слёз: плакаў амаль наўзрыд. Ніколі раней ён так не плакаў. Жанчына як магла суцяшала яго, а тады сказала, лагодна і цёпла:

– Калі падрасцеш, тады і з’едзіш да дзядулі з бабуляй. Добра? А цяпер не плач. Што ўжо цяпер? Слязамі не паможаш…Мамку б мне тваю ўбачыць, халеру!..

З аўтавакзала Арцёмка з Дружком ішлі надта доўга... Ды і не ішлі яны – цягнуліся…

Ім не было куды спяшацца.

9.

**М**іронава некалькі разоў прыходзіла ў падземны пераход, спадзявалася зноў убачыць там Арцёмку, аднак кожны раз дарэмна. Але ж як можна было сустрэць там аднакласніка, калі ён больш не з’яўляўся ў пераходзе.

А ў класе чакалі: дык калі ж ты нарэшце скажаш нам што-небудзь пра Арцёмку, Міронава?

Дзяўчынка не ведала, што адказаць. Аднак і саромелася прызнацца, што ён пабіраўся, як жабрак, у пераходзе.

Хіба ж гэта скажаш?!

10.

**С**паць у кусце хораша. Куст вялікі і густы, вырас ён на самым беразе возера.Тут некалі быў кар’ер, капалі гліну, і таму з люстраной паверхні цягне прахалодай. Але хораша, відаць, толькі аднаму яму, Арцёмку. Што ж да Дружка, то асабліва ўдзень таму бывае душна, склычанае шарсцінне на ім так і вісіць, а грошай, каб купіць нажніцы, ужо няма. Разляцеліся, што пыл. Цяпер вось і думай: як жыць далей? Давядзецца, нічога не паробіш, набрацца смеласці і нахабства, меркаваў хлопчык, і паказацца дома. Канешне, бойфрэнд Калян адразу ж накінецца на яго з кулакамі: дзе грошы, у цябе пытаюць, нягоднік? Можа, канешне, і ўдарыць, а маці, як заўсёды, не заступіцца, а толькі адвернецца і будзе ціхенечка румзаць. Вядомая справа. Не ўпершыню. Гэта яшчэ добра, што Арцёмка маўчыць у такіх выпадках, як вады ў рот набярэ, і тады таму нічога не застаецца, як супакоіцца, астыць.

– Трэба ісці здавацца, – кажа хлопчык Дружку.– Я б, можа, яшчэ пратрымаўся, бляшанку кансерваў, сам жа бачыў, я схаваў, з голаду не памрэм, толькі мне ў школу трэба. Гэта табе добра, не трэба туды хадзіць. А я хачу… ведаеш, кім я хачу стаць, Дружок? Не? Калі шчыра, дык я і сам не ведаю. Мне багата кім хочацца стаць. Ты смяяцца, пэўна, будзеш, але я хачу стаць доктарам… каб людзей лячыць… Вусы адпушчу… Толькі калі ў мяне таксама вырастуць рыжыя вусы, як у таго доктара, у якога мы былі з мамай, тады не буду адпускаць… Я б яшчэ і міліцыянерам стаў, каб абараняць людзей… Няма, кажаш, ад каго? Можа, і так… Але б мяне тады бойфрэнд Калян і пальцам не крануў!.. Раніцай пойдзем здавацца. У кватэру яны цябе, канешне, не пусцяць… Ды ты і сам там не захочаш жыць… Тады я табе зраблю будку, у нас якраз першы паверх, і табе будзе там яшчэ лепш… Пад акном…Слоікі з-пад кількі быдзеш

вылізваць замест мяне… А то як што, адразу: Арцём, вылізвай… А пакуль, Дружок, спім…

Арцёмку разбудзілі стрэлы. Адзін, другі… Што, зноў сон? Ён прачнуўся канчаткова, і ўжо выразна чуў, як побач, па сцяжынцы, пратупалі людзі, Дружок ажно не вытрымаў, заскрыгатаў зубамі, пачаў лаяць, і адзін дзяцюк, што адстаў крыху, кінуў у куст – на голас сабакі, мусіць – нейкі чорны прадмет. Неўзабаве ўсё сціхла, пачынала днець, таму Арцёмка добра разгледзеў, што то быў за прадмет такі – гэта быў пісталет, які ён дзесяткі разоў, калі не больш, бачыў у кіно. Хлопчык дрыжачамі рукамі выняў магазін, там было яшчэ некалькі патронаў.

– Трэба адсюль уцякаць, – Арцёмка паглядзеў на сабачку. – Не аддам… Нікому не аддам пісталет… Пайшлі, Дружок… Хутчэй… Тут, бачыў жа, ёсць патроны… Нам толькі мішэнь знайсці, і мы пастраляем з табой… Пабеглі, пабеглі, Дружок!..

Але куды бегчы, у які бок? Арцёмку здавалася, што з кожнага акна на яго глядзяць людзі, асуджаюць, лаяць: ай-я-яй! Знайшоў пісталет, і прысвоіў. А не, каб здаць яго ў міліцыю!.. Як усе нармальныя людзі паступаюць!.. Адумайся, хлопчык!.. Пакуль не позна!..

Арцёмка спыніўся, паглядзеў на вокны. На яго здзіўленне, нікога ў тых вокнах не бачна. Усе яшчэ спяць. І ён вырашыў ісці спярша ў Брылёўскі сад, там можна надзейна схавацца, а пасля, адтуль, можна будзе перабрацца куды-небудзь далей ад людскога вока…

Знайсці б толькі мішэнь.

11.

**У**жо бліжэй к другой палавіне дня, калі Арцёмка надзейна схаваў пісталет, ён вярнуўся ў мікрараён – без зброі, калі тая не адцягвае кішэнь, можна хадзіць. Палічыў грошы: на сціплы абед ім абодвум хопіць, а колькі каштуе тая мішэнь – невядома, ды і ці прадаюцца яны дзе, – таксама загадка. У ціры хіба што выпрасіць? Але ж адразу пачне той дзядзька роспыты ладзіць: навошта, куды?.. А ў рэшце рэшт і скажа: нельга, у мяне строгі ўлік.

У ціры хапае мішэняў. Арцёмка пацёрся каля стралкоў, доўга стаяў перад цiршчыкам, а тады – і адкуль такое ўзялося ў яго, пазней і сам сабе не адкажа?– прыдумаў наступнае:

– Мне трэба потым паказаць мішэнь дзядулю. Ён не верыць, што я ўмею спраляць, прынясі, кажа, пакажы, тады я табе буду даваць грошы з кожнай пенсіі на пулькі. Дык аддасцё мне тады мішэнь, а, дядзька? Скарыстаную? У мяне на дзве пулькі грошы ёсць…

Ціршчык, як і чакаў Арцёмка, не пагадзіўся:

– А як я потым спішу пулькі, малады чалавек?

– А як вы спісваеце, калі я, напрыклад, буду страляць па жалезных мішэнях, па вавёрцы ці мядзведзю? Там дзірачак не бывае, а?

Ціршчык замахаў на Арцёмку рукамі:

– Хлопчык, альбо страляй, альбо ідзі адсюль і не замінай іншым? Ну, чаго стаіш? Рашай!

Арцёмка, перш чым пакінуць цір, яшчэ раз уважліва паглядзеў на мішэнь і вырашыў яе зрабіць сам. Яшчэ можа і лепшую. Толькі трэба знайсці недзе агрызак фанеры ці якую кардонку і кавалачак крэйды.

Дружок, пакуль Арцёмка быў у ціры, чакаў яго, а як толькі хлопчык паказаўся, завіляў хвосцікам.

– Не дае мішэнь, скнара ён, – паскардзіўся сабачку хлопчык.– Можна падумаць, я плакаць буду. Знайду.

Хадзіць жа ў сваім мікрараёне даводзілася асцярожна, трэба было востра трымаць вока: калі Міронава сустрэнецца – яшчэ паўбяды, а раптам хто іншы ці нават настаўніца, і куды потым падзенешся? Калі б яшчэ адзін быў, тады прасцей, а з сабачанём не ўцячэш – будзе бегчы і гаўкаць, тады адразу на іх і наскочыш.

Каля камка, дзе прадаюць смачныя хлебныя чыпсы, Арцёмка пачуў страшны аповед. Сёння ноччу два бандыты напалі на “Банкамат”, забралі ўсе грошы і стралялі па вартаўніку крамы, у сцяну якой уманціраваны той банкамат. Забілі вартаўніка, кажуць, напавал. А пісталет выкінулі ў куст каля возера. Рабаўнікоў затрымалі, тыя паказалі, куды выкінулі пісталет, але там яго не знайшлі. Цяпер усюды шукаюць той пісталет…Увесь горад міліцыя падняла на ногі…

– Пайшлі, Дружок, адсюль, – спалохаўся Арцёмка, яму падалося, што міліцыя вось-вось паймае і яго, запіхне ў “варанок”, а сабаку, скажуць, і так добра будзе, няхай бяжыць куды хоча, і ад ўсяго гэтага хлопчыку зрабілася ніякавата, ён пашкадаваў, што адразу не аднёс пісталет, а цяпер, канешне ж, ужо позна: што будзе, тое будзе. – Там ёсць патроны. Пастраляю, і аднясу…нічога з пісталетам не зробіцца… Бо калі яшчэ так падфарціць?.. Хто мне яго дасць?.. Тым больш, я ж загарнуў пісталет у сваю майку…Не пашкодзіцца…

А тут якраз і міліцэйскі легкавік паказаўся. Арцёмка знерухомеў, а тады з палёгкай уздыхнуў: той праехаў міма.

12.

**М**іронава ўсё ж убачыла Арцёмку – якраз у той час, калі ён стаяў з Дружком каля камка і прыкідваў, што б ён купіў, калі б меліся грошы: хацелася есці.

– Ой, Арцёмка! – зніякавела дзяўчынка.– Я ж цябе шукаю. І не толькі я – увесь клас. Так-так, не здзіўляйся.

Арцёмка паглядзеў па баках: нікога няма. А яму пасля слоў Міронавай падалося, што з усіх бакоў падыходзяць аднакласнікі, і таксама, як і яна, радуюцца. Нарэшце! Вось ён, злосны парушальнік школьнай дысцыпліны! Узяць яго!.. Аднак каля камка, акрамя Міронавай, з аднакласнікаў нікога больш не было, і гэта надало хлопчыку ўпэўненасці. І, што сам заўважыў, ён нават абрадаваўся сустрэчы з Міронавай: можна будзе распытаць пра школьныя справы. Ды і не толькі пра іх – хочацца пабыць побач з дзяўчынкай, якая сядзіць за адной з табой партай, іншы раз замаўляе за яго выратавальнае слова, калі хто-небудзь стараецца абразіць. А такое бывае, ёсць нахабнікі, бо яны ведаюць, што Арцёмка рэшты ніколі не дасць, змоўчыць, будзе думаць пра нешта сваё, толькі аднаму яму вядомае. “Няма мне калі з вамі тут разбірацца!” Чым не момант упікнуць, паказаць сябе? Гляньце, які я герой, а хто ён, гэты Арцёмка? Пустое месца!.. Хоць каля дошкі ён, не пярэчым, фору дасць многім. Але гэта каля дошкі. Ёсць жа яшчэ і класнае памяшканне, дзе можна на перапынках паказаць сябе з усіх бакоў.

Арцёмка і сапраўды абрадаваўся сустрэчы з Міронавай.

– Цябе ў класе чакаюць, – сказала яна. – Калі будзеш? Заўтра? Ты мне адкажы: заўтра? Я, я паабяцала цябе адшукаць, калі хочаш ведаць. З зямлі выкапаць цябе паабяцала. І я, між іншым, не здрадзіла табе… Ніхто не ведае, што ты сядзеў у падземным пераходзе з працягнутай рукой. Пра іншае ведаюць, а пра гэта – не…

Арцёмка спярша апусціў вочы, потым падняў іх на дзяўчынку:

– Скажы: буду.

– Калі?

– Тут, разумееш, трэба мне адну справу вырашыць…

–Якую справу, Арцём? Чвэрць заканчваецца!

–Я не магу дома паказвацца… Грошы патраціў… Пачакай! Ленка, а ты не магла б з дому прынесці мне нажніцы. А?

– Навошта яны табе?

– Дружка пастрыгчы. Бачыш, як валачэцца ў яго па зямлі шчаціннe?

–Потым, потым, Арцём пра гэта. Ты мне адкажы: калі будзеш у школе? Запомні: я ад цябе не адстану, пакуль не пачую канкрэтны адказ. Буду хадзіць за табой… Куды ты, туды і я. Май на ўвазе.

Арцёмка адразу ўспомніў пра пісталет, пра мішэнь… І зноў абрадаваўся: а гэта ж якраз і момант!.. Хто, калі не Міронава?..

Ён і сказаў:

– Згода. Заўтра іду ў школу. Так і быць. Але і ты мне павінна памагчы. Поможаш?

– Што трэба?

– Мішэнь…

– Якая яшчэ мішэнь?

– Самая звычайная.

– Ты што – стралок?

– А нікому не скажаш?

– Я ж не сказала, што ты грошы клянчыў… – нагадала Міронава.

– Прымаецца. Тады вось што… Прынясі мне кавалачак крэйды. Збегай у школу, не палянуйся. А фанеру я нагледзеў… каля сметніка.

– Арцём, дзе тваё сумленне?

– А што?

– Каля сметніка… Што, у горадзе няма больш мясцін, дзе б ты мог хадзіць? Ты ў музеі быў хоць раз? У тэатры?

Арцёмка перапыніў дзяўчынку:

– Хопіць! Лекцыю я і дома паслухаю. Хоць не пра музей і тэатр. Там спытаюць: дзе я грошы падзеў, якія сабраў? Можна падумаць, што я ўвесь той час, які бадзяўся вось з Дружком, паветра еў. Аднак хопіць пра гэта. Зрабі для мяне, Ленка, добрую справу – прынясі, калі ласка, крэйду…

– А не ўцячэш?

– Зуб даю!

– Апошні раз, Арцёмка!– Міронава крутнулася на абцасіку і падалася ў напрамку школы.

Дружку хлопчык сказаў:

– Яна добрая, Ленка… І пра пісталет нікому не скажа… Хаця… хаця пра яго будуць неўзабаве ўсе ведаць і так… А хлопчыкі нават на смех падымуць: навошта аднёс, дзівак?.. Эх, нам бы яго!..

Пакуль Ленка бегала за крэйдай, Арцёмка схадзіў за кавалкам фанеры. А вось і яна. Моўчкі падала крэйду, а толькі тады, дыхнуўшы на пасмачку валасоў, што вісела на лбе, пацікавілася:

– Ну, і што далей?

– А далей – я адзін…

Пацяруха хацеў было сказаць: “Я сыты. Мяне ўжо накармілі”, аднак узяў сябе ў рукі, пастараўся быць самім сабой: канешне ж, усміхнуўся, хоць, адчуў, усмешка выдала яго хваляванне. Няўдалая атрымалася. Кіслая. А потым доўга расказваў жонцы, як цёпла прымалі яго чытачы. Сёрбаў варыва, хваліўся, а сам цвёрда рашыў: жонцы пра выклік на з’езд графаманаў ні слова. І вельмі добра, што кабета пайшла пасядзець на лаве з бабулькамі каля пад’езда. Пацяруха адразу ж прыкіпеў да тэлефона. Спярша мітусліва гартаў блакноцік, дзе былі пазначаны нумары яго сяброў-паэтаў, і вызначаў, каму ж першаму пазваніць. “У Гродна хіба? Няхайчыку? Хлапец неблагі, здаецца. Той раз, калі абмяркоўвалі яго вершы на імпрэзе, ён падтрымаў яго. Павінен помніць. Ды і чарку ж бралі”.

Няхайчык абрадаваўся, калі пачуў у слухаўцы знаёмы голас. Апавёў пра свае поспехі, паскардзіўся, што ў іх горадзе аб’явілася адна жанчына-крытыкеса, якая не дае яму жыцця: то там ушчыпне, то тут. Маўляў, графаман ты, Няхайчык! Якраз вось тут і хацеў папытаць Пацяруха, ці атрымаў той пісьмо на з’езд графаманаў, аднак не хапіла духу. І тады ён пачаў здалёк: нікуды, шаноўны калега, у бліжэйшы час не едзеш? Мо выклікаюць куды цябе? Няхайчык, на здзіўленне, адказваў адным словам: не. Пацяруха ледзьве стрымліваў злосць. Накіпела. “Так і прызнаецца той Няхайчык! Тып яшчэ той!” Ужо калі паклаў слухаўку, крыху супакоіўся: нічога-нічога, мне сёння прынеслі пісьмо, табе прынясуць заўтра. Нікуды не дзенешся. Паштары сваю справу знаюць. Бо які ён паэт?! Вось хто ўжо калі і графаман, то ён, Няхайчык! Ці трэба казаць? Не, не выкруціцца!..

Але сёння Пацяруха рашыў больш нікому не тэлефанаваць. Сцяміў: трэба даць час, каб тыя запрашэнні паспелі даставіць паштальёны па належных адрасах. І ў Магілёве, і ў Віцебску, і ў іншых гарадах. У сваім жа горадзе не стаў нікога турбаваць. Сваіх ён ведаў добра: тыя, хоць і атрымаюць запрашэнні, не прызнаюцца. Партызаны яшчэ тыя.

На другі дзень, напісаўшы паўтузіна вершаў і дачакаўшыся, калі жонка зноў зойме месца на лаве перад пад’ездам, Пацяруха бадзёра пацёр далонямі, і сам сабе загадаў: “За справу!” Выбар паў на Магілёў. Неяк быў ён на свяце паэзіі “Пісьмянкоў луг” і там пазнаёміўся з адной паэтэсай у капелюшы, якая выдала ажно шэсць кніжак вершаў і хацела іх адразу прачытаць прысутным, стоячы на сцэне перад мікрафонам, але яе ўсё ж спынілі нейкім чынам, хоць і каштавала гэта вялікіх намаганняў.

Пацяруха крэкнуў, прадставіўся.

–А-а, Гомель! Вельмі рада, вельмі рада пачуць ваш голас, шаноўны! – пачуў ён у адказ і далей як ні стараўся, доўга не мог уціснуцца ў гамонку.– А я вас толькі што ўспамінала, так-так. Верыце? А вы і лёгкі, як кажуць, на ўспамін. Што пішацца? Якія тэмы хвалююць? Потым, потым скажаце… Дайце нагаварыцца спярша мне. Я ж адна жыву… кантактаў амаль ніякіх, то засумавала… Гэта я вам не казала, што адна? Там, на лузе? Не, здаецца, нам жа не было калі… Дык вось і добра, што вы патэлефанавалі, я вам зараз прачытаю свае новыя вершы… Сваім усім я прачытала ўчора, то дужа хвалілі… Але ж мне хочацца пачуць слова пахвалы і ад вас, шаноўны… як гэта вас зваць, прабачце?..

Пацяруха рады быў, што яму нарэшце прадставілася магчымасць сказаць хоць гэтыя два словы: Дзяніс Іванавіч.

– Дык вось, Дзяніс Іванавіч, – адразу ж падхапіла магілёўская паэтэса, – мне хочацца пакаштаваць хоць траха пахвалы і міжгародняй, так сказаць… Не будзем губляць часу – слухайце мае новыя вершы… Ага, вам спярша пра каханне ці пра прыроду? Магу і пра горад, пра замежныя краіны, дзе я падарожнічаю іншы раз, седзячы перад экранам тэлевізара. Э-х-ха-ха-ха-а-а-а!.. Мы, паэты, павінны самі ствараць для сябе камфорт і ўтульнасць, каб было цёпла і светла…

– Мне ўсёроўна, – калі ўтварылася нарэшце паўза, ціха прамовіў Пацяруха і пашкадаваў, што не той набраў нумар: трапіў, адным словам, як рыбіна ў нерат, а яму ж чым хутчэй карцела даведацца пра з’езд.

Нарэшце ён знайшоў выйсце, як спыніць traскатню, параіў:

– А вы гэты верш прачытайце на з’ездзе… Успрымуць! З’ядуць! Геніяльны ж твор! Супер!

– На якім гэта такім з’ездзе? – паэтэса прытармазіла, зацікавілася.

– А што, вы хіба не чулі?

– Не.

– А я чуў… быццам нейкі з’езд намячаецца… Гэта мне сказаў адзін тут наш паэт, яго запрасілі…Дзіўна, і мне нічога не даслалі… А яму, кажа, прыйшло запрашэнне… Яны што – праз аднаго?.. Выбарачна?.. У каго пальцам тыцнулі – той і дэлегат, так атрымліваецца? Непадарак! Самавольства!.. Хоць нас, вядома ж, гэта і не тычыць, аднак справядлівасць павінна існаваць усюды. У якой дзяржаве жывём, папытаць бы?!..

Крыху пакрытыкавалі каго трэба і чытка вершаў працягвалася. Хоць ужо і аслабла рука, трымаючы слухаўку, замлела, аднак

Пацяруха, разачараваны няўдалым званком, рашыў нарэшце ўзяць ініцыятыву ў свае рукі, і цяпер вершы слухала ўжо яна, магілёўская паэтэса. Гэта працягвалася б, відаць, доўга, аднак вярнулася з лавы жонка і папрасіла, каб уступіў ёй месца каля тэлефона: дрэнна зрабілася камусьці з бабулек, неабходна выклікаць “хуткую”.

Жонка ўладкавалася каля тэлефона, а Пацяруха пачаў усё ж збірацца на з’езд. Было не было. Цікава ж паглядзець, каго яшчэ выклікалі. Дастаў заначку, апрануў новы бліскучы касцюм, кінуў у старэнькі дыпламат некалькі кніжак сваіх вершаў.

А шчыра сказаць калі, у яго меўся свой план на гэтую паездку…

– Ты куды гэта сабраўся? – напусціла на сябе строгасць жонка. – Чаму маўчыш? Я ў каго пытаю?

Пацяруха замахаў на кабету рукамі, маўляў, не да цябе зараз. Тут вырашаюцца важныя справы. А калі прыдумаў што сказаць, тое і давёў да яе ведама:

– У сталіцу еду. Выклікаюць па літаратурных справах. Няйначай, прызналі? Як думаеш?

– Ну, калі па літаратурных справах… – няпэўна паціснула плячыма кабета, – то глядзі сам, Дзёня…

– Толькі што патэлефанавалі, – схлусіў, не міргнуўшы і на гэты раз вокам, Пацяруха. – Праезд аплацяць. Усё чын па чыну. Мо ўзаб’ёся на якую-небудзь прэмію? Павінны!

Жонка села на табурэт, сумна ўздыхнула:

– Усе ж мне шкада цябе, Дзёня, вельмі нават. Столькі ты вершаў напісаў, столькі грошай патраціў на свае кнігі – і ўсё ўпустую…

– Пакуль, пакуль, – суцешыў жонку паэт. – Бачу сябе на п’едэстале з лаўровым вянком.

– Каб жа збылося!

– Збудзецца! Даю слова! Мой радок сам Барадулін хваліў! Мускулісты, кажа, у цябе радок, Пацяруха! Быць табе класікам! Прабач, толькі пасля мяне. А мне, скажы, якая розніца – пасля каго, га? То-та ж!

– Ну, едзь сабе,– зусім расчулілася жонка, адлічыла мужу грошы на дарогу і абед, што зусім някепска было да ягонай заначкі, і Пацяруха даў буську кабеце, прычыніў за сабой дзверы.

Прымай, сталіца!

Першай справай паэт накіраваўся да філармоніі, дзе павінен адбыцца з’езд. Але ён не дурань, каб адразу ж перціся ў дзверы, паказвацца, а схаваўся за дрэва якраз насупраць шыльды, якая ўказвала, што гэты бульвар носіць імя Мулявіна, і прыняўся назіраць за

развіццём сітуацыі. Ага, вунь і Няхайчык шпацыруе! “Гэта той, каго не выклікалі!” Пацяруха на нейкі момант забыўся, што патрэбна захоўваць канспірацыю, хацеў было крыкнуць яму:”Прывітанне, дружа!”, аднак своечасова спахапіўся. Ды і каму было крычаць, калі Няхайчык схаваўся ў апошні момант за дрэвам насупраць і таксама сачыў за ўваходнымі дзвярыма, зрэдку выторкваючыся лысінай. Тут ён заўважыў, што з суседняга куста назірае за дзвярыма паэтэса ў капелюшы… А вунь празаік Цяпкін крадком выглядвае з-за парапета, як спускацца-падымацца ў метро… Ён з Брэста, здаецца… А вунь… А вунь… А вунь… Божа, ды тут дзесяткі знаёмых твараў! І ніхто не адважваецца першым заходзіць у памяшканне… Усе затаіліся і толькі зрэдку выглядваюць са сваіх схованак. Сядзяць у абароне. Калі ж пачнецца наступленне? Ну канешне ж, каму гэта ахвота заходзіць на той з’езд! Дурняў няма. Засмяюць. Як першаму, шчэ які прыз дадуць, картку размесцяць у газетах. Не! Туды ходу і яму, Пацярусе, няма! Навошта выторквацца, як Мікіта з канопляў? А вось хто прыехаў на той з’езд – цікава паглядзець. Але трэба зрабіць гэта так, каб сябе не паказаць.

Так, мусіць, думаў не толькі Пацяруха – кожны з дэлегатаў. Бач, колькі іх, графаманаў, варушыцца ў хмызах ды за дрэвамі і калонамі!..

І нядоўга думаючы, Дзяніс Іванавіч потайкам падворкамі узяў накірунак да бліжэйшага прыпынку. Трэба недзе выпіць куфаль піва, з’есці піражок – і дадому, за пісьмовы стол. Пісаць, пісаць, пісаць!..

…Пацяруха ляжаў на канапе і глядзеў у столь, адкуль, між іншым, нярэдка чэрпаў тэмы. Там сядзела вялікая муха.

– Нахабніца! – крыкнуў ён.– Прэч, сказаў!

Муха не слухалася, прыліпла да аднаго месца на столі, і хоць ты што ёй. Ён пачаў шукаць тапак, каб запусціць ім у пачвару, аднак таго нідзе не было. Патэпаў на кухню, там кабета гатавала вячэру, папытаў у яе:

– Маруся, ты выпадкова тапак маіх не бачыла? Муха на столі сядзіць, каб яе пранцы!

Маруся зарагатала, што здзівіла паэта: даўно, вельмі даўно не было ў яе такога настрою. “Што гэта з ёй? З чаго б?..”

– Дапісаўся, – жонка нарэшце перастала рагатаць, пахітала галавой. – Ды ты на свае ногі глянь, паэт! Ой, гора!..

Пацяруха і сам цяпер ужо добра бачыў, што ён стаяў у тапках. Нічога не сказаўшы, ён пайшоў у свой пакой, паглядзеў на столь, аднак мухі там ужо не было. Яе не было нідзе. Але што гэта? Яна,

муха, поўзае па ягоным твары?! Ну, пачакай, нахабніца! Пацяруха табе такога ніколі не даруе. Ён сабраўся, прыцэліўся і з ўсяго размаху моцна ляснуў сабе па лбе.

І… прачнуўся.

Доўга ляжаў потым пад коўдрай і адчуваў сябе надта шчаслівым чалавекам. “Прысніцца ж розная драбядзень,” – думаў-разважаў Пацяруха і асцярожна кратаў тое месца, па якому толькі што агрэў далоняй.

## ЗІМЫ НЕ БУДЗЕ

**Ш**ыза-чырвоны, з залацістымі пярэсцінамі певень ужо таптаўся на сваіх шышкаватых нагах перад ганкам. Было рана, толькі ў тым баку, дзе заўсёды ўлетку ці ўвесну павольна-нетаропка выпаўзае з-за лесу – і тое, вядома, у пагодлівы дзень – круглячок сонца, крыху пашарэла неба, аднак на снежным покрыве ляжала густой коўдрай усё яшчэ цемра. Толькі-толькі бралася на дзень, а яму не спіцца. Вядама ж – певень. Хоць таму і няма каго, здавалася б, будзіць, аднак сваю справу, блазнюк, ведае: пракукарэкаў і на гэты раз галасіста, задорна: уставай, маўляў, гаспадар, пакольні курэй звёў, паміраю ад суму-скрухі, то і табе нечага спаць. Выходзь, пагамонім. Удвух весялей будзе. Чуеш, гаспадар?

Сцяпан Ануфрыевіч вынес нецярпліваму пеўню снеданне – добрую жменю пшаніцы ў круглым слоіку з-пад селядцоў, паставіў перад пеўнем, аднак той не спяшаўся дзяўбці, а нібы стараўся зазірнуць гаспадару ў вочы: нахіляў галаву на бок і так і гэтак, а потым цёрся каля нагі, адыходзіў і лэпаў крыламі, задаволены: ага, так і дам я табе спаць.

– Еш, еш, пеця, – лагодна казаў Сцяпан Ануфрыевіч. – Ну што ж паробіш, калі лёс у нас такі, амаль аднолькавы? Трымайся, братка. Мы ж мужчыны. Перазімуем, а там вясна будзе, я табе курак маладых з горада прывязу. Ажывеш каля іх. Мала засталося чакаць. Еш, еш. Не глядзі на мяне так сярдзіта. Я ўчора ў краме, між іншым, каўбаскі купіў. Табе проса. Усё цяпер у краме, дзякаваць богу, ёсць. Пайду таксама паснедаю…

Паснедаць жа Сцяпану Ануфрыевічу, як меркаваў, не ўдалося. Толькі ён пераступіў парог хаты, як мілагучна заспяваў “Паланэз Агінскага” мабільнік. “Хто б там мог быць?” Турбаваў сын Ануфрый. “І чаго ён у такую рань? Мо здарылася што?” Сцяпан Ануфрыевіч не без хвалявання паднёс да вуха тэлефон. Павіталіся. “Ты дзе, сынку?” –

“Амаль дома я, баця. Тры кіламетры якіх не даехаў да цябе. Слізка, машыну занесла, і я ўляцеў у кувет. Але ты не хвалюйся, усё добра. І са мной, і з машынай. Снег свежы, мяккі. Але выбрацца сам не магу… Сеў моцна. Схадзі, баця, папрасі Віцю Бародкіна, хай цягане сваім “Беларусам”. Адным словам, ты мяне зразумеў. Чакаю.” – “А чаго ты надумаўся так рана ды ў такое надвор’е? Снегу ж намяло – свету белага не бачна. Неслух ты, Ануфрый!”– “ Чаго-чаго? Ды за табой жа еду.”

Сцяпан Ануфрыевіч адарваў мабільнік ад вуха, прабурчэў сам сабе: “За мной ён едзе. Ну, і што ты яму, сыну, скажаш? Даў жа ад варот паварот, а ён, бачце, ўсё роўна сваю лінію гне. Баіцца, што замерзну я тут адзін… Я ж і кажу: неслух…”.

Віця Бародкін і яго Ануфрый былі равеснікамі і сябрамі, Сцяпан Ануфрыевіч і вучыў іх з першага па чацвёрты. Калі ішоў да трактарыста з просьбай, успомніў, як Віцька у другім ці трэцім класе падняў руку на ўроку, каб папрасіцца на патрэбе ў прыбіральню, а ён, настаўнік, падумаў, што той хоча адказваць і выклікаў яго да дошкі:”Ну, давай, пакажы нам, Віця, як трэба рашаць прыклад…” Хлопчык не стаў пярэчыць, патупаў да дошкі, ну а потым адбылося тое, што адбылося: ён, бедалага, часта затупаў нагамі, а тады напяўся і скрывіўся ўвесь ад сораму перад аднакласнікамі і ад сваёй часовай безабароннасці, а на падлогу пацёк ручаёк з ягонага сандаліка… І смешна сёння ўспамінаць пра гэта і грэшна… Але што добра: вучні потым неяк адразу забыліся пра гэты недарэчы выпадак, не тыцкалі пальцам у аднакласніка, а зрабілі выгляд, што наогул быццам нічога і не адбылося. Так, дробязі, звычайная недарэчнасць. З кім не бывае. “Малайцы, дзеці”,– падумаў тады пра іх Сцяпан Ануфрыевіч.

Па-рознаму скláліся жыццёвыя дарогі ў Ануфрыя і Віктара. Кожны з іх абраў прафесію свайго бацькі: Ануфрый скончыў універсітэт, жыве ў абласным цэнтры, выкладае беларускую літаратуру ў гімназіі, а Віцька стаў трактарыстам. Пакорлівы, неганарлівы, ён бы паспяшаўся на выручку кожнаму чалавеку, які трапіў ў такую сітуацыю, у якой аказаўся сын настаўніка-пенсіянера, а тут – Ануфрый!.. І таму Віктар, выглянуўшы на стук у шыбу і пазнаўшы ў святле, што падала з хаты на падворак, Сцяпана Ануфрыевіча, паскараючы крок, выйшаў на ганак. Выслухаўшы яго, Віцька заўсміхаўся, пажартаваў:

– А я думаю, чаго гэта нос у мяне свярбіць? Чуе, халера”. – Ён патаптаўся на месцы, прапанаваў ранняму госцю ўвайсці ў хату, бо холадна, а калі той адмовіўся, то ўзнёсла заявіў: – Задачу, аднам

словам, зразумеў. Будзем думаць, як яе выканаць. Як ведаў: учора ўсю саляру зліў у бак, каб раніцай кашай не зрабілася, таму праблем не бачу. Друга трэба ратаваць. Хоць, магчыма, і па шапцы атрымаю… Але шапак можа быць многа, Ануфрый – адзін. Трэба і мне, дарэчы, яго мабільнік у свой занесці. Але гэта – потым. Бягу на двор і еду!

Сцяпан Ануфрыевіч не бачыў, а чуў, як пакаціўся “Беларус” ад Віцькавай хаты ў бок Дружбы, за якой і чакае выратавання са снежнага полону сын, а ён сядзеў на зэдліку і абіраў бульбу. Трэба рыхтаваць снеданне. Хлопцы ж прыедуць. Добра, што каўбасы сыравяленай купіў ўчора палку. Ёсць сала, агуркі, памідоры, капуста. Бляшанка селядцоў таксама. Ну, а што яшчэ трэба ім, мужчынам? Маецца і паўлітэрка, але ж яны за рулём, а самому і так добра. Ён уявіў, як Ануфрый і Віктар будуць разам умінаць за сталом прыгаваныя ім стравы, і на вачах, сам таго не жадаючы, успыхнулі здрадніцкія слёзы. Яны, хлопцы, і раней, было, любілі разам паесці. Толькі тады гатавала ім жонка-маці, яна была майстрыхай па кухоннай справе. Паставіць на стол стравы, а сама сядзе насупраць, шчаку падапрэ рукой і любуецца хлопцамі: бач, ажно насы ўпрысядкі ходзяць! Здаровымі растуць, значыць, калі такі апетыт. То і добра. Старой няма ўжо амаль пяць год, пастарэў, прыкметна здаў і Сцяпан Ануфрыевіч. Гады ж – амаль восемдзесят пяць, ад іх не ўцячэш, не схаваешся. Хварэе, нягож. Гэты мабільны Ануфрый і набыў яму, прывёз і заявіў, блазнуючы:” Буду трымаць цябе, бацька, на прыцэле. Цяпер ты ад мяне не схаваешся”. Кантралюе, адным словам, Сцяпана Ануфрыевіча сын. Стары спярша ўпарціўся, думаў, што тэлефончык гэты будзе патрабаваць шмат грошай, навошта ён яму, а тады адчуў, наколькі той зручны і неабходны. То дачка патурбуе, пацікавіцца, як здароўе, яна мінчанка, то самы старэйшы сын Мікола; той звоніць радзей, бо жыве ў Маскве. Але – звоніць. Ануфрый жа, сярэдні, бліжэй за ўсіх, таму ён, вядома ж, часцей і гасцюе ў роднай хаце.

І вось – едзе забіраць яго ў горад. Сцяпан Ануфрыевіч адразу ж успомніў пра пеўня. А яго куды падзець? Суседцы, хіба што, аддаць, каб да вясны патрымала? Яна-та пагодзіцца, жанчына добрая. А калі вернецца з горада з куранятамі, а ён вернецца абавязкова, тады і забярэ назад, каб вадзіў свой курыны карагод. Войска без камандзіра не бывае.

Пакуль Сцяпан Ануфрыевіч чакаў сына, пра многае перадумаў. Аднак так і не рашыў цвёрда, ехаць яму ў той горад ці не. Там жа, разважаў ён, зімы не будзе. І як гэта ён раней не падумаў пра гэта?! Ну і сапраўды ж яно так. У кватэры заўсёды – круглыя суткі – цёпла,

Ануфрый з жонкай і дачкой жыве на сёмым паверсе, то і снегу нават у акно не ўбачыш, не кажучы ўжо пра што іншае. Так і прасядзіш ў цяпле – як у Афрыцы той. Ды і ад суму памрэш. З аднаго боку добра, што сын і нявестка праяўляюць клопат аб ім, а з іншага – дык і сапраўды ж… выкрасліш зіму з жыцця. Тут жа ранкам трэба і сцежку пачысціць ад снегу, і глядзець, каб дах не праваліўся пад яго цяжарам, і ў сад пайсці пацікавіцца, як там дрэвы маюцца. Цяпер зайцы ажывіліся, галодныя, то маладзейшыя дрэвы могуць і пагрызці, хоць і абвязаў яловымі лапкамі. А наваліць снегу, як у ранейшыя гады, то шаракам будзе дзе раскашаваць: дастануць, і рабіць няма чаго, крону. Скокнуць на сугроб – і ласуйся салодзенькімі галінкамі. А раптам у суседскага хлопчыка Міхаські канёк затупіцца? Хто яму навострыць яго? Бабка Насця хіба? Бацька хлопчыка недзе сабакам сена косіць, а маці спілася, тыднямі дома не бывае.

Певень па-ранейшаму тупаў па двары, усцяж расквеціў сваімі лапкамі свежы сняжок. Ён, падобна на тое, таксама нешта адчуваў нядобрае, таму прывязаўся да гаспадара: куды той, туды і ён. Толькі ў хату не ішоў, разумеў, туды яму нельга, хоць калі былі сёлета самыя моцныя маразы і начаваў колькі разоў ён у пярэднім пакоі, дзе гаспадар паставіў для яго кош, аднак певень аблюбаваў сабе тады месца на спінцы крэсла. Чым не курасадня? Цяпер жа, калі маразы спалі, троху адлягглі, ён ведаў, дзе ягонае месца. Разумны ўсё ж ён, певень. Таму і бярог яго Сцяпан Ануфрыевіч.

Калі на мосце паказаўся нарэшце сынаў легкавік, сэрца ў Сцяпана Ануфрыевіча затахкала часцей – гатова было, здавалася, вырвацца з грудзей. І каб крыху супакоіць сябе, ён узяў на рукі пеўня, пагладзіў таго шыза-чырвоны грэбень і сказаў даволі гучна і бадзёра:

– А мы так і скажам яму, Ануфрыю: нікуды мы не паедзем, бо там, у горадзе, зімы не будзе… Так і скажам яму… Сын у мяне разумны… Ён усё ж павінен нас зразумець… Нам добра там, дзе ёсць зіма… Асабліва такая, як сёлета: марозная і снежная… Даўно такой зімы не было ў нас… Ну што ж – пайшлі сустракаць Ануфрыя… Да веснічак пайшлі… Так і скажам яму… З табой, пеця, і мне не так страшна… Верыш? Усё ж – удвух… Паставім, паставім Ануфрыя перад фактам: давай, скажам, нам зіму, тады паедзем. А дзе ён возьме яе ў тым горадзе? Пэк-мэк, і – рукі ўгору, і здаўся!.. Бо зіма тут, дзе мы жывём… А ў горадзе зімы не будзе… Не-а…

## Апавяданні з цыкла
## “ДЗЕД АЎГЕЙ І ДЗЕЦІ”

**С**тары Аўгей больш сядзеў на лаўцы каля сваіх веснічак, абапершыся на кіёк, і назіраў за жыццём, што ладзілася на вясковай вуліцы. Маленькія вочкі-гузікі паспявалі ўсё ўбачыць, запрыкмеціць,? нічога не прапусцяць. Ён ахвотна ківаў галавой на прывітанні-паклоны вяскоўцаў, іншы раз змахваў картуз, бліскаў лысінай, нешта мовіў прахожым, цікавіўся, ці прывезлі ў краму хлеб, тады-сяды скардзіўся, што доўга няма дажджу... Ну, а калі побач прашмыгне хто з дзятвы, абавязкова зачэпіць таго словам, стараўся прыпыніць каля сябе, і тады адбываўся невялічкі спектакль каля веснічак старога Аўгея. Хоць і не толькі каля веснічак ? там, дзе заўсёды былі дзед і дзеці...

Нядаўна я пабываў у сваёй вёсцы каля той хаты, у якой жыў мой дзед Аўгей. Паколькі даўно ўжо няма дзеда Аўгея і бабы Аксінні, а ў хаце ніхто не жыве, і яна, хата, таксама памірае...

Але значна больш, перакананы, будуць жыць гісторыі пра дзеда Аўгея і дзяцей, якія склалі, такім чынам, ладную вязанку апавяданняў. І, што прыемна, магу сказаць без лішняй сціпласці: працяг будзе. Бо як толькі прыгадаю нешта цікавае пра свайго дзеда, адразу ж запісваю. Каб самому не забыцца і вам расказаць.

### ПЕРШАКЛАСНІК ЛЁНЬКА

**У** гэтай невялічкай лясной вёсачцы няма сваёй школы. Ды яна і не трэба – адзін вучань усяго жыве тут. Лёнька. Хлопчык ён гарэзлівы, шустры. Спярша маці вадзіла малога ў суседнюю вёску за два кіламетры, каб Лёнька граматы набіраўся ў першым класе, а потым хлопчык насупіўся: « Я сам!» Ён не сказаў маці, што дзеці пачалі кпіць з яго: эх ты, сам у школу ўжо прыйсці не можаш, герой!

І пачаў Лёнька хадзіць у школу сам. А дзед Аўгей, як заўсёды, ужо раненька на лаўцы сядзіць, папяроску смуголіць:

– Ты куды, Лёнька? – пытае дзед, нібы не ведае.

– У школу,– горда адказвае Лёнька.

– Дык гэта... навошта пантоплі рваць... у белы свет у школу тэпаць– – хітравата глядзіць на малога Аўгей.

– А што? – Лёнька спыніўся.

– Нічога асаблівага, я ж і кажу. Можна ж і пантоплі не рваць, і граматным быць.

– Як гэта? – цікава Лёньку.

– Хочаш, я цябе вучыць буду?

Лёнька яшчэ больш зацікавіўся, падступіўся бліжэй да Аўгея. А стары працягвае:

– Ну. Навучу. Пісаць і чытаць. А што табе яшчэ трэба? Давай, запісвайся да мяне. Падавай заяву. Я табе і дакумент потым выдам, не горш за тую школьную ацістацыю, і пячатку з бульбіны... з самай вялікай андрэты выражу – і хлопну на дакумент. Га– Без екзаменаў цябе куды хочаш прымуць пасля маёй навукі. У любую акадземію. А то выдумаў – у белы свет хадзіць, каб навучыцца чаму-небудзь. Я цябе, Лёнька, і раней яшчэ выпушчу – усіх абскачаш, ужо можа якім інжынерам станеш ці касманаўтам, а дружбакі твае будуць яшчэ ў той школе млець. Дык думай, Лёнька. Думай.

Лёнька раптам развярнуўся і наўскач паімчаў дамоў. Праз колькі часу ён на той жа хуткасці прашмыгнуў каля Аўгея, паказаў старому язык – прывітанне, а як жа, ад бацькоў. А сам у школу ж пабег, куды яшчэ.

– Чаго добрага спозніцца, жэўжык, – праводзіў вачамі хлопчыка Аўгей, хітравата ўсміхнуўся. – Бяжы, бяжы, Лёнька. Вучыцца трэба. Ты дзеда не слухай. Дзед напляце табе бочку арыштантаў... Бяжы, бяжы...

## СЛЁЗЫ І ЦУКЕРКА

**Д**а бабкі Вулляны дачка прывезла з горада ўнука Юрку – на ўсё лета, каб малачка папіў, ягадамі ды яблыкамі паласаваўся. Хлопчыку яшчэ далёка да школы, у садзік надакучыла хадзіць, а ў бабулі яму добра. Тут і куры, і кот Васька – яго лепшы дружбак. І вуліца шырокая, утравелая – не гарадскі асфальт. Прыемна тупаць. Ён і ходзіць па траўцы. Якраз з дзедам Аўгеем параўняўся.

– Здароў, Колька! – стары прыўзняў картуз, кіўнуў.

Вуллянін унук павярнуўся да дзеда, надзьмуў шчокі, а потым падаросламу пераканаўча сказаў:

– Я не Колька.

– Не, ты Колька.

– Я не Колька. Я Юра,– сур'ёзна сказаў хлопчык.

– Не, няпраўду кажаш. І дзе ж ты так хлусіць, цікава мне, навучыўся– Ты – Колька!

– Я – Юрка! – малые пачынае тупаць нагамі, даказваючы, хто ён ёсць на самой справе. Я – Юрка!

Стары хітра ўсміхаецца:
– А чым дакажаш– Пакаж метрыку.
Хлопчык не знаходзіць, што адказаць. Маўчыць. Насупіўся.
– Ну, і куды ж ты ідзеш, Колька–
– Я Юрка-а-а!– на вачах малога выкругляюцца слязінкі, ён зноўку тупае нагамі.
А стары гладзіць малога па галаве, дастае з кішэні цукерку, падае яму:
– Во калі з'ясі маю цукерку, толькі тады паверу, што ты Юрка і ёсць на самой справе.
Малы хуценька пракаўтнуў цукерку, усміхнуўся – вочкі блішчаць.
– Бачыш?
– Во цяпер бачу. Ну, і куды ж ты ідзеш, Юрка–
– А не скажу!– і хлопчык вёртка шуганўў ад старога.
Аўгей жа ўсміхаецца: сёння і яму трошкі весялей стала на гэтым свеце, дзякуючы Вуллянінаму ўнуку.

## БУЛЬБАШЫ

**П**аклікаў неяк дзед Аўгей да сябе дзяцей.
– Прыходзьце сёння, шаноўныя землячкі, да мяне, – сказаў стары, сустрэўшыся з імі каля крамы. – Хто спозніцца – вельмі пашкадуе. Буду чакаць. Усе чулі?
– Усе!– амаль што ў адзін голас адказалі дзеці.
– Не спозніцеся?
– Не-е!
Дзед Аўгей сядзеў на лаўцы, смуголіў сваю дужа нясмачную цыгарку, а як толькі ўбачыў дзяцей, што купкай – як і гулялі каля крамы – тупалі да яго, пашукаў, куды б прыладзіць акурак, а тады шпурнуў яго падалей у траву – каб і духу блізка не было, каб дзеці маглі дыхаць чыстым паветрам. Дзед Аўгей такі: багата з таго, што сам рабіў, не жадаў дзецям. «Дурное ўсё гэта». Дзеці селі каля дзеда на лаўку – з двух бакоў, і Лёнька, зірнуўшы з-пад ілба на старога, напомніў пра сябе і сяброў:
– Мы прыйшлі...
– Гэта я бачу,– варухнуўся на лаўцы дзед Аўгей. – Малайцы. Нешта ў вас сёння ногі цэлыя, непадрапаныя? Га? Тут нешта не так. Не можа быць хлапцоў, каб у іх ўсё чын па чыну было. Слабавата бегалі. Але нічога, справа паправімая. Хочаце, я вось на гэтых дзвюх цаглінах, – стары паказаў на самаробную печ, спрацаваную з

чырвонай цэглы каля брамы, – такую страву згатую, што пальчыкі абліжаце?

Дзеці, не ведаючы яшчэ, што там за страва такая будзе, быццам незнарок пракаўтнулі сліну...

– Ніколі смачнейшай ежы вы не спыталі, гэта я вам, стары чалавек, гавару. Ці, можа, бачылі смачнейшую– Га, Петрык– Што ты скажаш нам на гэта–

– Не ведаю, – паціснуў плячом хлопчык.

А Лёнька хітравата ўсміхнуўся:

– Г-гы... Што, скажаш, і смачней будзе нават твая ежа, дзед, чым снікерс–

– А то ж! Што там твой снікерс-брыкерс? Гэх, дзялоў тых! Давайце памагайце мне лепш. А тады, за вячэрай, і пагамонім.

– А што памагаць– – пацікавіўся Лёнька.

– Знайду,знайду што,? - дзед пакрактаў трохі, пакуль устаў з лаўкі.– За мной, як той гаварыў, не стане. Так, браткі-гвардзейцы, усім адна каманда: скабліць бульбу. Вось у мяне падрыхтаваныя для вас спецыяльна чатыры нажы. Якраз кожнаму. Вось кашэль з бульбай. Прыступайце. Толькі – папярэджваю, як амаль дарослых людзей,– захоўвайце дысцыпліну. Не штурхайцеся. З нажамі асцярожней будзьце. А я тым часам цяпельца ў печы раскладу, ваду пастаўлю,– няхай грэецца, усё ж хутчэй будзе.

Лёнька і яго камнда скаблілі бульбу і чырыкалі, што тыя вераб'і : меркавалі, якую ж страву рашыў прыгатаваць дзед Аёгей, і нешта ніводная не падыходзіла – дужа ўжо вядомыя ўсе, здаецца, елі і тое і гэтае, не здзівіш іх, а тут жа, відаць, будзе нешта адмысловае, мо нават і тое, пра што раней яны ніколі не чулі.

– Ну, як тут у нас справы ідуць? – пачуўся бадзёры дзядулеў голас.– Дно далёка?

– Трошкі засталося,– за ўсіх адказаў Петрык.

– Бачу, што стараецеся. Хвалю. Мо падсобіць?

– Не, мы самі!– запярэчылі дзеці.

Неўзабаве дзед Аўгей пад пільным позіркам дзяцей памыў бульбу, наліў ваду ў чыгунок, сыпануў солі, паставіў чыгунок паміж цаглін над полымем, а тады распарадзіўся:

– Пакуль можаце кувыркацца. Дам каманду на вячэру.

Дзеці ж далёка ад печы не адыходзілі – раптам ён, дзед, абхітрыць, тое смачненькае сам з'есці, га? Таўкліся побач з чыгунком, што грэўся на полымі. Самі ж бачылі: звычайную бульбу варыць у ім стары, а кажа-а!.. Хоць хто яго ведае, што атрымаецца. Можа фокус

які. Трэба дачакацца. Не, з чыгунка быццам пахне крышачку не так, як пахне з такога ж чыгунка дома, калі ў ім варыцца бульба. Першы ўцягнуў гэты пах сваім кірпатым носам Лёнька, ад задавальнення заплюшчыў вочы, прычмокнуў, а тады гэтаксама зрабілі Петрык, Сашка і Вуллянін унук Юрка – смачна пахне!

Наступіў доўгачаканы момант, калі дзед Аўгей пацёр далонямі, падміргнуў дзятве і амаль урачыста абвясціў:

– Прыступаем, сябры мае, да самага галоўнага. Бульба зварылася. Можна, можна каштаваць маю ежу. За справу!

Гэта і ўсяго? Хм, а думалася ж хлапчукам! Бульба стаяла ў вялікай місе, дымілася. Дзеці, няўпэўнена пераглянуўшыся, узялі па бульбіне, пакачалі на далонях – пячэцца.

– Смялей, смялей,– весела казаў дзед Аўгей.– Не бачу радасці ў вачах. Ці, можа, не падабаецца мой пачастунак–

– Звычайная бульба, – зморшчыўся Лёнька, а калі з'еў кавалачак, твар у яго пасвятлеў.– Але, скажу вам, смачная!

– Праўда! – гукнуў Петрык.

– Ага, смачная! – пахваліў наедак і самы маленькі, Юрка.

Пакуль дзеці заглядвалі ў чыгунок, дзед Аўгей вынёс з клеці агуркоў і збанок малака.

– З агуркамі, з агуркамі ешце,– падказаў ён.– А тады наверх па карцу малачка вып'еце. І будзеце дзеда ўспамінаць усё жыццё. Калі не больш.

Ух і наеліся! Жываты – як бубны: толькі палачкай ляпаць, звон будзе ісці. І дарослых, што міма праходзілі, клікаў дзед да свайго чыгунка. Елі, хвалілі і бульбу, і дзеда з дзецьмі. Дзядзька Кандрат так сказаў:

– Звычайная бульба, а якая смачная! Што дома зварыш – хіба ж такая– Не, не параўнаць. Дзякуй яшчэ раз вам за пачастунак.

А дзед Аўгей паляпаў Лёньку па плячы, паглядзеў на ўсіх:

– Так што, Лёнька, снікерс-брыкерс твой нашай беларускай бульбачцы, ды прыгатаванай на дровах і на свежым паветры, і ў падэшвы не прыгодны. Не, ніколі. Мы ж з вамі бульбашы. Нам без бульбы ніяк не пражыць. Без снікерсаў – можна, а без яе далёка не ступіш. Так што, мае маленькія бульбашы, калі-небудзь я зноў вас паклічу да сваёй печы.

Дзеці яшчэ доўга сядзелі з дзедам Аўгеем на лаўцы. На небе ўспыхнулі зорачкі, пацягнула з лагчын казытлівым халадком, а стары баіў ім пра свае, мабыць, паходжанні на вайне. І ўсім было хораша.

Пасля такой смачнай вячэры інакш і не магло быць.

## ПРЫЗ

**Н**еяк у нядзельны цёплы летні дзень сабраліся ў хаце дзеда Аўгея ўнукі і праўнукі, што жывуць у горадзе. Унукі дарослыя ўжо людзі, а праўнукі – дзятва, як той Юркка ці Лёнька, акурат такія.

За доўгім дзедавым сталом усім хапіла месца. Паабедалі, патупалі на двор. У цэнтры ўвагі – дзед Аўгей.

– Бачыцца мне,– глядзіць ён на ўнукаў,– што Сашка з Петрыкам зусім нічога не елі, ленаваліся, ох і ленаваліся за сталом. Ці не так, хлопцы–

– Елі, добра елі,– амаль у адзін голас апраўдваюцца ўнукі.

– А гэта лёгка праверыць,– задумвае зноў нешта дзед.– Давайце на прыз згуляем. Пераможа той, хто гучней крыкне. А крыкне дужэй той, зразумелая справа, хто лепш працаваў за сталом лыжкай. Ён і стане маім чэмпіёнам. Згодны–

Дзеці пагаджаюцца, ім цікава і сапраўды выйграць прыз, а заадно і даказаць, што дзед памыляецца, што не ленаваліся яны за сталом.

– А які прыз будзе, дзеду? – пытае Петрык.

– Прыз– Ды прыз вунь... у садку на дрэве вісіць. Яблык.

Дарослыя ведаюць штукарствы дзеда, таму і яны зацікавіліся: што на гэты раз ён вытварыць?

– Ну што, пачнём, малеча? Хто першы будзе крычаць?

Стараліся ўнукі. Чуваць было, відаць, на другім канцы вуліцы, што на двары ў Аўгея праходзяць спаборніцтвы. Перамог Сашка. Так вызначыў сам дзед.

– Цяпер бачу, што паабедаў ты добра. Перамог. Астатнія таксама малайцы. Скокні сам, Сашка, на дрэва і сарві той яблык, які табе найбольш спадабаецца. Ён твой прыз. Атрымай. Для пераможцы не шкада.

Сашка шырока ўсміхнуўся, быў задаволены, што дзед назваў яго чэмпіёнам. Хуценька ўскараскаўся ён на яблыню, сарваў яблык, што сам ўпадабаў, грызануў... і зморшчыўся. Кіслы які! І кінуў яблык на зямлю. А дарослыя заходзяцца ад смеху. Ну і дзед! Ну і артыст! Аўгей жа зняў картуз, пашкроб кручкаватым пальцам лысіну, хехекнуў у вусы і сур'ёзна сказаў:

– Гэта ж лясоўка, яблыня такая. Дзічка. У лесе выкапаў маленькую, усё збіраўся прышчэп зрабіць... ды так рукі і не дайшлі. Сашка вось падрасце, ён прышчэпіць. Так, Сашка?

Хлопчык згодна ківае.

– Малайчына. І Петрык з Мішам табе дапамогуць. Тады на гэтым дрэве будуць расці не кіслыя прызы, а салодкія. Дажыву я ці не, сказаць не бяруся, а вось Сашка, як законны мой чэмпіён, вас усіх тады пачастуе смачнымі яблыкамі...

## СКАРГА

**З**ноў неяк старому падвярнуўся пад руку першакласнік Лёнька, толькі бег на гэты раз ён не ў школу, а дахаты.

– Здароў, Лёнька!– бадзёра павітаўся Аўгей, а вітацца ён любіў – дзеля гумору – па некалькі разоў на дзень з адным і тым жа чалавекам.

– Ы-гы,– хлопчык спыніўся, прыплюснуў вока, зморшчыўся: сонейка якраз у твар.

– Што нясеш?

– Ранец.

– А ў ім што? Двойка, канешне?

– Ы-гы.

– Мог бы і не прызнавацца – я праз твой ранец бачу, што яны, кручкаватыя, варушацца ажно там, кішаць, як ўюны на патэльні. Ты не хавай ранец за спіну... Вось так, вось так трымай... Во, ажно дзве. Угадаў дзед?

– Ы-гы.

– Што ты заладзіў: «ы-гы, ы-гы»! Ці ў цябе слоў іншых няма– Настаўнікі чаму вучаць?

– Пісаць... чытаць,– адбіваецца Лёнька, яму ўжо і самому карціць ведаць, адкуль стары пра двойкі пранюхаў.– А як ты, дзед, убачыў, што ў мяне дзве двойкі?

– Ды проста: яны такія тлустыя, што прасвечваюцца праз ранец.

Лёнька падняў ранец упоравень з тварам, круціць-верціць яго перад вачыма, але нічога не заўважае.

– Ты і не ўбачыш, Лёнька,– усміхаецца Аўгей.– А я ўбачу, бо ў мяне вочы – ого-о! Сцяну возьмуць наскрозь...

– Хлус ты, дзед,– не пагаджаецца Лёнька.

– Ну як жа – хлус– А пра двойкі адкуль даведаўся, га?

Хлопчык паціскае плечуком: і тое быццам праўда.

– То-та ж. Але ты не ўцякай. Затрымайся. З двойкамі табе спяшыць няма куды – прачуханец паспееш атрымаць. Памажы мне лепш у адной справе. Паможаш?

– А што?

– Скаргу напісаць.

– А што гэта? – не разумее Лёнька.

– Скарга – гэта, брат, такая паперка, якую мне аднаму скласці цяжка. Памагаты трэба. Такі вось, як ты. Апісаць трэба... паскардзіцца.

– А на каго? – пачынаюць блішчэць вочы ў малога.

– На бабу сваю, на Марусю.

– А што яна?

– Як гэта што– Як гэта што, Лёнька– Прасіў, каб блінцоў напякла, сала напражыла, а яна на дыбкі: еш, кажа, тое, што на стол падаю, табе, кажа, тут не рэстаран. Бачыў ты яе– Трэба, трэба паскардзіцца, а то зусім разбэрсаецца. Ты, выпадкова, не падкажаш, хто ў нас тут самы галоўны начальнік, Лёнька– Каму можна паскардзіцца?

– Дзілектару нашаму,– раіць Лёнька.

– Во! Правільна. Яму. Давай скаргу складзём. Ты, бачу, добры грамацей, і я ж не горшы, а калі нашу грамату ў адну кучу зваліць, то не здабраваць тады цётцы Марусі. Даставай, даставай паперу, ручку... пакуль сверб ёсць у руках... мы ёй, Марусі!

Скаргу пісаў Аўгей. Лёнька толькі слухаў, як дзед шаптаў словы, што нязграбна кладліся на паперу, і радаваўся: «Будзе цяпер ведаць цётка Маруся, як не карміць дзеда блінамі...»

– Правільна напісаў, глянь, Лёнька– – нарэшце стары падаў яму скаргу.

– Правільна,– пагадзіўся Лёнька, затрымаўшы кароткі позірк на Аўгеевым пісанні.

– Не, не, ты мне не вяртай скаргу, а перадай заўтра дзілектару. Перадасі?

– Ага,– кіўнуў Лёнька.

– Толькі не забудзься.

– Не.

– А цяпер бяжы, прагаладаўся, пэўна–

Хлопчык знікае.

Назаўтра ранічкай Аўгей знайшоў скаргу на лаўцы. Лёнька на ёй напісаў: «Дурань».

## МАЙСТРЫ

**Ш**то дзед Аўгей заядлы рыбак, дзеці ведалі: нярэдка бачылі яго, калі ён шпацыраваў з вудай на плячы ў бок Гутлянкі. А калі верыць старому, дык раней ён і самоў вусатых нават прыносіў дахаты. Было!

Цяпер – не той час: неяк непрыкметна падкралася старасць, і сёння, акрамя як на вуду, Аўгей не ловіць: усе ранейшыя снасці – донкі, гумкі і вяршы – так і ляжаць у клеці. Ён, шчыра кажучы, не асмельваецца нават да іх дакрануцца: спарахнелі, пэўна ж. То лепш не варушыць.

Пра тых самых вусатых самоў дзецям асабліва цікава слухаць, і нехта з іх, канешне ж, сам марыць злавіць такую рыбіну. Во было б дзівосаў! А дзед Аўгей адно ўсміхаецца:

– Кот у мяне быў, Васька. У мяне ўсе каты Ваські. І гэты таксама. Прыношу я, значыць, сома, за парогам яго адразу ж плюх на падлогу, а Васька як шухне з хаты, толькі і бачылі яго! Не паверыце – тры дні антыхрыста не было, а тады вымерхаўся і прыцёгся, доўга тое месца, дзе рыбіна ляжала, даследваў: нюх-нюх-нюх. Нарэшце супакоўся: нічога падазронага, значыць.

Дзеці смяюцца: ім падабаецца, што кот Васька спалохаўся вусатага сома. Яны б, канешне, ніколі!..

– Вось што, сябры мае, – сабраў неяк дзятву стары.– Будзем укараняць у жыццё маю рацпрапанову. Бачу, не ведаеце, што гэта такое і з чым яе ядуць, рацпрапанову гэтую–

– Не, не ведаем,– шчыра прызнаўся Сашка.

– Даведаецеся, але не адразу. Усяму свой час. Каб укараніць маю рацпрапанову, сябры мае, для гэтага падтрэбна: дошка невялікіх памераў, два слупкі, цвікі. Яшчэ малаток. Цвікі і дошка ў мяне ёсць.

– Малаток я прынясу,– паабяцаў Лёнька.

– А я магу цвікі, – сказаў Сашка.

– Дошку бяру на сябе, якраз такая маецца ў мяне, – акінуў дзятву позіркам дзед Аўгей. – Пагабляваная, чысценькая… так што не для каго-небудзь будзем рабіць нештачка, а для сябе. Вось як.

– Што ж задумаў на гэты раз стары–

– Ну, а слупкі адпілім ад бярвенца, ніяк у лесе жывём,– сказаў Аўгей. – Піла ў мяне вострая. Так што пасля абеду чакаю вас каля сваёй хаты. Падсілкуйцеся – і да мяне, жэўжыкі!..

Так і зрабілі. Схадзілі ў лес, здабылі два слупкі. Парадак. Сашка быў з малатком, Лёнька з цвікамі, а Юрку, паколькі ён усяго-наўсяго Вулляніін унук і жыве ў горадзе і нічога не прынёс, дзед перадаў сваю дошку:

– Каб і ты быў заняты. Трымай. А цяпер, сябры, курс на рэчку, прамым ходам да Канаўскага вірка, дзе дужа шмат тлустых акунёў. Задача зразумела–

– Зразумела! – у адзін голас адказалі дзеці.

На стромкім беразе ракі спыніліся. Хоць і няблізка было ісці, у Юраські ажно чуб прыліп да лба, аднак ніхто і выгляду не падаў, што стаміліся.

Толькі тут, на беразе, успомнілі, што забыліся рыдлёўку.

– Ці трэба ж, га! – першы агледзеў пра свой промах сам дзед Аўгей. – Галоўны інструмент – і забыліся!.. Не, не такая памяць ужо у дзеда. Хаця і вы, жэўжыкі, маглі здагадацца, навошта слупкі, дошка… Значыць, капаць трэба будзе. Але я нікога школіць не буду і дакараць сябе таксама не стану, бо што зроблена, тое і маем. Папрокамі справу з месца не зрушыш. Хто скокне за рыдлёўкай–

Пажадаў збегаць за ёй Лёнька. Згэцаў хутка – на адной назе. А тады і пачалося! Нехта капаў яму, нехта ставіў у яе слупок., нехта прысыпаў зямліцай… Калі на два слупкі, што тырчэлі з зямлі, паклалі дошку, цвікі забіваў Сашка. Яго малаток, нічога не паробіш. А паколькі цвікі прынёс Лёнька, то і ён адзін цвік забіў. Хоць мог бы забіць і два, але ў малога, як пажартаваў пад дружны рогат дзед Аўгей, рукі крывыя – у бок глядзяць, таму цвік гнецца і гнецца, а ў дошку лезці не хоча.

– І кашы больш еш, – параіў яму стары. – З малаком. А лепш з кавалкам сала.

А калі работа была скончана, стары хітра паглядзеў на дзяцей, папытаў:

– Ну, дык і што ж у нас атрымалася, сябры мае–

– Лавачка…

– Лавачка.

– Лавачка!

– Правільна. Дазвольце дзеду першаму на яе сесці–

– Дазваляем!

Лавачка атрымалася на ўсе сто. Дзед Аўгей апрабаваў яе, паёрзаў нават, а тады дазволіў пасядзець на лавачцы па чарзе кожнаму.

– Добрую справу мы сёння з вамі зрабілі, – сказаў дзед Аўгей.– Заўтра ранічкай я прыбуду сюды з вудай, сяду і буду сачыць за паплаўком. Як міністр буду сядзець. А то ж ужо ногі не тыя, як-ні-як: старасць, браткі, старасць. І Ціт можа пасядзець на лаве. А больш, здаецца, і рыбакоў такіх у нас няма–

– А мы, дзед? – нецярпліва паглядзеў на старога Сашка.

– Вы? – усміхнуўся дзед Аўгей.– Ды за вамі куды ўжо нам, старым– Нягож, і вы…Як толькі ногі стомяцца, то – калі ласка! Толькі калі ж яны ў вас, жэўжыкі, стомяцца– Я ўжо, пэўна, і не засведчу…

… Назаўтра бераг рэчкі быў усыпаны рыбакамі. Сашка, Лёнька і Юрка стаялі паводдаль адзін ад аднаго, а пасярод іх важка сядзеў на лавачцы дзед Аўгей і сачыў за паплаўком. Не адзін сядзеў стары – з катом Васькам. З лавы і яму, ласаму да рыбы. добра бачны паплавок…

А хацелася б хутчэй убачыць і рыбку!

## ПЧАЛА

**Я**к гэта нярэдка было і раней, каля хаты дзеда Аўгея сабраліся хлапчукі. Стаяла лета, зялёнае і спякотнае. Стары сядзеў на лаве. Ён ужо не курыў, пазбавіўся нарэшцe ад гэтай атруты. Тут і дзеці паспрыялі, не сакрэт: асабліва касавурыўся на дым Вуллянін унук Юрка; калі дзед пыхкаў сваім самасадам, той нават стаяў крыху паводдаль: які нясмачны гэты дым, ну яго! Таму, каб заняць рукі, стары выразаў складанчыкам нешта з драўлянай крывулькі, а што атрымаецца, тады, казаў, пабачыце. Не ўсё адразу. Зацікавіў. Чарговая дробязь нейкая, не інакш, а прывабіў дзятву і на гэты раз. Дзед мастак такое рабіць.

І ў гэты самы адказны момант, калі ў руках дзеда Аўгея пачало нешта вымалёўвацца, падобнае на зайчыка ці нават на дзіка з вострымі ікламі, узняў нямаведама які лямант Юраська, – хоць вушы затуляй. Каб жа хоць крычаў, але ж так тупацеў яшчэ і нагамі, што можна нават было падумаць, быццам яго хто адлупцаваў. Яшчэ ж: ён, не перастаючы крычаць і тупацець нагамі, цёр то адно вуха, то другое. Усе, вядома ж, насцярожыліся, глядзяць на сябрука і нічога не разумеюць.

Першы знайшоўся дзед Аўгей, стары стары, але адразу ж апынуўся каля малога, глядзіць таму ў вочы:

– Што з табой, Юрка, а–

– Пчала…пчала…– па-ранейшаму румзаў малы, – у гэтае вуха ўляцела… у гэтае выляцела…

– І ты сам бачыў? – пытае дзед.

– Ага. Бачыў…

Справа сур'ёная, гэта ўсе разумеюць, а больш за астатніх – дзед Аўгей. Трэба ратаваць малога. Паколькі ў хлопчыка два вухі, як і ў кожнага чалавека, то ўсё становіцца на сваё месца… Не было зразумелым толькі адно: як гэта пчала можа ў адно вуха ўляцець, а ў другое – выляцець? Не, не можа быць такога. А ў Юраські, бачце, менавіта усё так. Дзівосы! Хаця з адным вухам нешта і здарылася –

недарэмна цёр яго хлопчык: яно, як цеста ў дзяжы, на вачах большала, расло.

– Усё зразумела,– узяўся за справу дзед Аўгей: прыклаў нават да вуха медную капейку.– Выратуем. Не дадзім памерці. Медны пятак – якраз сымае пухліну і суцішае боль. Меней баліць вуха, Юрка?

– Ага.

– Ну, вось!..

Тым часам стары паказаў Сашку на маленькую чорненькую кропачку, што была на самай мочцы Юраськавага вуха.

– Джала, яго трэба выцягнуць і тады Юраську адразу палягчэе, не будзе так балець. Хаця яму ўжо і не баліць так, як раней. Юрка ў нас герой, малайчына. Мяне гэтыя пчолы уго колькі разоў кусалі! Не злічыць. І нічога, і не памёр, як бачыце. Ну, ну, Сашка, не марудзь: прыцэлься – і р-раз!..

Хлапчукі спярша вельмі спачувалі Юраську, а тады адзін хто гляне на яго вуха, і пырскне смехам, астатнія ж падтрымліваюць. Спрабуе ўсміхнуцца і сам Юраська, але ў яго гэта не надта атрымліваецца: усміхнешся тут пасля такога перапалоху!..

– Якая шкодная пчала! Не, каб на дзеда накінуцца ці на Сашку, дык яна выбрала самага малога.– Спачуваў Юраську стары.– А хочаш, мы яе, шкодніцу, зараз знойдзем?

– Хачу,– пагаджаецца Юраська, і калі ёнківаў галавой, хлапчукі баяліся, каб яго вялікае, як грыб чага, вуха не адарвалася і не шлёпнулася прама перад імі вобзем: цяжкае, мусіць, яно, ажно адвісла вунь.

– Шукай-ма, хлопцы, пчалу!

Загад паступіў, трэба выконваць. Тым больш, што і сам дзед Аўгей не сядзеў, склаўшы рукі: ён быў наперадзе – як сапраўдны камандзір.

Некалькі пчолак сядзелі на кветках канюшыны, збіралі нектар.

– Тваёй тут, хлопча, няма, – упэўнна сказаў дзед Аўгей. – Пайшлі далей.

Сашка пацікавіўся:

– Адкуль ты, дзед, ведаеш, што яго пчалы тут няма? Ты ж не бачыў яе. Ды і ўсе пчолы падобныя, як дзве кроплі вады.

– А потым скажу! – хітра ўсміхнуўся стары.

Колькі не знаходзілі пчол, якія сядзелі на кветках ці пераляталі з месца на месца, дзед адмоўна ківаў сваёй лысай галавой:

– Не, не яна.

У хлапчукоў ажно рукі апусціліся: усё не яна ды не яна! Калі ж будзе – яна– Дурыць дзед, не інакш. Але ж, ведаючы яго, хлапчкі нядоўга адчайваліся. Калі што гаворыць дзед, так, пэўна, і ёсць. Каму ж яшчэ верыць, калі не дзеду Аўгею?

– А вось гэта яна! – нарэшце радуецца стары.—Бачыце, ляжыць на траўцы– Гэта Юраськава пчала, факт!..

Цяпер хлапчукі яшчэ больш здзівіліся: гэта ж нежывая пчала, як яна магла цапнуць Юрку?

– Таму яна і нежывая, што ўкусіла малога,– патлумачыў дзед. – Тут ёсць адзін сакрэт, дзеці: пчала, згубіўшы сваё джала, амаль адразу ж памірае…

Дзеці маўчалі. Пакуль яны асэнсоўвалі пачутае, Юраська захлімкаў.

– Ты чаго гэта, Юрка? – ўсе адразу павярнуліся да Юркі, а папытаў за ўсіх дзед Аўгей.

Юраська яшчэ больш захлімкаў, прызнаўся:

– Пчалу шкада…

Дзед Аўгей прытуліў малога да сябе, пяшчотна пагладзіў яго па галаве:

– Нічога, нічога… А за тое, што пчалу пашкадаваў, хоць яна табе і балюча зрабіла, пахваліць мушу сябе: дзед Аўгей умее сяброў выбіраць. Не памыліўся я, калі і з табой пасябраваў… Харошы ты чалавек, Юрка!..

## ГАСЦІНЕЦ

**К**алі верыць дзеду Аўгею, то ўсё так і было. Выглянуў ён ранічкай на агарод, каб нашчыкаць цыбулі, а каля хлеўчука стаіць буслік і насцярожана-самотна пазірае на старога. Дзед, убачыўшу птушку, спярша разгубіўся, а потым перавёў дых, усміхнуўся і сказаў:

– Прывітанне, ці што, бацян?

Буслік стаяў нерухома, а калі чалавек паспрабаваў наблізіцца да яго, хацеў узмахнуць крыламі, аднак гэта ў яго не атрымалася – адно крыло,левае, не паслухалася, і тады ён адышоў ад старога на ўсялякі выпадак падалей: ці мала што можна чакаць ад гэтага дзеда? Вунь які вусаты! Каб жа ён, буслік, ведаў, хто такі дзед Аўгей, то, вядома ж, не рабіў бы гэтага. Але адкуль яму было ведаць? Не, лепш падалей ад бяды... Хопіць, што нацярпеўся ўжо ад адной такой сустрэчы з чалавекам: цяпер вось і рабі што хочаш, і жыві, не прыдумаеш як. Бяда, адным словам. Мама з татам паляцелі ў вырай, а як ён можа

паляцець, калі крыло паранена? Бацькі яго, мусіць жа, і параіліісці яму да людзей, каб не прапасці, мусіць жа і сказалі: людзі цябе накормяць і вылечаць. Буслік паслухаўся. А больш яму і не заставалася чаго рабіць.

Птушкі народжаны больш лётаць, чым хадзіць. Іншы раз ім даводзіцца рабіць тое, што менш за ўсё патрэбна. Таму і буслік вымушаны быў прытупаць да падворку дзеда Аўгея, паколькі той быў бліжэй ад буслянкі, што месцілася ўжо каторы год на старым драўляным тэлеграфным слупе, які адзінока стаяў каля чыгункі: яго не сталі прыбіраць людзі, пакінулі, бо бачылі ж, што на ім штогод жывуць буслы: нельга пазбаўляць птушак іхняй хаткі.

Дзед Аўгей абрадаваўся госцю, схадзіў у хату і вынес яму ласунак – размарожаную рыбіну, якую купіў у краме і збіраўся прыгатаваць для сябе юшку, аднак што ж паробіш, калі атрымалася такая вось непрадбачлівая сітуацыя: перш за ўсё, трэба выручаць бусліка, бо яшчэ невядома, ці еў ён што сёння, а мо і ўчора-пазаўчора, а што тычыць сябе, то ён знойдзе і без юшкі, чым падсілкавацца. Паколькі буслік баяўся людзей, паводзіў сябе надзвычай асцярожна, то дзед Аўгей спярша паказаў птушцы рыбіну, а потым паклаў яе адразу за веснічкамі, а сам выглянуў на вуліцу. Дзе там яго сябры? Ці не відаць? Трэба ім пахваліцца сваім госцем. Абавязкова. У старога ад сяброў таямніц няма. Ага, вунь і Юрка, Вуллянін унук, якраз шыбуе. Дзед Аўгей паклікаў яго, падаў, як дарослсаму, руку, а тады папрасіў, каб той неадкладна наказаў Петрыку, Лёньку і Сашку, што ён чакае іх каля свайго двара.

– Сюрпрыз у мяне для вас маецца, хлопцы, – як заўсёды, загадкава паглядзеў на Юрку стары. – Бяжы, кліч іх да мяне, Юрка. Цікава будзе. Не пашкадуеце. Яшчэ і дзякуй, можа, скажаце за мой чарговы для вас сюрпрыз.

– Я хутка, дзед Аўгей! – паабяцаў Юрка і паімчаў усцяж вуліцы.

Юрка імгненна выканаў просьбу дзеда Аўгея, і неўзабаве хлапчукі асцярожна, не падаючы голасу, ішлі за ім па падворку да шчылінкі, – у дошцы якраз выпаў сучок, – і таму добра быў бачны праз яе буслік.

– Толькі ціха, не спужайце, – паўшэптам папярэдзіў дзед Аўгей. – Дазваляю кожнаму ў дзірачку паглядзець на бусліка, не больш. Няхай рыбіну з'есці замест мяне. Так-так, сваю аддаў. Ці есці ён яе там, а? Мо грэбуе? Гляньце там...

Лёнька ўхітрыўся першым прыпасці да дзірачкі ў дошцы, таму паведаміў:

– Не, здаецца? Так стаіць... Не есці...

– Дазвольце мне! – папрасіў дзед Аўгей, каб яго прапусцілі бліжэй да паркана, а калі паглядзеў у дзірачку, весела адзначыў: – Была рыбка! З’еў! Ну, і на здароў’е!..

Паназіраўшы за буслікам, выйшлі на вуліцу. Стары сеў на сваё законнае месца на лаве – пасярод – а яго з двух бакоў абляпілі хлапчукі.

– Ну, што будзем рабіць, сябры? – першым парушыў маўчанне дзед Аўгей. – Спярша, канешне, нам трэба прыдумаць, як назваць бусліка.

– А няхай будзе проста Буслік? – прапанаваў Петрык.

– Я згодны! – падтрымаў Сашка.

Ну, калі і Сашка пагадзіўся, то нічога не заставалася рабіць Юрку і Лёніку: Сашка – аўтарытэт. Але што скажа дзед Аўгей? Ён сказаў:

– Прымаецца. Так, пойдзем далей, сябры. Буслы любяць жаб і рыбу. З жабамі пачакае наш Буслік, мы іх лавіць не ўмеем, а вось рыбу для яго давядзецца нам вудзіць на сажалцы. Згодны?

Ён, дзед Аўгей, яшчэ і пытае!

Уго колькі рыбы кожны дзень прыносілі Бусліку хлапчукі! Нават дзед Аўгей юшку гатаваў для сябе і смажыў колькі разоў. А сам тады, ласуючыся, жартаваў:

– Дзякуючы яму, Бусліку, і я сыты.

Буслік неўзабаве асвойтаўся на паселішчы дзеда Аўгея, пасмялеў, абцёрся, і калі прыходзілі хлапчукі з рыбой, то ён ужо не баяўся іх, а смела браў пачастунак з рук хлапчукоў. Яны ледзь не біліся – кожны стараўся першым пачаставаць Бусліка.

Пазней дзед Аўгей забядаваў:

– Усё гэта добра, сябры мае... Але ж жнівень заканчваецца, школа блізка... разляціцеся вы па сваіх гарадскіх кватэрах, а як нам быць з Буслікам, не параіце? Сашка, ты, як старэйшы, даведайся там, у горадзе, ці прымаюць дзе такіх вялікіх птушак, як наш Буслік? Бачыце, падрос як, крыло зажыло, лётаць спрабуе... Але ж куды ён паляціць перад зімой? Ды і дзе ж я яму рыбы набяруся? Акром таго, у маім хлеўчыку Бусліку, мусіць жа, холадна будзе? Пацікаўся там, у горадзе, Сашка, мо ёсць дзе які-небудзь прытулак для такіх бедалаг, як наш Буслік?

Сашка паабяцаў пацікавіцца.

– І я магу таксама, – сказаў Юрка.

– І я, – шмыгнуў носам Петрык.

Дзед Аўгей пахваліў хлапчукоў, а потым паклаў руку на плячо Лёніка:

– Паколькі мы з Лёнікам сталыя вясковыя жахары, то ў горадзе можаце жыць спакойна: Бусліка ў крыўду не дадзім. Так, Лёнік?

– Ага!

Увосень, калі пажаўцела на дрэвах лісце і пачало, нібы на парашуціках, падаць долу, каля хаты дзеда Аўгея спыніўся легкавік. З яго выйшлі два чалавекі ў вайсковай форме, павіталіся са старым, а потым той, які назваўся супрацоўнікам міністэрства па надзвычайных сітуацыях, папрасіў:

– Ну, паказвайце нам свайго госця.

– Паказаць можна, але ж... – стары занерваўся, замітусіўся, не ведаў, куды падзець рукі, пакруціў галавой, – але ж...ага... – вытрымаўшы паўзу, ён гучна сказаў:– Ды прывык я да Бусліка, прывык! Верыце?

– Верым, – спакойна сказаў супрацоўнік міністэрства. – І дзякуй вам вялікі, што не пакінулі ў бядзе птушку.

Дзед Аўгей прыняў падзяку, але заўважыў:

– І хлопцаў, сяброў маіх, у тым заслуга. Так і запішыце. Сашкі, Юркі і Петрыка, якія вам тэлефанавалі, і Лёніка. Для мяне аднаго такой пахвалы зашмат.

–Так-так, і хлопцам дзякуй! – знайшоўся супрацоўнік міністэрства.– А бусла перададзім у царкву архістрыціга Міхаіла: там у яго птушынае царства.

Буслік доўга глядзеў сумнымі вочкамі праз шкло легкавіка на дзеда, да якога таксама моцна прывязаўся, і стары не вытрымаў, пусціў слязу. Лёнік таксама хлімкаў.

Узімку прыехалі на выхадныя ў вёску Сашка, Петрык і Юрка. Першай справай прыбеглі праведаць дзеда Аўгея. Адразу ўспомнілі, вядома ж, пра Бусліка.

– Мы яго наведваем, яму там добра, – хваліўся Сашка.– Ён вам, між іншым, нават прывітанне перадае...

– Ну, ну, жартаўнікі, – усміхнуўся дзед Аўгей. – А вось я яму і сапраўды прывітанне перадам. – Стары вынес з кладоўкі торбачку. – Рыба тут. Яе мы з Лёнікам налавілі. Думаеце, у шапку спалі, пра Бусліка не думалі? Каб жа не так. Яшчэ як думалі. Прабілі пельку ў лёдзе, закінулі вуду, і парадак!.. Трымай, Сашка, гасцінец для Бусліка. Ад усіх нас. І вось яшчэ што, сябры мае: хутка ж вясна, вернуцца з выраю бацькі Бусліка, яны будуць чакаць сустрэчы з ім... Трэба ж будзе неяк наладзіць ім сустрэчу, а? Родныя ж яны душы, птушкі гэтыя... Як і людзі. Цягнуцца, пэўна ж, свае да сваіх... Пастарайцеся,

хлопцы, там, у горадзе... Прывезці б Бусліка да бацькоў... каб тыя хоць глянулі на яго... каб пераканаліся, што людзі ў бядзе не пакінулі, прыгарнулі да сябе, абагрэлі... Ну, дык як?

Сябрукі паабяцалі дзеду Аўгею выканаць ягоную просьбу.

А гасцінец спадабаўся Бусліку. Ён з'еў колькі рыбін, а потым, пачасаўшы дзюбу аб пяр'ё, адышоў ўбок – каб і іншыя птушкі, што жывуць побач з ім, пачаставаліся.

Калі гасцінец ад добрых людзей, то яго ўсім хопіць.

## Жыццёвінкі

### М Ы

1.

**Б**ыў звычайны будны дзень, і Ён, злёгку паснедаўшы, выходзіў з кватэры, на ганку азіраўся па баках, нібы каго хацеў убачыць, затым папраўляў старэнькі капялюш на галаве і шоргаў па алейцы ў бок гандлёвага цэнтра ОМА. Што азначалі гэтыя літары, Ён не ведаў, яму гэта, праўду кажучы, і не трэба было: важна зусім іншае — важна тое, што там вочы разбягаюцца ад усяго ўбачанага. Ёсць, ёсць што паглядзець. Музей, дый годзе. Як толькі пабыў Ён тут першы раз ныпрыканцы мінулага года, так і захварэў: не можа пражыць і колькі дзён, як зноў яго цягне сюды, бы магнітам. Няважна, што ў гэты загадкавы і багаты на самыя разнастайныя рэчы гандлёвы цэнтр амаль усе падрульваюць на легкавіках, яму і так было добра. Кожнаму, разважаў, сваё. Дзе ж на той легкавік было ўзяць грошай, калі працаваў сумленна ўвесь час, не браў ніколі чужога? А як можна было на заработную плату абзавесціся аўтамашынай, Ён не ведаў. Калі, хіба, не есці, хадзіць у адной камізэльцы? Ды і што тады гэта будзе за жыццё, галоднага і абадранага? Не, някепска яму будзе і без легкавіка, і, дзякаваць Богу, ногі пакуль слухаюцца, не падводзяць, хоць і ўзрост мае паважаны — пад семдзесят.

Ён увахodзіў у памяшканне гандлёвага цэнтра так, як раней мінаў прахадную завода, а там — і яго другі механазборачны цэх, дзе рабіў да апошняга працоўнага дня фрэзероўшчыкам. Ківаў галавой хлопцам, што сачылі за ўваходам-выхадам, тыя ківалі яму — відаць, як старому знаёмаму, бо, не сакрэт, прамільгаўся Ён тут. Магчыма, хтосьці з тых хлопцаў і западозрыў нешта, бо яно ж і сапраўды: ці не кожны дзень з'яўляецца тут гэты сівы і гнуткі, бы лазовы пруцік, мужчына, але з чым заходзіць, з тым і выходзіць — з пустымі рукамі. За ім, не сакрэт, пачыналі цікавацца... Ён жа, у сваю чаргу, падоўгу таптаўся каля ўзораў пакрыццяў для падлогі і столі, іншы раз не вытрымліваў, браў тыя, круціў перад вачыма і так і гэтак: шыкоўная рэч, нічога не скажаш!..

Іншы раз Ён падыходзіў да людзей, што рабілі пакупкі, зайздросціў ім, а каб паказаць, што і ён тут ходзіць не проста так, а з пэўным пакупніцкім інтарэсам, пачынаў гаворку:

— І колькі, калі не сакрэт, трэба гэтай кафлі для маёй кухні?..

Альбо:

— Хіба і мне набыць такі ліманад? — Ён ненаўмысна вымаўляў "ліманад" замест "ламінат", таму што апошняе слова яму і сапраўды не давалася. — Ці, можа, заўтра што-небудзь яшчэ, лепшае, прыдумаюць? А? Пачакаць хіба?..

Яму звычайна нічога не адказвалі, і Ён ішоў далей па радах, дзе на стэлажах чаго толькі не ляжала-стаяла, прыглядаўся да людзей, што рабілі пакупкі. Людзі як людзі, а бач ты, якія шчаслівыя!..

А потым, насыціўшыся, Ён той жа дарогай, шукаючы капелюшом ветрык перад тварам, вяртаўся дадому...

2.

**З**ахварэў брыгадзір паляводчай брыгады, і замест яго часова быў прызначаны Ён.

– Павіншуй мяне, жонка! — пахваліўся дома. — Я — брыгадзір! Нічога, што і на кароткі тэрмін, але прызначыў сам старшыня не каго-небудзь, а мяне. Разумееш? Думаць трэба!..

Жонка разумела, павіншавала. Яна ганарылася сваім мужам, і сама таго, пэўна ж, не падазраючы, з таго моманту, як даведалася пра мужава павышэнне, напускала на сябе залішнюю строгасць, і ёй рабілася не інакш як сорамна за сваю непрычыннасць да ўсяго, што было вакол, раней.

Назаўтра Ён з нагоды павышэння на калгаснай службе апрануў адпрасаваны, хоць і старэнькі, але чысты і прывабны пінжачок, нацягнуў джынсы, якія сталі малыя ягонаму гарадскому сыну, а да сарочкі ў зялёную палосачку выбраў аднатонны чырвоны гальштук.

— Ну, як?

Жонка паказала вялікі палец.

Ён здзівіў усіх на праўленні калгаса. На яго глядзелі так, нібы ўпершыню ўбачылі. Нават сам старшыня, якога, трэба прызнацца, ніколі ніхто пры гальштуку не бачыў, разявіў рот... Падзівіцеся, што робіцца! Дзень пры пасадзе чалавек, а як адразу перамяніўся. Не пазнаць. А мо гэта зусім і не Ён? Дык не ж... Ён! Гляньце толькі, з якім ліхаманкавым бляскам вочы ў чалавека!..

І так атрымалася, што пакуль Ён замяшчаў брыгадзіра, першым прысобіў да сваёй тонкай шыі гальштук старшыня, а потым непрыкметна і той-сёй яшчэ. Павесялела ў памяшканні канторы, святлей стала. Ад гальштукаў, ад белых кашуль.

...Ён вяртаўся дадому стомлены, з брудным ад пылу і поту тварам, калі перад ім пратарахцеў на калёсах вясковец, а потым

"тырпнуў" каню, і той перастаў плёхаць капытамі. Вясковец пачакаў, пакуль да яго падыдзе Ён.

— Паслухай, што я табе скажу, — затрымаў вясковец на в.а. брыгадзіра зачэпісты позірк. — А скажу, калі знаць хочаш, табе наступнае... Дык вось... уймі сваю бабу. Угамані. Прыструнь. Няхай ты часова брыгадзір, а яна — хто? Хто яна, каб папытаць? Адстаўной казы барабаншчык? Так?

— Не зразумею, што ты хочаш, Пятро?

— Камандзіраў, гляджу, развялося, аднак. Ну, еду сабе... як і кожны раз... Пратарахцеў каля тваёй хаты, значыць... А Маруся на ўсю вуліцу крычыць мне наўздагон:

— Як ты едзеш, паразіт? Калёсы паламаеш!..

Ён засмяяўся, паляпаў па плячы вяскоўца, паабяцаў:

— Едзь далей, не бяры ў голаў. А з жонкай, сваёй брыгадзіршай, я абавязкова разбяруся. Не хвалюйся. Я ёй пакажу, як твае асабістыя калёсы шкадаваць.

— Дык у тым жа і справа! Былі б хоць калгасныя!..

Вярнуўшыся ж дахаты, Ён нічога жонцы не сказаў, а смачна павячэраў і лёг спаць. Засыпаючы, шкадаваў, што заўтра Ён ужо не брыгадзір, а жонка — не брыгадзірша.

3.

**Ё**н жыў адзін у двухпакаёвай кватэры, на трэцім паверсе ў нашым пад'ездзе. Асабіста мне не даводзілася сустракаць палкоўніка ў адстаўцы, няхай і адзінокага, у менш габарытным жыллі. Ён жыў сціпла, з суседзямі трымаўся на адлегласці, сам першы ніколі не вітаўся, а калі хто даваў яму "добрага дня", ляніва ківаў галавой ці адказваў коратка і ціха.

Я вось думаю зрэдчас: а ці бачыў хто калі яго ў вайсковай форме? Я — не. Адкуль жа тады ведаю, што Ён палкоўнік? Пра гэта мне апавёў зямляк, які таксама жыве ў нашым горадзе і неяк сутыкнуўся з тым твар у твар.

— Я служыў з ім у Сярэдняй Азіі, Ён быў маім начальнікам, — слухаў я земляка. — Я — карэспандэнт дывізіённай газеты, Ён — начальнік палітычнага аддзела, малады палкоўнік, вялікі аматар мастацкай літаратуры. Чытаў нават на вучэннях, калі выдавалася вольная хвіліна, а больш — у сваім рабочым кабінеце. І рабіў, заўваж, гэта вельмі хітра. Кніга заўсёды ляжала ў шуфлядцы стала, і калі хто з падначаленых заглядваў да яго, Ён цягнуў руку насустрач, а жыватом тым часам зачыняў шуфлядку. Шыта-крыта. Але нічога не застаецца

незаўважаным. Раскусілі і начпа. Раскусіць раскусілі, а што ты яму зробіш?.. Толькі не пра чытанне мне ўспомнілася, гэта ўсё дробязі, чытанне кніг у рабочы час. Неяк выклікае ён мяне і загадвае: "Едзем праз паўгадзіны ў Тэджэн, збірайся і бяры з сабой фотакарэспандэнта". Тэджэн, дзе стаяў вучэбны танкавы полк, быў далекавата нават па мерках бязлюднай пустыні — недзе дзвесце кіламетраў. Ну, едзем дык едзем. Я хуценька сабраўся, на месцы быў і фотакарэспандэнт радавы Раджэпаў, туркмен па нацыянальнасці, вельмі вясёлы і таварыскі хлапчына. Прыехалі на "УАЗіку" ў танкавы полк, начпа пакінуў нас адных – самі ведаеце, што рабіць, не першы дзень у газеце), і загадаў чакаць яго каля штаба у сямнаццаць нуль-нуль. Мы так і зрабілі: набралі матэрыялу, чакаем каля штаба палка. Гадзіну, другую чакаем. А потым я не вытрымліваю, цікаўлюся ў дзяжурнага: а дзе ж наш начальнік, дзе палкоўнік? Дзяжурны хітра ўсміхаецца: маўляў, дзівакі вы ці што? Ён даўно паехаў... Я здзівіўся: як гэта — паехаў? Аднак дзіўнага тут аказалася мала. І я, наіўны на той час лейтэнант, не мог адразу сцяміць, што навошта яму мы, спадарожнікі, сведкі, калі ўвесь багажнік быў нашпігаваны дынямі і кавунамі, вінаградам і рыбай, якой тут, у Каракумскім канале, процьма!. Але ж, прабачце, я і Раджэпаў не выпісвалі камандзіровак, таму мне давялося купіць білет за свае грошы і салдату. Ён жа зрабіў на наступны дзень выгляд, што нічога не адбылося. Вядома ж, не да месца яму было пытацца і пра тое, ці запасліся мы матэрыяламі для дывізіёнкі...

Чаму сёння Ён жыве адзін і як аказаўся ў нашым горадзе, зямляк не ведаў.

4.

**Ё**н быў добрым акцёрам. Быў, таму што колькі дзён назад у нэце з'явіўся радок, які паведамляў пра ягоную смерць... Не верылася, бо мужчына яшчэ ў самым росквіце. Патэлефанаваў знаёмаму ў Мінск, вырашыў пацікавіцца, што ж здарылася з чалавекам. Той сказаў коратка, як адсёк: спіўся. Спіўся? І што, ад яе, гарэлкі, памёр? У гэта не хацелася верыць: ён жа зусім не браў у рот, наколькі я ведаў, гэтай атруты. Ні кроплі. І раптам... сканаў ад гарэлкі?

У гэтым правінцыйным тэатры Ён з'явіўся на пачатку новага сезона, адразу ўліўся ў калектыў, а неўзабаве амаль увесь рэпертуар вісеў на ім. Талент ёсць талент. Злыя языкі, праўда, баялі, што ў сталіцы Ён наогул не быў запатрабаваны, бо там такіх майстроў сцэны хоць адбаўляй, а тут, бачце вы яго, стаў зоркай першай

велічыні. Не цяжка было здагадацца пляткарам, чаму Ён прыехаў у правінцыю. Тут вялікага розуму не трэба, бо проста так сюды ніхто не паедзе, значыць, нешта не склалася ў яго, не інакш набедакурыў. А, дык ён яшчэ і скасаваў шлюб з жонкай? Тады зразумела... Збег ад сям'і, збег ад праблем. Калегі глыбей капацца не сталі. Ды ці мала такіх прыкладаў, калі правінцыя лячыла "заблукалыя душы"?

Артыстка Стрэмкіна ў тэатры працавала даўно, яшчэ з таго часу, калі той быў народным калектывам. Потым, калі надалі тэатру статус гарадскога, яна паступіла ў мастацкую акадэмію, вучылася завочна, а заадно выхоўвала разам з мужам-бізнэсменам дваіх дзяцей. І... захапілася акцёрам, які прыехаў да іх са сталіцы. Пачаўся раман. Дзе-дзе, а ў тэатры такое не схаваеш, і неўзабаве ўсе толькі і гаманілі пра адносіны Стрэмкінай з ім. Адны асуджалі, маўляў, і чаго ёй толькі трэба, дом поўная чаша, ды і дзеці ж. Іншыя разумелі Стрэмкіну: ну, пакахала, ці мала з кім такое можа быць. Пройдзе. Ён, да таго ж, быў і старэй за Стрэмкіну год на пятнаццаць. Аднак пазней, калі адносіны паміж сталічным ацёрам і Стрэмкінай зайшлі далёка, усе былі нібы ўкушаныя: Ёй, бачце вы, у стольны Мінск захацелася, бліжэй да тэатральнай і кіношнай багемы.

Тэатр пасумаваў-пасумаваў па дзвюх зорках, ды і забыўся на іх: хапала сваіх клопатаў. Ён і Стрэмкіна ўладкаваліся ў адзін са сталічных тэатраў, таксама цешыліся славай. А потым Ён запіў. Страшэнна. Бывай, зразумела ж, тэатр. А крыху пазней і Стрэмкіна сказала: бывай... Яна забрала дзяцей і пайшла ад мужа на прыватную кватэру.

Так вось і скончылася іх шчаслівае жыццё. Толькі мне не зразумела адно: як Ён мог, ведаючы сваю слабасць, ад якой ратавала яго кадзіраванне, не сказаць Стрэмкінай пра гэта? Чаму не паставіў яе перад выбарам? Чаму Ён, у рэшце рэшт, зрабіў няшчаснымі адразу чатырох чалавек — яе, Стрэмкіну, дваіх дзяцей і мужа? Пераацаніў сябе?

Як бы там ні было, а мне шкада яго. Ён быў і сапраўды таленавітым чалавекам, бо не кожнаму з нас дадзена рабіць людзей адначасова і шчаслівымі, і такімі няшчаснымі...

5.

**Я**на мала жыла адна, калі не браць у разлік кароткі прамежак часу перад з’яўленнем у хаце новага мужа. Муж – гэта, відаць, гучна сказана. Дакладней – мужчына, у якога альбо памерла жонка, альбо выганяла прэч: чым з такім, абібокам, жыць, лепш як-небудзь адной.

Яна падбірала, не грэбавала "абібокамі", а жонцы, кажуць, у такіх выпадках казала дзякуй і абяцала абавязкова яго перавыхаваць. "На маіх працэдурах усе лечацца",– гаварыла не без гонару землякам. Тыя ведалі, няго ж: тры агароды мае баба, поўны двор жыўнасці, там не залянуеш. І яшчэ цікава было землякам: навошта ёй, адзінокай, такая вялікая гаспадарка?

На маёй памяці такіх мужчын у яе было пяцёра. Апошні, Косцік, ніколі не браўся шлюбам раней, жыў бабылём да сівых валасоў з маці, а як тая памерла, яго і падабрала Яна. Косцік адзіны яе прыёмны мужчына, якога яна сама папрасіла, каб ішоў у сваю стылую і галодную хату: тыя ж першыя пайшлі з жыцця самі. Таму была прычына– Косцік, бандыт, украў ажно пятнаццаць тысяч рублёў, а такое безнаказана ў яе не праходзіла. "Хочаш выпіць, дык у чым справа? Ці ж не частую, ці ж я не кармлю.? Але красці– Божа ўратуй!.." Яна і сапраўды добра карміла і не шкадавала ім, мужчынам,віна. Чым, канешне ж, і трымала іх каля сябе. Мёртва трымала. А найбольш доўга жыў з ёй прымак з Расіі Лявонцій. Калі ён прыбіўся, Яна жыла ў старэнькай – ніяк на курынай ножцы – хатцы, а чалавек стрэўся ёй з залатымі рукамі, мог і плотнічаць, і сталярыць. Ён і паставіў неўзабаве на агародзе новы, як звон, дом. Зрабіў прыгожыя аканіцы. Заасфальтаваў двор. Адным словам, жыві ды радуйся. Аднак мелася ў чалавека сур'ёзная загана – як перабярэ гарэлкі, тады ўцякай з хаты. Што Яна і рабіла. Ратавалася ж не заўсёды – кулакі прымаковы даганялі ўсюды. Колькі можна было цярпець? А прагнаць як прагоніш: хату ж ён зрабіў, не падступішся – прычына, як не лічы, важная. Так і жыла Яна, пакутніца. Ды і заступіцца не было каму: сама ж бяздзетная, а пляменнікі, якія жывуць у горадзе ды ў суседнім сяле, прыязджалі толькі на свежыну ды за гароднінай, а ў такія хвіліны прымак быў – сама светласць. Неўзабаве Лявонцій пачаў кволіцца на здароўе, а затым і сканаў. Кажуць, быццам, хварэючы, прасіў крычма: "Ратуй, жонка! Лепшых дактароў наймай! Не шкадуй грошай! Чуеш?" Яна чула, не глухая, а сама, вядома ж, прасіла Бога, каб хутчэй той пазбавіў яе ад такога праклятушчага жыцця. Гэта пазней сусед раскажа, як прымак рашыў пачаставаць яго віном, запрасіў у хату. А Яна, убачыўшы ў суседа поўную, да краёў, шклянку, выбіла яе з рукі. Не, Яна не прызналася вяскоўцам, што падлівала ў віно саляную кіслату… Па кроплях… Каб нічога не зразумеў… Але людзі не былі б людзьмі, каб не здагадаліся пра гэта. Яны яшчэ тыя следчыя, людзі. Адны асуджалі яе, іншыя, наадварот, хвалілі: так яму, вырадку, і трэба.

Нядаўна яе не стала. Без Косціка пражыла Яна месяц. Пляменнікі пахавалі цётку па ўсіх правілах. Справілі памінкі. А потым дзве ночы ў хаце гарэла святло – сваякі шукалі грошы. Знайшлі, прызналіся, дваццаць адзін мільён. Падзялілі. Надвычай хутка прадалі жыўнасць і хату. А Косцік, праходзячы міма знаёмага двара, успамінае, як сытна было яму ў гэтай цёткі… "І навошта браў тыя грошы! Жыў жа як пры камунізме…"

6.

**Н**а імянінах было весела, па-хатняму ўтульна. Яна, віноўніца ўрачыстасці, сядзела на куце, пад абразамі, прыгожая і такая абаяльная, што мала б хто сказаў, што сёння ёй споўнілася столькі год. Віншаванні сыпаліся на кабету з усіх бакоў, людзі хвалілі жанчыну за гасціннасць, дабрыню і вернасць мужу. Хто-хто, а яны ўсё бачаць, усё ведаюць. Яе мужу было прыемна слухаць такія словы пра жонку, і ён вяртаўся назад, у далёкае мінулае…

Было гэта напачатку шасцідзесятых гадоў дваццатага стагоддзя, калі ён вучыўся ў Маскве на апошнім курсе ў інстытуце. Вось там упершыню і сустрэў яе, кволенькую, з пасмачкай русявых валасоў, што звісала раз-пораз на лоб, і яна тут жа папраўляла іх тонкімі пальчыкамі, не зводзячы з яго дапытлівага, па -дзявочы пранізлівага і наіўнага позірку. Яны сустрэліся ўсяго некалькі разоў, і яму пара было ў Беларусь, а потом па размеркаванні ў г.Петрапаўлаўск Казахскай ССР. Здавалася б, разбегліся сцежкі-дарожкі. А не. Яна ведала толькі горад, куды паехаў чалавек, у якога закахалася з першага позірку. Так сталася, што Яна не запісала нават адрас… А дзявочае сэрца прагла кахання. І Яна адважылася на пошук свайго любага. Не збегла з дому, як гэта нярэдка бывае сёння, а сказала бацькам, што едзе ў Петрапаўлаўк да каханага. Каб не трывожыліся. Каб не шукалі. Канешне ж, бацькі спярша заўпарціліся, паднялі крык - гвалт, а потом зразумелі яе, дачку, далі дазвол. " Едзь. Што з табой паробіш? Толькі звані, як і што",– папрасілі яны.

Сёння Яна і сама здзіўляецца такому свайму кроку – трэба ж было адважыцца паехаць у белы свет. У кішэні ні адраса, ні прадпрыемства, на якім будзе працаваць каханы. Ды і наогул, ці паехаў ён па размеркаванні, можа, махнуў рукой і застаўся дома? Усялякае ж магло быць.

Думаў, відаць, пра яе і ён, бо як магло так атрымацца, што увечар выглянуў з акна на двор, на якім шалёна гуляла завіруха, і ўбачыў дзяўчыну, падобную на яе… Яна тупацела боцікамі, захінуўшыся ад

сіверу рукавом: саграваласся. Адразу мільганула думка: “Яна?! Не, не, адкуль Яна можа тут узяцца? Ці не памроілася мне?” І ён выпырхнуў, у чым быў, з інтэрната на двор… То была Яна! Дзівосы ды і толькі. Пазней ён прызнаўся: вельмі таксама шкадаў, што не ўзяў тады яе адрас. А на пытанне, як ты мяне знайла, Яна тады пакруціла галавой, прызналася: «Я і сама не ведаю».

Там жа, у Петрапаўлаўску, у іх нарадзілася двое дзяцей. Пазней вярнуліся ў Беларусь, пабудавалі дом, абзавяліся і трэцім дзіцём, а як жывуць – пра тое ўсе, хто не ведаў, мог пачуць на імянінах.

Яе, дарэчы, муж пяшчотна, ласкава называе іншы раз:”Масквічка мая”. Толькі, прызнаўся мне неяк, ніводнага разу не папытаў у жонкі, ці сумуе па белакаменнай? Усё збіраецца зрабіць гэта, аднак Яна пакуль не дае падстаў… Увесь час калі ж вясёлая, радасная… Таму яно і так усё зразумела.

7.

**З**вычайна ўвесну і восенню Яна стаяла каля ўваходу ў прыгарадныя касы чыгуначнага вакзала і прапаноўвала дачнікам саджанцы пладовых дрэў. Там я і сустрэў яе. Але падышоў, каб павітацца, не адразу – не хапала духу: ведаў, якія высокія пасады займала раней, то як адрэагуе, калі застану яе за такім вось заняткам? Ці варта лезці на вочы? Усё д аднойчы набраўся смеласці. Яна, убачыўшыя мяне, і сапраўды адразу ўся запунсавелася, крыху нават разгубілася, адчула сябе няёмка… Ёй у той момант, падалося мне, перашкаджалі саджанцы, Яна не ведала, куды іх падзець. Замітусілася, паглядала то на мяне, то на дрэўцы. Трэба ж так сустрэцца! Я заўважыў гэта, і пастараўся суцешыць яе, а калі адыходзіў, набыў для сваёй дачы саджанцы яблыні і грушы.

Яна – мая аднакласніца, высокая, прыгожая. Вучылася добра, таму школу закончыла без троек, а ў інстытут народнай гаспадаркі не паступіла. На другі год пабаялася ісці туды зноў, паехала ў Горкі, паспяхова здала ўступныя экзамены ў акадэмію, пасля чаго атрымала размеркаванне ў мой абласны горад. Сустракаліся мы рэдка, хоць і жылі паблізу. Неяк не атрымоўвалася.

Прыехаўшы на дачу, я адразу ж пасадзіў саджанцы, што набыў у аднакласніцы. Тады ж і пашкадаваў, што забыўся сказаць ёй самыя галоўныя словы, якія трэба было сказаць: “Сёння ты, як і раней, да выхаду на пенсію, робіш не менш карысную справу – дапамагаеш людзям ствараць прыгажосць вакол сябе. Не саромся гэтага, мая аднакласніца. Будзь вышэй над абставінамі”.

Скажу абавязкова.

8.

**У** гэты раённым цэнтры Яна з'явілася адразу пасля аварыі на чарнобыльскай АЭС. Быў спякотны месяц чэрвень, і яе прываёз сюды выпадковы стрэчны мажны і прыгожы хлапчына на “ЗІЛе”. Хлапчына працаваў ад цямна да цямна, а яна чакала яго ў гасцінічным нумары, а потым кахаліся амаль усю ноч. І калі толькі той адпачываў? А потым Яна шафёру здрадзіла, пакахала мужчыну больш лёгкай прафесіі, які амаль увесь час таксама, як і Яна, праводзіў у гасцінічным нумары, быў суседам: нешта друкаваў на машынцы, а потым насіў паперы на пошту і адпраўляў іх па аднаму яму толькі вядомаму адрасу. Шафёр, мабыць, падумаў, што Яна збегла ад яго, а таго не ведаў, што дзяўчына кахаецца з іншым за сценкай. Потым і той пісар, і шафёр з'ехалі, а Яна працягвала жыць у гасцініцы. Спадабалася. Пра гэта ведалі ў адміністрацыі, аднак нічога не прымалі: было не да яе, дзяўчыны. А яна пераходзіла з рук у рукі, яе кармілі і паілі, магчыма, і апраналі.

Так жыла яна ў гэтым гарадку амаль паўгода. Па якой прычыне Яна з'ехала, ніхто не ведаў. Магчыма, сама зразумела, што прымількалася тут усім, трэба змяніць, не інакш, месца працы.

Пра яе мне расказала работніца той самай гасцініцы, дзе жыла Яна. І, абураючыся, паказала газету, у якой паведамлялася, што Яна згубіла пасведчанне ліквідатара аварыі на чарнобыльскай АЭС і таму прасіла лічыць яго несапраўдным…

9.

**Н**апярэдадні ёй сказалі, каб заўтра далёка ад хаты не адыходзіла, прыедуць карэспандэнты і будуць распытваць пра жыццё. Яна здзівілася: а чаму адна я, вунь і мае равесніцы, Мар'я ды Ганна, ого як могуць сказаць, яшчэ лепш! За словам у кішэню не палезуць. На гэта ёй адказалі, што нічога не ведаюць, прасілі з раёна, каб папярэдзіць толькі адну цябе. “А пра што ж пытаць будуць?”– карцела старой, на што яна таксама не атрымала пэўнага адказу. А сама падумала:”Так ужо і не ведаюць. Ведаюць, а сказаць не хочуць. Можа кепскае што, дык не хочуць хваляваць…”

Не спалася. Яна перабрала ўсё сваё жыццё: што б магло зацікавіць іх, карэспандэнтаў? Можа што не так зрабіла дзе? Дык не ж, здаецца, увесь час жыла па законах сумлення, не шкодзіла. А можа дзе і праштрафілася? Хіба ўсё ацэніш, хіба ўсё ўспомніш? Хаця пачакайце! У вайну кватараваў у іх нямецкі афіцэр, то можа за гэта?

І сёння, бывае, жартуюць землякі, калі вёску залівае дождж альбо часта надараюцца навальніцы: гэта таму, што Яна брала за немца квартплату, вось і помсціць той. А мо і сапраўды немец рашыў пацікавіцца, як жыве яна, чым займаецца? Немец быў акуратны, спагадлівы і чуллівы: калі яе малодшы брацік раскруціў "цацку", якую прыняў за ручку, і параніўся, то ён адразу ж адвёз яго ў бальніцу, дзе хлопчыку зрабілі нямецкія ўрачы аперацыю і выратавалі руку.

Прыгадвалася шмат што. За яблыні, якія ссёк яе муж, калі не было чым плаціць падаткаў, а трэба было за кожнае дрэва хоць душу аддаваць, не павінны ўспаміць. За даўнасцю. Ды і мужа няма – на кладах стары, хоць яна тады і павісла ў яго на занесенай з сякерай руцэ: не кратай яблыні, як -небудзь выкруцімся. Не паслухаўся. Мужык у яе быў з характарам, не піў і не курыў, а не стала чалавека, рана прывязалася да яго хвароба.

Дзеці, можа, набедакурылі? Дык не, не павінны, яны самастойныя людзі. Дачка ў Мінску жыве, сын – у Гомелі. Звалі яе да сябе, але яна не асмелілася пакідаць наседжанае гняздо. Хоць і нявыкрутна бывае іншы раз – старасць цётка кепская, асабліва вачам рады не даць. Яна так і задумала сказаць карэспандэнтам:"А як жывецца? Вочы зусім не бачаць. Хаджу бліжэй да сцяны, да паркана… Вобмацкам".

Карэспандэнты, хлопец і дзяўчына, былі з тэлекамерай, а з імі і старшыня сельсавета. Яны і сапраўды пацікавіся пра жыццё. Яна разгубілася і не забылася сказаць пра вочы. Яна толькі помніць, што ёй прынеслі пісьмо ад старэйшага брата, які не вярнуўся з вайны. Сказалі, гэтае пісьмо брат адправіў ажно ў тысяча дзевятсот першым годзе, аднак усю карэспандэнцыю тады захапілі немцы і тая знаходзілася доўгі час у музеі ў Аўстрыі, і вось цяпер рашылі аўстрыйцы вярнуць пісьмы іх адрасатам. Больш блізкай радні, чым Яна, у раёне не было, і пісьмо вырашылі ўручыць ёй. Яна ўзяла тое пісьмо, рукі трэсліся, баялася, каб не ўпусціць яго, і забылася нават падзякаваць. Толькі папрасіла, каб прычыталі, што ён, брат, там напісаў…

Сярод тых, каму перадаваў франтавое прывітанне брат, было і яе імя…

10.

**Ё**н рана застаўся без бацькі, а маці, на руках у якой было яшчэ двое дзяцей малодшага школьнага ўзросту, працавала ў харчовай краме, месцам сваім даражыла, таму дзеці былі прадастаўлены самім

сабе. У той час пасада прадаўшчыцы лічылася прэстыжнай – халадзільнік быў забіты самымі дэфіцытнымі прадуктамі харчавання. І ўсё б нічога, але самы маленькі пачаў адбівацца ад рук, перастаў слухацца не толькі маці, але і старэйшых сястрычку і браціка. Тыя знаходзілі ў яго папіросы і запалкі, а нярэдка заўважалі, што хлопчык прыходзіць дадому надта вясёлы і тады сядзіць за сталом і марыць пра сваё будучае. Абяцаў нават – а чаму, і не зразумела – паступіць у політэхнічны інстытут. Інстытут інстытутам, але восем класаў так-сяк агораў, атрымаў у ПТВ спецыяльнасць токара, і што радавала яго сямейнікаў, на прадпрыемстве, дзе працаваў, хвалілі. “Залатыя рукі ў хлопца”. Заняў нават другое месца на рэспубліканскім конкурсе сярод токараў. А потым пачалі на рабоце заўважаць, што Ён прыходзіць на змены пад хмяльком, рабілі, вядома ж, яму заўвагі, але не дзейнічала. Больш таго, пачаў прапускаць рабочыя дні: запіваў. Звольнілі хлопца. Пэўны час Ён бадзяўся па мікрараёне, займеў сабутыльнікаў, і пакацілася-паехала. Некалькі разоў кадзіраваўся, трымаўся нядоўга... Але за той час, калі не піў, паспяваў набыць новую шыкоўную вопратку і выглядаў, маючы добрыя знешнія жаныя, франтам.

Пазней Ён пабраўся шлюбам, але той пратрымаўся па вядомых нядоўга. Аліменты на ўтрыманне сына больш плаціла маці...

Яна не мясцовая, прыехала ў абласны горад з вёскі. Уладкавалася на працу, там пазнаёмілася з мужам, выйшла замуж, нарадзіла сына. І пачала выпіваць: муж чарку, і яна столькі ж. А потым прыйшла, хістаючыся, раз дадому, другі, на трэці – прапала. Праз тыдзень вярнулася, павінілася. Муж дараваў. Толькі прападанні гэтыя зрабіліся частымі і вымяраліся ўжо не тыднем, а месяцамі. Мужу казалі, што бачылі яе там і там, п’яную, з падбітым вокам... Ідзі, маўляў, забяры, а то зусім прападзе баба. Муж не ішоў, гадаваў сына сам. А калі Яна вярнулася, не пусціў і на парог: ідзі туды, дзе і была, прастытутка!..

...Яны не помняць, як прыйшлі на кватэру да ягонай маці. Спалі ўпокат, не распранаючыся, на канапе. Раніцай, як толькі заварашуліся, маці, скрыжаваўшы рукі на грудзяў, пахітала галавой, ціха мовіла:

– Якая прыгожая пара! І трэба ж вам было недзе сустрэцца, любыя мае! Ці вас хто пазнаёміў? Дык запрашайце кумоў-сватоў, ды вяселле справім! У чым справа?

–Мама, адстань!

–Не, не адстану. Я сур’ёзна. Вы ж так падыходзіце адзін аднаму, што і не перадаць! Ну, дык што, калі вяселле будзем спраўляць?

Бываюць жа дзівосы на свеце. Маці заставіла сына і прыбіўшуюся да яго жанчыну перашай справай памыцца і пераапрануцца – жанчыне дала свае транты), а потым пасадзіла за стол, наліла па сто грамаў і адразу ж схавала графінчык. А тады папрасіла слова, добранька пасарамаціла тых:"Пара, пара, дзеці мае, брацца за розум. Паглядзіце на сябе: вы ж такія прыгожыя, а што гарэлка зрабіла з вашымі тьварамі? На каго вы падобны? Бог, каб ведаў, аддаў бы вашу прыгажосць іншым людзям…"

Так Яны і жывуць у кватэры ягонай маці. Яна нарадзіла дачку, Ён купіў легкавік. Бачылі б, якія шчаслівыя.

Паляпаем па дрэве.

11.

**Ё**н і Яна – выпускнікі тэатральна-мастацкай акадэміі – на той час – інстытут), пакахалі адзін аднае яшчэ на першым курсе. Вяселле было сціплае: студэнты, і гэтым усё сказана. Хаця з боку жаніха мелася прапанова непасрэдна ад бацькі, а ён быў палкоўнікам у адстаўцы, салідным чалавекам, не спяшацца, а паднасабіраць грошай ды адзначыць гэтую падзею як след, усё ж адзін сын у сям'і. Яго не паслухаліся: што чакаць, калі няма калі!.. Хутчэй у ЗАГС!.. Размеркаваліся ў абласны драматычны тэатр: Ён стаў працаваць па спецыяльнасці – рэжысёрам, Яна – актрысай. Даволі хутка атрымалі кватэру. Нарадзілася дзіця. А потым яна сказала: "Хачу дамоў! Сумую па бацьках! Ды і што мы сядзім тут, калі ў Маскве віруе сапраўднае тэатральнае жыццё! Там жа кіно, тэатры. А што мы тут не бачылі?" Ён разводзіў толькі рукамі, не ведаў, што адказаць жонцы. А потым яму прапанавалі пасаду галоўнага рэжысёра ў іншым абласным тэатры. Ён ахвотна пагадзіўся. І пачаў апантана працаваць, перад ім было шырокае поле дзейнасці. Ты – галоўны, табе і карты ў рукі. Стаў спектаклі, якія пажадаеш. А Яна зноў успомніла пра Маскву, дзе нарадзілася і вырасла, бацькоў, брата."А дзе мы там жыць будзем? У нас жа тут жыллё – лепш не прыдумаеш – два пакоі насупраць тэатра."– "Нас цётка возьме да сябе, яна, ты ж ведаеш, адзінокая…"– ""А праца? Хто нас там, у белакаменнай, чакае?" – "Былі б мы, а працу знойдзем. З Сібіры вунь ажно едуць, каб пакараць Маскву. І пакараюць. А мы што, горшыя? Тым больш Масква – мой горад. Стане ён і тваім. Павер".

Ён… здаўся. І тут трэба нагадаць, што на двары быў пачатак дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Распаўся вялікі саюз народаў СССР. У Маскве мітынгі, на вуліцах танкі… Тэатры не фінансуюцца.

Кіно не здымаецца. Рэжысёры і акцёры нікому не патрэбны, сваім няма чаго рабіць. Ён не працуе, Яна – таксама… Дзіцё на руках. Як жыць, што рабіць? Страшней сітуацыі не прыдумаеш. Вярнуцца, можа, назад? Але хто ж іх, уцекачоў, чакае сёння ў Беларусі ? Ранейшае месца галоўнага рэжысёра занята, нават няма вакансій чарговых.

Сёння Яны дзівяцца: і як толькі выжылі? Ды і радасці ад працы няма, таму што робяць не па спецыяльнасці. Для творчых людзей – гэта спрэс стрэсавая сітуацыя, іначай не скажаш. Ён іншы раз, праўда, наязджае ў беларускі тэатр, ставіць спектаклі… Але не так часта, як таго жадалася б.

Масква ж, распусніца, не прыняла належным чынам. Не працягнула руку, схіліўшы голаў: мы вас даўно чакаем, шаноўныя нашы!..

12.

**А**пошні раз я бачыў гэтага чалавека, калі Ён падмятаў каля свайго двара. Рабіў гэта з перадыхам: шаркне раз-другі – адпачне, і так далей. Сусед быў зусім слабы. Неўзабаве яго забраў у горад сын, аднак на гарадскім хлебе пабыў нядоўга– адтуль яго прывезі назад у вёску ў труне, пахавалі побач з жонкай, якая пайшла з жыцця паперад. Дзеці паставілі ім агульны помнік, на якім Яны – як два галубкі…

Ён з суседняй вёскі, Яна – мясцовая. Пабраліся шлюбам яны адразу ж пасля вайны, і хоць час быў няпросты, расшчодрыліся на дзяцей: дачка, сын, дачка, сын, сын, дачка… Дзеці былі ў іх прыгожыя, як і самі бацькі. Жылі дружна, рабілі і на сваім агародзе, і на калгасных палетках, а ў сезон збіралі дурніцы на балоце і што пакідалі сабе, а што неслі на базар у мястэчка. Але было адно “але”. Цёшча. Яна таксама жыла ў гэтый дружнай сям'і, і таму іншы раз падсыпала зяцю перца: то выпіў з хлопцамі на дворні – Ён працаваў там механікам), то стаяў і размаўляў на вуліцы з сімпатычнай суседкай, а то і проста не так глянуў на яе, цёшчу. Адным словам, тады-сяды ўспыхвалі сямейныя канфлікты, якія заканчваліся іншы раз тым, што аконная шыба, а то і адразу дзве, былі затыкнуты куфайкай альбо ватнікамі, і тады праходжыя каля такіх вокнаў спачувалі зяцю, казалі, што ў прымах жыць – ну яго!..

А неяк пасля чаговага канцэрта Ён цвёрда вырашыў з'ехаць куды вочы глядзяць. Тады была ўжо праторана дарога з вёскі ў Карэлію, павёз і Ён сваё сямейства туды. Цёшча засталася адна, шкадавала

дачку, кляла няпутнага зяця. У Карэліі ім чамусьці не спадабалася – вярнуліся. Але адразу Ён пачаў будавацца. Адразу. Тут, побач з цёшчынай хатай, вырасла неўзабаве і зяцева. І што цікава, калі трохі калгас станавіўся на ногі, багацелі і людзі,вядома ж, тады Ён і зусім прыдумаў вось што: цёшчыну хату знесці, на яе месцы пабудаваць мураваны асабнячок, а цёшча няхай вяртаецца ў іхнюю, а заходзіць толькі па святах. Так і зрабілі. І жылі, кажуць, вельмі шчасліва. Ды што кажуць – я сам бачыў... Ён і Яна часта падвечар, узяўшы адзін аднае пад ручку, хадзілі па вуліцы і дыхалі свежым паветрам. На манер гарадскіх.

І на помніку, здаецца, Яны... ідуць, узяўшыся пад ручку, шчыльней прытуліўшыся галовамі адзін да аднаго. Сапраўды – як два галубкі.

13.

**С**ёння Яна больш сядзіць на лаве перад пад’ездам, у кватэру заходзіць рэдка: сумна там пасля таго, як не стала дзеда. Яму было восемдзесят сем, франтавік, стары атрымліваў добрую пенсію і любіў віно. За ім далёка хадзіць не трэба – прама ў іхнім доме зрабілі нядаўна маленькую, але ўдаленькую краму, дзе Ён мог задаволіць свае патрэбы. Яна іншы раз бурчэла: “Колькі можна жлукціць? І грошай не шкада табе, стары ёлуп?” А Ён адказваў:”Пражыві ты столькі, баба, тады рот разяўляй. Гэта – па-першае. А па ўсё астаняе, я б мог і не вярнуцца з вайны. Ды і мне, адчуваю, не багата засталося... Расступіся, дай схадзіць за віном... ” Яна скардзілася на старога суседзям. Амаль усе яны займалі бок дзеда. Бо бачылі ж, як разбэсціла Яна сваіх дзяцей і ўнукаў, адшчыпваючы тым грошы ад дзедавай пенсіі. Яны, дзеці і ўнукі, у дзень пенсіі і яшчэ дні два-тры не выходзілі з кватэры, шасталі туды-сюды: дзверы амаль што не зачыняліся. Але ж і ў дзедавых грошай бывае канец. Тады яны, сваякі самых розных узростаў і рангаў, не прыходзяць, чакаюць наступнага месяца. А яна вохкае і ахае, што сын хворы, не бяруць нікуды на працу, унучка няшчасная ў каханні, кінуў муж, а чаму не ўладкоўваецца куды на працу, бо ніводнага дня не рабіла, адказвае, не хаваючы вачэй:” А хто ж малое будзе глядзець?”– “Іншыя ж і працуюць, і дзяцей вырошчваюць”. – “Ат!” Толькі што суседзям хлусіць, калі яны больш ведаюць пра іхняе жыццё, чым думае пра гэта Яна? Ведаюць, чаму дзед цвёрда стаіць на сваёй пазіцыі і чаму шкадуе “апошняга рубля. Ён, стары, якраз і супраць таго, каб бэсціць сына, унукаў і праўнукаў. Сёння можна зарабляць і самім грошы, а не

клянчыць. Ідзі, працуй. Хто жадае,той і мае. А патачкі даваць было не ў ягоным характары. Жонцы ж казаў: "Што ж ты будзеш рабіць без мяне?" Яна весела адказвала:"Мяне дзеці не кінуць, што ты! Яны мяне любяць, хіба ж не бачыш?"– "Ды бачу, як жа. Яны любяць не цябе, а грошы – вось што я табе скажу, пара ўжо паразумнець". – "Што ты такое пляцеш, стары? Пакайся!.."

Ён памер напачатку года. Акрамя старэйшаша сына, п'яніцы і гультая, да яе ніхто не заходзіць. А што возьмеш? Усё, што было можна ўзяць, бярэ сын, які раней яшчэ ездзіў на заробкі ў Расіію, а потым, як толькі скончыў выплочваць аліменты на сына, і зусім махнуў рукой на працу: старыя пракормяць. Яны і кармілі яго. Пасля раздзелу маёмасці, сыну дасталася малагабарытка, і маці часта насіла туды ежу, а больш прыходзіў сын сам, прасіў грошай на папіросы і піва. Яна ж, хаваючы гэта ад дзеда, бо "забіў бы", плаціла і за сынаву маласямейку. І вось цяпер, калі не стала дзеда, у кватэры замест яго стаў старэйшы сын. Ён! Пан-атаман! Заўсёды пад хмяльком альбо з цяжкага пахмелля, сын патрабуе прадаць кватэру, а маці кажа, што ёй добра будзе з ім. "Я старшы сын, я застаўся за бацьку, таму кватэра – мая!.."

Яе шкадуюць суседзі, таму бачаць – няго ж сляпыя! – як здала бабка: пацішэла, уваліліся шчокі, калі ходзіць, соўгае нагамі… Іншы раз Яна гародна ўздыхне-выдыхне: "Меў дзед рацыю, меў… А я, дурніца, не слухалася яго… шкадавала і віна… Добра было мне з ім жыць, што не кажыце…"

І калі ў яе не хапае да пенсіі на хлеб, грошы даюць суседзі, чужыя людзі, а сваіх – не чуваць…

14.

**Ё**н – паэт, піша ў асноўным гумарыстычныя і сатырычныя вершы. Мае некалькі невялічкіх кніжачак і мае папулярнасць. А за вядомасць іншы раз і плаціць трэба. Сустракае на вуліцы праходжы, руку цягне:" Каго я бачу?! Прывітанне, паэт! Ну дык што, за сустрэчу?" За сустрэчу. А потым таму незнаёмцу, але вялікаму аматару паэтычнай творчасці, карціць даведацца, як жыве паэт, і ён нахабна набіваецца ў госці. І вось яны тэпаюць да дома, у якім жыве паэт, падымаюцца на ліфце, Ён націскае на кнопку званка. Адчыняе, спярша паглядзеўшы у "вочка", жонка, і як толькі бачыць побач з мужам яшчэ і невядомага ёй чалавека, тузае мужа за рукаў, каб хутчэй заходзіў, і тут жа похапкам зачыняе дзверы. Прыхінаецца спіной да сцяны, дзьме на лоб, уздыхае:

–Калі гэта скончыцца? Апошні раз пытаю!

– Напішу, так і быць, на цябе сатыру! Ты… ты не чалавек, калі маіх сяброў ігнаруеш! Зразумела? Чытай наступны нумар “Вожыка”! Там будзе пра цябе твор!…

Яны моўчкі пілі чай.

– Дурніца, – сказала Яна.– Думаеш, я супраць тваіх сяброў? Ды прыводзь хоць кожны дзень. Толькі спярша зрабі рамонт у кватэры. Сорамна ж паказваць людзям, як мы жывем. Яны ж думаюць, што паэты – багачы, у іх там шык-бляск… Хаця паэты, пасланнікі Бога на зямлі, такімі, мусіць, і павінны быць… багатымі.

15.

**У** бальнічным пакойчыку на чатыры ложкі яна была самая старэйшая. Назвалася суседкам: Пятроўна. Ну, калі ты Пятроўна ды яшчэ і бабулька — тут і ў пашпарт глядзець не трэба — то і павага з боку маладзейшых. Калі што падаць ці паўтарыць недачутае — няма пытанняў. Суседкі тут як тут. Пра сябе няшмат расказвала да пары да часу Пятроўна, а потым неяк разгаварылася... І вось што пачулі ад яе жанчыны:

— Гэта ж уцякла я з дому. Схавалася ў бальніцы. Дачка ў мяне, Верка, жыве на Сахаліне. Даўно з'ехала, яшчэ пры савецкай уладзе. Чатырох дзяцей выгадавала там, унукі пайшлі... І вось яны, унукі, прыехалі да мяне ў госці. Амаль усе. Ніколі, кажуць, не былі на радзіме маці, прымай, бабуля. Я, вядома, спярша абрадавалася, а пазней і захваляваласяся: як жа я тую араву пракармлю? У іх жа апетыт — уго! А што я за сваю пенсію купіць змагу? Тут хоць бы сабе хапіла, а яны ўплятаюць за абедзве шчакі, толькі падавай. Сасіску я адну, яны — па дзве, а то і па тры. Не паспяваю гатаваць ежу. Дык я во і ўцякла... А няхай там як хочуць!.. Хто іх зваў?.. Зваліліся на маю галаву...

Жанчыны пераглянуліся паміж сабой: гэта яна што — сур'ёзна гамоніць ці мо жартуе? Быццам бы сур'ёзна. Адна з іх заўважыла:

— Дык як жа ж можна ўцячы ад ўнукаў? Гэта ж — унукі... Свая крывінка...

— А так! Уцякла — і ўсё. Хто іх зваў? Ды я ўжо і Верку ў твар асабліва не помню. Адзін раз прыязджала, калі яшчэ можна было, калі білеты танныя былі. Забылася, якая з твару яна. А цяпер узяць: знайшлі ж грошы на дарогу ўнукі, а свет нябліжкі, то могуць знайсці і сабе на ежу. А то рассядуцца за сталом, і чакаюць, калі я іх накармлю.

Не, каб узяць ды ў краму збегаць самім... Уцякла, жанчынкі. Адных пакінула. Два хлопцы і дзеўка. Ладныя ўжо. Жаніхі і нявеста.

У палаце вісела цішыня. Мусіць, кожная з жанчын думала, як бы паступіла яна, калі б да яе прыехалі ў госці ўнукі. Ды яшчэ з Сахаліна. А Пятроўна грызла пернік і шчаслівымі вачыма глядзела на суседак: а што, скажаце, я няправільна зрабіла?

Цішыня ў палаце вісела і далей...

16.

**В**ёска. Хоць да абласнога цэнтра ад яе больш за сотню кіламетраў, аднак старшыня калгаса меркаваў так: трэба прадаць гараджанам машыны дзве бульбы, глядзіш, і будзе капейка, якая ў гаспадарцы не лішняя. Хоць, вядома, канкурэнцыя. Прыгарадныя калгасы і саўгасы, мусіць жа, усе месцы на кірмашы захопяць, бо яны бліжэй, ім і карты ў рукі. Але пралезем. Насыпалі бульбу ў мяхі ў пятніцу, і дзве машыны гатовыя былі па першай камандзе адправіцца назаўтра ў горад. Хоць той-сёй з вяскоўцаў сумняваўся, што будзе толк. Бульба ж амаль уся нясмачная, і калі зварыш яе, яна — як мыла. Была б сопкая, тады іншая справа. Ды і заскарузлая. Нехта суцешыў скептыка: "Гарадскія з'ядуць!"

Горад. Былы інжынер Пятро Іванавіч, а цяпер заслужаны пенсіянер, на дачным участку больш не корпаецца: няма здароўя, а запасацца на зіму трэба гароднінай. Добра, што зяць з машынай. Пятро Іванавіч і папрасіў яго, каб выручыў. Даў грошай і адправіў зяця з дачкой на кірмаш, а сам наглядаў за ўнукамі. Тыя і прывезлі яму ажно тры мяхі бульбы — з той вёскі, дзе бульба, як мыла... У гэтым яны ў той жа дзень і пераканаліся. Наварылі каструльку, і ўсё зразумелі: пралічыліся, грошы, лічы, выкінулі на вецер. Але што паробіш — трэба ўжываць, раз набылі, хоць бульбіна тая не лезла ў рот...

А пазней Пятро Іванавіч наведаўся ў вёску, адкуль прыехала ў горад тая бульба. Ён быў адтуль родам. За вячэрай у сваякоў расказаў, як апраставалосіўся з бульбай на гэты раз, маўляў, даверыў зяцю з дачкой, а яны далі маху.

Выказваў Пятро Іванавіч сваю крыўду якраз таму чалавеку, які і сказаў тады: "Гарадскія з'ядуць!"

17.

**Т**ак ужо атрымалася, што мы, землякі, часцей за ўсё сустракаемся толькі на Радаўніцу. Збіраемся на клады з усіх куткоў: і

далёкіх, і блізкіх. Абдымаемся, а калі даўно не бачыліся, моцна цікаем адно аднаго.

Іван Гапееў жыве ў Санкт-Пецярбургу, падпалкоўнік у адстаўцы, мой аднакласнік. Памянулі сваіх бацькоў, а потым разгаварыліся. Пра жыццё-быццё. І распавёў мне зямляк пра пельмені.

Вучыўся ён тады ў Пензе ў вайсковым вучылішчы, і першы раз на зімовыя канікулы ехаў, вядома ж, праз Маскву. Пакуль чакаў на Беларускім вакзале цягнік, прагаладаўся. А тут падвярнулася жанчына, якая прадавала пельмені. Што за яны? У нас, у вёсцы, тады і сапраўды пра пельмені ніхто і поведам не ведаў, гэта каб у Сібіры жыў ці хоць на Урале, то іншая справа. Іван і спакусіўся — набыў ажно два кулькі.

Цягнік крануўся, і пасажыры, натомленыя Масквой, заняліся звычайнай у такіх выпадках справай: выкладвалі на століку ежу, ставілі бутэлькі з газіроўкай альбо заказаныя ў правадніцы шклянкі з гарбатай і перакусвалі. Тое ж самае зрабіў Іван. Разарваў кулёк з пельменямі, а далей усё было як было: нехта з суседзяў па купэ здзіўлена глядзеў на курсанта, а той не мог зразумець, як іх, гэтыя пельмені, есці. Адчуў сябе, вядома ж, ніякавата, моўчкі аднёс потым пельмені ў скрынку для смецця і выкінуў.

Ды не галадаў, не: людзі накармілі. І як жа было яго не накарміць, маладога, прыгожага ды яшчэ з пагонамі на плячах! Ну, а пельмені, прызнаўся мой аднакласнік, сталі потым яго любімай стравай.

18.

**У**чора мой сусед паехаў на мяжу Гомельскай вобласці з Магілёўскай. У яго свой легкавік, клопат такі — сеў за руль і пакаціў.

А чаму ён паехаў туды — раскажу.

Сусед пабраўся шлюбам з дзяўчынай з-пад Магілёва, якая трапіла ў Гомель пасля медвучылішча. Дома ў яе засталіся адны бацькі. Непрыкметна падкралася глыбокая старасць, два гады назад маці памерла, а бацька застаўся адзін. Няпроста чалавеку ягонага ўзросту аднаму ў вёсцы, таму ўгаварылі дзеда на зіму пераехаць да дачкі ў Гомель, а на лета будуць яго адвозіць у вёску, без якой старому няма як жыць: сумуе — і ўсё тут. Зяць каля яго і так, і сяк, ледзь не скача, а ён усё роўна заладзіў адно і тое ж: адвязіце мяне назад! Тады і знайшлі гэты кампраміс: зімаваць стары будзе ў горадзе, а на лета яго даставяць у вёску, няхай па траўцы патупае, ну, а наглядаць за ім будзе тая дачка, што жыве ў Магілёве. Блізка ж. Падзялілі, адным словам, дзеда пароўну. Каб не было крыўдна.

У магілёўскага зяця таксама ёсць легкавік. Кожны раз на мяжы яны і перадаюць цесця адзін аднаму.

19.

**П**рачытаў у газеце "Літаратура і мастацтва" нататку Ігара Пракаповіча пра паэта і журналіста з Пастаў Алеся Касценя, якога я добра ведаў і асабіста, і як аўтара кнігі вершаў "Зруб", і як аўтара цудоўных артыкулаў "Простыя рэчы" ў газеце "Звязда".

Дзякуй, Ігар, што ўспомніў Алеся.

А мне прыгадаліся Паставы таго года, калі там праводзіўся Дзень пісьменства, у якім давялося прымаць удзел. Нам уручылі раённую газету. Святочны, вядома ж, нумар. Вершы паэтаў Пастаўшчыны. Цёплыя радкі пра некаторых. Газета падкрэслівала: яны, гэтыя паэты, наша краса, наш гонар...

Пра Алеся Касценя ні слова. І ніводнага ягонага радка.

Гэта ўразіла і запомнілася...

20.

**У** яго цяпер свая сям'я, у яе — свая. Гадоў колькі назад яны былі мужам і жонкай усяго пяць хвілін. Пяць сапраўдных хвілін. Так-так, не здзіўляйцеся. Толькі распісаліся ў Доме шлюбаў, роспіс падмацавала і бутэлька з шампанскім, якая стрэліла коркам угору, і... канфуз атрымаўся. Ужо на прыступках малады муж наступіў на фату маладой жонкі, і тая, нядоўга думаючы, адвесіла яму аплявуху. Прысутныя зніякавелі. А муж развярнуўся і пайшоў прэч, пакінуўшы ўсіх перад ганкам Дома шлюбаў. "Каця, вярні яго!", "Папрасі прабачэння!". Каця так і засталася стаяць нерухома... Маці жаніха кінулася ўслед, схапіла таго за рукаў, пачала папракаць, маўляў, людзі ж сабраліся на вяселле, чакаюць у рэстаране. Што ж ты робіш, блазнюк?! Жаніх так і не вярнуўся да нявесты, ці, дакладней сказаць, малады муж да маладой жонкі.

Вяселле не адбылося. Людзі, праўда, пасядзелі ў рэстаране, выпілі, закусілі. Але тое вяселле нагадвала хаўтуры.

Праз колькі часу у тым жа Доме іх шлюб скасавалі.

Амаль усе сведкі таго канфузу былі на баку жаніха... Малайчына, казалі. Сапраўдны мужык. Мо яно і праўда?

21.

**Я** часта згадваю вядомага беларускага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Аляксея Васільевіча Пысіна. Як цяпер

помню ягоныя радкі: "Пярэдні край, чужы, неразгаданы, пярэдні край, як полюс мерзлаты... На бледны снег ляглі мерыдыяны — армейскія прамыя правады".

Яшчэ ў 1965 годзе я, на той час дзесяцікласнік, асмеліўся зайсці ў рэдакцыю абласной газеты "Магілёўская праўда" і папрасіць у яго аўтограф. Кнігу "Мае мерыдыяны" я набыў папярэдне ў кнігарні, яна каштавала некалькі капеек. На першым паверсе ў Доме Саветаў, дзе месцілася тады рэдакцыя, я адразу пазнаў Аляксея Пысіна і Васіля Матэвушава. Яны якраз выйшлі перакурыць. Аўтограф атрымаў без лішніх слоў, пахваліўся, што чытаю іх творы на старонках не толькі абласной газеты і што сам мару стаць пісьменнікам. Ёсць і сціплыя публікацыі. Мусіць, паэты палічылі мяне дзіваком, але пра гэта я думаю толькі сёння.

Даўно няма паэта Аляксея Пысіна. Засталася яго паэзія, высока адзначаная ўладай і ўхваленая чытачамі. Застаўся і трапны жарт, які экспромтам, відаць, нарадзіўся ў яго на нейкай бяседзе. Пра аднаго з паэтаў Аляксей Васільевіч сказаў: "Пішаш, як пачатковец, а п'еш — як класік!"

Так мог пажартаваць толькі сапраўды таленавіты чалавек.

22.

**П**ра тую паездку ў Мінск вясковы каваль Сцяпан Ігнатавіч часта ўспамінае і раіць тым, хто шкадуе грошай, не выбірацца туды, калі прастуджаны. Як ён выбраўся.

— Працяла недзе мяне скразняком, а я ў сталіцу паехаў, — казаў ён, шкрабаючы патыліцу. — Справа была не дужа каб вострая, магла б пацярпець. Але каб жа ведаў, што такое здарыцца, і саломкі б падаслаў... Сядзеў бы лепш дома. Асарамаціўся толькі. Калі ўзяў білет на зваротны шлях, то да цягніка заставалася яшчэ шэсць гадзін... І тут пачалося... Ну па патрэбе ў туалет... А там ён — платны... Я толькі паспяваю грошы даставаць з кішэні... Цягаю і цягаю... Ды і перад жанчынай, што квіткі выдае, няёмка. Ці мала што яна пра мяне магла падумаць? Во, скажа, прыехаў!..

І далей Сцяпан Ігнатавіч сябе суцяшае:

— Хоць жыццё ёсць жыццё... Чаго не бывае ў ім, у гэтым жыцці? — А крыху памаўчаўшы, шчыра прызнаецца: — Хоць грошай і шкада. Хлусіць не буду. Як усёдно выкінуў. Як на вецер пусціў...

23.

**М**ікола нікому не сказаў, чаму з'ехаў з нашага горада. Іншы б плакаўся перад знаёмымі і сябрамі, а ён — не, ні слова. Ціхенечка сабраў рэчы — і знік. Няпроста чалавеку пакінуць было, вядома ж, жонку, сына, кватэру, у рэшце рэшт, зробленую мазалём. А ён — адважыўся, рашыўся.

Але шыла ў мяху не схаваеш, праўду кажуць людзі, неўзабаве даведаўся і я, чаму так атрымалася.

На рабоце Міколавай жонцы прапанавалі дзве пуцёўкі на экскурсійны цягнік у Карэлію, і яна ўзяла іх, прынесла дадому. Мікола ўзрадаваўся, бо і сам ён даўно марыў хоць вокам глянуць на тыя хвалёныя азёры, грыбныя і ягадныя мясціны. А калі наспеў час адпраўляцца ў дарогу, яго жонка раптам занядужыла. Што рабіць? Як быць? А тут якраз завітала ў госці жончына сястра, ёй і прапанавалі пуцёўку. Тая ахвотна пагадзілася.

Ну, а там адбылося тое, што адбылося. Жончына сястра, відаць, пасля чаркі моцнага напою расказала Міколе пра паводзіны ягонай палавіны. Сказала прыкладна так: "А ты думаеш, чаму яна расце па службе так хутка, як на дражджах? Граматная такая, скажаш? Ды не! Каханы ў яе — сам шэф. Ён і спрыяе. Яна мне сама хвалілася..."

На што спадзявалася сястра, адной ёй вядома, але ж здагадацца можна... Усё ж Мікола — прыгожы мужчына, і ў яе, падобна на тое, ёкнула сэрца, калі яны засталіся ў купэ цягніка сам-насам...

А Мікола сабраў рэчы і пераехаў у іншы горад. Там ён абзавёўся новай сям'ёй, у яго нарадзілася дачка, а былая жонка жыве з сынам, нявесткай і ўнукам... Кажуць, быццам хадзіла да варажбіткі і тая прадказала ёй, што Мікола вернецца. Яна і сапраўды яго вельмі кахала, мусіць жа, кахае і сёння.

Прайшло шмат гадоў, ён тэлефануе ў Гомель, але толькі сыну. Іншы раз бачацца.

Былой жонцы Мікола не дараваў. Сёстры не размаўляюць і не сустракаюцца.

24.

**У** Васілевічах сеў на дызель, каб вярнуцца дадому – у Гомель. Людзей у вагоне было мала, і кожны з іх займаўся хто чым. Некаторыя пасажыры сядзелі моўчкі, паглядаючы на краявіды за акном, іншыя чыталі, а нехта проста драмаў. Я дастаў газету, толькі разгарнуў яе, і ў гэты самы момант да мяне падсеў дзядок са слоікам у руках.

– На дзіва глянуць не пажадаеце? – ён прыўзняў слоік, у якім ляніва плаваў рак. – А?

Сапраўды, гэта было дзіва. Так ужо ў нас атрымалася, што ракі, а яны, як высветлілася пазней, надта далікатныя рачныя асобы, надоўга зніклі ад нас: хімія, што тут паробіш. Ні для каго не сакрэт, што не шкадавалі мы мінеральных тукаў для палёў, а яны, як ты не старайся адгарадзіць ад іх рэчку, усё ж траплялі ў яе. Ракі звяліся. І вось – дзядок са слоікам, у якім плаваў рак…

– Ну, як? – весела, шчасліва глядзеў ён на мяне.– Паменела угнаенняў, і ракі з’явіліся. Значыць, вада ў Дняпры чыстая. Калі ракі жывуць, то яе і піць можна.

Да нас пачалі падыходзіць некаторыя пасажыры, і дзядок са слокім з ракам апынуўся ў цэнтры ўвагі. Ён хваліўся, што рака паймаў сам, і не аднага – астатніх пакінуў унукам, а гэтага, самага большага, вязе ў горад напаказ.

Больш шчаслівага чалавека,чым той стары з ракам, я доўга потым не бачыў.

25.

**П**рыгадался неяк…

Малочнатаварная ферма. У мяне тут літаратурнае выступленне, ці як бы мовіць – сустрэча з чытачамі. Чакаем разам са старшынёй ў цесным пакойчыку – чырвоным кутку – калі збяруцца даяркі. Прыходзяць, садзяцца. Старшыня калгаса дастаў тым часам з кішэні невялічкі карабок, паклаў перад сабой на стол, сабраўся, як мне падалося, з думкамі, крэкнуў, пастараўся ўсміхнуцца, ціха сказаў:

– Жанчыны, сёння ў нас імяніннiца. Хто б вы думалі? Не здагадваецеся?

Па тварах доярак прабегла ажыўленне, яны пераглянуліся, некаторыя пацiснулі плячыма: а хто, сапраўды?

– Вера Сяргееўна…

Усе адразу паглядзелі на бабульку, шчупленькую, маленькага расточку, з густымі дробнымі маршчынкамі на твары: яна забілася ў куток, здзіўлена паглядала то на старшыню, то на сяброўак – таксама, відаць, не разумела. Якая яна імяніннiца. Толькі ж вунь, праўда, карабок на стале… Медаль хіба старшыня прывёз? Хадзілі чуткі. Ёй, значыць…

Пад воплескі старшыня прышпіліў Веры Сяргееўне медаль да жакецiка, пацiснуў руку.

– Малайчына ты, Вера Сяргееўна, – сказаў старшыня.– Малайчына. Даўно працуеш на ферме. Тваім рукам, дарагая ты наша, цаны няма. Маладзейшыя не помняць, як працавалася тады на ферме. Цяпер – што? Апарат падключыў… Ведаеце самі, як цяпер… Ну што ж, дазволь цябе яшчэ раз павіншаваць з медалём “Ветэран працы”, Вера Сяргееўна…

Бабулька ж, на маё здзіўленне, не радавалася. А потым і зусім захлімкала, сарамліва выціраючы далоняю твар. Старшыня адчуў сябе крыху ніякавата, пераглянуўся з даяркамі: медаль уручылі, святочная хвіліна, а што гэта з нашым ветэранам? Радавацца б!

А бабулька дрыготкімі вуснамі шаптала:

– Гэта ж, старшынёк, кароўка адна мая згубілася… ага… У лесе… Лыска… З малаком ходзіць, бедненькая… Шукала, шукала… Ага… Не адгукаецца…

26.

**У**ніверсам. Ён у невялікім раённым гарадку, пра які, звычайна, гавораць: на адным вуглу слова скажаш – на другім пачуюць. Час вячэрні, за вокнамі шэрань, імжыць дождж. Што мяне, новага чалавека ў гарадку здзівіла, дык тое, што каля адной касы людзей багата, хоць у вузел завязвай, а каля другой – нікога. Пытаюся ў жанчыны, чаму так?

– Тая, расфуфыраная, ні за што цябе абразіць можа. І прычэпіцца да markiознай дробязі. Таму ўсе ў гэтую касу ідуць. Ніхто не хоча настрой сабе псаваць. Гаварылі, і не раз, загадчыцы, толькі, дзіўна, – сядзіць, як сядзела… Бы манекен… Цяпер хоць і ўсміхацца пачне, а да яе не стану… Лепш у чарзе пастаю. Вунь, вунь – зноў спрачаецца з пакупнікам. Не наш ён, камандзіровачны, я сваіх тут усіх ведаю…

27.

**Л**іст ад сына адзінокі дзядзька Мітрафан атрымаў на нейкае свята. Стары быў пад добрай “мухай” і, паколькі жыў адзін і не было яму каму пахваліцца радасцю, хадзіў з хаты ў хату, трос перад суседзямі кашчавай рукой:

– Пісьмо! Ад Сашкі! Жэніцца,каб яму! Гарадскую, відаць, мымру там абкруціў! Вось вам і Сашка! А вы з садоў яго ганялі! А-а-а! – і жартаўліва паграджаў аднавяскоўцам жоўтым ад папяроснага дыму пальцам. – На вяселле заве. Паеду! А як жа – абавязкова-а!.. Паеду-у!..

На вяселле Мітрафан не паехаў, на другі дзень ён і ўвогуле пра яго не ўспамінаў. Так і цягнуліся дні. І раптам прыходзіць яшчэ адно

пісьмо. Мітрафан на гэты раз быў цвярозы і ўжо не хадзіў па хатах, а толькі бурчэў сабе пад нос:

– Ён жа халасцяк, Сашка. А як зразумець – “павіншуй з унукам”? Цьфу!

Пазней Мітрафан знайшоў выпадкова тое пісьмо. І жахнуўся: “Яна ж, гарэлка, і не тое можа зрабіць з чалавекам. Адзінага сына па-людску жаніць не атрымалася…”. Выцер слязу.

З таго дня не п’е. Ні кроплі.

28.

**М**арфу Мікалаеўну я ведаю даўно. Жыве яна з мужам, Васілём Трафімавічам, сынам, нявесткай і ўнукамі. Не ў Беларусі жыве цётка Марфа – у далёкай ад нас Удмурціі, пад Іжэўскам. Я нярэдка бываю там ў жончыных сваякоў і абавязкова заходжу да Глездзянёвых – такое прозвішча ў гэтай дружнай сям’і. Гасцінныя яны людзі. Мёд на стол, чырвонабокія яблыкі, ягады са свайго агародчыка і абавязкова круглы бохан хлеба. З печы. І колькі я не бываў у іх, ніколі не бачыў, каб падавалі хлеб да стала з крамы, а крама насупраць, вокны ў вокны, і хлеб прывозяць рэгулярна. А вось Марфа Мікалаеўна аддае перавагу свайму.

Аднаго разу да Марфы Мікалаеўны, пахвалітлася яна мне, завітаў кіраўнік раёна.

– Ехаў побач і чую духмяны пах хлеба. Сама, значыць, Марфа Мікалаеўна, выпякаеш? Малайчына. А мне дзяцінства ўспомнілася. Мама… А мы, малеча, каля печы таўчэмся, чакаем, калі дастане яна боханы. Смачны быў хлеб. Сонцам на стале ляжаў. Дзякуй вам…

У нас, у Беларусі, я ніводнага разу не сустрэў такую вось Марфу Мікалаеўну. Усё спадзяюся. А раптам?..

29.

**У** Петрыкавае, у гарадскім скверы, стаіць помнік славутаму земляку, легендарнаму партызану Васілю Ісакавічу Талашу. На гэты раз па дарозе да помніка прыгадалася, як Талаш ці тое жартам, ці тое сур’ёзна гаварыў, што гэта не Якуб Колас праславіў яго, зрабіўшы героем хрэстаматыйнай аповесці «Дрыгва», а ён праславіў пісьменніка... маўляў, каб не напісаў Колас пра мяне, то яго б ніхто і не ведаў. Але такое выказванне, пагадзіцеся, падкрэслівае мудрасць старога, дасціпнасць, чым ён, па сведчанні сучаснікаў, і вылучаўся. Помнік, зроблены Заірам Азгурам, падабаецца людзям. Быццам і сёння аглядае мудры селянін-паляшук родныя абшары – лясы, луг,

роўнядзь Прыпяці... і задаволена жмурыць вочы: усё добра на маёй радзіме, усё выдатна, браткі-паляшукі! Толькі вось нейкі блазнюк – і дацягнуўся ж! – уставіў дзеду у рот акурак... Няўдалы жарт. Не курыў дзед. Таму і пражыў, мабыць, 102 гады. Таму і блукаў ён па лясных сцежках так доўга...

30.

**Р**аней які транспарт быў у лясгасе? У дырэктара і тое матацыкл. У Мазыры параілі мне наведаць Мялешкавіцкае лясніцтва. Узначальваў яго Рэм Данілавіч Талкачоў. Чуў, чуў пра яго... Меўся ў Рэма Данілавіча аўтамабіль-легкавік «Газ-67». Рэдкасць па тым часе неверагодная. Калі неяк пад'ехалі кіраўнікі лясгаса, то Талкачоў якраз і корпаўся ў легкавіку – нешта не ладзілася. Зрабілі яму заўвагу, маўляў, займаешся ты, Данілавіч, не тым, чым трэба. А ляснічы нічога не адказаў, толькі выцер рукі, паглядзеў на леснікоў, што стаялі побач з рыдлёўкамі, загадаў тым залазіць у легкавік. Так-сяк тыя ўціснуліся. «Паехалі!» Доўга яны ехалі ці не, але ў лесе матор заглох, Талкачоў першы вылез з кабіны, паглядзеў на леснікоў, якія таксама выбраліся, загадаў: «Капайце!» Тыя і выбухалі яму. А потым Рэм Данілавіч упёрся плячом у свой транспартны сродак, леснікам нічога не заставалася, як дапамагчы яму. Калі легкавік закапалі, Талкачоў зноў выцер рукі, паглядзеў на дырэктара лясгаса, усміхнуўся:

– Цяпер буду займацца толькі карыснай справай. А пра тое, што тут закапаны мой тарантас, прашу, таварышы леснікі, нікому ні слова. Развязаў нарэшце рукі. Хоць і шкада – машына добрая была. Капрызная, праўда, як баба...

31.

**У** бальнічнай палаце было шэсць ложкаў, і ўсе занятыя. Хворыя тут падоўгу не затрымліваюцца: зрабілі аперацыю на воку – паставілі штучную лінзу, ці, як мы кажам, – хрусталік, і калі ўсё добра, праз два-тры дні выпісваюць. Канвеер. Паставіць лінзу – справа не танная, калі імпартную ўзяць, то дзесьці блізка да мільёна. З усімі інструментамі і працай медыкаў. Вядома, не кожнаму па кішэні такая аперацыя, трэба ашчаджаць, бо хворыя на вочы, як правіла, пенсіянеры, людзі сталага веку.

Суседзі па палаце пра гэтага чалавека мала што ведалі. Дзед і дзед. Ціхі, маўклівы. Калі мужчыны байкі баяць, пра сябе расказваюць, ён застаецца ў баку. Ніяк не рэагуе. Корпаецца ў сваёй тумбачцы, перабірае нешта там, зрэдку выходзіць у калідор. Толькі

адзін раз, калі вясковец, выпрацаваны стары, паскардзіўся, што дарагавата ўсё ж гэтая працэдуцра для пенсіянера, ён, не хаваючы іроніі, заўважыў:

– А як вы хацелі? Бясплатна? Не той час.

Вясковец нічога не адказаў: мабыць, і сапраўды так.

Некалі гэты маўклівы дзед быў вялікім начальнікам абласнога маштабу. І калі большасць хворых адкладвалі, не сакрэт, з пенсіі патроху на хрусталік, то ён – а пенсія ў яго, відаць, значна большая – звярнуўся на ранейшае месца за дапамогай.

Мо таму і маўчаў, што сорамна зрабілася перад астатнімі?

## ЧОРНЫ КОТ

**С**ёння ранкам, ідучы праз школьны двор, сутыкнуўся з хлопчыкамі, якія выбеглі насустрач мне з-за вугла будынку, нечым, па ўсяму было відаць, дужа ўстрывожаныя … і з каменьчыкамі ў руках.

– Дзе ён, дзе? – калі яны раптам спыніліся, похапкам хапаючы прастору вакол сябе вачыма, спытаўся адзін з іх і роспачна прамовіў. – Уцёк!..

Я пацікавіўся, каго яны шукаюць. Хлопцы не адказалі. Ды ім і не было калі гэта зрабіць – з-пад кусціка з усяе моцы шмыгануў чорны кот, і арава панеслася за ім, на хаду цаляючы ў бедалагу каменьчыкамі. Трапнасцю з іх ніхто не вызначыўся, да маёй задаволенасці і радасці, кот знік у суседнім двары, і хлопцы, не ведаючы што рабіць далей з каменьчыкамі, вярталіся назад. Не перамаглі. Прайгралі. Каменьчыкі кінулі тут жа сабе пад ногі, а запэцканыя рукі выцерлі аб парткі: мацi памые.

– Спяшаецеся? – пацікавіўся, бы між іншым, я ў хлопчыкаў, а сам прыкінуў, што яны вучацца ў чацвёртым-пятым класе.

Адазалі: не, не спяшаюцца. Настаўніцу некуды выклікалі пасярод урока, яны чакалі-чакалі яе і рашылі выйсці на сваежае паветра. Тут ім і падвярнуўся чорны кот.

– А што вам такога кепскага зрабіў той чорны кот, за якім вы так апантана гналіся і мецілі ў яго каменьчыкамі? – пацікавіўся я.

Вучні пераглянуліся, разводзілі рукамі, паціскалі плячыма. Адзін з іх, той самы, што са шкадаваннем вымаміў крыху раней “Уцёк!”, абыякава адказаў:

– Ды проста… А што, нельга?

Пасмялеў і другі:

– Хай не ходзіць…

– Чужая, значыць, тэрыторыя, – не адступаў і я, ішоў услед за вучнямі, якія ўжо нуль увагі на мяне, у іх свае справы.– Пачакайце. Затрымайцеся. – На маё здзіўленне, яны спыніліся. – Што ж гэта атрымліваецца, сябры мае? Сёння кату нельга гуляць па тэрыторыі школы, а заўтра паляцяць каменьчыкі у мяне? Так? Ці ў іншых? У вас што, так моцна рукі свярбяць?

Павісла паўза. Відаць, падзейнічалі мае словы, кранулі, і яны задумаліся: а мо і праўду кажа дзядзька? І яны наперабой пачалі апраўдвацца. З усяго пачутага зразумеў адно: чалавека яны б ніколі не кранулі, ну а з катом хацелі пазабаўляцца. Усяго-наўсяга. “Гэта ж кот!” На пытанне, а калі б патрапілі ў яго, паранілі ці наогул забілі, яны зрабілі такія бездапаможныя і вінаватыя міны, што і мне нічога не заставалася, як сказаць ім: больш так не рабіце, мае дарагія. Бачу, шкадуеце, што пагналіся за катом і шпурлялі ў яго каменьчыкамі. Гэта добра, што ўсё так добра скончылася.

– Даруйце, мы больш не будзем, – пачуў я ад аднаго з іх.

Пахваліў, што дайшло, што зразумелі. І паколькі ў іх быў час, як я зразумеў, то прапанаваў ім паслухаць адну жудасную гісторыю, што адбылася ў маім дзяцінстве. Яна таксама пра чорнага ката. Хаця, магчыма, больш пра людзей, пра іх жорсткасць.

Як цяпер помню – было лета 1957 года. Я з бацькамі-настаўнікамі жыў тады ў вёсцы Іскань Быхаўскага раёна. І побач з нашай хатай пачалі будаваць клуб. Будаўнікі былі з суседніх вёсак, не мясцовыя, і мне, дзесяцігадоваму падшыванцу, было цікава назіраць, як дужыя хлопцы sклюдавалі бёрны, засякалі вуглы. Было шмат трэсак, і нам, малечы, дазвалялася браць іх і цягаць дахаты. Што мы наперабой і рабілі. Менш цікавіла нас, як будаўнікі рабілі падмурак. Да пэўнага, прабачце, часу. Разінуўшы раты, мы, трэскацягальнікі, назіралі, як пад дружны рогат сваіх напарнікаў адзін з будаўнікоў прынёс аднекуль чорнага ката і сілком утрымліваючы яго, пачаў замуроўваць у падмурак. Жывога. Як не біўся кот, як не змагаўся за сваё жыццё, яго лёс быў вырашаны.

Потым у гэты клуб я хадзіў гартаць газеты і часопісы, гуляць у шашкі і даміно, а калі падрос, танчыў з дзяўчатамі, а тое здарэнне з катом ніколі не выходзіла з галавы. Нават і цяпер, прыязджаючы ў вёску, я гляджу на той вугал, дзе быў замураваны чорны кот. І ў мяне псуецца настрой. І хочацца вярнуцца ў дзяцінства, у тое далёкае лета 1957 года, і крыкнуць: што ж вы робіце, дзядзькі?!.. Не чапайце ката!... Ён жыць хоча!.. Жыць!.. Чуеце?! Не трэба нам вашы трэскі!.. Забярыце іх!.. Толькі адпусціце ката!..

Тады і я, і мае сябры маўчалі. За што я дакараю сябе і сёння. Хоць што з мяне, блазнюка, тады можна было ўзяць?

А што да вучняў, якія ганяліся за катом, то яны моўчкі даслухалі мяне і пайшлі. Нічога не сказалі. Павярнуліся, і пайшлі… Нетаропка. Толькі, заўважыў, яны больш глядзелі сабе пад ногі. Не думаю, што зноў выглядвалі каменьчыкі… Не думаю…

## БАБУЛІН ПІРОГ

**У**чора Максім паехаў у вёску – пасвіць кароў. Там жыве яго бабуля па маці, і старой трэба дапамагаць. Паехаў са скрыпам, да апошняга сядзеў за капм'ютэрам, спадзяваўся: а раптам пашанцуе – бацькі не заедуць? Не пашанцавала. Там у вёсцы і мая хата, а паколькі хаджу на працэдуры ў паліклініку і адчуваю сябе не надта камфортна, папрасіў унука зазірнуць у садок і прывезці торбу яблыкаў, бо сам пакуль адвярнуцца не магу. “Бабуля пачастуе нас смачнымі пірагамі”. Набраць яблыкаў – не кароў пасвіць, таму ўнук пагадзіўся ахвотна. Тым больш ён, блазнюк, ведае: з дзедам трэба сябраваць, у дзеда кам'ютэр, і той, калі нічога не піша сам, уступае яму месца – бывае, і на ўвесь дзень.

Я чакаю яблыкі, якія прывязе унук. І думаю пра яго. Кім ён вырасце? Прыгадваюцца розныя непрыстойныя гісторыі пра падлеткаў, убачаныя па тэлебачанні, пачутыя ад людзей… А мне адразу падумалася: няўжо і мой унук здатны на такое? Не, што вы! Каб і мой?!.. Так падумаў бы на маім месцы кожны дзед, тым больш – кожная бабуля, натура яшчэ больш схільная да ідэалізацыі сямейных устояў. Дык хто ж тады псуе вонкавы выгляд нашых будынкаў, якія да так званых графіці мелі сёння сапраўды еўрапейскі выгляд? Адкуль такое – псаваць, крамсаць, кідаць, пляваць, кірхаць, гагатаць ў грамадскім транспарце жывёльным гогатам, ад чаго некаторым слабым здароўем людзям, упэўнены, робіцца зусім кепска?

Няўжо на такое здольны і мой унук? А калі і ён у натоўпе? Як ён паводзіць сябе, цікава? Не жыве ж ён сам па сабе. Вакол – сябры. Каманда. Дома ж яны амаль што ўсе – хоць у вуха кладзі замест ваткі, мабыць. Аднак, аднак… Адзін мой знаёмы неяк прызнаўся, што выпадкова апынуўся побач з купкай хлапчукоў на гуллівай гарадской вуліцы, сярод іх быў і ягоны сын, выдатнік, актывіст БРСМ. Майму знаёмаму было сорамна стаяць побач з хлапцамі, бо размаўлялі тыя, выкарыстоўваючы, як кажуць, толькі ненарматыўную лексіку. Праз слова – мацюк. Адборны. І кожны стараўся вымавіць тое слова як

мага гучней, каб падкрэсліць акаляючым, які ён, бачце вы, герой. Пачуў тое ж самае ён і ад свайго сына. А калі парастак убачыў бацьку, перапалохаўся не на жарт: вось трапіў дык трапіў у пастку. Мой знаёмы амаль за руку вывеў сына з натоўпу, той не ўпарціўся, хоць перад сябрамі і адчуў сябе няёмка. “Гляньце, Арцём пад каўпаком!”– так, відаць, падумалі яны. Але пераканаены: на месцы Арцёма кожны б стаў ягнём перад бацькам, кожны... Хаця, не пярэчу, той-сёй і паспрабаваў бы паказаць свой нораў. Ад безысходнасці. Але ненадоўга.

Мне, прызнаўся знаёмаму, у такой сітуацыі ўнука захапіць не выпадала. Але, мусіць жа, і ён не анёл. Цалкам не ручаюся. І паляваць за ім не збіраюся. Мая стрэльба – слова, і я нарэшце пагавару з ім як мужчына з мужчынам. Усё ж унуку семнаццаты год, дзесяцікласнік, цікавяцца ім дзяўчынкі і ён імі, разбіраецца ў камп’ютэры, любіць кіно, канцэрты...і вуліцу. Адным словам, нам будзе пра што пагаварыць. І абавязкова трэба расказаць яму пра сваё вясковае жыццё, якое ўнук так не любіць, усяляк стараецца ўвярнуцца, каб не паехаць да бабулі і не дапамагчы ёй па гаспадарцы. Не любіць працаваць, гультай расце? Так не сказаў бы. Ніводнага разу не адмовіў, калі прасіў што зрабіць. Хоць якая тут у нас, гарадскіх, праца для яго? Збегаць у краму ці вынесці смецце, калі нам не хочацца лішні раз апранацца? Прыпаласосіць падлогу? Падмесці? Забраць газеты ў паштовай скрынцы? Канешне ж, не параўнаць, што мы, вясковыя дзеці, рабілі. Але то – мы, яны ж жывуць сёння у іншым вымярэнні, жывуць на асфальце і ў вёсцы бываюць наскокам, а яшчэ дакладней сказаць – гасцямі. А што ты возьмеш з госця! Добра яшчэ, што ўнук адчувае сябе ўтульна ў горадзе, і пакуль – паляпаем тройчы па дрэве! – ніводнага разу ім не цікавілася міліцыя. Плюс, вядома. Але маецца ўсё ж і вялікі мінус – камп’ютэрныя гульні і іншыя забавы, якія моцна прывязалі Максіма да кватэры і значна скарацілі яго дварова-вулічны час. Жонка радуецца: не спалохай, хай сядзіць за камп’этэрам, менш па вуліцы бегаць будзе. Ну яе, вуліцу!

Я разумею жонку. Так спакайней. Хаця ж і адмаўляць двор, вуліцу нельга. Там – сябры, патаемныя мясціны дзяцінства. Там – зусім іншае жыццё, чым у чатырох сценах. Назавіце мне чалавека, якім б не хваляваўся, адпраўляючы сына альбо ўнука ў тое зусім іншае жыццё? Хоць і ненадоўга. Хоць на некалькі гадзін. Але ж іншы раз хапае і хвіліны-другой, каб пацягнуцца да таблеткі... І ад гэтага нікуды ні падзецца, на вялікі жаль. Існуюць дабро і зло, любоў і нянавісць, і з усім гэтым страчаюцца на сваім жыццёвым шляху

нашы дзеці. Адны па гэты бок, іншыя – па той… Нам хочацца, каб нашы – самыя любімыя, самыя бязгрэшныя – былі заўсёды там, дзе пануе толькі ДАБРО.

...Максім прывёз – як завязаць – торбу яблыкаў. Трэба было бачыць яго вочы. Свяціўся ўвесь. Я падзякаваў. Ну, а заўтра я ўсё ж набяруся смеласці і пагавару з ім начысціню. Пра тое, як жыве, што хвалюе, непакоіць. Як наогул паводзіць ён сябе на вуліцы. Будзем есці бабулін пірог і размаўляць. Абавязкова.

## Гумарэскі

## ВЫЛЯЧЫЎ

**Д**зён колькі назад Іван Сідаравіч сабраўся аднесці кніжкі ў бібліятэку. Не здзіўляйцеся: у адрознене ад многіх іншых, ён не здрадзіў свайму ранейшаму захапленню, не паддаўся на спакусы тэлебачання, а як чытаў кнігі так і чытае. Пра інтэрнэт яму, разважаў, і зусім думаць позна: гэта ўнукаў занятак, а кніга яна і ёсць кніга.

Загрузіўшы прачытаныя томікі ў пакет, Іван Сідаравіч, атрымаўшы заадно ад жонкі заданне што купіць па дарозе з бібліятэкі – каб, па яе меркаваннях, парожнім не хадзіў – ён і выйшаў на ганак. Стаяў цёплы сонечны дзень, наўкола гулі аўтамашыны і весяліліся на пляцоўках дзеці, а на лаве, што ў пад'ездзе, сядзеў мужчына ў пакамечаным касцюме, у несамавітых акулярах, шкельцы якіх былі нават зусім розныя: одно празрыстае, другое – цёмнае. Празрыстае шкельца да таго ж было трэснута.

– Мужчына... – няўпэўнена, абапіраючыся адной рукой на лаву, а другой махаючы ў паветры, нібы намагаючыся за яго ўхапіцца, чалавек у акулярах нарэшце ўзняўся, не зводзіў позірку з Івана Сідаравіча.– Мужчына... Пачакай... Ты мяне зразумееш... Прабач, павітацца забыўся. І прадставіцца. Прадстаўляюся: я ветэрынар... жонка забрала, гадаўка, тры мільёны грошай і разам з дачкой з'ехала ў вёску... Верыш? Я ў суседнім доме жыву... Дзе аўтамагазін... І пошта...

– Гаварыце, гаварыце, – замест спачування, суха адказаў Іван Сідаравіч, а сам затрымаў усё ж хаду: ну-ну, што там у чалавека, цікава ж.

– А я ўчора, значыць, звэлхаў два парсюкі, выпіў, вядома ж, а сёння хварэю. Ты ж мужык, павінен мяне зразумець.

– Дык што вам трэба? – хоць і ведаў, што яму патрэбна, чамусьці спытаў Іван Сідаравіч і не чакаючы, пакуль той нешта прамовіць у адказ, выправіў сваю памылку – працягнуў яму адной паперкай пяць тысяч рублёў.

Мужчына анямеў. Ён хацеў знайсці словы падзякі, аднак у яго адняло, падалося, мову: ён толькі соп і крактаў. Усё ж услед гукнуў Івану Сідаравічу прапітым голасам:

– Я, зямляк, у даўгу не застануся!...

Назаўтра Іван Сідаравіч і ягоная жонка наважыліся выбрацца ў горад – сябе паказаць і на людзей паглядзець. Апрануліся ў лепшае адзенне. Выйшлі на ганак. На лаве сядзеў усё той жа мужчына ў

пакамечаным касцюме, у акулярах, да дужак якіх была цяпер ужо прывязана рызінка, яна ж абшчапіла яго галаву, а замест чорнага шкельца віднелася прарэха.

– О! – гукнуў мужчына. – Дзед! Я ж цябе чакаю! – І ён памкнуўся насустрач, працягнуў руку Івану Сідаравічу, той палічыў агідным патрымацца за яе, аднак гэтая акалічнасць не астудзіла ягонае жаданне. – Ты ж мяне вылячыў, помніш? Пахмяліў тады добра… Ого як пахмяліў!.. Учора ж было, здаецца?.. Таму я ў даўгу не магу застацца. Сёння звэлхаў парсюка… тут паблізу, у прыватным сектары, то маю грошы… Хадзем, пачастую!

Твар Івана Сідаравіча запунсавеў, а жонка страціла мову, як і мужчына ў акулярах, калі атрымаў ад яе мужа пяць тусяч рублёў на выпіўку. Кабета нарэшце знайшлася:

– І гэта ты з такімі бамжамі сябруеш, мой мілы? – скасавурылася яна на мужа.– Дакаціўся! Дажыўся!…

– Ды я… зразумей… я не піў…з ім…– замэкаў Іван Сідаравіч, а сам гатовы быў даць добрага кухталя гэтаму ветэрынару.

– Дома разбярэмся! – прыгразіла жонка.

А мужчына не ўнімаўся, ужо нахабна тузаў Івана Сідаравіча за рукаў:

– Хадзем, хадзем! Ты баб меней слухай. Мая ж… тры мільёны хапнула і толькі бачылі яе… А я сёння звэлхаў… І на заўтра заказ маю… Так што – жывём!..

Іван Сідаравіч і жонка дабавілі кроку, аднак мужчына ў акулярах не адставаў, стараўся ступаць ўпоравень з імі, і ўсё цягнуў “дзеда” выпіць. Яго было далёка чуваць. Знаёмыя спыняліся, праводзілі іх загадкавымі позіркамі: і гэта ў іх такі друг сям’і?!

Іван Сідаравіч нарэшце спыніўся, паглядзеў прама ў вочы назоле, і сказаў злосна, выходзячы з сябе:

– Ды не п’ю я-я-я!!!..

– Дык… дык а як жа я з табой тады разлічуся? – не мог асэнсаваць пачутыя словы мужчына.– Не, не прыкідвайся: пайшлі – і ўсё, дзед! Я ад цябе не адстану. Ты мяне вылечыў, я павінен аддзячыць. Я не скнара які-небудзь. Ведай! Знай! Ну, і доўга ты будзеш ўпірацца?.. Я – не адстану!.. За дабро дабром плаціць трэба. Хе-е, думаеш, я не ведаю гэтага!..

Івана Сідаравіча і ягоную жонку выратавалі ногі.

# П Е Р А Х А П І Л А

**В**алянціна вярталася з базара, таму, вядомая справа, рукі ў яе былі заняты сумкамі з рознымі пакункамі. На аўтобусным прыпынку жанчына з палёгкай уздыхнула: на лаве якраз мелася адно свабоднае месца, і таму яна мела магчымасць даць рукам паслабленне – села, а сумкі паставіла на калені. Патрэбны аўтобус затрымліваўся. Валянціна асабліва і не спяшалася. Жыве адна, а дзень нараджэння ў яе толькі заўтра, таму яшчэ паспее падрыхтавацца, каб чынна і годна сустрэць гасцей. Абяцалі быць супрацоўнікі аддзела.

А вунь і ён, патрэбны аўтобус. Пара ўставаць. Жанчына ўзяла ў рукі сумкі і накіравалася бліжэй да таго месца, дзе звычайна спыняецца транспарт. Стаіць. Чакае. І тут бачыць, што да аўтобуса бяжыць што сілы мужчына, а за ім гоняцца два маладзенькія міліцыянеры. Ловяць, значыць, уцякача-злачынцу. Так падумала яна, Валянціна. Не помніць і сама, як кінула яна сумкі на дол і шырока растапырала рукі. Мужчына так і ўляцеў у яе абдымкі.

– Стаяць! – загадала жанчына. – Папаўся!..

Мужчына не мог зразумець, што адбываецца. Пакуль ён ачомаўся, міліцыянеры прабеглі міма, ускочылі ў аўтобус, таго неўзабаве і след прастыў. Толькі цяпер Валянціна здагадалася, што адбылося. Перастарался, адным словам. Яна гучна засмяялася і папрасіла прабачэння ў мужчыны. Мужчына таксама ўсміхнуўся ў адказ:

– Бывае. – І прапанаваў свае паслугі:– Вам, можа, дапамагчы сумкі несці?

– Ну, калі не цяжка… – спярша сумелася Валянціна, а потым паціснула плечуком.

– А мне няма куды спяшацца. Не ведаю, навошта я так ляцеў на злом галавы да таго аўтобуса? Хаця, кажуць, што не робіцца, усё да лепшага…– шматзначна пацісnуў ён плячыма і згроб у адну руку ўсе яе сумкі, загадкава паглядзеў на жанчыну. – Загадвайце, куды несці?

– Дамоў…– ціха і сарамліва прамовіла жанчына.

– Дамоў дык дамоў! – бадзёра сказаў мужчына і дапамог ўвайсці ў салон аўтобуса, які толькі што падышоў, Валянціне.

З таго дня на базар яны ходзяць разам і ездзяць толькі на тым нумары аўтобуса, які стаўся шчаслівым для іх абодвух.

# П Р Ы В І Т А Н Н І

**С**яргей Іванавіч амаль усё сваё жыццё працаваў у канструктарскім бюро завода па вырабу вентылятараў, а калі выйшаў на пенсію, пераехаў жыць у іншы горад – бліжэй да сына і ўнукаў, як сказаў сваім былым супрацоўнікам. Праводзячы ветэрана працы на новае месца жыхарства, яны паабяцалі не забываць Сяргея Іванавіча.

– Ты толькі пакліч, і мы заўсёды акажамся побач з табой! – ударыў у грудзі інжынер-канструктар Ціханчык. – Не забывай і ты нас, шаноўны! Тэлефануй! І помні: у цябе сярод нас багата сапраўдных сяброў, у тым ліку і я. Нас не разлучаць адлегласці, жыві і вер!..

Праз нейкі час у Сяргея Іванавіча надарыўся юбілей – сямідзесяцігоддзе. У канструктарскім бюро доўга не вагаліся, каго адкамандзіраваць у суседні горад, каб той ад імя калектыву павіншаваў ветэрана з днём нараджэння. Канешне ж, Ціханчыка! Усе добра помнілі, як ён абдымаў на вакзале Сяргея Іванавіча і слёзна прасіў не забываць калектыў. І мы цябе, маўляў, ніколі не забудзем, любы дружа.

Былыя супрацоўнікі скінуліся па некальні тысяч, за якія купілі падарунак імянінніку і вымеркавалі, вядома ж, грошы на аўтобус Ціханчыку. Пажадалі таму шчаслівай дарогі.

У панядзелак Ціханчык на працу не выйшаў. З дарогі чалавек, рашылі ў канструктарскім бюро, то не выспаўся, мусіць, няхай адпачне. Усё ж на дні нараджэння быў. Не будзем турбаваць. А на наступны дзень Ціханчык гучна і ўзнёсла апавядаў усім, як добра прайшоў у Сяргея Іванавіча дзень нараджэння і як дарэчы быў ягоны візіт на гэтым мерапрыемстве.

– Калі я ўручаў падарунак юбіляру ад ўсіх вас, сябры мае, вы б толькі бачылі, як ён расчуліўся, пусціў нат скупую мужчынскую слязу. – Ціханчык ажно сам хлюпнуў носам і прамакнуў насоўкай вільгаць на вачах. – Што значыць – увага, сябры мае. Ён вам усім передае, дарэчы, прывітанні. Жадае моцнага здароўя і поспехаў у працы.

Праз некалькі тыдняў Сяргей Іванавіч прыехаў у горад свайго юнацтва і, вядома ж, завітаў на старае месца працы. Шчырыя ўсмешкі, поціск рук, абдымкі.

– Вялікі дзякуй табе, Сяргей Іванавіч, за прывітанні, – сказаў нехта з супрацоўнікаў, – якія перадаў нам ад вас Ціханчык…

Сяргей Іванавіч зніякавеў:” Якія прывітанні? Ніякі ж Ціханчык на юбілей не прыязджаў…” Але ён не падаў выгляду. І – змоўчаў. Толькі з хітрынкай у вачах паглядзеў на Ціханчыка, які схаваў галаву за манітор камп’ютэра і стараўся не дыхаць.

## СВЕТ ПЕРАКУЛІЎСЯ

**Б**ыла субота, і апоўдні ў кватэры Кісяльковых затрэнькаў тэлефон. Трубку, як заўсёды, схапіла Серафіма Пятроўна.

– Што, сынуля, зноў у цябе? – не даўшы і слова прамовіць Валіку, адразу ж спыталася маці і ўся насцярожылася, напялася, нібы перад скачком з табурэта на падлогу. – Кажы, не ўтойвай, што цябе хвалюе і непакоіць, сыночак. Прызнавайся. Хто, як не я, твая мамка, павінна ведаць, як жыве мая крывіначка! Жонка, кажаш, лянуецца табе ежу гатаваць? Галадаеш? І трэба ж!.. І адкуль яна, цікава, упала на нашу, Кісяльковых, галаву? Адкуль звалілася? Ай-я-яй! І посуд прымушае цябе мыць? І посуд?! І трэба ж!.. Дык гэта ж чыста жаночая справа! Ну, пачакай у мяне, Галюня, дабяруся я да цябе!.. Пачакай!.. Ты вось што, Валік: больш строга, ага, больш строга з ёй!.. Будзь мужчынам! Пакажы характар! Так-так-так! Пацярпі, сынок, яшчэ трошкі – сёння мне некалі, а заўтра я ў госці да вас прыбуду. Я навяду парадак! Я пакажу Галюні, дзе яе месца ў сямейнай іерархіі! Не перажывай, сынуля. Не хвалюйся. Не бяры ў галаву. Час расплаты настане, Яна, бачце вы, лянуецца майму сыну, маёй крывіначцы, ежу гатаваць!.. Посуд мыць застаўляе!.. Дзе б гэта бачана, как з майго сына нейкая там Галюня так здзекавалася!.. Ой, божачкі!.. Свет перакуліўся!.. Зусім паравяліся жонкі, зусім!.. Чакай, сынуля, на выручку!..

Серафіма Пятроўна паклала трубку, надзьмула шчокі, а потым паглядзела на мужа, які сядзеў на канапе і чытаў свежую газету.

– Сядзіш? – зларадна спыталася яна. – Ну-ну, сядзі, ёлуп. А не, каб абед згатаваць, пакуль я сына суцяшала. Што, рукі ў цябе адваліліся б? Гляньце на яго – і посуд, і посуд, што пасля сняданку застаўся, так і стаіць у ракавіне! І трэба ж!.. Хоць бы пашкадаваў жанчыну! Сораму няма ў цябе зусім, мужынёчак!..

## МАРАФЕТ

**Л**уданік сядзеў на лаўцы каля пад’езда і чакаў домакіраўніка. Да апошняга ў яго была вельмі важная і тэрмінавая справа. Мужчына хваляваўся, нервова паглядаў раз-пораз на гадзіннік, а калі хто выходзіў з дзвярэй, ажно прыўставаў і выцягваў, бы гусак, злуючы, шыю: «Ці не ён? І зноў не, блазнюк! Скажаў жа: чакай, зараз выйду. Ну, і колькі чакаць можна? Ды ўжо, ага, ? будзь здароў колькі сяджу тут!.. Дзе павага да кватэранаймальнікаў, у рэшце рэшт?! Хто каго корміць?!..»

Нарэшце! Спярша паказаўся жывот, а потым і сам Цітавіч.

- Ну, што там у цябе? - лыпнуў ён вачыма, буркліва папытаў у Луданіка.- Кажы хутчэй, а то мне няма калі!..

- Багата што!..- таямніча і загадкава ўсміхнуўся кватэранаймальнік, як любіў называць сябе ў размове з работнікамі домакіраўніцтва сам Луданік.- Давядзецца прайсціся па тэрыторыі, так сказаць...

- Ну, пайшлі. Толькі хутчэй, а то мяне чакаюць!..- Цітавіч зноў паглядзеў на гадзіннік.

- Пачакаюць! - годна адказаў Луданік і патупаў наперадзе, а ззаду соп домакіраўнік Цітавіч, шморгаў носам і лаяўся, што ў яго, як заўсёды, мала часу, а тут яшчэ гэты Луданік, аднак!..

Перад ямінай, што была пасярод тратуару, Луданік спыніўся.

- Бачыш? - спярша нахіліўся над ямінай, а потым строга паглядзеў на Цітавіча Луданік.- Глыбокая і ў дыяметры не слаба - нага пралезе, і рабіць нечага.

- Уявім...

- Не ўявім, а трэба засасыпаць. Там вунь яшчэ дзве такія яміны. Запісвай, Цітаіч, а то забудзеш. Аловак узяў?

- Я сваю тэрыторыю ведаю, як калгаснік агарод, што мне запісваць!.. Ну, яміны? Так. Улічым.

- А паглядзі, якія сходкі?-Луданік паказаў на прыступкі, што вялі ў ягоны пад'ед.- Адрамантаваць належыць, шаноўны. Няма куда нагу паставіць. Злізаныя, як соль у кароўніку. А дрэва, а дрэва!.. Жасмін, здаецца? Ён, ага!.. Я ж, калі іду і забудуся пра яго, то ён у мяне кепку зрывае з галавы сваім галлём, а зімою, значыць, шапку. Спіліць!

Цітавіч нарэшце спыніўся, галузаватымі вачыма паглядзеў на Луданіка:

- Штосьці я нічога не зразумею? – Іш, раскамандаваўся! Ты што, з глузду з'ехаў, каб мною, Цітавічам, кіраваць? Ды і навошта табе ўсё гэта? Ну, прыязджала б якая дэлегацыя замежная да цябе, тады б іншая справа. Навялі б марафет. А то ні з таго ні з сяго!.. Га? Навошта ты мне, я ў цябе пытаю, Луданік, усе гэтыя прэтэнзіі выстаўляеш?

Луданік уздыхнуў, паскроб за вухам, міргнуў вейкамі, бадзёра і радасна паведаміў:

- Заўтра, Цітавіч, у мяне кадзіраванне заканчваецца: піць пачынаю!

## З У Б

**Н**а аўтобусным прыпынку да Цітаўца падышоў мужчына невысокага росту, шчуплы, акуратна апрануты, і торкнуў пальцам у распухлую шчаку, сказаў, перед гэтым зморшчыўся, як леташні яблык:

– Зуб... Толькі што вырваў... Сам я з Чыжоўкі... Ведаеце Чыжоўку?

Цітавец моўчкі кіўнуў: ведаю.

– Ажно два дні, на выхадныя якраз прыйшлося, цярпеў боль. Усе пілюлькі паглытаў, што былі. Не, каб адразу да зубнога доктара падацца... Не, каб асмеліцца... Дзяжурны ж зубны працуе ў горадзе, кажуць, і ноччу... А ў вас калі-небудзь зуб балеў?

Не разумеючы, чаго ад яго хоча гэты мужчына, Цітавец моўчкі кіўнуў: было. А сам адвярнуўся, каб не сустракацца вачыма з мужчынам. “От прычапіўся, смала!” Але той працягваў за ягонай спіной:

– І вось вырваў... А там корань – каб ты бачыў, дзядзька!.. У розныя бакі карэньчыкі тырчаць, ды вялікія, ды такія закручаныя!... І як толькі хапіла моцы ў доктаркі той зуб выцягнуць? Праўда, цягнула яна яго доўга, нават вельмі... Нагой ажно ўпёрлася ў крэсла. Але выцягнула!.. Фу-у!.. Перажыў такое, што і ворагу не пажадаеш...

Цітавец адышоў падалей ад мужчыны, аднак той не пакідаў яго ў спакоі, падступіўся таксама бліжэй.

Як на тое ліха, не было і патрэбнага аўтобуса.

– А доктарка ж – дзяўчынка, ага! – гуў, здавалася, над самым вухам Цітаўца мужчына.– Улічыць таксама трэба і гэта. Але малайчына, справілася. Корань – вы б толькі бачылі!.. У розныя бакі!.. І вось цяпер баліць тое месца, дзе ён, халера, той зуб тырчэў. Шчака, бачыце, якая? Хацеў зайсці выпіць сто грамаў, але ж на працу трэба. Такія вось нелады. Хоць галаву пад корч!.. Цярплю ж, а што паробіш? Трэба цярпець!.. У цябе, дзядзька, балеў калі-небудзь зуб? Рвалі? Страх, аднак!.. Страх!..

Нарэшце Цітаўца выратаваў аўтобус. Ён, шчаслівы і радасны, схаваўся ў салоне, а той мужчына – невысокага росту, шчуплы, акуратна апрануты – паказваў на сваю распухлую шчаку чарговаму першаму стрэчнаму.

Цітавец толькі цяпер адчуў, што ў яго таксама баліць зуб.

І ён нясмела пацягнуўся рукой да шчакі...

## ПЕРАПАЛОХ

**Г**этая гісторыя здарылася зусім нядаўна з маімі добрымі знаёмымі. Мне яна падалася надта цікавай, таму я і вырашыў падзяліцца пачутым з вамі, сябры.

Уявіце сабе позні зімовы вечар. Ўтульная гарадская кватэра. За акном паўсюдна зіхацяць агні. Дзядуля, пачапіўшы на нос акуляры, чытае газету, атрымліваючы ад гэтага – відаць ж па ягоным шчаслівым твары! – сапраўдную асалоду, бабуля рыхтуецца да сну: распраўляе ложак. І пазяхае.

Ходзікі, што вісяць на сцяне, таксама напомнілі голасам зязюлі, што ўжо позна, пара спаць.

І тут затрэнькаў тэлефон. Дзядуля з бабуляй здзіўлена пераглянуліся. «Хто б мог так позна?..» Дзядуля, адклаўшы ў бок газету і акуляры, падышоў, узяў трубку. Ніхто не адказаў. Дзядуля пацісnуў плячыма, дзівіцца:

– Адны кароткія гудкі...

Потым зноў азваўся тэлефон. На гэты раз падышла да яго бабуля.

– Маўчаць? Маўчаць. Дзіўна...

Потым яшчэ раз дзядуля ўзяў трубку:

– Алё, я слухаю. Гаварыце. Не жадаюць чамусьці размаўляць з намі.

Потым яшчэ раз узяла трубку бабуля. Ніхто не адказаў і на гэты раз.

Бабуля не на жарт занепакоілася:

– Хто б гэта мог так позна нам тэлефанаваць? Можа, у Санкт-Пецярбурзе што здарылася ў нашых?

Дзядулі ідэя бабулі падалася праўдападобнай, ён набраў нумар сваіх у Санкт-Пецярбурзе.

– Санкт-Пецярбург, вы нам не тэлефанавалі? Не? Тады дабранач. Санкт-Пецярбург не тэлефанаваў, – сказаў дзядуля.– А як з Уладзівастокам? Можа, яны?.. – Набраў нумар.– У вас, гаворыце, справа да ранку ідзе? Тады з добрай раніцай. Не тэлефанавалі, значыць? Зразумела... Ды нічога, нічога не здарылася.

– А можа, Кіеў? – хвалюецца бабуля.

Дзядуля набірае Кіеў.

– Праверым і Кіеў. У Кіеве нікога няма ў кватэры, відаць, на дачы... Дзівосы, аднак!..

Старыя сядзяць, моўчкі пераглядваюцца: нічога не могуць зразумець. І зноў трэнькае тэлефон... Сапраўдны перапалох, ды і толькі!

– А дзе ў нас яшчэ сваякі ёсць? –глядзіць на дзеда бабуля, прыгадваючы.

– Усё быццам?.. – разводзіць рукамі дзядуля.

– А ты вось што, стары, зрабі: пазвані на тэлефонную станцыю і даведайся, адкуль паступіў да нас апошні званок. Яны вызначаць. Інакш усю ноч будзем бегаць мы да тэлефона і хвалявацца: а не ці здарылася што?.. Хтосьці ж прабіваецца, ды не можа прабіцца, падобна на тое, да нас?

– Гэта ты ідэю падала, – пахваліў бабулю дзядуля і пачаў набіраць нумар.

Раптам ледзь чутна рыпнулі дзверы, і на парозе дзіцячага пакоя паказаўся нечым заклапочаны ўнук Арцёмка.

– Нікуды не тэлефануй, дзядуля. Гэта…я… пажартаваў.

– Твае, значыць, выхадкі?

– Ага…

Бабуля п'е валяр’янку.

– Вось гэта падняў ты нас з бабуляй на ногі дык падняў, жартаўнік малы! – усё ж усміхаецца дзядуля, а заадно выцірае пот насоўкай на твары.– Такога перапалоху нарабіў! Ну, і якое ж табе пакаранне за гэта параіш вынесці? Чаму маўчыш?

– Да чаго тэхніка, а!.. – усміхаецца на ўвесь рот Арцёмка.

І кладзе на стол дзядулеў мабільнік.

## ПАЎЗА

**С**тас Міхасёнак, сам таго не жадаючы, вядома ж, стаў ахвярай кахання. А ўсё пачыналася так хораша! Жонка патэлефанавала, што затрымаецца на дачы, прыедзе апошнім аўтобусам. Чым не момант? Пакуль яна там з пустазеллем змагаецца і галубіць агурочкі і памідорчыкі, ён, Міхасёнак, можа прыгалубіць і нешта больш вартае… Ну, напрыклад, Кацьку, якая сама набіваецца ў каханкі – так мляўка іншы раз пацягваецца перад Міхасёнкам і стрыжэ яго вачыма, што адразу пра грэх думаецца. Праходу, адным словам, не дае. Вось і тэлефончык свой падсунула. Хатні. А чаму і не пазваніць? Паўзу можна запоўніць. Ці будзе лепшы выпадак?

Кацька адгукнулася адразу, нібы толькі і чакала гэтага моманту:

- Калі? Дзе? Зразумела! Буду!..

Міхасёнак, захоўваючы асцярожнасць і пільнасць, правёў Кацьку ў кватэру, выставіў на стол бутэльку віна, паставіў закусь. Выпілі, закусілі. Усё ішло пакуль па сцэнарыі. Але Кацька раптам пасунулася з

табурэта на падлогу, і некалі лісьлівых вочак не было бачна: спіць. Спіць, значыць, Кацька? Ну, паспі… Але ж колькі можна? Ужо гадзіна мінула, мабыць. А Кацька спіць сабе, толькі носікам высвістае і прымна ўсміхаецца – ажно ямачкі выкругліліся на шчоках. Міхасёнак не на жарт захваляваўся. Чаго не ўбачыш, і жонка заявіцца, а што ж рабіць з ёй, каханкай? І тармасіў яе, і ляпаў па шчоках: дарэмна. Міхасёнак хадзіў па хаце, месца сабе не знаходзіў. Вось гэта дык запоўніў паўзу! Што ж, што ж рабіць? Як быць? Зусім разгубіўся. І раптам усё ж нагарнулася на яго выратавальная думка – выклікаць «хуткую». «Не меў бы галавы!» ? пахваліў ён сам сябе. Дрыжачымі пальцамі набраў нумар. Хоць тут пашэнціла: не занята. Паабяцалі прыехаць. О, хвіліны! Як яны марудна цягнуцца! «Хуткая» прыбыла хвілін на пятнаццаць-дваццаць раней, чым павінна з'явіцца жонка.

- Што там у вас? – паказаўся ў дзвярах мужчына ў белым халаціку і з чамаданчыкам.

Міхасёнак адразу плюхнуўся на калені:

– Доктар, ратуй! – узмаліўся ён. - Але чамаданчык не расчыняй. Лекі не спатрэбяцца. Пакуль – гэта дакладна. Бачыце на канапе жанчыну? Зрабіце ўсё, каб яе не было тут! Вось-вось жонка з'явіцца! Любыя грошы плачу!..

Доктар усміхнуўся ў рэдзенькія вусікі і даў каманду сваім памочнікам прынесці насілкі, а Міхасёнку заўважыў:

- А калі б не я прыехаў, а жанчына?

- Тады б мне быў канец.

Неўзабаве Кацьку панеслі на насілках, пасля нашатыру яе пацягнула на песні, а шчаслівы Міхасёнак трос руку доктару:

- Во дзякуй вам! Во дзякуй! І грошы ж вазьміце…

Доктар адхіліў руку з грашыма, зноў усміхнуўся ў свае вусікі:

- Бывае… Піць віно трэба апасля, зрабіўшы справу. Абмываць, так бы мовіць, яе. А вы ўсё наадварот робіце. Добра, што яшчэ і ты побач не заснуў. Быў бы жонцы падарунак!..

…Гадзіны праз тры на той жа адрас зноў паступіў выклік «хуткай дапамогі». Калі ў дзвярах паказаўся доктар з чамаданчыкам, яго сустрэла ўжо жанчына.

- Ну, што там у вас?

- З мужам кепска. Сэрца схапіла. Раней ніколі такога не было з ім. І што б магло здарыцца? Няўжо, старасць?..

Доктар усміхнуўся ў свае рэдзенькія вусікі і загадаў сваім памочнікам прынесці насілкі…

Цяпер у Міхасёнка наступіла, відаць, і на самай справе доўгая, доўгая паўза…

## БАРАДА

**У** брыгадзе ўсяго адзін барадаты – Цярэнчык. Не хлопец ужо, а салідны мужчына: мае двух сыноў. Але чамусьці ягоная барада не дужа вабіла вочы сяброў-будаўнікоў. Аднаго разу нехта з іх сказаў Цярэнчыку:

– Прадай бараду, Аляксей.

Той выталапіў вочы:

– Каму… прадаць? І… навошта?

– Нам, брыгадзе, прадай. А навошта? То хай будзе…

Загулі і хлопцы: прадавай бараду, Цярэнчык, і не аднеквайся.

Цярэнчык доўна муляўся, круціўся-вярцеўся, але з барадой развітвацца не збіраўся. Аднак хлопцы ўсё ж даціснулі яго.

– Добра, грошы ў шапку,– пагадзіўся Цярэнчык. – Так і быць: угаварылі. За тры тысячы аддаю.

Назаўтра Цярэнчык прыйшоў на працу… з барадой і паклаў на стол грошы.

– Не, не магу без барады,– сказаў прыглушаным голасам.– Разбірайце грошы.

Аднак браць назад грошы хлопцы не спяшаліся, а пачалі сарамаціць Цярэнчыка:

– Эх, ты! Вось, аказваецца, якое тваё слова!..

– А яшчэ ў грудзі сябе ляпаў!..

– І з кім працуем, хлопцы?! З балбатуном!

Цярэнчык нехаця згроб назад грошы са стала.

Назаўтра ён прытупаў на работу без барады. Але гісторыя нам тым не закончылася. Праз два месяцы Цярэнчык адгадаваў зноў бараду і запрасіў за яе ў брыгады ўдвая больш: на ўсё ж растуць цэны. Толькі на гэты раз хлопцы не праявілі да барады ніякай цікаўнасці. Так, чаго не ўбачыш, гэты Цярэнчык увойдзе ў смак, разважалі, пэўна, яны, і будзе рабіць на сваёй барадзе бізнес.

Пара ставіць кропку.

## РАДАСЦЬ

**Д**адому стары Зюлеў вярнуўся надзвычай узрушаны і ўсхваляваны. Свяціўся, бы лямпачка. Хуценька скінуў плашчык, павесіў на

цвік капялюш, а потым перавёў позірк на жонку, якая выйшла нарэшце яму насустрач з залы.

– Цікава, чаму такі радасны?– апярэдзіў кабету стары Зюлеў.

Жонка шчыра прызналася:

– Ты не памыліўся.

– Адгадай. Што, слабо?

– Паспрабую. Прэмію ветэранам выдалі, можа, як удзельнікам вайны?

– А вось і не! А вось і не!

– Кашалёк з грашыма знайшоў?

– Дробязі! Думай лепш, думай лепш!

Але жонка, колькі не называла прычыны радасці старэнькага свайго Зюлева, ніяк не магла патрапіць, што гаворыцца, у яблычка. Здаўся сам дзядуля.

– Мне месца сёння ў тралейбусе ўступілі!– пляснуў ён у аладкі.– Падзея! Запомні гэты дзень. Запішы дзе-небудзь... Будзем святкаваць. А ты–прэмію, кашалёк... Пазвані сыну, абрадуй і яго. Суседзям скажы. Няхай і яны парадуюцца...

## РАСТЛУМАЧЫЎ

– **Д**зядуля, мне сказала бабуля, што раней сто рублеў былі вялікія грошы. Не тое, што цяпер.

Дзед з унукам ідуць па горадзе.

– Бабуля не хлусіць.

– А я не ўяўляю, якія гэта былі грошы. Ты мне не растлумачыш?

– Ну, на сто рублёў раней можна было купіць амаль трыццаць... пачакай... так, так.... Не, правільна: на сто рублёў раней можна было купіць трыццаць бутэлек гарэлкі.

– А колькі гэта? Багата?

– Канешне! То ж–сто рублёў!

– Не разумею.

– Малы яшчэ. Тады вось табе другі прыклад, жэўжык. Запамінай. Ці, унучак, за тыя грошы можна было купіць двесце банакількі у тамаце. Як? Га?

– Дзядуля, а чаму – гарэлка, а чаму–ількі?

– Дык час жа ідзе, унучак... тавараў шмат розных было і раней... Людзі ж не сядзелі склаўшы рукі, нешта выраблялі. Горы тавараў былі. Горы, унучак!.. То хіба ж запомніш усе?..

## СЛУЖБОВЫЯ СПРАВЫ

**Д**ырэктар прадпрыемства па рамонту і эксплуатацыі каструль і чайнікаў Піражкоў успомніў, што яго падначалены Ціханчык у камандзіроўцы, і вырашыў пагаварыць з ім пра службоыя справы.

– Ты дзе, Ціханчык? Усё яшчэ у сталіцы?

– Так-так, – затуляючы мабільнік далоняю, прыглушана адказаў Ціханчык. – Ну а дзе ж мне быць, шаноўны Сцяпан Пятровіч? Планы роднага калектыву – на першым плане. Таму штурмую калідоры ўлады, бяру вышыні… Не хвалюйцеся за мяне, таварыш дырэктар, заданне, намечанае на камандзіроўку, будзе выканана і перавыканана… Без заказаў не застанемся… Нашы каструлі і чайнікі зоймуць дастойнае месца ў імпарце…

– Хвалю, хвалю, – Піражкоў быў задаволены. – Што і як там у крамах – бяруць нашу прадукцыю?

– Хапаюць. Хапаюць, Сцяпан Пятровіч. На свае вочы бачыў. Я толькі вось з адной такой крамы выйшаў. Стаяў і фіксаваў, таму і настрой – чуеце ж? – выдатны.

– Чую, чую. Малачына, Ціханчык!

– Служу роднаму прадпрыемству!

– Падкрэсліваю твой патрыятызм. Ну, а як у вас надвор’е там?

– Сонечна, цёпла, – адказаў падначалены.

– І ў нас такое ж, – кіўнуў нябачнаму Ціханчыку Піражкоў і выцер ўзмакрэлы лоб насоўкай.

– А чаму вы так ціха размаўляеце, Сцяпан Пятровіч? – пацікавіўся нарэшце падначалены.

Піражкоў кашлянуў у кулак, паглядзеў па баках, і затуліўшы мабільнік далоняй, прашаптаў:

– Ды службовая машына зламалася, на тралейбусе еду з працы… Людзей жа, сам разумееш, у такі час колькі ў салоне. Што селядцоў у бочцы. Ледзь упіхнуўся. Ну, добра, Ціханчык, вырашай свае справы да канца і вяртайся. Поспехаў!

– І вам таксама, Сцяпан Пятровіч!…

– А прыедзеш, выпішам табе прэмію за старанне, – паабяцаў Піражкоў.

Аднак Ціханчык не паспеў адказаць дырэктару, бо тралейбус спыніўся, пачалася штурхатня і ён ніяк не мог паднесці мабільнік да вуха.

На прыпынку Піражкоў праціснуўся з тралейбуса, каб ступіць на брук, ў пярэднія дзверы, Ціханчык – у заднія. Тут яны і сустрэліся.

Абодва доўга лыпалі вачыма і пэўныя час нічога не маглі зразумець. А калі нарэшце ачомаліся, прыйшлі ў сябе, то па прапанове дырэктара пра службовыя справы было вырашана пагаманіць і заўтра. У ягоным кабінеце.

## НЕДАСТУПНЫ

**М**іхась Кудзелькін надрукаваў учора свой першы верш у газеце. Чатыры радкі. З партрэтам і прадмовай дацэнта кафедры мясцовага універсітэта. Так цяпер модна. Ура, адным словам, Кудзелькіну. Каб меўся аркестр, і ён бы грымнуў “туш”. Успомнілі пра тое, што верш надрукаваў Кудзелькін і яго былыя аднакурснікі Хвастоў і Сёмкін, калі выпадкова ўбачылі Кудзелькіна на супрацьлеглым баку гуллівай гарадской вуліцы.

– Набярыка-ка яго, – прапанваў Хвастоў Сёмкіну, – і скажы, што верш бачылі.

– Зараз, зараз скажам, – Сёмкін дастаў мабільнік, паслаў выклік Кудзелькіну.

Былыя аднакурснікі бачылі, як Кудзелькін спыніўся, важна дастаў свой тэлефон з кішэні палітона, пацікавіўся, хто турбуе, і запіхнуў мабільнік назад.

– Ну, а цяпер ты набяры, – паглядзеў Сёмкін на Хвастова. – Можа, не распазнаў, хто паслаў выклік?

Хвастоў так і зрабіў. Зноў паўтарылася тое, што і з Сёмкіным. Дастаў – пагледзеў – схаваў.

Хвастоў і Сёмкін пашкадавалі, што згубілі, падобна на тое, таварыша, і каб нейкім чынам нагадаць яму пра сябе, паклікалі ў два галасы: “Па-эт! Па-эт! Па-эт!”

Кудзелькін адразу ж павярнуўся. Ну, па-першае, прыемна, што на цябе звярнулі ўвагу прахожыя як на паэта, а, па-другое, яму нічога не заставалася больш рабіць, як памахаць былым аднакурснікам рукой: ад пільнага вока тых нікуды не схаваешся. Памахаў, нешта прамумкаў сабе пад нос, і важна пакрочыў далей. Паходка – паглядзелі б! Ішоў роўна, нетаропка, горда задзіраючы нос.

А што будзе з ім, калі яшчэ чатыры радкі напіша?

Пра гэта якраз доўга маракавалі Хвастоў і Сёмкін.

І не маглі ўявіць.

## АПРАЎДАННЕ

**Н**адоечы ляжаў Мармалюк у бальнічнай палаце пад кропільніцай, і думкі самыя страшныя падкраліся. Недарэчныя, можна і так сказаць, думкі. Пра смерць. Як не круці, кажуць у народзе, а трэба памярці. Зажмурыў ён вочы, і быццам перад ім з'явілася сама Смерць з касой. У парозе стаіць. Нахабная такая, вочы з маланкавым бляскам.

– А ну збірайся, стары, – кажа,– хопіць неба капціць. Надакачуў ты ўжо ўсім, Мармалюк. І жонцы, і дзецям… Не кажучы ўжо пра медыцынскі персанал. Не вылазіш з лячэбніцы. Толькі тут цябе я і бачу. Пара паміраць. Ну, скажы, якая з цябе карысць, хоць ты і жывеш?

Мармалюк і сапраўды задумаўся: так-так, а якая карысць? З жонкай ужо даўно не спіць, грады не капае, бо хвароба на хваробе – ні сагнуцца ні ўстаць, тэлевізар глядзець страшней, чым вось з ёй, Смерцю, сустракацца. Гэтая хоць з касой, а там жа на кожным канале забіваюць, рэжуць, гвалтуюць, страляюць, падрываюць, калечаць, нявечаць… Жах! Мармалюк ужо быў і хацеў сказаць Смерці: “Забірай, касая! Думаю, там горш не будзе!”, аднак раптам успомніў, што не можа пакуль пайсці з ёю. Ранавата. Як жа пойдзеш, разважаў ён сам з сабою, калі не падыйшла яшчэ чарга рабіць аперацыю на воку, катаракта, трэба абавязкова паставіць замежны хрусталік? Запісалі на чаргу і да кардыёлага. Зноў жа, стаў на чаргу і ў траўматолага, каб замяніць чашачку ў калене – свая, кажуць, сцёрлася, бо шмат паблукаў на свеце. Забыўся, во! І новыя ж сківіцы трэба ж яшчэ паставіць. Абавязкова. Цяпер жа столькі ўсяго смачнага!

Мармалюк уздыхнуў, расплюшчыў вочы. Бутэлька ў кропельніцы апаражнілася, пара клікаць медсястру. Але перш, чым зрабіць гэта, ён тыцнуў у парог, дзе стаяла Смерць з касой, кукіш: пайшла прэч, акаянная! Бачыш, колькі спраў яшчэ не дарабіў?!

# З м е с т



Месца выхаду: Гомель
Дата выхаду: 2013
Рэдактар М.Беразоўская
Выдавецтва “Барк”
Памеры: 238 с.